# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 3
1926




Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі
МЕНСК

# НА СТЫКУ

*П'еса ў 5-ці дзеях з сучаснага местачковага жыцьця*

**Ц. Гартны**

Асобы, якія ўдзельнічаюць

---

ПАВАЛ ХВЕДАРАЎ ЧЭМЕР—прадрыка, 35 г.
ЮСТЫНА СЁМКАВА ЧЭМЕР—яго жана, 28 г.
ПРУЗЫНА ЧЭМЕР—маці Паўла Чэмера, 60 г.
КАНДРАТ ЯЎХІМАЎ ТОРК—страхавы агент, хітры, скрытны.
ЯКАЎ ІГНАТАЎ ШРУБКА—дарожны тэхнік, рэзвы, порсткі.
ВІЦЮК ПЯТРОЎ АГАРОДЗІН—настаўнік сямігодкі, расіец.
АЛЕСЯ ЯНКАВА КАРЧУК—мяшчанка, таварышка Ю. Чэм., 26 г.
АДАРКА ВЕРАМЕІХА—загадчыца жанаддзелам, 30 г.
ПАЎЛІНА ДЗЯМ'ЯНАВА ЦЮЦЮПАН—раднячка Алесі, 20 г.
САЛАМЕЯ—мяшчанка, суседка Чэмераў, 50 г.
АНДРЭЙ КВАКТАЧ—фальварковец, 50 г.
Каморнік.
Міліцыянэр.
Мяшчане 3.
Селянін 1-ы
„ 2-гі
Стораж.
Хлопцы 2.
Дзяўчаты 3.

*Дзеецца ў малым мястэчку Авосьсе, 25 вёрст ад павятовага гораду, летняю парою, у канцы ліпня.*

## Дзея першая

Хата-домік Паўла Чэмера, крытая гонтамі. У сярэдзіне падзелена на тры часткі: кухню—зьлева, паперадзе яе—спальню, адгароджаную ад кухні печчу і белаю сьценкаю, а помеж кухні і спальні—чысты покой, у якім і сталоўка. Чысты пакой-сталоўка аддзелены ад кухні, спальні дашчанаю сьценкаю да столі, якая перарэзана з першага пляну дзьвярмі на кухню, далей—сьценкаю печы і, у трэцім месцы, дзьвярыма ў спальню. На кухні, пры адчыненьні заслоны, відаць: зьлева—шафка-препаўка з пасудаю, якая вісіць між акна

і дзьвярэй; знадворку ў кухні каля печы: кацялок з вадою, у кутку—качэргі, направа—вісіць адзежа. Пад гратаўкаю ад сьценкі, што дзеліць кухню ад спальні, расьцягнуўся тапчан; у спальню адчынены дзьверы, і сьвятло выдзяляе рог ложку з ярусам падушак; на сьценцы сьвятло падае на люстра і яскрава адсьвечвае на пакой. У пакоі-сталоўцы ўбрана досыць чыста: направа на сьцяне, між вокан і дзьвярэй,—загарак і шмат потрэтак у рамках; налева, між дзьвярыма ў спальню і печчу,—вісіць гітара з ружоваю стужкаю на ручцы, а пад ёю літаграфскі адбітак украінскага пэйзажу, таксама ў рамках; між печчу і дзьвярыма на кухню—гэткага гатунку абраз, але ўжо з малюнкам, на якім хахлы-сяляне накідаюць сена на запрэжаны валамі воз. На сьцяне, што перад сцэнаю, між сьценкі й першага акна—портрэт т. Чарвякова, а пад ім т. Ігнатоўскага, між першага й другога акна—ікона з хрыстом, а пад іконаю—плякат аб выплаце падатку. У левым кутку—маленькі столік з краскамі ў гладышыку, альбомам, куфэрачкам; поміж—этажэрка з кніжкамі, у правым кутку—абедзены стол. Паміж сьцен за сталом—лаўкі са сьпінкамі, з аднаго боку заслон; два крэслы каля сьцяны. Прывешаная на столі, гарыць лямпа, увабраная папяровымі брыжамі.

## Зьява І

Юстына (бегае з пакою ў пакой, нараджаная, вясёлая, азірае вакол пакоі, папраўляе сталы і пасьцель у спальні). Цікава! Як оне выпаўняць абяшчаньне! Завяралі-ж і Кандрат Яўхімавіч, і Вікент Пятровіч, і Якаў Шрубка, і Алеся Йванаўна... Не павінны апаздаць... (Глядзіць на гадзіньнік, а сьледам у дваровае акно). А ўжо-ж на часах паказвае дзесяць... Канечне—свае дзелы ў кождага. (Пяе: „Торрэадор, Тор-рэ-а-до-ар, помніш-лі ты міг барьбы твоей кровава-ай"...). Маці! Закапалась там у запечку, і ня чует. (Бяжыць да кухні). Ты, маці, тут? Чаму не адвячаеш?

Прузына (уваходзіць з сянец у кухню). Чаго, Юстынка? Вось калі...

Юстына. Усё справіла? Стаўні закрыла? Масла разлажыла па розэтках? Настойкі нацадзіла?

Прузына (ідзе да гратаўкі, адчыняе яе). Во, Юстынка, бачыш? А ежу, дачушка, унясу зараз. Цёплая вось—у печы. (Паказвае). Вось калі, чаму не.

Юстына. Глядзі-ж, маці! (Бяжыць у спальню і заводзіць „Торрэадора").

Прузына (выходзіць у сенцы). Вось задумае, задумае і цэлую ноч у хаце гармідар. Вось калі, вось калі! Насланое нейкае ў хату... Павал там працуе няўмеру, шле грошы, а яна тут... А-яй...

Юстына (з сталовай). Як я люблю эці вечары! Оне асьвяжаюць мою жысьць... Толькі й суцяшэньня... Ня то-б—загразла ў этай... бросьні, у этай ціне... Нет! Пускай Павал прыязжае і я перад ім пастаўлю вапрос рубам: пасьледні раз, апошні раз... Ілі ў Ленінград перабрацца, або... (Думае). Ты—туды, а я—сюды... (Стукаюць дзьверы, яна бяжыць на кухню). Оне, пэўна... („Торрэадор, Торрэадор.").

Прузына (уваходзіць з сянец). Якая-ж ціхая пагода! Люба! Месячык, як срэбрачка... Нідзе—нікагусенька!

Юстына (пытальна). Ня слышна, гаворыш?

Прузына. Нікагусенькі, нябога. (Топчацца на кухні).

Юстына (бярэ некалькі талерак і нясе на стол). Ці прыдуць?.. Ня выцерплю... Мне эці справы яго, эці камандзіроўкі—во тут. (Паказвае на грудзі). Забыў чалавек усё. Райспалком—партыя, партыя—зямля, электрычаства,

масты, сенакос... Эці прырэзы, адрэзы, хутары, пасёлкі, дзялянкі, саўхозы... (Хапаецца за голаў)... Кагда я выберусь з усяго гэтага... Вось пяць месяцаў ня слышу—і немножко супакоіла нэрвы... Суняла думкі... Нашлісь харошыя людзі, сумела врэмя ад врэмя палюдзку пагаварыць... аддахнуць... (Глядзіць на плякат). А скора апяць за налогі, за дровы, за масты... за электрычаства... Брр!

Прузына (уваходзіць у сталовую). Юстынка, а самавар прыдзецца гатаваць?

Юстына (адварачваецца). Будзем, будзем. Пасьпееш, маці... Ах! Мяне здавіла эта абстаноўка! (Глядзіць у вакно). Гдзе-жа оне наканец, якія няточныя людзі!

Прузына. Да чаго-ж ты, галубка, злуешся, я-ж падобраму цябе запытала... Вось калі, вось калі... Хай бог ратуе... (Ідзе ў кухню). Слова бойся сказаць...

Юстына (гарачыцца). Ратуе! Ратуе! Чорт-бы пабраў... Не даюць мне спакою... Падума-аеш! Уразіла! Імасьць большая. (Круціцца па пакоі). Ах! Гдзе мне дзявацца!.. (Чуецца ціхая гамонка за сьцяною, пасьля стук у дзьверы. Юстына настаражаецца).

Зьява II

Алеся (уваходзіць). А добра стукнулася?

Паўліна (ідзе за Алесяй). Ссы-ы, крэпка!

Прузына (глядзіць на іх). Выцяліся? Вось калі. На ліха!

Юстына (падбягае да дзьвярэй у кухні). Что такое?

Прузына. Дзяўчаты заблудзілі ў сенцах. (Ідзе ў сенцы).

Алеся й Паўліна (разам). Спалохаліся твайго крыку...

Юстына. Нет рады... Мяне зьвядуць са сьвету... Да часу згублю жысьць... (Хапае за рукаў Алесю). Ідзём! Ідзём — разьдзецца... (Ідуць). Я прождалася вас... Няточныя вы, няпэўныя... вы, усё-ткі... Кажуць на адно время, а прыходят...

Алеся. А ўжо мужчыны ёсьць? (Схамяняецца). Ах! Юстына Сёмкаўна! Прабачайце! Вось мая стрэчная сястра, Паўліна Цюцюпан. Пазнайцеся... Учора з Масквы...

Юстына. Я, знаеце, забыла... Вельмі радасна... З адкрытым сэрцам... (Да Паўліны). Раскажэце новості.. (Іншым тонам). Тожэ й мужчыны... Цэлы час, як я... (Хавайоцца ў спальню і пяе „Торрэадор").

Прузына (уносіць з сянец талерачкі з закускаю). Вар'ятка... І чым далей — усё болей. Насланое ды годзі-ы. Вось калі, вось калі... (З спальні выходзяць распранутыя Алеся і Паўліна. Разглядаюць).

Алеся. А Кандрат Яўхімавіч абяцаў прыйсьці?

Юстына (з спальні). Абязацельна, мілая... Прыдзёт, з часу на час... Якаў Шрубка тоже...

Паўліна. Дзеньгі лічыт... Кандрат Яўхімавіч...

Юстына, Вы з нім знаёмы?.. (На вуліцы чуецца сола-песьня). За эцімі сьвету ня відаць... Маці-ы!

Прузына (адхіляецца ад гратаўкі). Чаго, Юстынка?

Юстына. Выйдзі на двор, пасматры, можа быць...

Алеся. Чаго, навошта?..

Паўліна (здымае гітару і трумкае). Чэшуцца рукі... (У дварэ чутны крокі). Должно—ідут...(Алеся й Паўліна кідаюцца ў спальню. Алеся кідае гітару на лаўцы. Юстына, напеўваючы, ідзе да кухні). Маці, хадзі адкрой... Хутка! (Пяе напевы з Кармэн). Усё такі не абманулі... Яны, должно быць. Ладна! Як я давольна! Цяпер нада накрываць на стол... Што прыгатавала старая—пасматру... (Аглядае ў шафцы і на стале. Уваходзяць Кандрат, Якаў і Віцюк).

### Зьява III

Юстына (адварочваецца да ўвашоўшых). Но вы так долга, Кандраті Яўхімавіч. Вы неякуратны... няточны. Я прама ўжо разуверылась у вашым прыходзе... А Якаў Ігнатавіч наверна патураў яму: згаварыліся.

Кандрат. Прабачайце, Юстына Сёмкаўна. (Здрастуецца і цалуе руку).

Якаў. Гэтаму я вінаваты, цётачка. Пакуль прыплёўся з Забалацця, дык і поўнач, цётачка... (Таксама цалуе руку Юстыне).

Віцюк. Прысосалісь к мужыку і всё вокруг него вертятся... Обсасывают, что ліпку... Кондраті Ефімавіч з боку страховых премій, а Якаў Ігнатавіч—со стороны разных обрезаў і т. д.

Юстына (матае рукамі). Дык прашу ў сталовую... Што-ж прыпыніліся на кухне... Вешайце голаўныя ўбёры і пажалуста... (Прачыняе дзьверы). Маці! Дзе там соваешся? Право, як саўлук какой!

Прузына (уваходзіць на кухню). Зараз, зараз, нябога... Я-ж гатуюся... Вось калі, вось калі... Дай людзям увайсьці ў хату... Не сарамаці...

Юстына (да мужчын). Прахадзіце, госьцейкі... Садзіцесь там, а я... як хазяйка ўжо... (Мужчыны ідуць у сталовую адзін за другім).

Кандрат. Юстына Сёмкаўна прачакалася...

Віцюк. Да, немножко неудобно. Когда человек ожідает, каждая мінута на учете...

Якаў. Што-ж, браточкі, бяру віну на сябе. Вось далікатна папрашу ўбачэньня ў цёткі Юстыны. (Якаў садзіцца. Віцюк бярэ з этажэркі кніжку. Кандрат тупае).

Юстына (ідзе з кухні. Да Якава). „Усё праз вас, цётачка“...

Якаў. Вядома! Ха-ха-ха! А прытуліліб у сябе ў хаце—было-б іначай. Шэсьць вёрст пакуль прыпляцешся... Ды каня ў майго ягомасьця ня выпрасіць... Такі скнара, кулачышча, што сьвет прайдзі—ня ўгледзіш падобнага... Наро-одзец! Патрабуе шмат пролетарскае дысцыпліны... цётачка... Убачайце-э!..

Віцюк (сур'ёзна). Я не знал, Якаў Ігнатавіч, што вы так осоветіліcь. Так сказать, попутчіком сталі...

Кандрат. Ня дзіва! Вакола начальства круціцца... Самую галоўную рэформу праводзіць... Не панашаму—штраховачку там якую...

Юстына (сачыць за ўсімі. Са сьмехам). Хі-хі-хі! А-хэ-хэ! Мой Павал возьдзействует на Якава Ігнатавіча. Усё-ж, і некагда былі друзьямі, як-бы там ні было, і цяпер—папрежнему блізка стыкаются...

(Прузына нясе талеркі з ядою, нажы і відэлкі.)

Юстына. Ты, маці, варушысь... (Дражніць).

Віцюк (адварачаецца ад кніжкі). Ах! Что за представленіе! Для кого это тайная вечеря, Юстына Сёмкаўна? (Да Кандрата і Якава). Оказалісь мы в ролі апостолов...

Якаў (ківае галавою). Цётачка! Ці-ж вы гэта знарок дзеля нас? Родненькая, навошта... Мы прышлі толькі...

Юстына. Якаў Ігнатавіч! Сколька раз я прасіла—бросьце эці—цётачка, родненькая... Право, роўно тая Параска Дудзіха... (Памаўчаўшы). Не прыкідайцеся толькі, мае госьці. Найдзеце сьмеласьць. (Сьмяецца). Раз папалі ў чужой намастыр, так яго ўстаў выпаўняйце...

Кандрат (какетліва). Я бачу, што ў вас сапраўды намастыр—хоць-бы яшчэ адна жанчына... Цётка Юстына ўсё для сябе дбае...

Юстына (сьмяецца). Заздрочыла! Кандраці Яўхімавіч, як вы сябе выдаяцё... Нет! Падзяржыце сябе ў руках... Пускай я буду для всех вас—Маргарытаю... Га? Рупіць? (Бяжыць на кухню і ў сенцы).

(У гэты момант выбягаюць з спальні Алеся з Паўлінаю. Чуць не натыкаюцца на Прузыну з бутэлькамі. Паднімаецца сьмех, гоман).

## Зьява IV

Алеся (рагоча). Мы выручым!

Паўліна. Не абідзім... (Здрастуецца з усімі). Паўліна Цюцюпан. Рада пазнаёмітся.

Алеся. Мая стрэчніца, пазнайцеся...

Кандрат. Вельмі рады, але... Вы нас падшпегавалі...

Якаў. Цётачкі, гэта крымінал.

Паўліна. Но ня нада давяраться!

Віцюк. Хотя бы і в Юстыны Сёмкаўны?

Паўліна. Нідзе—нікаму. Сьцены імеюць вушы...

Віцюк. Верім, так сказать, у вашу честность... Снізойдете, хотя бы і не к прекрасной половіне людсково рода... А?

Алеся (разглядаючы абраз). Гэта ўсё па настрою?

Якаў (да Кандрата і Віцюка). Бачыце, бачыце, браткі, якія ўжо яны фанабэрыстыя...

Юстына (ідзе з кухні з бутляю настойкі). А! Ужо сышліся! Ура-а! („Торр-э-а-до-ор"...). А пазнакоміліся? Вось Паўліна Цюцюпан—прэдставіцельніца гораду, як-бы сказаць... Із Масквы намедні...

Якаў, Кандрат (у вадзін голас). Ласьне?!.

Віцюк. Должно быть новостей, этакіх-всякіх уймішчу прівезлі?

Алеся. Як для каго...

Віцюк. Опять на козырь?

Алеся. Хто любіць скакаць—таму й навасьці будуць... Ха-ха-хэ!

Віцюк. Что за падход?

Алеся. А вам мала?

Якаў. Цётачка, хто кажа... (Далікатна выгінаецца). Я – мэт! (Да Паўліны). Цётачка, вуньдзека гітара. Удырце... А я... (Шмыгае нагамі).

Юстына. Вікенці Пятровіч—вы ўчыцель...

Віцюк. Но я не знаю. Ха-ха-ха! Спасіте! Как-же так?

Алеся (бярэ гітару і дае Паўліне). Заграй! Хай ім будзе сорамна.

Кандрат. Вось-вось, заграйце, заграйце...

Паўліна (бярэ гітару, крыху нясьмела грае фокстрот). Растроеная гітара... Еслі-бы эта на роялі...

Юстына (натхняецца). Божа! Как хораша! Паўліначка—яшчо, яшчо! Пачынае рухацца. Кандрат падводзіць голасам). Ах, што за вальс такі! Можат і ёсьць тот-жа факстрот, аб каком гаварат... Какой маціў... Няпраўда-ль, Кандраті?

Паўліна. Да... Канешне... (Стараньней грае. Якаў скача, працягаючы рукі Юстыне. Віцюк падпявае). Два па ўсяго... Так, так, посьле завярнуцца... (Кандрат пляскае ў далоні).

Юстына (рэзка спыняецца). Ша! Раньше за стол, а пасьля... (Напявае граную мэлёдыю). Гэй, страхавацель! Тэхнік! Учыцель! Алеся Іванаўна, Паўліна... (Цягне Кандрата першым, а па чарзе ўсіх. Усе гавораць, сьмяюцца).

Юстына. Маці!

Прузына (з кухні). Чую!

Юстына. Усё подала?

Прузына. Ці-ж чаго не стае?

Юстына. Сейчас скажу. Ня выходзь пока... (Усядаюцца. Юстына перш прабуе наліць з бутэлькі сама, пасьля стаўляе бутэльку і да Кандрата. Паўліна вешае гітару).

Юстына. Кандрат Яўхімавіч! Прашу быць распарадзіцелем... Вы ў мяня—что й гаварыць!

Кандрат. Не сарамацеце, Юстына Сёмкаўна.

Юстына. Чему так? Я сама не стесьняюсь... Што-ж! Пусть знаюць—тут усе сваі... ты...

Кандрат. Юстына Сёмкаўна, што гэта!.. (Тупае нагою).

(Усядаюцца за сталом).

Юстына. Брось, Кандраша... Налівай...

Кандрат (круціць галавою і налівае ўсім па чарцы). За адчайную гаспадыню...

Якаў (да Паўліны, выпіўшы). Нябось, цётачка, у Маскве весела? Там няма гэткіх, як Юстына Сёмкаўна? Сьмялей, гаражанка.

Паўліна (п'ючы). Как-бы вам паведаць... нічаво...

Якаў. Пэўна былі ў цяятрах, на вечарынах?

Алеся (выпіўшы). Паўліна Дзям'янаўна тры месяцы гасьціла ў Маскве і многа дзе пабыла!..

Юстына (да Паўліны). Ну і музыка понравілась мне... Як гэта? Паўтарыце, прашу. (Сама заводзіць). Так? Так і поднімает...

Паўліна. Так, так. Вось трэцюю нотку чуць-чуць ніжэй... Во, во... (Юстына адскаквае ад стала і робіць некалькі па). Я відзела, як пекна скачуць!..

Юстына (ізноў каля стала). Мяне захапляет гэты танец. Я абязацельна яго навучуся... Жыва ня буду!.. Ах, как людзі весела жывуць, а эта! Нет... Нада ў Маскву ілі ў Ленінград із этава балота... Пеце яшчэ, дарагія.

(На вуліцы, за сьцяною, хтось пяе беларускую Марсэльезу „Ад веку мы спалі").

Прузына (з кухні). Юстынка, цішэй, а то чаго добрага... (Ізноў ухаджвае за ежаю, самаварам).

Кандрат. Сьпявуноў поўна... І днём і ўночы...

Юстына. Няхай! Разьве душы адвясьці нельга?.. Задушыцца ў гэтым балоце?..

Якаў (з чаркаю ў руках). Цётачка Юстына... Вы ўжо занадта... Ці-ж Павал вас крыўдзіць, даражэнькая... Ен жа чалавек...

Юстына. Я п'ю за мужчын, каторым жысьць ня толькі ў бесканечнай капаніне... (Выпівае). Мая румка за мужчыну... Нет! ты адзін, Кандраша... (Напявае фокстрот). Сягоньня—гэта астравок у моры скукі... Прашу піць, дарагія мае... (Пачакаўшы). Мацi-ы? Ты жывёш? Стаўні закрыты?

Прузына (з кухні). Я зачыніла, нябога... Але яны паламаны... Можна завесіць...

Юстына. Выдзі правер, слыш! (Сама бяжыць у спальню і выносіць хустку, дыван і спадніцу). Алеська, помагі мне завесіць. (Бяруць і завешваюць тры акны).

## Зьява V

Прузына (стукае дзьвярыма, усе слухаюць). Зачынены, Юстынка.

Юстына (бяжыць на кухню). Хто там?

Прузына. Я, я...

Юстына. Угамону табе нет! шляецца ўвесь час... Тьфу...

Прузына. Што-ж ты злуешся, нябога. Гэта-ж ты сама паслала мяне. Вось калі, вось калі...

Юстына Разьбярошся з табой!.. Садзісь ды еж што-ліба. (Ідзе да стала). Старая ўсё лазіць. Спасеньня нет ад няе...

Якаў. Цётачка, супакойцеся... Хто нам што прадпіша, родненькая... Давайце разам—за Паўла! Няхай там дапомніць вас... (Паднімае чарку).

Юстына. За Кандрашу... Я люблю мужчын, а не квашаніну... Надаела мне эта кісьляціна.. Я ненавіджу... За Кандрашу... (Усе п'юць. Паўліна вылазіць з-за стала, здымае гітару і шпарка грае. Якаў паднімаецца і цягне Алесю скакаць. Юстына напявае).

Віцюк. Вот это я разумею! Хоть раз вздохнуть почеловеческі. За веселье, за свабоду!.. (П'е). Надо отпраздновать трызну по всем этім белорусізаціям, по Лёсікам і Некрашевічам... По склонах і дзеясловах... По

родных краінах, гдзе вырасьлі бросьняю розныя пачатковыя да канчатковыя... Вот тут оні... у мяне...

Кандрат. Даліся ў знак? (Сьмяецца).

Віцюк (у голас). Застрахуй меня от всего этого... Прошу... Вот оно где сідіт!.. Танцуйте, дайте вспомніть іныя времена...

Кандрат (працягае к яго твару руку). Тсс... Ты ужо, браце, далёка лезеш... На цябе нейкая роспач напала...

Юстына. Малчы, Кандрат... Вікенці праўду гаворыт... Он і мае мысьлі высказывает... Справедліво, нельзя так жыць... Чалавек мусіць мець хоць маласьць раздольля, ласкі, валненьняў усякіх... (Напявае: „А-га-га! Га-га-га, га-га-га! А-га-га")! Мяня згубіла наша жысьць. Атравіла! Павал— нічаво ня стоіць... Паверце,—усім гавару,—нічаво ня стоіць. Мачула... Імела дзеці—умерлі, і я не жалею іх. Ні званьня, ні каліва! Атцовы дзеці... Каму оне трэба! Ха-ха-ха!.. Кандраша! Дай цябе пацалую. (Цягнецца да Кандрата і цалуе). Мой мілы! Дарагі мой... Ідзём танцаваць. Ідзём! (Цягне Кандрата. Усе спыняюцца і глядзяць. Прузына выглядае з кухні).

Якаў (выцірае пот). Цётачка Юстына! Даражэнькая, вельмі рад паглядзець, як вы скачаце. (Да Паўліны). Ну, яшчэ ўдырце, цётка Паўліна... Гэй, усе! Віцюк!

(У разгар танцаў за акном чуецца хорам пяяньне: „Армія чырвоная свой штых гартованы". Танцы спыняюцца, музыка заціхае. Віцюк ускаквае на крэсла і прыкручвае ў лямпе агонь. Іншыя глядзяць у вокны. Спусьціўшы пяць хвілін, песьня сьціхае і ў хаце гоман аднаўляецца).

### Зьява VI

Юстына (у поўголаса). Маці! Выбегі на вуліцу... (Да ўсіх). Ночы ім нет. Что за распуста...

Прузына. Добра, зараз. (Выходзіць).

Віцюк. Современная молодежь. Воспітаніе... Компаніі, очевідно, проводятся...

Якаў (адварачаецца ад акна). Нічога, даражэнькія. Чым болей песень, тым весялей! Ім сваё, а нам сваё. Давайце канчаць... (Да Алесі). Не ўтаміліся, цётачка? (Пяе: „А-ля-ля, ля-ля-ля, а-ля-ля,-ля-ля-ля").

Віцюк. Ш-ша-а! Подожді. Узнаем в чем дело.

Якаў. Думаеш, слухаюць?

Віцюк. Чего лучшего!

Прузына (з кухні). Касамольцы пашлі з клюбу. Разышліся ўжо... Чаго там заўважаць. Вось калі, вось калі.

Юстына. Каму-ж іному Адарка працуе... (Да Прузыны). Самавар!

Прузына. Даю, нябога, даю.

Кандрат. Так, я забыў, у іх райконфэрэнцыя сёньня...

Якаў. Бачыце, браткі-сястрыцы, я й казаў, што ўсё—плёвае дзела... Мне—фальваркаўцу, як цвыркуну якому, давай скокаў. Алё! (Пяе: „А-ля-ля, ля-ля-ля, аля-ля-ля, аля-ля-ля" і робіць па. Да Віцюка). Пой і скачы! Што табе думаць пра школу! Бяры ад жыцьця, што ёсьць, і пераварачай у

радасьць... А то думае, як індык. Сястрыцы-цётачкі! Цётка Паўліна—не шкадуйце струн, даражэнькая! (Скача з Алесяю. Кандрат толькі тулавам варочае перад Юстынаю. Віцюк робіць некалькі кругоў адзін).

Прузына (нясе самавар). Спынецеся крыху, галубчыкі. Адну хвілінку...

(Кандрат, падняўшы руку, хіліцца ў бок і зачапляе лямпу, якую скідае з кручка і тушыць).

Прузына. А-я-яй! На ліха, на бяду мне. Чаму-ж я не праждала хвілінкі-другое... Даруйце мне... (Стаўляе ўпоцемку самавар на стол, сама сьпяшаецца на кухню. У хаце падымаецца рогат, піскі, шэпты і стукі. У іх разгар чуецца ціхі стук у кухоннае акно).

Прузына (спалохана). Хто там?

Павал. Адчынеце, маці!

Прузына. Зараз вось. (Выбягае ў сенцы і праз хвілін тры ўваходзіць з Паўлам).

Зьява VII

Павал. Ужо сьпіцё? (Запальвае электрычны ліхтарык).

Прузына. Дзе там, сынку...

Павал. А што-ж цёмна ў хаце?

Прузына. Зусім выпадкова, сынок. А!

Павал (ідзе ў пакой). Юстына! (Бязмоўна з куткоў пакою і з дзьвярэй спальні выглядаюць растрывожаныя Юстына, Якаў, Кандрат, Алеся і Паўліна).

Павал. А гэта што? Адкуль і чаму? Юстына!

Юстына. Я, Паўлік... Імяніны... Прышлі знакомыя... Случайна! Совсем неожыдана...

Павал. Так, зусім неожыдана. Ведаю... (Злосна). Вон! Вызваліць хату! Вон, каб ніводнага тут ні нагі...

Якаў. Таварыш Павал! Браток! Выслухай!

(З апушчанымі галовамі Кандрат, Віцюк і Паўліна йдуць на кухню. Алеся глядзіць на Паўла. Юстына стаіць ашаломленай. Якаў, растапырыўшы перад Паўлам рукі.

(Заслона)

## Дзея другая

*Дзея ў тэй-жа хаце Чэмераў—днём. Адчынены вокны. На сьцяне, апроч абразоў і портрэтаў з першае дзеі, яшчэ навешаны плякат газэты „Савецкая Беларусь“. Каля дваровае сьцяны стаіць вінтоўка. Сонечны дзень.*

Зьява I

Прузына (прыбірае ў хаце). Крутня! Што з гэтага будзе—дык я і сама ня ведаю, што тут чаўпецца! Кабета—у сьвеце пашукаць. А-яй, а-яй! Вось калі, вось калі! Як гэта Паўлік ужываецца з ёю,—ня ведаю. Жалезнае трэба сэрца... Вось калі, вось калі. І тое ёй нядобра, і тое ёй дрэнна. Так і точыць, так і точыць. Што комуністы—нядобра, што ў спалком ходзіць—кепска, што да яго людзі йдуць—бяда. (Глядзіць у вакно). Дзень добры, Саламейка! Га? Не, няма. (Знадворку чуваць: „А хутка прыдзе?“) Пэўна ў абедзе... (Адхіляецца ад акна). Ну, вось і схавайся, калі хочаш. То-ж

свае людзі, як ты ім адкажаш! Не прагоніш з хаты. Трэба кожнаму ўнаравіць, а яна хоць-бы што—і слухаць ня хоча... А-яй, а-яй! Вось калі, вось калі!.. (Глядзіць у вакно). Вось і гэта! Запырскала, завярцелася—і шмыг з хаты. Куды і што і чаго—ня знойдзеш ладу... Ці-ж можна вытрымаць? Штодня грызе беднага, нэрвуе, надазаляе... Ня ведаю... Да чаго гэта дойдзе... (Пауза). Разбазырала, ня ўмеру дазваляе сабе... Трэба ёй гэтыя балі, гэтыя скокі, гэтыя людзі... А-яй, а-яй! Адзін звод, адзін зьнябытак... (Ідзе ў кухню). Вось калі!

(Уваходзіць Павал).

### Зьява II

Павал (засопшыся). Маці!

Прузына. Што, сынок?

Павал (азірае хату, спальню, рэчы нэрвова). А Юстыны няма?

Прузына. Няма. За табою як пашла,—не паказвалася ад таго часу. Дзе яна—ня ведаю.

Павал (задумаўшыся). Няма! (Глядзіць ў спальню). Нічога не казала?

Прузына. Ваўчком пашла... Ні слова... Ня ведаю, што й якое яна думае,—ня ведаю... Усё злуецца, не гаворыць... Як чужая... (Ківае галавою). Можа-б, Павал, ты пагаварыў калі з ёю, уняў яе крыху... Перапрасіў-бы ці што... (Памаўчаўшы). Бо далей так нельга... Гэта ня жыцьцё, а мука... Вось калі, вось калі... Улучы, сынок, гадзінку і другую, растлумач ёй, разуваж—кабета, вядома...

Павал (напявае ў задуме). Ну што-ж... Яно-б можа так і трэба-б было, каб гэта на добрую якую... А то... (Глядзіць у вакно). Хто і што яе пераробіць!.. Зьвіхтавалася... Спанталыжыла... Сапсавалі... (Рашуча). Умовы, людзі гэты... усякая гэтая паскуда, зараза гэтая... Сапсавалі—і цяпер ня будзе-а рады...

Прузына. Можа ўсё-ткі, каб ты хоць колькі вольнага часу ёй удзяліў... Можа... сёе ці тое... Павалка...

Павал (тупае па хаце). З часам—не магу... Часу я ня маю... Я не магу з ёю на спацар хадзіць, узяўшыся падручку... Не магу... Гэта яна мусіць ведаць, павінна ведаць... (Памаўчаўшы). І баляў дараваць—таксама не магу... Проста не хачу і не дазволю, каб у маёй хаце гэта было.

Прузына. Ну, то трэба-ж што-колечы чыніць... Вось калі, вось калі... Яна-ж упікае мяне, што аб ёй ня дбаеш ты, што ня лічыш за чалавека, што... Ой, чаго яна не выдумляе...

Павал (разгартае кніжку). Я не магу кідацца службаю з-за яе капрызаў... Не магу і ня буду... І ўкантактаваць яе выдумак ня зьбіраюся... Ёй хочацца гораду—хай едзе... Ня мілы я—хай пакідае... Ня люба мая служба, тыя людзі, якія служаць са мною, яшчэ што нялюба... Няхай... няхай кіне і хату, і мястэчка і... Няхай... Я ня трымаю, я не дзяржу на прывязі... Так... даволі... Давайце есьці...

Прузына. А мо' пачакаць крыху?

Павал. Перакусіць чаго-колечы. Хочацца есьці. Набегаўся... Ня буду чакаць...

Прузына. Малака кубак вазьмі. (Бяжыць на кухню і прыносіць яму кубак малака і кусок хлеба).

Павал. Добра... Ніхто ня прыходзіў?

Прузына. Ой, не кажы. Адгону не даюць... Што хвіліны—то й прыдзе, то й прыдзе—адзін за другім. Вось калі, вось калі... Насланое нейкае. У таго—пакос, у другога—поле, у трэцяга—вясельле... Механік прыходзіў...

Павал (з кубкам у уках). Ха-ха-ха! Нашы людзі, як мухі... Так! (Глядзіць у вакно). Вось заняўся гэтымі паплавамі... Клопату па вушы... А той усё з электрычнасьцю... (Да Прузыны)... Але ведаце, мама, дастану й паплавоў для сялян... Колькі дазваляюць сілы...

Прузына (з кухні). Удаецца, сынок?

Павал (настроена). Будзе. І паплавы дам на сенакос, і фальваркі абрэжу... Дабіўся... Спрачаліся ў акрузе, але я ім давёў... Вылажыў, як на далоні, капейкамі далічыў... Усё—акурат... І дроў дастану на зіму, і млын пабудую. (Тупае па хаце). І яшчэ... электрыку правяду... Кончу... Авосьсе павінна выглядаць новым і сьветлым, і чыстым... Новае жыцьцё—новае мястэчка... Га, маці?

Прузына (уладуе на кухні.Ківае галавою). Чаму-ж не, сынок, чаму-ж не... Вось калі, вось калі. Хто добрай справе ня рад. А-яй, а-яй!.. (Пауза). Толькі-ж нашы людзі,—што й казаць,—зусім няўдзячныя... Бачыш—колькі праклёнаў было, як тратуары клалі, або як мост чынілі...

Павал. А цяпер дзякуюць?

Прузына. Ды куды-ж іх той дзякуй—папакляўшы так моцна... О-ёй...

Павал. Нічога! За ўсё, што ні зраблю, будуць дзякаваць... (Матае рукою). А мне трэба падзяка? Я не для падзякі, я для агульнае карысьці, дзеля таго, каб хоць адзін значны камень палажыць у падмурак агульнага будаўніцтва... Жыцьцё будуецца не за... (Глядзіць у вакно). Ідзе Юстына. (Прузына бяжыць на кухню).

Прузына. Я пайду прыгатую абед... Раптам... Вось калі...

## Зьява III

Юстына (уваходзіць у хату й моўчкі бяжыць у спальню. Зачыняе дзьверы. Заводзіць песьню). Паразбрасывала ўжо... Хазяйнічала... Ведзьма... Нада ёй непременна... Вертеп, а ня жысьць... (Адчыняе дзьверы й дэманстрацыйна праходзіць хатаю).

Павал. Кінь лаяцца... Прашу цябе... Што табе нядобра ўсё? Чаго табе не дастае тут? Як табе ня брыдка...

Юстына (спыняецца). Ня стыдзі... На себя аглядзіся... Тебе ўсё-раўно... Хотя-бы тут усё ўверх тармашкамі... (Ідзе ў спальню).

Павал (ступае некалькі крокаў за ёю). Што ты пырскаеш, як няпрытомная... (Адыходзіць). Не ўяўлю сабе. (Памаўчаўшы). Юстына!

Юстына (маўчыць). Г-гму-у...

Павал (мацней). Юстына, чуеш?

Юстына Чаво?

Павал. Растлумач мне, ці доўга ты мяне муштраваць меш? Я, нарэшце, ня вытрымаю... Што табе трэба ад мяне? І што наогул табе трэба?

Юстына (злосна). Мне нада, что-б ты відзел ва мне чалавека, а не... Ты ні аднаго майго жэланьня ня выпаўніў... Ты мне вольнае мінюты не ўдзяліў... Ты ні лічыш меня за жэну... Эта несьцярпіма... Ты перад людзьмі мяне ўніжаеш...

Павал (адварачваецца да акна). У Маскву захацела? Па балёх скучыла... Падзякаваць, што знаёмых нашла?.. Ведаю...

Юстына. Мне ня нужна тваіх „дзякуй"... Мне... Ты павінен на меня, як на жэну, як на чалавека сматрэць... А ты... (Акідае хустку і ідзе з хаты). Слова не ўслышать... Ласкі...

Павал. Пастой, Юстына... Чуеш?..

Юстына (спыняецца). Што я, прыслуга?..

Павал. Прыгатуй мне к нядзелі куфэрак, бялізну. Я еду ў акругу... Чуеш?

Юстына (ідзе). Усяго і знает, што прыказваць.

Прузына. Юстынка, мо-ж абедаць будзем?!.

Юстынка (злосна). Астаўце мяня ў пакоі... Вы сэрца маё разьелі... Наглыя... (Выходзіць). Мучыцелі...

Зьява IV

Прузына (ідзе з кухні ў пакой). Круціцца кабета... О-ёй, о-ёй... Што ты ёй зрабіў? Вось калі, вось калі...

Павал (тупае і глядзіць у вакно). Чорт яе ведае... Надаела, нарэшце... Я не магу далей маўчаць... (Мацней). Давядзе мяне сваімі капрызамі да таго, што яе выганю... Выганю, каб і вочы яе ня бачылі... Яна труціць маё нутро...

Прузына (угаворліва). Павалка, не чапай... То людзям на пацеху... Вось калі, вось калі... Навошта табе, на якое...

Павал (сурьёзна). Яна мне перашкаджае... Я ўсе рады вычарпаў, не памагае... Што далей, то горай... Застаецца адно—выгнаць... Выгнаць, каб і нагі яе ня было... (Цішэй). Дай ты рады! Гэта ліха ведае што, а не чалавек... Гэта... Ты ёй адно, а яна табе сваё... Насланое—ды годзе...

(К акну няпрыкметна падыходзіць Якаў і перабівае Паўла).

Зьява V

Якаў (нясьмела з надворку). Добры дзень, Павал Хведаравіч... Убачай, браток, але я...

Павал (падыходзіць к акну). А-а, Якаў, дзень добры...

Прузына (з-пад кухні). Дзень добры. Чаму-ж не зайсьці ў хату...

Павал. Заходзь у хату...

Якаў (нерашуча намерваецца йсьці). Я, ведаеш, Павал Хведаравіч, па дарозе... Іду на рынак... Пэўна паеду... Ды што-ж перашкаджаць. (Тупае на месцы).

Павал. Заходзь, заходзь...

Якаў (ідучы ў хату). Дзякую, я на хвілю. (Уваходзіць). Добры дзень у хату...

Павал. Садзіся... Ну, як дарогі, будуюцца?

Якаў (падазрона азіраецца). Ня вельмі, браток... Дзякуй, садзіцца некалі. (Цішэй). Я, ведаеш, Павал Хведаравіч, наконт таго... Убачай, прашу... Не падумай, што я меў якіясь намеры... (Пазірае ў акно. Сочыць за Паўлам, які то разгартае газэту, то ходзіць у спальню, то проста тупае па пакоі). Я, брат, шчыра кажу... Я не Кандрат, ня Віцюк... Ну, люблю памудрагеліць, але... бяз жадных думак... А таварышкаваць, скажам... ну, з кім-жа мне? Ты заняты, партыец, а я... чыноўнік... А калі дойдзе справа да ўлады, ці партыі, браток... Няхай скажа Юстына Сёмкаўна... Я за ўладу, за цябе... за прадналог, за нацполітыку... Мяне яны ненавідзяць... Паверыш, братка...

Павал (суха). А зьвязаўся з імі..

Якаў. Ну, а з кім? Я-ж часова тут, Павал Хведаравіч... Цябе ня было, і я езьдзіў... Бо, паверыш, мне надаела ўсё: і вёска, і фальварак мой, і шаша, і... Авосьсе... Я прашу цябе—не рабі ты гоману, не паднімай справы ў акрузе... Ведаеш, гукні—і яны стуляцца, схаваюцца, змаўчаць... Гэта-ж трусы, чынушы... І Кандрат, і Віцюк...

Павал. Гэта падляцы... Ябеднікі, скрытныя шкоднікі... Гэта—шашаль, які точыць здаровае дзерава з сярэдзіны... Точыць, есьць, пілуе... Якаво іх абыходжаньне з сялянамі? Адзін ужывае старыя манеры, лаецца, страшыць, муштруе, а другі дзяцей калечыць у школе... (Памаўчаўшы). Калі будуецца новае жыцьцё, самае вернае—усіх шкоднікаў атруціць, зьнішчыць...

Якаў. Павал Хведаравіч! Браток! Яно так, яно праўдзіва, але гэты выпадак зусім... не датычыць агульнае справы... (Азіраецца на дзьверы). Усё-ж шкада з імі крута абыходзіцца... Шкада, браток. Памойму, кожнага з іх пазваць і добра даць-даць, каб памяталі, настрашыць...

Прузына (з дзьвярэй у кухню). Можа чаю выпілі-б, Паўлік?

Павал. А гатоў?

Прузына. Я магу ўраз-жа згатаваць. Вось калі...

Якаў (схіляецца). Калі з-за мяне, то вельмі прашу не турбавацца... Дзякую. Я вось-вось іду... (Ідзе). Але, Павал Хведаравіч... (Цішэй). Я прашу, не ўкарай ужо Юстыны Сёмкаўны... Ну, усё, браток, бывае, мала што... (Выходзіць). Бывай здароў! (З-за дзьвярэй). Прашу калі-колечы да мяне... І Юстыну Сёмкаўну...

Павал (да Прузыны). Я сёньня мушу йсьці скора ў іспалком... Дарогу маем паправіць з мяшчанамі... Вечарам...

Прузына. А полудзень як?

(Уваходзіць Адарка).

Зьява VI

Адарка (курыць цыгару, з папкаю). Слуш, Павал, пара-бы ня было ў іспалком?

Павал. Ласьне ўжо зьбіраюцца?

Адарка (тупае па хаце). Сходзяцца... І нада-б сёе-тое абгаварыць... Яшчэ інжанэр чакае наконт лектрафікацыі...

Павал. Ізноў прыехаў? Цікава...

Адарка. Прыехаў. (Паўза). Да вось, як і што мы ўладзім шэства на дарогу... Памойму, музыка должна-б... Усё-ткі—дэмонстрацыя... І ўместе как-бы супроць рэлігіёзная... Там, відіш-лі, у царкве звон, а ў нас марсельеза...

Павал. Рацыя... А ці ўдасца музык знайсьці?

Адарка. Да ўжо гэта сакратар спалкому абдзелаіць... (Пачакаўшы). Так... Ну, а ў Громлю фальваркі абразаць скора?

Павал. Ужо з акругі... Трэба выясьніць у Акр. Зям. Аддз. Памойму—справа неадкладная...

Адарка (пяе: „Няхай на-ас сустрэ-энуць палямі, ляса-амі“). Да! нада гэта кулаччо абрэзаць... Людзі адгону не даюць,—зямлі, зямлі... (Пачакаўшы). А гэты, сьцізорык, тэхнік, навярное быў у цябе?

Павал. Так. (Крыху памаўчаўшы). Трэба йсьці... Пойдам... (Бярэ шапку і ідзе ззаду Адаркі да дзьвярэй у кухню. Ідучы—да мацеры). Я ўжо сёньня позна прыду, маці.

Прузына. Чаму, сынок? Ідзеш куды?

Павал. Так... Пойдам дарогу правіць...

Адарка (прыкурвае цыгарку). І мой, слуш, жанаддзел змобілізован. Дала кліч—і чалавек дзесяць будзе.

(Пры выхадзе ў сені, сустракаюцца з мяшчанкай Саламеяй).

Зьява VII

Саламея (затрымлівае Паўла ў парозе). Даруй, мой Павалка, адно слаўцо...

Павал. У чым справа, цётка?

Саламея. Ведаеш, галубчык, крыўдзіць мяне Ярмалай... Супакою не дае... Пасеяла, ведаеш, вясною, асьмінку жыта,—забірае. (Праз плач). І што мне, беднай, рабіць, і дзе мне шукаць рады... Калі ласка, Павалка, пасоб...

Адарка (з сянец). Не задзержывай, цётка... У спалком нада ісьці... Там табе санцыю дадуць, а тут... Кідай, Павал, ідзём...

Саламея. Адарачка, сястрыца, ну—дык рады няма... Чаму-ж ты, такі-та, ня ўважыш... Я-ж ніяк не магу ўбачыць Паўла... Ці-ж тут вялікая справа: чыркнуў слоў колькі—і годзе...

Прузына. Ёй трудна, Павалка... Сапраўды, трудна.

Павал (выходзіць). У панядзелак вырашым... Заходзь, цётка, у спалком... Вырашым...

Саламея (ідзе за Паўлам і Адаркаю на двор). Дык я цябе, суседзе, папрашу... Няхай матка скажа, як яно мне цяжка, якія я цярплю зьдзекі... І ты там, Адарачка, пасоб...

Адарка (на вуліцы). Ладна, матка, ладна... Заходзь...

## Зьява VIII

Прузына (бяжыць да покутнага акна). Глядзі ты! Якая пракуратая! Мужчына, дый годзе! Гаварыцца не дае. Можа-б Павал што й зрабіў-бы, дык не,—паперашкодзіла. Вось калі, вось калі! Як казак! Увашла ў справу, і не кажы ты... Узялася за кабет і муштруе іх на ўсе лады. (Глядзіць у вакно). І Паўлу павячэраць не дала... Цяпер да ночы ня вернецца... (Памаўчаўшы). Го, пэўна, ужо сюды йдуць мужчыны. Не зачыняецца хата! Вось калі, вось калі! Як ён цярпіць, гэты Павал... Укантактуй кожнага, выслухай, парадзь, заступіся... (Уваходзяць у хату два селяніны з кіямі).

## Зьява IX

Першы селянін (здымае шапку). Добры вечар у хату! Можа ўжо трэба лічыць за вечар.

Прузына (ідзе да кухні). Добры вечар, мужчыны! Чаму-ж, сонца на спуску.

Другі селянін (здымае шапку і гладзіць косы). Добры вечар, гаспадыня.

Прузына. Да Паўла?

Другі селянін. Да таварыша Чэмера.

Першы селянін. Справу маем...

Прузына. Толечкі вось з хаты... Каб трошкі раней, засталі-б...

Другі селянін. А можа вернецца скора?.. Гэткая пільная справа...

Першы селянін (разводзіць рукамі). Глядзі ты, не шанцуе.

Другі селянін. Затрымаліся, на дзіва, у Піні... (Да Прузыны). Мо' дазволіш, гаспадынька, пасядзець, пачакаць?..

Прузына. Калі ласка, чаму не дазволіць... Але ці дачакаецеся толькі?.. Пэўна, таксама наконт зямлі... (Паказвае на тапчан). Сядайце!

Першы селянін. Зямля, імостачка... (Матае рукою). Калі мы з ёю ўладуем і што,—сказаць цяжка... Жыцьцё канчаем, а яна—папярок і папярок... Абрыдла!

Другі селянін. Да ты ўжо ня скардзься так... Яно-б нічога, каб гэта нашы людзі йнакшыя, а то не згаворышся...

(У дварэ чуецца гутарка Юстыны з Віцюком. Сяляне перашэптваюцца, азіраюцца ў акно і на хату).

Зьява X

Юстына. Слаўная пагода! Якой заход!

Віцюк (на вуліцы). Надо будет к Якову Ігнатавічу сьездіть. Давайте, Юстына Сёмкаўна, наметім „гадзінку“ і поедем...

Юстына. Абдумаем... Непраменна, Вікенці Пятровіч...

Віцюк (далей). Право... Так сказать, на лоно прыроды... К гайку, іли как там „на зачарованыя гоні“, где „дуб расахаты“...

Юстына. Ха-ха-ха! У вас Вікенці Пятровіч, вельмі складна ўсё гэта. Вы действітельны беларус... Ха-ха-ха... Ну, дасьвіданьня-э... (Матляе хустачкаю).

Віцюк (далей). Прощайте, Юстына Сёмкаўна, зо-орка-а, яса-ачка-а! (Юстына ўваходзіць у хату. Сяляне ўстаюць і кланяюцца).

Зьява XI

Юстына (праходзячы ў пакой). Чорт знает что! Бесітся і годзе. Собірает усіх мяшчан дарогу іці правіць... У суботу... вечарам... перад празднікам... Падасьпела... Ну, падумай, маці, сама... Разгавораў па ўсяму мястэчку... Таму атдахнуць нада, таму ў царкву, а гэта—рыться... Ні нашаво, ні яўрэйскаво народу... Ня знаю, як тут малчаць... Сэрца не сдержыт... (Хаваецца ў спальні). Зводзіць, губіць...

Першы селянін (да Прузыны). Пэўна не дачакаемся.

Другі селянін. Нічога не парадзіш... Пойдзем.

Прузына. Па нядзелі, мужчынкі, заходзьце.

Першы селянін. Каб-жа ведалі, што застанам.

Другі селянін. Начальства, многа працы.

(Выходзяць).

Першы селянін. Дабранач!

Другі селянін. Бывайце здаровы!

Юстына (выбягае са спальні). Разьве нельзя было абайсьціся! Для чаво гэта? Усё мястэчка падняў на ногі... Як нарачна... Вось і мяркуйся з ім... Нельзя... Нельзя зьмірыцца... Табе кождую строчку ўпісвает, а сам... (То ўбягае, то выбягае са спальні).

Прузына (у дзьвярах на кухню). Дачушка, а калі патрэбна... Вось калі! Ці-ж гэта ўсё ён сам... Вышэйшае начальства ёсьць—прыказвае...

Юстына (сярдзіта). Прыказвает... Пачаму Івану Каромыслу ніхто ня прыказваў? Сам на ражон лезе... Па камандзе гэтай прайдохі, Адаркі... Глядзі—неустанно лазіць сюды... Брр... Нягодніца... Нет... Нет... Сагласісь, маці, так нельзя... Ён забыў дом, жонку... Нет... Нам нада разайцісь...

разайцісь... (Бяжыць у спальню). Не хачу быць трапкай... На каленях прасіць?—Годзі-ы... Брр!

(На вуліцы чуваць гоман мяшчан).

1. Ушалопалі ліха ведае што—дарогу правіць у суботу.

2. Рабіць няма чаго.

3. Калі гэта было?

Жанчына 1. Зараз на вячэрню званіцьмуць...

„ 2. Гэта ўсё Прузынчын вельмі...

„ 3. Самі ня ведаюць, што рабіць...

Юстына (выбягае са спальні). Вот, слыш, маці. Ідзі сюда! Поўна вуліца. Вот... любуйся, цешся. Нябось очень прыятна, кагда сына языкамі мыюць.

Прузына (ідзе да акна). Вось калі, вось калі! А хіба-ж я вінавата... Ці-ж я, нябога, у руках яго ўдзяржу? Ведаеш сама.

Юстына. А ўсё-же, маці, хоць-бы слова сказала... Лучшай слушаць нараканьні...

Прузына. Дык што-ж, бяды вялікае... Рыкун крычыць... Ведаем яго. Вось калі, вось калі... Ці-ж Павал што ўкраў, ці забіў каго... Дзеля ўсіх робіць, а не...

Юстына (шпарка бегае па хаце). Я так і знала! Мама, родная мама. Паблаславіла, наверна.

(На вуліцы новая гутарка мяшчан).

1. Вунь бацюшка пашоў.

2. Як наперакор. Кажуць, з музыкаю.

3. Знарок, вядома.

4. Большае распусты няма.

(І насупроць гэтых галасоў іншы).

Дзядзька Гарасім! А хто вазіцьме больш іншых? Як вам ня брыдка падбіваць іншых?! Сам ня хоча йсьці і іншых пад'юшвае. А, нябось, дарога самому трэба... Крычыць, каб ня йсьці.

Прузына (у вакно крычыць). Вось калі, Гарасімкі ніхто ня ведае... Горла выгадаваў. Сам сьвяты вельмі... Людзей грабячы, ня думае аб богу, а гэта...

(Чуваць першы ўдар звону).

Юстына. Вот... (Жагнаецца). У таржэсьцьвеную мінюту... Ах, Божа мой! как я нешчасьліва! (Да акна падыходзяць некалькі мяшчан з рыдлёўкамі).

## Зьява XII

Адзін з мяшчан. Цётка Прузына!

Прузына. А што, сынок?

Другі з мяшчан. Ня ведаеце, тут іцімуць?

Прузына. А хто іх ведае.

Другі з мяшчан. Ведалі-б, пачакалі... (На вуліцы скрозь звон чуваць вокліч: „Мужчыны! Сюда! Сюда! Зараз іцімуць". Мяшчане ідуць ад акна. Адзін сьвішча).

Юстына. Пахваляць у акрузе... Атлічаецца. То дрова вазіць у школу, то мост правіць, то машыну на мельніцу... Абнавіцель... Народ обременяць... Спасіцель...

Прузына (ідзе на кухню). Ды пакінь ужо, нябога. Вось калі, вось калі... Чалавек душою грэшан, а гэта...

(На вуліцы чутна музыка, якая заглушае звон. Хутка ўзмацняецца і скора праходзіць між вокан хаты чарада сялян з рыдлёўкамі на плячах, пры гомане і сьпяваньні. Калі музыка эмаўкае, у хату ўваходзіць Якаў).

## Зьява XII

Прузына (прыбірае пасуду). Дабрывечар... (Выходзіць).

Якаў (да Юстыны). Вечар добры. Бачылі, цётачка, якое хараство.

Юстына (прычыняе вокны). Хараство... Вот гдзе оно сядзіць... Хараство... За гэта хараство вуліцаю не дадуць прайці. У суботу, перад празьднікам...

Якаў (тупае з кутка ў куток па хаце). Даражэнькая цётачка, дарма, што клянуць ці будуць клясьці. Але-ж гэта ім на карысьць...

Юстына. Каму ім?

Якаў. Ды тым, што клянуць, мяшчанам, бач... Самі яны ня зробяць, а Павал... Паглядзеце, цётачка, чаго ён дамогся за гэты час: мост падрапаравалі, млын наладзілі, а вось яшчэ дадуць электрычнасьць, дык проста лахва адна: горад... І вам, Юстына Сёмкаўна, павінна быць прыемна, што ўсё гэта ваш муж нарабіў. Каб чулі, як яго хваляць мяшчане... Вакол гавораць, цэняць, шануюць...

Юстына (бяжыць у спальню). Шануюць... Должно быць, Якаў Ігнатавіч, чуў сам, як только что атэставалі мяшчане... На чем свет стоіть лаялі...

Якаў. Не згаджуся, цётачка, не згаджуся-а... родная...

Юстына. Да... таварыш. Ізвесна... Нада абстаіваць. Значыць, я ўсяму віною... (Хмурыць твар злосна). Вось маці тожа самае. Павашаму,—пускай мудрует, забывае і далікатнасьць, і грэх, і... сям'ю... Нет. Нет! Так невазможна... (Памаўчаўшы, стаючы на адным месцы). Якаў Ігнатавіч. Паверыце, я ў яго не чалавек. Маё слова, як сабачы лай. Я прашу, я абрашчаюсь, як да чалавека, як да мужа, а он... сьцяна. І сьпіць, і борствует—усё нейкія пляны, намеры, проекты... Дзеравам стаў... (Зрываецца з месца і матае рукою). Вот зьдзесь, Якаў Ігнатавіч, накіпела... Лопает... Я ня ўцерплю, я бясьсільна дальше малчаць... (Рашуча тупае па пакоі).

Якаў (падыходзіць да Юстыны. Далікатна). Кіньце, цётачка. Што вы! Гэта пара пройдзе... Павал ўсё-ж такі шануе вас...

Юстына (зрываецца з месца). Шануе? Вы шуціце, Якаў Ігнатавіч. Вы... Дзень і ноч—садом у хаце...

Якаў. Ну, я-ж яму скажу, калі ён такі... (Ківае пальцам).

(У хату ўваходзіць сторож спалкому).

## Зьява XIV

Сторaж (у кухонных дзьвярах. Зьнімае шапку. Кланяецца). Добры вечар у хату. Таварыша Паўла няма?

Юстына. А на что он табе?

Сторaж (працягвае пакет). У акругу запрашаюць аўторкам.

Юстына. Давай пакет...

Сторaж. Прасілі расьпісацца.

Юстына (злосна). Яшчэ чаво не хватала.

Якаў (падбягае к ім). Вось я расьпішуся. (Расьпісваецца ў кніжцы, якую падае сторaж). Цяпер, браток, пэўна... Нясі вось...

Сторaж (выходзіць). Бывайце...

## Зьява XV

Юстына (глядзіць у вакно. Пасьля азіраецца на кухню. Весела). Знаеце, Якаў Ігнатавіч, что?

Якаў. Чую, цётачка.

Юстына (ціха). Он уедзет у акругу, а мы воскрэсеньнем да вас; ідзёт? (Пяе на мотыў фокстроту).

Якаў (далікатна кланяецца). Вельмі прашу, цётачка. Прызнацца, я за гэтым і прышоў... Чакаў, пакуль вы павесялееце... Міласьці прашу... Кандрата я таксама запрашаў... Ведаеце, даражэнькая, я хацеў, каб з Паўлам Хведаравічам...

Юстына. З Паўлам—ні за что... (Адзяецца.)

Якаў. Дык цяпер ужо... не... Ну, цётачка, бывайце. (Намерваецца йсьці).

Юстына (хапае яго за руку). Адну мінютку...

Якаў. Запазьніўся я, Юстына Сёмкаўна, пяць вёрст хадзьбы...

Юстына. Усё раўно зьмеркла... І вы не баіцесь?

Якаў. Каго?.. (Пачакаўшы). Дык чакаю, Юстына Сёмкаўна... А дванаццатай гадзіне з канём для Піні Разьніка... Добра, родненькая?

(Выходзяць. Юстына пры выхадзе з кухні напявае).

## Зьява XVI

(Чуваць у дварэ).

Юстына. Маці!

Прузына. Чую, Юстынка.

Юстына. Я не забаўлюсь...

Прузына. А Паўлу што сказаць?

Юстына. Паўлу? (Гулчэй). Что цябе неспакоіць так Павал! Паўлу!.. (Цішэй). Слядзіт, як праступніка...

(Апошняе слова Юстыны заглушае брашчотка вартаўніка).

(Заслона)

## Дзея трэцяя

Ясны дзень жніўня. На сцэне у левым рагу будынкі фальварка: добрая хата, гумно хлявы, над будынкамі паднімаюцца дрэвы саду, а ў баку іх выдзяляецца вочап студні. Направа, на пярэднім пляне сцэны, край лесу. Ад лесу да фальварку йдзе вітая дарога. Пры дарозе ляжаць бярвеньні. Між фальваркам і лесам палі-пожні, устаўленыя мэндлямі жыта. У лесе грае жалейка.

### Зьява I

(Якаў, Юстына, Кандрат, Паўліна, Віцюк і Алеся выбягаюць з лесу на граічку вясёлыя, жартаўлівыя).

Якаў (выбягае першым і спыняецца на дарожцы). А вось зараз яшчэ харашэй! Гляньце толькі на пожні... Юстына Сёмкаўна! Якое разьвіненьне, простор... Дзядзька Кандрат! Цётка Паўліна... (Усе зьбіраюцца каля Якава і разглядаюць навакола).

Юстына. Сагласна! Красата! Абняла-бы, здаецца, усё і расцалавала-бы! Як лёгка дышаць! (Да Кандрата). Няўжлі ты ня слышыш? Прыглядзіся... Так хочацца...

Кандрат (цішэй). Каханьня?

Юстына. Хочацца бегаць, лётаць птушкаю... Зьліцца з гэтым полем і лесам... і... не возрашчацца назад...

Кандрат. Дамоў... (Якаў ідзе ў лес з Паўлінаю).

### Зьява II

Юстына... Дамоў... (Апускае голаў). Так, дамоў...

Кандрат. Кінь...

Юстына. Не магу... Кагда падумаю... (Алеся напявае жніўную песьню).

Віцюк. Вот в чем душа этого края... Знаете. (Адварачаецца да ўсіх). Люблю белорускую народную мелодію... С этого бы і начінать белорусізацію... Разве можно... (Садзіцца на бервяно).

Кандрат. Праўду кажаш, браток... (Да Юстыны). Сядай...

Юстына. Не хачу. (Прабягае к лесу і назад). Я хачу песень... (Гукае). Якаў Ігна-атаві-ыч! Паў-лі-ы-на-а! (Пяе за Алесяю). Мужчыны, падцягайце...

Віцюк. Я только слушаю. (Да Кандрата). Кандраті Яўфімыч, заводі. (З лесу выбягае Якаў з Паўлінаю).

### Зьява III

Якаў. Гукалі?

Юстына. Дайце хорам жатвеную, Паўліна!

Паўліна. Ха-ха-ха! І ўздумалі-жа! Не надаела...

Віцюк. Почему это?

Паўліна. Нашлі красату...

Віцюк. Вы ошібаетесь, Паўліна Дзямянаўна.

Якаў (да Паўліны). Не спрачайцеся, цётачка... Захапіліся маскоўскімі песьнямі... Помніце, што ў чужым намастыры... Хора-ам!

(Усе пяюць, а Віцюк дырыжуе дубчыкам. Песьня йдзе тры хвілі).

Якаў (першым канчае). Ці-ж няўдала?

Віцюк (пляскае ў далоні). Брава, брава! Ідылія!

Алеся. Каб так весела жаць, як пяяць...

Якаў. Сваё весялей жнецца...

Юстына. Цяпер ад Якава Ігнатавіча награда за песьню.

(Усе разам).

Так-так! Не забывайце, Якаў Ігнатавіч... Мы госьці...

Якаў (адступае некалькі крокаў і схінаецца перад усімі). Прашу прабачэньня... (Бяжыць у фальварак).

Юстына. Якаў Ігнатавіч, вадзічкі не забудзьце!..

Алеся й Паўліна (разам). Вадзічкі-ы! (Бягуць у лес).

Віцюк. Сэрны! Лісіцы! Лані... (Ідзе за імі. Пасьвіствае).

## Зьява IV

Юстына (тупае сьценкаю падручку з Кандратам). Ну, калда-жа, калда? Вызбаў мяне... Дарагі мой... Ілі дай мне савет, як паступіць... Я не магу... Усе мае просьбы—напрасныя. Нет! Нет! Я болей мук не перанесу... На цябе ўся надзея...

Кандрат (азіраецца). Супакойся, Юсьця. Яшчэ ня час. Ты павінна знаць, якая гэта справа... Падыдзі да яго далікатна, гасьцінна... Покуль што...

Юстына. Не ўгаварывай, прашу... Я выспрабавала ўсё... Павал мне нічога ня дасьць і я... я яму ненужная... (Паўза): Кандрат, дарагі... Ты мяне... (Спыняецца. Вырывае з рук Кандрата сваю руку). А ня хочаш, я найду срэствы... Я імею сілы... Я ня дамся-а... (У лесе чуцён пераклік: „Вікэнці-ы!—А-у-у!—Сюды-ы!—За-а-раз!" Юстына й Кандрат прыслухоўваюцца).

Кандрат (працягае руку Юстыне). Кінь, Юсьця... Кінь роспач... Я паспрабую зрабіць усё, што ад мяне будзе залежаць... Я пасоблю табе, чым мага...

Юстына (злосна). Я не патрабую зьнісхажджэньня. Ты должан быць гаспадзінам сваіх слоў... Забыў... Для вас нет чэснасьці, ці что?..

Кандрат. У чым справа, Юсьця-а... (Абдымае яе).

Юстына. Пусьці-ы. (Уверанай поступ'ю накіроўваецца ў лес. Кандрат глядзіць ёй усьлед, стоячы на месцы. Пасьля йдзе за Юстынай. У гэты час з фальварку выходзіць Якаў з ношаю ў руках, а з-за лесу выходзіць міліцыянэр. Абодвы, гледзячы ў розныя бакі, насьвістваюць розныя матывы. Каля бярвеньняў сустракаюцца).

## Зьява V

Міліцыянэр (бярэ пад казырок). Здрастуйце, таварыш!

Якаў. Добры дзень, таварыш міліцыянэр!

Міліцыянэр. Дзе тут фальварак Громлі?

Якаў. А вам туды?

Міліцыянэр. Туды, пускай ён згіне!

Якаў. Чаму, таварыш міліцыянэр?

Міліцыянэр. Знаеш, таварыш мілай, супачынку няма. Ні табе праздніку, ні табе нядзелі... Ідзі ды йдзі... Пядзесят вярстоў у акружнасьці...

Якаў. А ў фальварак Громлі чаго, таварыш міліцыянэр?

Міліцыянэр. Да мала-ль дзялоў! То парубкі, то масты чыніць, то землю абразаць.

Якаў. А зараз што?

Міліцыянэр. Вось гэтыя абрэзкі акурат і назначылі на празднік.

Якаў. Абрэзкі?

Міліцыянэр. Да... Не маглі-бы заўтра, але на нядзелі.

Якаў. А хто-ж абразацьме?

Міліцыянэр. Камісія цэлая. Заехала ў другі фальварак, а мне вось—мерай вёрсты... Да... Значыць, дзе ён, фальварак гэты?

Якаў. Вось ён! (Паказвае пальцам).

Міліцыянэр. Спасіба, таварыш. Да сьвіданьне.

Якаў. Няма за вошта, таварыш міліцыянэр. (Расходзяцца і зноў кожны сабе сьвішча. Якаў падыходзіць на гранічку лесу і чакае, азіраючыся, пакуль схаваецца ў фальварку міліцыянэр. Міліцыянэр азіраецца на Якава).

Зьява VI

Якаў (стаўляе ношу і заве). А-у-у! Хэў-ра-а! (З лесу адзываецца некалькі галасоў: „І-до-ом!").

Якаў (напявае і йдзе ў лес). Забеглі дзесьці далёка! Хэўра-а! (З лесу выходзяць Юстына з Кандратам).

Кандрат (да Юстыны). А во, глядзі! Нахадка! А дзе-ж Якаў?

Юстына. Дзе-ж вада? (Выходзіць Якаў). Вады не забылі, Якаў Ігнатавіч?

Якаў? Не, не, цётачка... Ваша просьба праходзіць у сэрца і засядае надаўга.

Юстына. Дайце, пажалуста... Смага!

Якаў (падбягае к кашэліку і дастае бутэльку й кубак. Налівае вады і падае Юстыне). Крышталёвая. Калодзеж, як крыніца. На здароўе, цётачка, пеце! (Сьмяецца).

Юстына (п'е з перапынкамі). Якая добрая вада... Кандраці, выпяйце!.. (Падае Кандрату).

Кандрат (бярэ, працягнуўшы руку). З ахвотаю... (За лесам чуваць граньне скрыпкі з бубнам. Яны слухаюць).

Якаў. Чуеце, чуеце.

Юстына. Свадзьба, должно быць... (Углядаюцца ўсьцяж дарожкі ў бок лесу).

Якаў. Разухабіста як... (З лесу выбягае адна за другою Алеся й Паўліна. Пасьля выходзіць Віцюк).

Зьява VII

Паўліна (да Юстыны й Якава). Чуць не фокстрот.

Алеся. Ха-ха-ха! Табе ён сьніцца...

Віцюк. Ш-ша-а! Наслажденіе... Право... (Скача з выгукамі: „Э-эх-ма-а!“).

Якаў. Так! так, так... Абеларушвайся, браток... Ня Лёсікам, дык вось якім... (Усе рагочуць. У гэты час з-за лесу выходзяць тры сельскія хлапцы, з якіх два граюць, а трэці перабойна падпявае. Угледзеўшы кампаню, яны на момант перарываюць граньне, але тут-жа зноў пачынаюць яшчэ з большым дыхтам).

## Зьява VIII

Віцюк (ідучы настрэчу). Слаўна, товарішчы! Куда это, мілые?

Адзін з хлапцоў. У сваты, дзядзька.

Віцюк. Далеко?

Адзін з хлопцаў. Ня вельмі. За Громлі вось.

Алеся. Да нас сватайцеся...

Адзін з хлопцаў. Чаму-ж не.

Другі з хлопцаў. Дзядзькі сварыцца будуць.

Віцюк. Уступаем цётку Алесю.

Адзін з хлопцаў. Будзем мець на ўвазе. (Матаюць шапкамі і йдуць далей, іграючы).

## Зьява IX

Якаў (паказвае на карзіну). Замарыў вас, даражэнькія...

Алеся. Бесспагадны, Якаў Ігнатавіч...

Якаў. Дык давайце падсілкуемся: чым хата багата.

Юстына (бярэ карзіну). За мною... (Ідзе ў лес).

Віцюк (запявае: „Вніз по матушке по Волге-э, по Во-о-лге-э, й-эй“). Действітельно раздолье...

Кандрат. Вось-вось, Расія разгулялася...

Якаў. Так-так! Змаганьне з беларусізацыяй...

(Хаваюцца. З-за лесу паказваюцца дзяўчаты, якія йдуць з мястэчка. Падвязаныя твары, падатканыя спадніцы. У руках клуначкі. Вясёлыя, гутараць).

## Зьява X

1. Дык, мае сястрыцы, цалюткі дзень сачыў.
2. Кінулася ў вочы—вядома.
3. Сакратар комсамолу, ці што ён?
4. Цікавы хлопец!
5. Падабаецца, ужо відаць...

(Адыходзяць на сярэдзіну дарожкі між фальваркам і ляском).

1. Казаў прыедзе.
2. Калі?
3. На выбары, вядома.
4. Мо' на сход дэлегатак?
5. Адзін?

(Хаваюцца за будынкамі фальварку).

1. Арына, за тыдзень пойдам у мястэчка?
2. Згаворымся.
3. Трэба разам, глядзеце.

4. Ну, вядома, весялей...

5. Сёньня добра дзень правялі.

(З фальварку выходзяць Павал, каморнік, уласьнік фальварку Андрэй Квактач і міліцыянэр).

### Зьява XI

Павал (да Квактача). А лес, кажаце, хаўрусны?

Квактач. Так, агульны.

Каморнік. Траіх чалавек... Пяцьдзесят дзесяцін...

Міліцыянэр. Ого, здорава, дзядзька Андрэй... Па пятнаццаць дзесяцін?

Квактач. Зусім не пяцьдзесят, таварыш каморнік... Хаця-б трыццаць набралася. (Спыняецца і паказвае рукою). Вось там, каля гэтае прагаліны канчаецца...

Павал. А далей?

Квактач. Далей Запалянскі...

Міліцыянэр. За тое ўдоўж цягнецца. (Ківае рукою).

Павал (да каморніка). Абмералі?

Каморнік. Ня скончыў... Агулам дзесяцін шэсьдзесят набярэцца...

Павал (да Квактача). А сям'я вялікая?

Квактач. Дванаццаць душ... Браты таксама намерваюцца перабрацца...

Павал. Падрослыя?

Квактач. Розныя...

Павал. Так... Абгледзім лес і... трэба будзе дзесяцін з пятнаццаць адрэзаць... (Да каморніка). Вы калі можаце кончыць абмяраньне?

Каморнік. Пастараюся к серадзе...

Квактач. Таварыш прадсядацель... я прашу вас ня губіць мяне... Як-жа мы гэткаю сям'ёю пражывом... Падумайце самі...

Міліцыянэр. Пражывеш, дзядзька! Міласьціва робіць таварыш прадсядацель...

Квактач (да Паўла). Дарагі таварыш, ці нельга было-б...

Павал (абрывае). Грамадзянін Квактач... Я нічога не магу вам пасобіць... У нас у мястэчку да поўсотні людзей, якім няма да чаго рукі прылажыць... Я мушу хоць чымсь паменшыць іх гора... Савецкая ўлада павінна меркаваць так, каб усім быў кавалак хлеба...

Квактач. Ну, ці-ж нашым адным, добры таварыш прадсядацель, паможаце ўсім...

Міліцыянэр (падыходзяць к лесу). Не абмінуць, дзядзька, нікога... (Сьмяецца).

(З лесу выбягаюць крычучы і пяючы: Юстына, Кандрат, Якаў, Алеся, Віцюк і Паўліна. Угледзеўшы іх, камісія спыняецца і кідае гутарку).

## Зьява XII

Юстына (ня прыкмеціўшы Паўла). Гаспада, якая красата! Скарэе, скарэе...

Якаў (кланяецца камісіі і, угледзеўшы Паўла, крычыць). Паўлу Хведаравічу павага. Якім чынам?.. Проша ў кампаню. (Усе насторожана маўчаць).

Павал (робіць некалькі крокаў да іх і, гледзячы на Юстыну, злосна пытае). І ты ў камісіі, Юстына Сёмкаўна? Якім чынам? Га-а?..

Юстына (апусьціўшы голаў, хвіліну маўчыць). Я... я прыехала... Якаў Ігнатавіч запрасіў...

Павал. Якаў Ігнатавіч? Гэты Якаў Ігнатавіч!

Юстына (зарухаўшы на месцы. У крык). Я сама сабе гаспадыня... Прашу не аскарбляць мяне... Што я табе... (Адварачаецца ўбок). Прасцітутка-а...

Павал. Не падабаецца!

Юстына. Что? Разьве я праступленіе сделала... Разьве я, наканец... што ты ловіш мяне, як сышчык?..

Павал. Я прашу цябе—не компромэтуй мяне... Ня зьвязвай ты сваіх паходжаньняў з маім імем...

Юстына. А-яй-ай! Падума-а-еш! Шы-ы-шка-а! Ты всю маю жысьць скомпрометавал... Ты днямі й начамі з этаю шлюхаю... от жэны скрываешся... Ты мне ду-у-шу атравіл...

Павал. Маўчы-ы!.. Ты ня сьмееш крыўдзіць чалавека, які... ні каліва не вінаваты... які...

Юстына. Мерзаўка, паганьніца—вот хто она... Она закупіла цябе сваёю... Ты ў гразь мяня топчаш... (Да ўсіх). Гаспада! Вось. (Паказвае пальцам) Вось муж, комуністы... Прымер людзкасьці... (Плача). Атыдзі-ы ад мяне-э... Я не магу на цябе глядзець... Згубі-ыцель мой... (Сур,ёзна). Я не дазволю сябе обіжать... Я сумею абстаяць сябе... (Ідзе к лесу)... Сумею, сумею, сумею...

Павал (гіронічна сьмяецца). Абстаяць... Ха-ха-ха!.. Перад паважнымі людзьмі... (Зычна). Прашу гэта рабіць па-за сьценамі... дому... Каб мае вочы цябе... ня ба-а-чылі... (Да камісіі)... Пойдам... таварышы... (Ідуць).

Юстына (крычыць). Я сама не жалаю на цябе глядзець... Ты аппраці-ыве-эл... Зво-о-дца-а... Хаму-у-ла... Ха-ха-ха! Падумаеш...

Якаў (ідзе за Паўлам). Братка-а, Павал... Прашу-у цябе... Кінь... Ты ведаеш... Пасьля на ўсё мястэчка-а... Не рабі з Юстынаю нічога-а... Перапрасі... Павал Хведаравіч...

Павал (суха да Якава). Нягодніца-а... Заразы-ы... (Хаваюцца за лес).

Якаў (спыняецца). Ну, я, ты ведаеш... Я-ж нічога... Павал Хведаравіч... Ты ўжо даруй, што са мною (Бяжыць да Юстыны. Разьнімае рукі і ласкава глядзіць ёй у вочы). Цётачка-а! Кіньце-э! Што-о вы... Ён... Павал Хведаравіч... Даражэнькая... (Усе стаяць, разгубіўшыся. У гэты момант з-за фальварку выходзяць хлопцы з музыкаю, якія ня так даўно праходзілі ў фальварак).

(Заслона)

## Дзея чацьвертая

Будынак райвыканкому; габінэт старшыні. У кутку стары канцэлярскі стол, абабіты палінялым шэрым сукном і засланы забруджанаю папераю. На стале бюст Леніна, чорны, невялічкі; чарнільны прыбор з сіняга мармуру і стосік кніжак. Некалькі крэсел расстаўлены ў розных мясцох габінэту; дзьве табурэткі і паломаная кушэтка. Крэсла старшыні мяккае, з білкамі. На сьцяне партрэты: Леніна, Чарвякова, Ігнатоўскага і партрэтныя здымкі з местачковых дэманстрацый. У левым кутку габінэту некалькі вінтовак. Два акны выходзяць на вуліцу, у садок. Час пасьля абеду. Пры адчыненьні заслоны на сцэне Павал і Адарка.

### Зьява І

Павал (тупае па пакоі). Дык кажаш, таварыш Адарка, што патвоему элекрычнасьць хутка пусьціць?

Адарка (нагнуўшыся над сталом, разглядвае кніжку. Курыць). Павінен. Я толькі што адтудава... Не ўдаётся, аднак...

Павал (нездаволена). Проста, як назнарок. Столькі часу корпаецца... Партач, а не маханік... Сэрца труціць... Пане мой, столькі грошы палажылі—і нічога... Выгавар, клопат, няпрыемнасьць...

Адарка. Саботуюць... (Памаўчаўшы). Буржуазія... думаеш нет? Сматры, ніякога чуства... Я то-ж яму сёньня кажу: пасьпяшы, таварыш маханік, а ён: „машына нікуда ня варт“. Ну, і разьбярыся ты. Разьве ўлезеш у гэтую машыну? Шрубку зломіць адну—і ўсё на смарку... Ня нашы людзі...

Павал. Няшчасьце... (Спыняецца і моцна жэстыкулюе). Б'ешся, колькі сілы хапае—бегаеш, начамі ня сьпіш, а яны, прахвосты, хоць-бы што... Толькі стаўкі, рахуначкі, зьверхурочныя... (Ізноў тупае). Што-ж, нажывацца на Савецкай уладзе толькі і ўмеюць. Мужык грошы давай, а ў падзяку—вунь што... Восень на дварэ, пане мой, а тут не дабіцца толку, калі ён пусьціць сьвятло... Уададатак і млын сапсаваў і... (Злуе). Пад суд сукінага сына аддам... З імі іначай нельга—распусьціліся, абазналіся. Раз уступі, другі, трэці—на сьпіну сядуць... Падумаць—вакола чужыя людзі... Вось і павярні, як-бы хацеў. (Памаўчаўшы). Але чакайце-э! Павярну-у! Застаўлю-у! Вымышу-у! Калі толькі пазаўтра ня пусьціць машыны...

Адарка (адварачаецца ад кніжкі). А з зямлёю? Тожэ самае. Калі была пастанова скончыць? Тры нядзелі таму, а глядзі-ы... Як віламі на вадзе... (Прахаджвае таксама ўзад ды ўперад). Памоему, жалезнаю мятлою ўсю этую нечысьць... Скруці, як пружыну... А то людзі пачынаюць сьмяяцца...

Павал (прыпыніўшыся). Нават? Вось бачыш! Я казаў не адзін раз: націснуць, дык Кар'ён усё чакае, спадзяецца... верыць чамусьці.

Адарка (матае рукой). Расхлябанасьць... Мякіна... Жаднага рэволюцыйнага пачуцьця... Памоему, у окрузе трэба было адмеціць...

Павал (глядзіць у вакно). Завядзіся... Тут, у нас трэба раз назаўсёды пастанавіць: даць старшыні райвыканкому неабмежныя поўнамоцтвы ў справе электрыфікацыі і зямляўпарадкаваньня... Я вось пазваў каморніка, што ён скажа, цікава...

Адарка. Вядома... Ды, памоему, ты маеш права сам гэта правод...
(Стук у дзьверы. Яны спыняюцца і адварачаюцца).

Павал. Уваходзьце!

### Зьява II

(Уваходзіць каморнік. Адарка разглядае портрэты).

Каморнік. Вы мяне прасілі, таварыш Чэмер?

Павал. Прасіў... Я хачу ведаць, як ідзе справа з абрэзамі? Ці скора вы прыгатуеце гэтыя пятнаццаць вучасткаў?

Каморнік. Таварыш Павал. Вы павінны самі ведаць, я-ж адзін на некалькі раёнаў... Фізычнае моцы няма справіцца... Я-ж ня тое, каб гультаяваў... Сотні фальваркаў, пасудзеце самі...

Павал. А я-ж вам даваў гэта, як тэрміновую справу. Помніце! А цяпер зацягнулі справу да восені, і нельга будзе людзям засеяць...

Адарка (не адварачаецца ад сьцяны). Гэта азначае цэлы год лішняе галадоўкі пятнаццаці сем'ям...

Каморнік. То ці-ж я вінаваты? Бачыце, два разы ў Менск выклікалі—трата часу, колькі разоў выканком мяняў пляны, як вас, таварыш Чэмер, ня было... Ды іншыя прычыны...

Павал (тупае). Таварыш Адарка, былі гэткія выпадкі?

Адарка. Якія?

Павал. Што мянялі пляны?

Адарка. Так... Перапляноўвалі нескалькі разоў...

Павал (злосна). Вось бачыце... Як-жа тут будзеш працаваць нормальна... Такім чынам мы за пяць год зямельнае рэформы ня зробім... Не магу зразумець... Людзі з галавамі сядзяць, ці... (Ідзе да дзьвярэй, адчыняе і заве). Таварыш Кар'ён! Га, таварыш Кар'ён!

Каморнік. Таварыш Кар'ён, здаецца, вышаў кудысьці.

Павал (зачыняе дзьверы). Нікому няма клопату. Кожны думае, што ён робіць з ласкі, на кагось чужога, а не на сваю карысьць... Як найміты... (Да каморніка). Я вялю вам, вось, пры таварышу Адарцы, у тыднёвы тэрмін у гэты пакой даставіць плян пятнаццаці вучасткаў... Ня зробіце—на сябе злуйцеся... Я не магу дазволіць, каб людзі лішні год голадам марыліся...

Каморнік (мнецца, выхіляецца). Таварыш прадсядацель, я прашу хоць-бы...

Павал (павяліцельна). Ніякіх просьбаў, жадных уваг. Пятнаццаць сем'яў павінны пасеяць жыта. Бывайце здаровы. (Ідзе да акна, а каморнік выходзіць. Адарка адыходзіць ад портрэтаў).

### Зьява III

Павал. Пане мой, ты іх прасі, а яны табе... Ніколі! Годзе! Кожны служачы павінен, нарэшце, знаць, што ён працуе не для мяне і не для сябе, а для агульнай справы Рэспублікі... Я з вас выганю панства... Сабралася хэўра...

Адарка (углядаецца ў акно). Так і патрэбна...

(Прачыняюцца дзьверы. Якісь мешчанін, прасунуўшы голаў ціха пытае: „Можна?“ Ні Павал, ні Адарка не заўважаюць. Тады прасіцель мацней падае голас аб сабе: „Таварыш прадсядацель!“)

Павал (адварачаецца ад акна). Зваў хто?

(З-за дзьвярэй падвойны голас: „Можна?“)

Адарка (ідзе да дзьвярэй). Можна!

(Уваходзяць двое мяшчан, старшы і малодшы. Спыняюцца каля дзьвярэй, з палкамі).

### Зьява IV

Павал. Ідзеш, Адарка?

Адарка (з дзьвярэй). Зайду да Кар'ёна.

Павал. А яшчэ прыдзеш?

Адарка. Загляну... (Выходзіць).

Павал (падыходзіць да мяшчан). За справамі, дзядзькі?

Малодшы мешчанін (сарамаціцца). Таварыш Чэмер, калі мы ад іх зволімся...

Старэйшы мешчанін. Пачакай, брат; ты самае што ў іх залазіш. (Сьмяецца. Набівае люльку). Гэтыя справы, як цень: куды сам, туды й яны.

Павал. А якавы яны? (Выбягае з габінэту). Хвіліначку адну. Я зьбегаю ў комунаддзел. (Зачыняе дзьверы).

### Зьява V

Маладзейшы мешчанін (разглядае портрэты). Хіба ты кажы першым, дзядзька.

Старэйшы мешчанін. Ды можаш ты сваё казаць, я пачакаю.

Маладзейшы мешчанін. Нешта зразу забегаў...

Старэйшы мешчанін. На наша няшчасьце... (Сьмяецца).

(На вуліцы чуваць гучнае: „Аць-два, аць-два! У ногу!“. Сьледам зычны голас запявалы і тут-жа хор: „Армія Чырвоная“. Мяшчане хутка йдуць к акну).

Маладзейшы мешчанін. Дапрызыўнікі!

Старэйшы мешчанін. А не комсамолы?

Маладзейшы мешчанін. Не, вунь бачыш.

Старэйшы мешчанін. А глядзі-ы ты, як абабіліся...

(Уваходзіць Павал).

### Зьява VI

Павал (перабіраючы паперы на стале). Што-ж, дзядзькі, зямля, дровы ці што інакшае?

Старэйшы мешчанін (стоячы каля акна). Зямля, таварыш прадсядацель... Калі ўжо з ёю будзе толк? Здавалася-б, далі ўжо,—бяры і ары. Дык не—павёз гной, а мне каморнік і кажа: перакроілі нанава... Я назад—і сам ня ведаю, што далей рабіць.

Маладзейшы мешчанін. А мы дык зааралі ганоў з двое, і ўсё прапала...

Павал (злуецца). Так... ліха ведае што... (Іншым голасам). Ціха, даражэнькія. Вось толькі што я даў загад каморніку, каб у тыдзень вучасткі вам былі адведзены...

Старэйшы мешчанін (гіронічна падсьмейваецца). Электрычнасьць два гады запальваецца, а гэта ў тыдзень. Дзе вы бачылі, таварыш прадсядацель...

Маладзейшы мешчанін. Іш, электрычнасьці захацеў, дзядзька! А смалякамі скучыў! Папалі смалякі, што навазіў,—хваціць на твой век...

Павал. Нічога! (Сьмяецца). Будзе электрычнасьць і будзе зямля... За тыдзень, дзядзькі, наведайце... (Падыходзіць да акна. Мяшчане кіруюць у дзьверы).

Старэйшы мешчанін (ідучы). Хоць-бы жменьку жыта засеяць, таварыш прадсядацель...

Маладзейшы мешчанін (ідучы). Чалавек ведаў-бы тады, ці шукаць яму іншага таленту. (Выходзяць).

## Зьява VII

Павал (адвяртаецца на пакой. Хапаецца рукамі за галаву). Вот табе! У людзей зьнявер'е! Ласьне гэта мажліва... З усіх бакоў... Той з машынаю засеў, гэты з абрэзамі... Трэція штрахоўкаю дапякаюць селяніну... Немажліва! Прахвостаў мала разагнаць... Пад суд—за нядбайнасьць к дзяржаўным абавязкам... (Спакайней). Добра! Усе яны пойдуць усьлед за агентам... Разганю, як вецер пыл... І чаму яно якраз сюды зышлося: усюды, як мае быць, а гэта... штучка к штучцы... Не! Выганю аднаго—будзе навукаю ўсім... Падбяруць хвасты... (Гіронічна). Вось да баляў—як адзін! Вечарыны, жанкі, залёты, гасьціны... Балота!

(У габінэт уваходзіць Прузына, якое Павал момант не прыкмячае).

## Зьява VIII

Прузына (засопшыся, нясьмела). Павалка! Павал!

Павал (раптам адварачаецца). Ах, маці! Чаго ты?

Прузына (поўшэптам, з азіркамі). Прыходзіла Юстына. Цябе пытала. (Выцягаецца да Паўла). А гэты, штрахавацель, не асьмеліўся ўвайсьці ў хату і пільнаваў яе на вуліцы...

Павал (зьдзіўлена). Даўно?!

Прузына. Хвілін з дваццаць таму... Сказала я—ня прыходзіў, вось яна закруцілася і вышла з хаты... Сярдзітая, надзьмутая... Можа-б ты, сынок, пашоў дамоў...

Павал (рашуча). Добра, зараз... Ідзеце дамоў...

Прузына. Ці не перапрашаць толькі... Надовечы падсылала Матруну Пиліпаву...

Павал (спакойліва). Добра, добра... Дома пагутарым...

(Адчыняюцца дзьверы. Паўла кліча Адарка: „Тварыш Чэмер! На хвілінку да Кар'ёна!").

Павал (ідзе. Да мацеры). Я зараз прыду. (Выходзяць дзьвярыма. Уваходзіць Юстына).

## Зьява IX

Юстына (спакойліва азірае вакола габінэт). Его нет. Уцёк, наверна. (Падыходзіць да стала і садзіцца на крэсьле). Спратаўся. (Нэрвова перабірае на стале кніжкі. Устае з крэсла і падыходзіць да акна. Узіраецца на двор). Скажу адкрыта... Нет!.. Раз я яго аставіла, астаў, пажалуста, і ты мяне... (Заводзіць няроўны напеў). Дождуся! Трус! Думает, что не знайду!.. Ня уйдзёш!.. Камуністы!.. (Пяе з перарывамі). Он должан мне аканчальна сказаць... (Абціраецца хустачкаю). Не жадаеш—ня нада... значыць не мяшай... Падумаеш, сіла... Ёсьць округ—ёсьць і цэнтр... У вадным месьце паслухалі—у втарым не асобенна...

(Дапрызыўнікі ізноў, ужо ў іншы бок праходзяць з песьнямі між вокан, Юстына падыходзіць к акну і глядзіць. У гэты момант уваходзіць Павал, пяючы: „Хай вас сустрэнуць з палямі, лясамі").

## Зьява X

Павал (углядае Юстыну. Спыняецца і пытае). Да мяне?

Юстына (зьнянацку). Да вас...

Павал. Нешта маеце сказаць?

Юстына (ідзе ад акна к сталу). Імею... Вы... ты... вы ня сьмееце так рабіць... Эта дзелаюць...

Павал (зьбірае на стале паперы. Нешта піша). Як так?

Юстына (нэрвова). Я прашу вашага вніманьня...

Павал. Стаць на калені?

Юстына. Я прашу вас... Давольна ўжо мне цярпець... Кагда рашаць—тагда... Вы не павінны мне ставіць препятсцвій.

Павал Да чаго ўсё гэта?

Юстына (нерашуча). Раз кончана, так кончана... Вы ня можаце мяне задзержаць сілаю...

Павал. Я вас ня трымаю—можаце, вось... (Паказвае на дзьверы). На ўсе чатыры бакі...

Юстына. Вы не далжны мяне... Разьве...

Павал (паднімаецца). Што-о? На балі-ы? Пасагу? (Тупае). Скардзься... Я цябе не ганю...

Юстына. А хто-о, як ня ты? Ня ты зрабіў мне невынасімым жысьць? Ня ты давёў мяне... Людзі ведаюць!.. Ад людзей не спрачаш...

Павал. Я?! Тваё жыцьцё?.. Выдумляеш...

Юстына. Мне не даюць вуліцаю прайсьці... У цябе гэтая зводніца-а за... другую жэну... Ты майго слова не ўважыш нікогда, мае просьбы...

Мне астаецца адно: ліба зьбегчы, куда глаза глядзяць, ліба... рукі на сябе налажыць... Тры тыдні не была, а ці словам заікнуўся... (Стукаюць у дзьверы).

Павал (нездаволена). Досыць! Я ня маю часу спавядацца перад табою... Цесна, нудна, ня люба—на ўсе чатыры бакі...

Юстына. Нет! Ты мяне ня выжанеш... Я пазаву тваіх таварышаў, пускай скажуць, ці гэтак камуністыя поступаюць... Нахал! Я табе не прыслуга... какая-ліба... (Гучней стукаюць у дзьверы).

Павал. Прашу пакінуць габінэт!.. Ты мне перашкаджаеш працаваць... (Адчыняюцца дзьверы і ўваходзіць Кандрат).

## Зьява XI

Кандрат (абыходзіць стол. Схінаецца. Пазірае на Юстыну і недаўмявае. Губіцца). Я... Таварыш Чэмер, прашу ад вас на хвілінку ўвагі...

Павал (акінуўшы Кандрата хмурым паглядам). Па справах?

Кандрат (нясьмела). Я прышоў прасіць... Можа быць Юстына Сёмкаўна (пытальна пaглядае на Юстыну) ужо перадала вам маю просьбу...

Павал. Кажэце!

Кандрат. Сьпярша. (Падыходзіць да Паўла і калі той адступае, забягае яму наперад). Даруйце-э... Вы падумаеце, што ў вашым жыцьці... Кладу руку на сэрца, не мая віна... Вы два разы мяне бачылі з Юстынай Сёмкаўнай у ўмовах... Паверыце... бяз усякіх думак... выпадкова... І каб за гэта рабіць чалавеку.

Павал. Што?

Кандрат. Я думаю, вы чулі... Усе гавораць, нібыта праз вас мяне хочуць зьняць з работы... Я прасіў-бы... Я дакажу, што ніколі нічога...

Павал (сярдзіта). Вам сказалі на мяне? Хто? Хлусы будуць аддaны пад суд, а... першым—вы... (Пачакаўшы). Досыць. (Падыходзіць к сталу). Ха-ха-ха! Вось дык характэрна...

Кандрат (сьмялей). Таварыш Чэмер! Вам сьмешна, а мне грозіць... я ўсё-ж лічу, што з вашага боку не... не... чэсна... і вы вернеце назад...

Павал (мяняе міну). Што?! Згаварыліся-а? Прашу з прыватнымі справамі ка мне дамоў... Тут для іх няма месца. (Пaказвае на дзьверы). Будзьце ласкавы! Я павінен прадаўжаць сваю працу... Будзьце ласкавы... (Кандрат робіць крокі к дзьвярам. Юстына ня рухаецца).

Юстына. Ня мееш права ганяць!.. Мы прышлі ў учраждзэньне... Нас должны здаволіць... а не... (Крута павяртаецца і выходзіць. Ідучы). Сасчытаемся ў іншым месцы... Успомніш!.. (Бразгае дзьвярыма). Кандраті Яўхімыч!.. (Кандрат выходзіць). Нахал! Бюрократ!

## Зьява XII

Павал (агідліва). Балота! Бросьня... (Плюе). Трэба раз назаўсёды скончыць... Рашуча... Беспаваротна... Трэба мець вольныя рукі, думкі, намеры... Вольныя павароты... Што замінае—к чорту-у... (Уваходзіць Якаў).

## Зьява XIII

Якаў. Павал, браток... Перш усяго—дзень добры... Што здарылася? Цётка Юстына галёкае на ўсю вуліцу... Я ня сьмеў падыйсьці... У чым рэч?..

Павал. Ты за справаю?

Якаў. Так, так... Павал Хведаравіч... Папершае, я еду... Мне ў гэтай атмосфэры душна... Падругое... усё-ткі я патаварыску... Кінь, кінь сямейныя... Перапрасі... Цётку Юстыну перапрасі... Убачай... (Порстка азіраецца). Мяшчанка... Вакол мяшчанства... Ці-ж усё зразу можна выжыць... Вякі накаплялася... Я сам... ня ўтрымацца... Ты ўжо падумай...

Павал. Ты едзеш?

Якаў. Выбачай... Так сказаць, патаварыску... я-б радзіў... Пэўна—тваё дзела... Ты лепш ведаеш. (За дзьвярыма зычная гутарка. Чуцён голас Адаркі: „Заві Паўла! Хутка!“ Прачыняюцца дзьверы, з-за якіх чуваць вокліч: „Таварыш Павал! Таварыш Адарка заве вас!“).

Павал (азіраецца). Зараз. (Да Якава). Дык што ты хацеў сказаць, га?

Якаў. Памойму, Павал Хведаравіч, пагадзіся ты з Юстынай Сёмкаўнай... Усюды йдуць гутаркі, плёткі, няўжо табе гэта добра?.. Ведаеш, гэтым хочуць падмачыць тваё ймя... Ёсьць людзі, якім ты... Усё трэба падлічыць... Мая рада, браток...

Павал (скалануўшыся ўсёю істотаю). Ёсьць людзі? Ты мне падкажаш на гэтых людзей? Пляваць... Я паставіў сабе мэтаю адно: нясупынную, рашучую працу. Я мушу паказаць жыхарству, што і як працуе для яго Савецкая ўлада... А ёсьць людзі, якім гэта варожа—вядомая рэч... Дык ведай і ты, што гэтыя людзі варты таго, каб з імі гаварыць, як з ворагамі... (Памаўчаўшы). Вось толькі што быў адзін з гэтакіх... І за ім... Ёсьць людзі—і ёсьць народ, сяляне... (Убягае ў габінэт Адарка).

## Зьява XIV

Адарка (перш глядзіць колькі момантаў на Якава, пасьля да Паўла). Загаварыўся, падумаеш!

Павал. А табе што?

Адарка. Дзела... Срочнае дажа...

Павал. Так?!

Адарка. Бяз жартаў... Маханік прасіў зараз-жа прыйсьці ў млын: будзет первая спроба пусьціць электрычнасьць...

Павал (зарадаваўшыся). Электрычнасьць? Нарэшце. (Пяе: „Адрачомся ад старага міра-а“. Хутка кідаецца па шапку і, не зважаючы на Якава, бяжыць да дзьвярэй. Адарка сьледам, Якаў пазадзе. У гэты час на вуліцы чуваць сьпеў жанцоў, якія йдуць з дажынак).

(Заслона)

## Дзея пятая

Вечар. Вуліца. На вуліцы змрок. У хатах засьвечаны агеньчыкі, якія праз вокны пускаюць на вуліцу праменьні і крыху яе асьвятляюць. Людзі, што ходзяць вуліцаю ці па воду, ці з мяхамі, або кулямі за плячыма, мігаюць у неразборным выглядзе. Каля хаты, супроцьнай Чэмеравай хаты некалькі мяшчан вядуць гутарку, з прыказкамі і кепікамі аб электрычнасьці. Дзесь скрыпяць вочап і вешніцы; чутны рэдкія „ноканьне" і „нуканьне". У Чэмеравай хаце таксама сьвеціцца агеньчык.

### Зьява I

(Гутараць мяшчане)

1. Бач, а ты, Пятрусь, казаў, што не дачакаемся.

2. Абмыліўся... Ха-ха-ха! Хоць спаліў вазоў пяць смалякоў...

3. Затое гута-а-рак, праз тры гады... Колькі ў жорны-і самі па-а-памалолі...

4. Дарэмна плявузгаць... А то, калі вы сваё гаспадарства ладзіце спачатку—лёгка яно даецца вам?

2. Ха-ха-ха! Ярмалай абстойвае ўладу...

4. А та-а-кі і буду... Бо за-раз у нас старшыня ня кепскі: і поля даў, і сенакосу выстараўся і масты падрапараваў, і дровы...

3. Аб дро-о-вы-і п-па-а-чакка-ай, браток... Мо-ожа так, я-ак і з алектры-ыка-а-ю-у...

1. Затое як заблішчыць, дык толькі трымайся... Вочы затульвай. (Праходзіць мешчанін з кулем саломы).

### Зьява II

Праходжы. Дабрывечар, мужчыны.

1. Дабрывечар.

Праходжы. Чакаеце электрыкі?

2. Вядома... А ты-ж, куды цемнатою?

Праходжы. Апошні раз з прыемнасьцю прайду цемнатою. Затое дачакаліся... Браткі, дзякуй яму, таварыш Павал, паказаў сябе...

4. Так, так... Мы, чуеш, ня мелі яшчэ гэткага працаўніка... А вось яны ўсё яшчэ не здаволены...

1. Ды кінь, Сідар. Мы жартамі.

Праходжы (ідзе далей). У гэткай справе жарты не пасуюць. (Хаваецца).

### Зьява III

1. Як-бы мы што кажам на Паўла! Каб ды нам назаўсёды гэткі чалавек,—што-ж бы мы супроць Саветаў,—барані божа.

3. Т-та-абтож-то-а... Да-а чаго-а Сі-ддо-ар на сур'ёз-з... (Праходзіць Саламея да Чэмераў).

### Зьява IV

Саламея. Зацікавіліся й вы аляктрычтвам? Вядома, гэткая навіна... Сёньня на ўсіх вуліцах—паўнютка людзей... Нібы на ўсюношнай...

1. А ня ведаеш, Саламея, скора запаляць?

Саламея. Ды, пэўна, крыху пазьней... Мне казала Прузына, якой казаў Павал, што а 10 гадзіне...

2. Значыць, яшчэ ў хату можна наведаць...

Саламея (з двара Чэмераў). Ды чаму-ж... Як-бы далёка гэта... (Хаваецца ў хаце).

3. Ды-ык хі-бба-а пайсьці што-о-кольве-э-чы зрабіць, пакуль т-там...

2. Адно-б, не прапусьціць...

1. А мо' яшчэ ня так і скора... (Праходзяць тры хлопцы з песьнямі).

2. Хлопцам на ўсю ноч сьвята...

4. Чаму-ж ня сьвята. І сталым ня меншае сьвята... (Ідуць двое ў адзін бок, двое—у другі).

З аднаго боку. А хто-ж кажа—ня сьвята...

З другога боку. Можна не казаць, а думаць...

З аднаго боку. Чэсьць і хвала Паўлу...

З другога боку. Дзякуй яму. (З хаты Чэмераў выходзяць Прузына й Саламея).

### Зьява V

Саламея (сьцішаным голасам). Ня прыходзіла, кажаш, Прузынка! А-а, а-а! Бачыш ты.

Прузына. Наравістая... Наказвае іншымі, а сама... Толькі раз зашла, ды то, каб палаяцца... і тады-ж ад нас у спалком пашла і колькі папасварылася на Паўла. Рынак прашла з крыкамі і... Вось калі...

Саламея. Хоць і харошая кабета, але, мая ты Прузынка, не завідная... Ой-то ўжо не завідная... (Спыняецца на сьвятле каля вярэі).

Прузына. Прайдзі сьвет, ня нойдзеш гэткае. Вось калі, вось калі... Колькі папасушыла мяне, колькі пазьдзеквалася, як Паўла ня было дома... Выказаць нельга. Вось калі... Вось калі...

Саламея (выглядае на вуліцу. Прыслухваецца). Як-бы мая Настуся гаворыць... Пэўна ўжо на зборню... (Да Прузыны. Цішэй). Ну, а як, бак, Прузынка, Павал глядзіць на гэта? Мабыць і не патурае... Ці-ж ёсьць час занятому чалавеку думаць аб гэтым... Баба! Што ў шалопае—або выпаўніць... Ён-жа ў цябе гэткі работнік, гэткі старанны...

Прузына (таксама азіраецца). Сястрыца, шкадуе... Шкадуе Павал яе, чаго й казаць... Вось калі... Але ўцерпу няма... І то ён цярпеў увесь час... Каб на іншага—і біў-бы... і гнаў-бы, і нямаведама што рабіў-бы... Вось калі... А Павал-жа—дабрата, сястрыца... Але пасьля давяла... Не давала працаваць, цягалася з усімі стрэчнымі... Вось калі... Ну, заняты ён, дык злаваць за гэта? Трэба даравалць... То-ж не для сябе... Але... Вось калі.

(На вуліцы чуецца гоман і крык, які перабівае гутарку кабет. Якісь голас заводзіць нястройную песьню. Другі пераймае, крычучы: „Янка, кінь! Вось пасядзем на прызьбе і разам запяём... Дзяўчаты, сюды, да Грышкавае хаты"!).

Саламея. Зборня, во... Мая дзеўка, пэўна, там, а яшчэ не вячэрала... Трэба йсьці... Дабранач, Прузынка.

Прузына. Бывай здарова, сястрыца... (Саламея, выбегшы на вуліцу, крычыць). „Настуся! Насту-у-ся-а! Мо‘-ж не вячэрала-а?“ (Яе кліч глушыць гоман, выгукі, напевы, якія разам зьліваюцца ў гучны шолам).

## Зьява VI

Павал (выходзіць з Адаркаю з-за суседняе хаты). Разумееш, гэтулькі сілы патраціць... Не дазваляюць, не дапамагаюць... Сам!.. Лёгка сказаць— сам! Значыць, рабі, як хочаш, круціся, вярціся...

Адарка. Ізьвесна, трудоў многа палажыў. Нада прызнацца, ты настаяў... Трэба, каб ячэйка благадарнасьць вынесла...

Павал. Згадзіся, Адарка, што іначай нельга... Але—я не за падзяку... Паглядзі сама—капейкамі зьбіраліся грошы.

(Праходзяць два хлопцы з музыкаю на гармоніку і гукаюць ім: „Добры вечар! т. Павал! Скора пусьцяць сьвятло“?)

Павал. Вечар добры... пусьцяць ужо, пусьцяць...

Адарка (да Паўла). Только-бы ў яго там і на гэты раз нічаво-бы не папорцілася... не-то—будзет правал.

Павал (гучна). Толькі сапсуе, тады сукінага сына заарыштую. То будзе яўны саботаж. Паглядзі, які стварыўся настрой! Кожнае дзела ляпей многіх і многіх слоў... Мы бярэм фортэцыю і кожнаю справаю замацоўваем сваю перамогу... (Спыняюцца каля Паўлавай хаты ў цяньку). Гэта найлепшая агітацыя... (На зборні чуцён агульны сьмех).

Адарка. Я согласна... Нада іспользаваць гэту заваёву як найпаўней... Нада даказаць... (Раптам выбухае стрэл, якісь няўдачны, ціхі. Чуецца трывога, выгукі: „Ла-ві-ы! Вось яны, во! Хло-оп-цы-і! Сю-да-а!“ Тупатня, гоман. Натоўп з хлопцаў ды дзяўчат запаўняе двор Чэмераў. Выбягае на вуліцу Прузына. У натоўпе Павал, Адарка, Юстына. Павал трымаецца за прастрэленую руку).

## Зьява VII

Хлопец з натоўпу. Таварыш Чэмер, гэта-ж ваша жонка страляла... Вось, таварыш Чэмер... (Галасы з натоўпу: „Яна, яна“).

Другі хлопец. А нехта ўцёк... На агароды... Праўцом на гумны...

Адарка (паказвае пальцам на Юстыну). Негадзяйка! Яна задумала зьвясьці таварыша Паўла... У загаворы... знаем... не скроешся галубка...

Юстына (нэрвова. Рухае ў натоўпе). Маў-чы-і... шлю-ха-а... Я не дапушчу ізьдзевацца над сабою... такой, як ты... Я...

Адарка. Як ты сьмела страляць?.. Ты знаеш, у каго ты страляла і што за гэта цябе чакае? Га?

Юстына (храбрыцца). Я страляла... Я ведала, што... дзелаю... он стал у меня на дароге... он погубіл... он не дает мне построіць мою жысьць... Я нарочна страляла... Я не хацела яго убіць... Я хацела паказаць, что магу... что буду трэбаваць...

Павал (уладуючы руку). Вар‘ятка... Няпрытомная... Ты... разам з Торкам? Пакушэньне-э... Ха-ха-ха!

Юстына. Я адна... Я... Пусьце-эце мяне...

Павал (да Адаркі). Няхай ідзе... Шалёная...

Адарка. Нет... Яе нада адвясьці ў аддзел міліцыі... Гэта загавар... Она не адна... Ізьвесна... Таварышчы! Адвядзеце-э... (Юстыну асьцярожна, неравшуча бяруць пад рукі).

Юстына (вырываецца). Насільнікі... Куда вы мяне паведзяцё... Я не праступніца-а... Я хацела паказаць, что он не павінен, что он... пусьцеце! (Вырываецца і бяжыць з двара. Адарка кідаецца ўсьлед за ёю, крычучы: „Сто-ой! Таварышчы, лавеце-э!.. Некалькі хлопцаў бягуць, галёкаючы: „Лаві-ы! Лаві-ы!“).

Павал (робіць некалькі крокаў к вуліцы). Кіньце-э! Кіньце-э! Адарка! Тварыш Адарка! К чаму гэта! (Шум і гук ня сьціхае. У гэты момант запальваецца электрычнасьць і ўміг трывога перавяртаецца ў радасныя выгукі, воклічы, гукі: „Ура-а!“

1. Глядзі-ы! Вунё-о!..
2. Во, во! Гга-а-гга-а!
3. Бач, бач, як месяц...
4. Полагам так... Промінам. Ха-ха-ха!
5. Як прыгожа... Па ўсім мястэчку...
6. Гэта ўсё Павал Чэмер... Дастараўся...
7. Брава! Таварыш Павал!.. Гга-а-гга-га... Ггу-уз-зу-ух-гу-у...

Павал (абураны ўсім, што творыцца на яго вачу, хвіліну стаіць на адным месцы, як заварожаны, пасьля рухае на вуліцу, убок голасу, натхненна гаворачы). Дашоў. Настаяў! Няхай ведаюць Авосьцы... Вот... Не за дзякуй... Не... Савецкая ўлада можа, мусіць, умее... і зробіць... новае, сьветлае, радаснае жыцьцё... (На зборні пяюць: „Адрачомся ад старага міра“).

(Заслона)

Канец

11-II-26 г.

# ДЗЬВЕ ПУЦІНЫ*)

### Я. Ліманоўскі

Янкава сястра Марына жыла ў Петраградзе ўжо больш дзесяці год. Муж яе служыў раней швэйцарам у досыць багатым доме і добра зарабляў. Жаданьне нажыць грошы, каб потым стаць самастойным гаспадаром, было ў ім такое моцнае, што ён адкладваў ад свайго заробку ў касу ашчэднасьці нават па капейцы. Выдаткаў непатрэбных ніколі не рабіў, а патрэбныя як мага абмяжоўваў. Пакуль быў яшчэ нежанаты, дык і то не вадзіў знаёмства з тэй моладзьдзю, якая любіць весела пажыць, пакуціць, бо пры гэткім знаёмстве грошы не залежацца ў кішэні. Жыў адасоблена. З жаніцьбай пакуль што не сьпяшаўся, бо яшчэ не хапала грошай, каб жыць, паводлуг задуманай мэты, самастойна. Магчыма, што ён яшчэ доўга не жаніўся-б, каб ня выпадак. Дык і выпадак гэты звычайны, якіх бывае шмат у жыцьці. Давялося яму прыехаць у Янкаву вёску на вясельле да Янкавага суседа, што даўно жыў у Петраградзе і быў добра знаёмы з будучым, аказваецца, мужам Марыны. Вось тут на вясельлі яму і спадабалася Марына і так, што рашыў неадкладна жаніцца. І хоць Марыне ў той час падабаўся іншы хлопец і яна нават кахала яго, але сусед падтрымаў свайго петраградзкага сябра, пачаў хваліць яго, угаварыў бацькоў Марыны, пераконваў яе, размалёваў у прыгожых хварбах гарадзкое жыцьцё. Бацькі аб тым хлапцы якога кахала Марына, і слухаць не хацелі і цяпер пачалі прымушаць яе выйсьці замуж. Паплакала шмат Марына і паддалася. Дык што іншае магла яна рабіць, калі нават уся радня была за тое, каб паслухаць бацькоў. Праз два тыдні адбылося другое вясельле і зараз-жа дзьве пары маладажонаў выехалі ў Петраград.

Цяпер муж Марыны ўжо канчаткова рашыў зажыць самастойным гаспадаром, пазычыў грошы, бо сваіх не хапала, і хутка на рагавым доме № 28-6 на 7-й роце зьявілася шыльда „Белошвейная мастерская Петра Крашевского“. Гэта і была майстэрня мужа Марыны.

Майстэрня давала значны прыбытак, але з адкладваньнем ашчаднасьцяй справа сьпярша стаяла дрэнна. Марына мела больш шырокую натуру, ня любіла лічыцца з кожнай капейкай і не згаджалася абмяжоўваць выдаткі. У душы яна была нездаволена, не забылася яшчэ свайго

---

*) Глядзі „Полымя“ № 1.

каханьня, і хоць гэтае нездавальненьне не вылівалася яскрава, не даравала-б, аднак, мужу, не прашла-б супакойна міма кожнай дробязі, якую той-бы адмовіўся для яе зрабіць з мэтай ашчаднасьці. Муж гэта разумеў і дзеля таго, што пакахаў Марыну, стараўся ёй ва ўсім дагадзіць. А гэта якраз для ўсё новых і новых выдаткаў і нельга было пагадзіць са сваёй запаведнай думкай—зьбіраць грошы.

Значна пазьней, калі дажылі дзяцей, Марына больш пачала згаджацца з мужам і скарачаць выдаткі, каб зьберагчы што-небудзь для дзяцей, але поўнай аднадумнасьці з мужам у гэтай справе, з прычыны розных характараў, усё-ж ня было. Пятру не падабаўся гарадзкі гоман. Марына таксама вырасла ў вёсцы і заўсёды яе ўспамінала. І вось Пётра насіўся з думкай, з якой згаджалася і Марына,—сабраць грошы і купіць або добры хутар, або нават невялікі фольварак, набыць завадзкую скаціну, добры сельска-гаспадарчы інвэнтар і заняцца гаспадаркай. Ужо і грошай для гэтага амаль хапала, чакалі толькі, калі скончыцца вайна.

Янка ведаў аб жыцьці Марыны толькі з яе апавяданьняў, калі яна прыяжджала да бацькоў адна або з мужам. Дый прыяжджала яна вельмі рэдка (аб вясельлі Марыны ён зусім ня памятае, бо быў тады яшчэ малы). Чуў, як у часе спрэчак з бацькамі, Марына востра дакарала іх за прымус выйсьці замуж за Пятра, дакарала за разбуранае яе каханьне і г. д. Мо‘ дзеля гэтага Марына і адчувала сябе пакрыўджанай бацькамі і прыяжджала так рэдка. Апошні раз прыехала неяк гады два перад вайной. З гэтага часу Янка і ня бачыўся з ёй. Толькі калі ўжо быў у войску, часам пісаў да яе і атрымліваў адказы. Да Марыны Янка быў моцна прывязаны. Як старэйшая ў сям‘і, яна была для яго быццам другой маткай, а не сястрой. Так хацелася цяпер яе пабачыць пасьля пражытых у расстаньні некалькіх гадоў. І калі, пасьля дзесятку запытаньняў, нарэшце, адшукаў кватэру Марыны і вітаўся з ёю, адчуваў сябе нязвычайна здаволена.

Апошнія гады палажылі адбітак на Марыну і Пятра. Па выгляду Янка знашоў іх значна пастарэўшымі. Дзень прыезду Янкі выпаў неяк у нядзелю, пачалі апавядаць пра сваё асабістае жыцьцё і пра падзеі ў Петраградзе.

— Ведаеш, швагер, якое няшчасьце,—казаў Пятро,—грошы нашыя былі паложаны ў банк, а цяпер кажуць, што нельга будзе іх атрымаць. Процэнтавыя паперы толькі засталіся на руках—і то невядома, што з імі будзе. Як думаеш, ці можна будзе атрымаць грошы?

— Магчыма, што невялікую суму і будуць выплачваць, а што датычыцца процэнтавых папер, дык думаю, што імі ўжо можна сьценку выклейваць.

— Што-ж, калі і выдадуць невялікую суму, дык па цяперашняму курсу яны нічога ня будуць варты. Так, відаць, уся праца і прападзе,—

дадаў Пётра, якому страта сваіх ашчаднасьцяй была цяпер самым балючым ударам.

— Шкада, што й казаць, калі ўсё мо' прападзе,—адказала Марына,— але табе так і трэба. Тросься над кожнай капейкай; адмаўляў у кожнай дробязі. Колькі мне прышлося з табой спрачацца, лаяцца, а часам і плакаць праз тваю прагавітасьць. Жыцьця-сьвету ня бачылі дзеля тваёй скупасьці. І вось цяпер ні сабе, як кажуць, ні людзям.

Пётра маўчаў,—ён быў вельмі разьбіты зруйнаваньнем сваіх плянаў і ня меў довадаў спрачацца з Марынай, як калісьці, даводзячы сваю правільнасьць.

— Мо' яшчэ і цяпер нажывіцё, хоць ня столькі, як раней. Як бачу, майстэрня ваша працуе яшчэ,—спрабаваў суцешыць Янка, хоць і сам ня верыў у магчымасьць гэтага.

— Дай спакой, братка. Якая тут праца. Заказаў робіцца ўсё менш, работніцы працуюць куды горш, чымся раней, дзеля малейшага непаразуменьня кідаюць працу, выдаткі ўсё ўзрастаюць, дарагоўля павялічваецца. Няма ніякага прыбытку, адзін клопат толькі. Прыдзецца хутка зусім зачыніць майстэрню і тады невядома, як жыць. А цяпер час такі цяжкі настаў, няма нідзе чаго і за грошы дастаць. Хлеба даюць па картачках па $1/4$ ф., а часамі і $1/8$ ф. на чалавека, дый той напалову з непрасеянай мукі. Усюду вялізная чарга, нават, каб атрымаць фунт сушанай гародніны. Мяса таксама няма, дый дарага. За апошні час шмат адчынілася крам па продажы конскага мяса,—і добра гандлююць. Ядуць людзі ўсякую ўсячыну. Мо' заўважыў на некаторых вуліцах баб, з карзінамі і жоўтымі ляпёшкамі на іх. Гэта так званыя „дурандавыя ляпёшкі". Дуранда асобая фінская трава. З зернятак яе робяць алей, а са жмыхаў пасьля вырабу алею бабы смажаць на алеі і прадаюць ляпёшкі. Дакладваюць часам жалудоў да дуранды і, такім чынам, замяняюць хлеб. Было некалькі сьмяротных выпадкаў ад яды гэтых ляпёшак, бо дурандавае жмыхі, кажуць, і жалудак каня не пераварвае. Калі што з харчоў і можна купіць, дык толькі за высокія грошы і то „з-пад палы". Невядома, што далей будзе.

— Што-б там ні было, а гэтак ня будзе,—упэўнена перабіў яе Пётра.

— Ты заўсёды прарочыш. Ужо дапрарочыўся да багацьця, фольварку і г. д. Схадзі ляпей, пакуль вольны час, пабач, ці ня прывезьлі дзе на бліжэйшым канале баржы з дрывамі, заўтра няма чым запаліць у печах.

Разважаньне аб сучаснасьці і палітыцы заўсёды злавала Пятра, асабліва, калі ён прыпамінаў пра страчаныя грошы. Прапанова жонкі занятца цяпер гаспадарчым пытаньнем не спаткала, дзеля гэтай прычыны, адмовы з яго боку.

— Добра, добра—займіся ўжо і ты прароцтвам. Магчыма, што пры дапамозе брата і зробіш палепшаньне становішча ў Петраградзе,—адазваўся Пятро і пачаў апранацца, каб пайсьці шукаць дроў.

— Ты хоць лепшае паліто адзеў-бы, сёньня-ж сьвяточны дзень, у гэтым на чалавека не падобны, людзей сьмяшыць будзеш,—заўважыла Марына, калі Пятро апрануўся ў старое дзіравае паліто.

— Добра будзе і ў гэтым, не вялікі пан,—адказаў той тонам, які сьведчыў, што настрой яго цяпер не адказвае таму, каб адзець добрае паліто, і вышаў.

— Вось і рабі з ім, што хочаш, заўсёды так. Раней дык яшчэ лягчэй было пераканаць, а цяпер зусім апусьціўся і зрабіўся больш упартым,—паскардзілася Марына.

— Ня дзіва—чалавек выбіўся з каляіны, а прыстасавацца да жыцьця ня можа. Якія наогул цяпер настроі ў Петраградзе?—скіраваў Янка гутарку да прарванай тэмы.

— Ведама-ж, у кожнага іншыя настроі, і я пра іх добра ня ведаю. Але ўсё-ткі шмат настроена проці цяперашняга ладу, ужо ня кажучы пра таго, што меў якую-небудзь маемасьць і цяпер ад яго адабралі. Вось, напрыклад, банкаўскія служачыя не пашлі на працу і забралі нават з сабой ключы ад шаф, кас і сэйфаў. Ужо некалькі тыдняў, як банк амаль зусім не працуе. Спрабуюць набраць новых служачых, частка старых, пераважна ніжэйшы пэрсонал, вярнулася. А шафы і касы прыдзецца хіба ламаць. Не пашло на працу шмат служачых і іншых устаноў, грамадзкіх і навуковых. Адмаўляюцца працаваць профэсары, дактары і інжынэры, навуковыя працаўнікі і, наогул, гэтак званыя, кваліфікаваная інтэлігенцыя. Распаўсюджваюцца чуткі, што хутка прыдуць немцы і ведама-ж разбураць савецкі лад. Старая армія ваяваць ня хоча і разьбягаецца, а чырвоная гвардыя іх не затрымае. Чакаюць шмат хто немцаў, а пакуль што хаваюць сваё дабро, каб не адабралі да прыходу іх. Упэўненасьць, што хутка скінуць Савецкую ўладу робіць тое, што ня слухаюць загадаў улады, выкручваюцца ўсялякімі спосабамі ад павіннасьцяй і інш. Жыцьцё ў горадзе замёрла. Позна ўвечары дык боязна хадзіць па вуліцы, робяць напады, часам нават і ўдзень; адбяруць лепшую вопратку і грошы і ўцякуць. Або часам прыходзяць на кватэру, нібыта на вобыск, забяруць усё больш каштоўнае, настрашаць. Дык сядзіш, часам, і боязна робіцца, каб ня прышлі. Хоць чырвонагвардзейцы і вядуць барацьбу з гэтым бандытызмам, але пакуль што ня ўнімаецца. Бо што-ж ім зробіш,—сталай варты на вуліцах, як даўней, няма. Робяць толькі чырвонагвардзейцы час-ад-часу абходы. Ну дык адны сачаць за абходам, а другія рабуюць. Рабуюць пераважна крамы з-жыўнасьцю. Надоечы выламалі дзьверы ў сталоўцы на нашай вуліцы і забралі 7 пудоў печанага хлеба. А раней, дык хто паквапіўся на хлеб, якую ён меў вартасьць? І ўсе рабаўнікі ўзброеныя. Яшчэ ў часе лютаўскай рэвалюцыі набралі аружжа

і тыя, якія да рэволюцыі ня мелі ніякага дачыненьня. Цяпер і жыцьця няма праз іх. Хіба, як умацуецца лад, сунімуць іх. А цяпер, як я казала ўжо, ня слухаюць улады, ня лічацца з ёй, спадзяваюцца, што яна толькі на час. Дык і няма ладу. І мне здаецца, што ня ўтрымаецца Савецкая ўлада.

— Ты гэта кажаш пра настрой тых колаў грамадзянства, якія процi Савецкай улады. А вось цікава, якія настроі ў рабочых на фабрыках і заводах.

— І там, братка, няма аднадумнасьці. Бальшавікі кажуць адно, а меншавікі і іншыя там соцыялістыя кажуць другое і бунтуюць рабочых супроць бальшавікоў. Голад, беспрацоўе і малы заработак паніжаюць настроі ў рабочых таксама, і яны часам слухаюць меншавікоў. Нейк, тыдзень таму, рабочыя некаторых заводаў наладзілі шматлікую дэмонстрацыйную дэлегацыю да старшыні Петраградзкага Савету, Зіноўева, патрабуючы хлеба. Значная, аднак, частка рабочых, ня гледзячы на голад і цяжкое становішча, стаіць за бальшавікоў. Каб ня голад, дык ва ўсіх грамадзян былі-б іншыя настроі і мо' іншыя адносіны да Савецкай улады. Думкі кожнага цяпер—толькі аб ежы. Абураюцца, чаму забаронены вольны прывоз і продаж харчоў. Купіць „з-пад палы“ дорага каштуе і часта ашукваюць. Мы, як сам бачыш, таксама сядзім бяз хлеба. Аднойчы надумалася я пайсьці дастаць дзе-небудзь хоць баханак хлеба. Шкада марыць дзяцей і сябе. Не сказала нічога Пятру, бо ён і цяпер такі скупы, што будзе лепш галадаць, чымся траціць грошы на дарагі харч. Паехала я на Аляксандраўскі рынак і там з усімі прасьцярогамі купіла баханак сьпечаны ў форме, як у вайсковых пякарнях, фунтаў так дзесяць хлеба. Заплаціла шмат за яго, завінула ў дзіцячую коўдру, запакавала ва ўзятую дзеля гэтага карзіну, каб не адабралі. Бо калі знашлі-б, то залічылі-б у „мяшэчнікі“ і „спэкулянты“. Пачала ў доме рэзаць хлеб,— нешта цьвёрдае, ножык не праходзіць. Спрабавала ў іншым месцы—таксама. Аказваецца гэта было палена, аблеплена цестам і выпечана, як-бы баханак хлеба. А суседку адну дык ашукалі на цукры. Купіла яна торбачку цукру, а ў ёй на сподзе пад кавалкамі цукру большая палова маленькіх каменьняў. Хоць і забаронена гэтае самае мяшэчніцтва, але яно ўсё ўзрастае. У поезьдзе няма за імі проста месца. Вязуць на продаж, вязуць для сябе. Селянін нічога ў горад ня прывозіць; ён не такі хітры і спрытны, як гарадзкі жыхар, і адбяруць ад яго хутчэй. А падругое, навошта яму везьці, калі прыедуць да яго дадому, заплацяць, што скажа, і яшчэ падзякуюць. За грошы, нават мікалаеўскія (а керанак сяляне зусім не бяруць), нічога нельга дастаць. Вязуць у вёску залатыя гадзіньнікі, брасьлеткі, пярсьцёнкі, паліты, футры, сукенкі, ядвабныя хусткі і іншыя больш каштоўныя рэчы і выменьваюць на іх бульбу, муку, масла, яйкі, сала. Што й казаць—цяжка стала жыць.

---

Ужо з першых дзён пабыўкі Янкі ў Петраградзе занудзілася яму. Езьдзіў або хадзіў па вуліцах незнаёмага гораду. Увечары гутарылі пра сваё жыцьцё ў апошнія часы, дзяліліся ўспамінамі, гаварылі пра сучаснае жыцьцё: пераважала тут, аднак, жальба Пятра з прычыны страты сваіх ашчаднасьцяй. Спрыкрылася гэта Янку. Ня было магчымасьці спагнаць больш рознастайна час, ня меў ніякіх сваіх заняткаў. Чакаў, калі скончыцца водпуск, каб паехаць у часьць. Пакінуў аглядаць цяпер горад. Сядзеў днём у майстэрні, запісваў, па просьбе Марыны, заказы, пісаў, калі было трэба, рахункі на іх. Прымала заказы, брала мерку і інш. старшая работніца—закройшчыца.

— Скажэце, Ніна, чаму ў вас так коратка валасы абстрыжаны?—спытаўся Янка ў высокай здаровай на выгляд работніцы, што прасавала пашытую бялізну на бліжэйшым да Янкі стале.

— А вам не падабаецца мая стрыжка?—ухілілася тая ад простага адказу.

— Ну калі, скажам, не падабаецца мне, дык каму іншаму падабаецца. Так вы абстрыглі, каб падабацца?

— У яе волас кароткі, затое розум доўгі,—умяшалася з ухмылкай у размову Вера, бойкая, сярэдняга ўзросту, цёмная шатэнка з цёмнашэрымі вачыма і нават у цёмнай сукенцы з высокім зашпіленым каўняром і вузкімі манжэтамі, адхіляючы голаў ад жаночай сарочкі, якую яна абшывала карункамі. Яе работніцы звалі часам „амурам“, ці таму, што яна была харашэйшая за іншых, ці таму, што за ёй увіхалася больш хлопцаў.

— Бывае, часам, што і з доўгімі валасамі можна мець не кароткі розум,—пажартаваў Янка.

— Ну гэта не адносіцца хіба да Веры,—паквіталалася з ёй Ніна.

— Мо‘ вы, гаспадыня, скажаце брату, чаму ў Ніны кароткія валасы,—ня ўнімалася Вера.

— Ты думаеш мо‘, што ты адзін толькі ваяваў,—зьвярнулася тут да Янкі Марына.—Не, выбачай. Наша Ніна таксама ваявала. Вось яе ў войску і абстрыглі пасалдацку.

— І ня толькі абстрыглі,—падхапіла Вера,—але і ў „чахарду“ навучылі бавіцца, і ў „цыганскую барацьбу“, бо жаночая вопратка перашкаджае гэтаму навучыцца.

— А, вось яно што. У жаночым батальёне пані Бачкаровай вам трапілася быць,—дагадаўся Янка.—Спатыкаўся я з вашымі грознымі батальёнамі. Хіба расказаць пра іх храбрасьць?

— Скажэце, скажэце,—папрасілі Вера і яшчэ дзьве работніцы.

— Аднойчы ў 17 годзе мы адступалі з Галіцыі. Праўду сказаць, проста ўцякалі, пасьля няўдачнага наступленьня па загаду Керанскага. Хто шляхам, хто бокам плылі такой рэчкай жывой чалавечай масы. Адны

абозы ўтварылі паласу бясконца, у якіх-небудзь 10 радоў. Ішлі бяз супынку некалькі дзён; толькі тады ляпей сябе адчулі, як перашлі граніцу каля Гусяціна, і аўстрыяк недзе застаўся, не пасьпеўшы дагнаць. Я неяк загубіўся ад сваёй часьці і йшоў сабе далей шляхам. Вось ужо шмат ад граніцы на нашым баку, каля маста на шляху, затрымалі мяне некалькі салдат. Усе—такая моладзь, як кажуць, малакасосы. Далікатна так, зусім ня так, як гэтыя запасныя старыкі (у войску іх завуць „крестиками“, або „чубарыкамі“), запытваюць, якой я часьці, куды іду, ці маю дазвол на гэта і г. д. Адкуль, думаю, узяліся навабранцы, калі ня было мобілізацыі? Спачатку зусім не пазнаў. Аж потым прыгледзіўся бліжэй, прыслухаўся да ценькага голасу і здагадаўся, што гэта варта жаночага батальёну затрымлівае салдат, каб не ўцякалі з позыцыі. Тут я ўжо пачаў надаядаць ім. „Ня маю, кажу, ніякіх дакумантаў“. „Так мы цябе адвядзём да комэнданта“. „Ну што-ж, забірайце ў палон, бо вас больш, здаюся на міласьць пабядзіцеля“. Потым прытварыўся раненым і хворым, давай строіць міны, быццам вельмі мне баліць, і охаць і прашу, каб адпусьцілі мяне. Адна адразу згадзілася і запрапанавала адпусьціць, але рэшта не згаджалася. Пачалі раіцца, спрачацца. Нарэшце, кажуць: „Ну калі вы ранены і хворы, ідзеце сабе на адпачынак, бо, відаць, шмат ваявалі за бацькаўшчыну“. Пашоў ад іх. „Бедны, зусім малады, а ўжо здароўе страціў на вайне, шкада яго“, пачуў я, адыходзячы.

Усе работніцы дружна засьмяяліся. Сьмяялася і Ніна, каб ня выдаць, што яе самапачуцьцё ніякавата.

— Прыходжу на бліжэйшую станцыю. Тут, у мястэчку каля станцыі, і быў раскватараваны жаночы батальён. На станцыі маса вайсковых, усе пуці застаўлены эшалёнамі. Спытаўся дзяжурнага па станцыі, які эшалён пойдзе на Праскураў, бо туды, як я даведаўся, пашла і мая часьць. „Тамака на шостым пуці“,—адказаў. А ліха іх ведае, адкуль лічыць гэтыя пуці і які з іх першы і які шосты. Пашоў я шукаць сам. Сьцямнела, лямпы электрычныя не гарэць, каб ня кідалі бомбаў з аэропляна̌у. Пралязаю праз буфары адзін, другі эшалён. Ня помню ўжо колькі пралез. І вось калі саскакваў раз з буфэра, дык не заўважыў у пацёмку і амаль не саскочыў на голавы двух салдат, але і так амаль не паваліў іх. Яны ў той момант шчыра так цалаваліся. „Пэўна, сваякі“, падумаў я. „Адзін едзе дамоў на пабыўку, а другі на позыцыю, вось і адвітваюцца“. Але салдаты ад майго нечаканага скоку спалохаліся неяк. „Выбачайце, землячкі“, кажу, „з вас адзін, пэўна, едзе на Гусяцін, а другі на Праскураў, дык скажэце, калі ласка, які эшалён пойдзе на Праскураў? „Не, мы нікуды ня едзем і ня ведаем, які эшалён куды пойдзе“, адказаў вышэйшы салдат. „Мы нічога ня ведаем, запытайцеся ў дзяжурнага па станцыі“, параіў другі малодшы на выгляд і сваім голасам прыпомніў мне навабранцаў каля мосту.

Ізноў усе хорам засьмяяліся.

— Можа гэта і была наша Ніна?—спытала праз гучны сьмех усіх Вера і пачала далей сьмяяцца. Ніна крыху пачырванела, але і сама ўсьміхался.

— Не, тая была ніжэйшая ростам, я як цяпер помню,—адказаў Янка.

— Значыцца, гэта была Вера, яна якраз ніжэйшая за мяне,—прамовіла Ніна, хаваючы сваю раззлаванасьць на Веру.

— Ніна там ня была,—сказала Марына,—яна ўвесь час служыла тут, у Петраградзе, і ў часе Кастрычнікавай рэволюцыі іх батальён бараніў часовы ўрад Керанскага ў Зімнім Дварцы. Вось яна хіба там адзначылася, бо разам з імі былі юнкеры.

— Добры саюз маменькіных сынкоў з маменькінымі дочкамі. Але, кажуць, матросы ня вельмі далікатна абышліся з імі,—прамовіў Янка з гіронічнай ноткай у голасе, калі сьмех ужо сьціх.

— Дык вы проці жанчын і жаночых батальёнаў? Яны-ж так добра абышліся з вамі, адпусьцілі вас, як хворага. Які вы нядобры,—жартаўліва дакарала Янку Вера.

— Я ня супроць жанчын, але супроць жаночых батальёнаў. Жанчыне ёсьць што рабіць і быць карыснай грамадзянкай і бяз гэтых батальёнаў. Буржуазіі трэба выкарыстаць для сябе кожную філянтропію, кожны несьвядомы пласт жыхарства. Вось на прыкладзе мы бачым: Ніна, работніца, пашла бараніць гаспадароў, фабрыкантаў, супроць рабочых. Праўда, у жаночых батальёнах ня было многа работніц, пераважалі мяшчанкі. Але-ж былі, хоць у невялічкім ліку, і работніцы,—ужо не жартуючы адказаў Янка.

— Бачыце, гаспадыня,—прамовіла адна з работніц,—ваш брат аказваецца супроць гаспадароў, а значыцца, і супроць вас.

— Чаму-ж ты не запісваешся ў Чырвоную гвардзію, калі такі рэволюцыянэр?—азвалася на гэта Марына.

— Я яшчэ ня ведаю добра, што з гэтага ўсяго выйдзе і ня з усім згаджаюся. Але супроць рэволюцыі ніколі не пайду.

Падышоў час палуднаваньня, і размова спынілася.

— Куды ты сёньня накіруешся, мо' паедзеш на Васільлеўскі востраў пабачыць, ты там, здаецца, яшчэ ня быў,—спытала Марына ў часе палуднаваньня.

— Не, ня быў яшчэ, але мне ўжо апрыкрылася хадзіць па гораду. Хацеў-бы наведацца да каго-небудзь са знаёмых, вось толькі ня ведаю, хто тут цяпер з іх жыве.

— Ну, дык наведайся хіба да Клімчука Язэпа. Ён жыве за Нараўскай заставай, на Някрасаўскім завулку д. № 9, кват. 2.

— Дык ён у Петраградзе яшчэ знаходзіцца? А я лічыў, што ён на фронце. Чаму-ж ты мне не сказала, што ён тут? Зараз-жа паеду да яго,—прамовіў узрадавана Янка.

— Ён увесь час знаходзіцца ў Петраградзе, бо працуе на Пуцілаўскім заводзе і ў гарматнай майстэрні, таму і ня быў забраны на вайну.

Язэп Клімчук паходзіў з Янкавай вёскі. Ён быў малодшым братам Адама Клімчука, таго самага, які прывёз на сваё вясельле будучага мужа Марыны. Хоць Язэп і быў старэйшы за Янку і паехаў у горад ужо сталым хлопцам, калі Янка быў яшчэ падросткам, але адносіны між ім і Янкам былі добрыя, як да ад'езду Язэпа ў горад, так і асабліва ў часе яго пабывак у роднай вёсцы. Ад Язэпа першы раз Янка даведаўся пра жыцьцё ў горадзе. Быў час, калі і Янка вельмі хацеў ехаць у горад, але ня пусьцілі бацькі, а потым, як падрос, пачалася вайна; так і не давялося.

Вось чаму Янку ўзрадавала так вестка, што, нарэшце, пасьля некаторага часу можна пабачыцца са сваім добрым таварышом.

Безадкладна рашыў даведацца да Язэпа. Вышаў на Забаўканскі проспэкт і накіраваўся да Садовай вуліцы, каб адтуль паехаць трамваем.

Тротуары, як звычайна, былі запоўнены людзьмі. Шыбка нельга было дзеля гэтага ісьці, што злосьціла Янку. „І чаго яны тут поўзаюць без патрэбы, як цені? Ну ісьці, дык ісьці, а то паўзуць, быццам і самі ня ведаюць куды і дзеля чаго“, думаў Янка, калі прыходзілася мімаволі затрымлівацца і чакаць, пакуль можна будзе працісноцца далей. А тут, на Забаўканскім, яшчэ і тротуары вузкія. Магазыны ня ўсе былі адчынены, шмат іх проста пуставала, а ў рэштцы, здаецца, нічога ня было. У вадным месцы стаяў доўгі „хвост“—чарга за сушанай гароднінай, у іншым такія самыя чаргі за палатнянымі пантоплямі, прычым кожны меў выпіску з дамовай кніжкі, бо без яе не выдаваліся пантоплі. А скураное абуцьцё было атрымаць цяжэй і ўжо па спэцыяльнай картачцы. У кожным такім „хвасьце“—крык, спрэчкі, лаянка. Быўшыя крамары прахаджвалі часам каля сваіх пустых зачыненых магазынаў з кваснай мінай і нейкім кудлачаным выглядам, паставіўшы ад марозу каўнер, наўмысьля апранутага старога, сапсаванага мольлю паліто.

Дабраўшыся да Садовай, Янка сеў у трамвай і даехаў да Нараўскай Заставы, а там далей па Пецяргофскім шосэ—да глухога Някрасаўскага завулку. Адшукаў патрэбны дом. Драўляны двухпавярховы стары, з вялікім пустыром-дваром, загруджаны розным хламам. Клімчук жыў на першым паверсе ў невялічкім з адным акном пакоіку. Гаспадыня павяла Янку да яго. Пакой быў не зачынены, але Язэпа ня было.

— Ён вышаў, мусіць, да свайго суседа па кватэры. Пачакайце тут, я яго зараз паклікаю,—прамовіла да Янкі і пашла за Язэпам.

Янка аглядаў пакой. Каля ўнутранай сьцяны стаяў жалезны з сеньнікам ложак, над ім паліца з некалькімі кніжкамі, паперай і газэтамі. У канцы ложка невялічкая камода, а на ім гармонік, пад самым акном столік-шафка, 2-3 крэслы—вось і ўся мэбля. Вопратка вісела на ручках

каля дзьвярэй. Старыя шпалеры мясцамі абарваліся і віселі шматамі. На адным акне стаялі два вазоньнікі, на другім талерка, пара шклянак і далей ад іх у кутку акна бутэлька з чаркай. Праз акно відна была разьвешаная на вяроўцы, нацягнутай ад кута дому да старога дашчатага плоту, бялізна для сушкі.

Праз хвіліну ў пакой увашоў Язэп і, не пазнаўшы Янку, пытліва глядзеў на яго. Янка таксама не пазнаў-бы Язэпа, каб ня быў упэўнены, што гэта якраз ён, а ні хто-небудзь іншы.

— Як маешся Язэп? Не пазнаў мяне хіба?—прамовіў Янка першы.

— Дык няўжо гэта ты, Янка? Сапраўды не пазнаў-бы цябе,—адазваўся той, абымаючыся з Янкам.—Хлапчуком ты яшчэ быў, як апошні раз мы бачыліся. А цяпер ты пасталеў, зусім інакш выглядаеш.

— І ня дзіва. Пяць год ня бачыліся, можна за такі час зьмяніцца.

— Праўда, што даўно бачыліся. Як гэта хутка час бяжыць. Здаецца, так нядаўна ты яшчэ малым быў, а я толькі падросткам. Гнёзды грачоў вясной лазілі выпорваць. А цяпер... Ну, як ты папаў у Петраград, надоўга?

— Прыехаў на пабыўку на два тыдні, а потым ізноў у армію паеду, хоць, прызнацца, апрыкрылася быць у войску.

— Вядома-ж апрыкрыцца кожнаму такое жыцьцё, як у арміі. Цяпер ужо хутка падпішам з немцамі згоду, армія будзе дэмобілізавана і служба твая скончыцца.

— А куды дзецца пасьля дэмобілізацыі, асабліва, калі немец там на бацькаўшчыне застанецца, або калі гаспадарка зьнішчана і разбурана.

— Застанешся жыць тут, у Петраградзе, будзеш працаваць на заводзе. А як усё ўстановіцца і супакоіцца, дык тады, калі захочаш, і дамоў паедзеш.

— Ат, і тут няма нічога добрага. Марына казала, што і так вялікае беспрацоўе, дык дзе-ж тут паступіш на завод. Голад, бязладзьдзе і невядома, ці будзе ляпей. Скончыцца адна вайна, дык пачнецца другая. Чаму так усё стала нядобра?

— Голад таму, што гарадзкая і вясковая буржуазія хавае хлеб і хоча задушыць рэволюцыю голадам. Яна таксама спрабуе выступіць з аружжам супроць Савецкай улады і хоча зьвярнуць стары лад. Мы ня хочам ніякай вайны, але калі на нас пойдуць, дык мы ня ўступім, будзем бараніцца. Рабочая кляса пераможа і голад, і збройныя патугі буржуазіі.

А працоўных бунтуюць прыхвасьні буржуазіі меншавікі і эсэры, скарыстоўваючы цяжкое экономічнае становішча, неналаджанасьць харчовага апарату і г. д., яны нашэптваюць па кутках, агітуюць на сходах проці Савецкай улады.

І чаго яны хочуць? Лемантуюць, мітусяцца, што буржуазію пакрыўдзілі, што без яе абыходзяцца. Як-жа гэта без буржуазіі, абавязкова каб і яна была. Служкі і прыхвасьні ня могуць жыць без свайго пана і без

яго бізуна. Хай-бы ўжо, калі ім так хочацца „дэмократыі“ і супрацоўніцтва з буржуазіяй, калі так ужо ненавідзяць бальшавікоў і Савецкую ўладу, хай-бы выступілі проці нас адкрыта грудзі на грудзі і вырашылі-б, хто каго, за кім большасьць масы. Але не,—яшчэ на гэта трусы, дбаюць больш аб сваёй скуры. Я ненавіджу больш гэтых буржуазных разьнікоў, чымся самую буржуазію, бо яны, як скрыты вораг, больш небясьпечны.

— Ну, хай рабочыя пойдуць за вамі, а вось спэцыялістыя, культурнікі, чыноўнікі і інш. адукаваныя людзі ня йдуць працаваць, а бяз іх з рабочай толькі сілай ня справіцца. Дзяржаўны апарат і ўсялякія там установы—штука складаная. Бяз знаючых гэтую справу людзей не наладзіш іх.

— Праўда, што значная частка, мо' і большая, інтэлігенцыі абвясьціла саботаж, і толькі меншая пакуль што частка прышла да нас працаваць. Праўда, што большасьць кваліфікаваных супрацоўнікаў былых міністэрстваў і іншых устаноў ня прышлі працаваць, што дзяржаўны банк некалькі тыдняў не працуе; праўда, што патаемныя ўмовы царскай Расіі з капіталістычнымі дзяржавамі адшукаў у міністэрстве замежных спраў малапісьменны матрос, які ня ведаў чужаземнай мовы. Праўда, што фактаў такіх ёсьць бяз ліку, што працаваць цяжка. Тая частка інтэлігенцыі, што зжылася з буржуазным ладам, карысталася пэўнымі прывілеямі, падпала пад уплыў буржуазіі. Яна лічыць сябе „мазгамі нацыі“ і дзеля гэтага хоча камандаваць народам, а не працаваць разам з ім. Пры старым ладзе і яна часткай была быццам рэволюцыйнай, гаварыла рэволюцыйнымі сказамі, спачувала барацьбе з самаўладзтвам. Цяпер-жа пералстрашылася працоўнай улады і новага савецкага ладу, не пашла за ім. бо і раней яна ня была за такі лад, каб улада і ўсе матэрыяльныя багацьці былі ў руках працоўнага народу, а толькі за папраўкі, за паляпшэньне звычайнага буржуазнага ладу. Дзеля яе саботажу мы не пакінем пачатую справу. Мы яе прымусім працаваць у парадку ўсеагульнай трудавой павіннасьці. Потым яна і сама параканаецца і прыдзе да нас добраахвотна. (А з часам падрыхтуецца і свая інтэлігенцыя з рабочых і сялян). Ёсьць яшчэ пэўная частка такой інтэлігенцыі, якая ня прышла яшчэ да нас таму, што яна за бяскроўную рэволюцыю, яна верыць у магчымасьць вызваленьня працоўных бяз крывавай барацьбы. Ну пакуль прыдзе такі цуд, буржуазія не адмовіцца ад пусканьня крыві рабочым. Людзі з такой ідэолёгіяй падобны да тых, што ня могуць забіваць і нават глядзець, як забіваюць жывёлу, але з апэтытам ядуць смажаныя з яе мяса катлеты. Яны пэўна-ж баяцца рэволюцыі. Рэволюцыя падобна да хірургіі: каб ратаваць чалавека, трэба рэзаць хворае месца, ня гледзячы на тое, што баліць хвораму і няпрыемна самому доктару. Вось як толькі скончыцца опэрацыя і хворы выздаравее, тады пераканаюцца ў патрэбе опэрацыі і тыя, што былі проці яе.

— А калі хворы памрэ ад опэрацыі?

— Адзін можа памерці, доктар заўважыць свае памылкі і выратуе жыцьцё пры дапамозе опэрацыі дзесяткам людзей. Буржуазія ўзялася ў 1905 годзе ашукаць працоўных. Яны паверылі абяцанкам буржуазіі і не давялі рэволюцыі да канца, да разбурэньня буржуазнага ладу. Дорага заплацілі за гэта яшчэ тады, а асабліва ў часе сусьветнай вайны. Цяпер затое абяцаньні Керанщчыны больш ужо не ашукалі працоўных. Каб не заплаціць зноў крывёю за сваё вызваленьне, трэба стары лад зьнішчыць дарэшты, чаго-б гэта ні каштавала.

Слухаў Янка палкія довады Язэпа, не знаходзіў нічога супроць іх сказаць, але чамусьці яшчэ быццам не згаджаўся з усім.

— Мне, аднак, здаецца, што нічога з гэтага ня выйдзе. Вы сваёй позыцыяй незамірэньня ўнутры распальваеце грамадзянскую вайну,— казаў ён няўпэўнена.—Час цяжкі, а тымчасам кожны больш аб сабе дбае, нават з ліку тых, хто за Савецкую ўладу,—дадаў пачуты недзе ў „хвасьце“ довад.

— Цябе трэба было-б арыштаваць за такую гутарку, як бунтуючага народ контр-рэволюцыянэра,—выпаліў шчыра раззлаваны Язэп, падступаючы бліжэй да Янкі.

— Але,—казаў далей, утаропіўшы на Янку прачурлівы погляд,—ты яшчэ дзяцюк і нічога ў жыцьці не разумееш, хай лепш само жыцьцё пераканае. Ты што страціў ад рэволюцыі? Чым цябе яна пакрыўдзіла? Забыўся ўжо пра афіцэрскі бізун і мордабіцьце? Табе з кім цяпер спадручней ісьці? Думаеш можа хварэць на паніча, адукавацца і стаць панскім давераным і ўціскаць свайго брата, захапіўшыся дадзенай на гэта ўладай? Ёсьць і такіх у нас шмат. І яны горшыя ў сто раз ад самой буржуазіі, больш зьдзекуюцца.

Шмат яшчэ чым крыўдным дапінаў Янку Язэп. Выдумляў на яго ў прыпадку злосьці і тое, што не падыходзіла ніяк да Янкавай натуры. І хоць крыўдна было слухаць, хоць балела сэрца, бо Язэп як-бы наўмысьля біў па самым балючым месцы, хоць не заслугоўваў Янка гэтага, але не азваўся ні словам. Больш балюча адклікалася ў душы лаянка Язэпа таму, што Янка, здаецца, згаджаўся з усімі яго довадамі, спачуваў ім і сам ня ведаў, чаму супярэчыў ім. Ат, так сабе, не разважыўшы над гэтым, як трэба. І хоць крыўдзіў яго цяпер Язэп, але не адчуваў у душы ніякай злосьці да яго. Дзівіла толькі, чаму ён з такой злосьцю накінуўся на яго.

„Ён гатоў мяне арыштаваць? Мы, значыцца, зрабіліся ворагамі адзін аднаго? Што мы адзін аднаму дрэннага зрабілі? Што сталася такое, чаму замест дружбы зьявілася ненавісьць?“ раздумоўваў Янка маўкліва.

— Дык ты так мяне спатыкаеш пасьля пяці год расстаньня?— адазваўся, нарэшце, Янка дакорліва.

Язэп змоўк. Маўклівасьць Янкі і дакорлівы цяпер яго тон казалі, што ён і ня зьбіраўся ўступіць у гарачую спрэчку-бойку з Язэпам, і

палкасьць апошняга была „халастым стрэлам". Гэта і заўважыў толькі цяпер Язэп, заўважыў, што ворага-то, на якога ён наступаў, і няма. Хвіліну пахадзіў па пакоіку, потым сеў на крэсла.

— Калі-ж ты недарэчнасьць пляцеш,—прамовіў больш спакойна Язэп, і злосьць на Янку адпала.—Такімі довадамі, як ты выказаў, паслугоўваецца ўся наша абывательшчына, усе гэтыя „капціцелі неба", усе кумушкі, стоячы ў „хвастох". Трэба пытаньне закранаць глыбей.

Гутарка перашла потым на іншыя тэмы і прыняла сяброўскі зварот. Апавядалі пра сваё жыцьцё за час вайны, успаміналі пра жыцьцё ў роднай вёсцы, пра сваякоў і знаёмых. І не заўважылі, як правялі прыемна некалькі гадзін.

— Ну, мне ўжо час дадому, пакуль ходзяць трамваі. „Мястэчка" не малое і пехатой ня пойдзеш,—сказаў Янка, падняўшыся да адыходу.

— Можна было-б і ў мяне начаваць, але ўжо калі хочаш дадому, дык едзь сабе. Пакланіся ад мяне Марыне, даўно ўжо быў у яе. На днёх даведаюся. Пакуль будзеш у Петраградзе, заходзь да мяне, пагутарым аб усім, сходзім пабачыць на наш завод.

Правёў Янку да трамвайнай астаноўкі, дзе і разьвіталіся.

На другі дзень, пасьля спатканьня з Язэпам, атрымаў Янка ліст ад Алесі. Апісвала ў ім, як чакала хлапца са станцыі, бо ведала, што прывязе ад яе Янкі хоць кароткую пісульку, з якім пачуцьцём чытала гэтую апошнюю ад яго вестку, як сумуе па ім пасьля ад'езду, як усё ёй стала сумным, нямілым. З вялікай асалодай чытаў Янка гэтыя шчырыя радкі і перабіраў у памяці шчасьлівыя хвіліны свайго побыту ў Залужжы. Але ў лісьце шчырым, ад сэрца напісаным, было і сумнае.

„Брат і маці, здаецца, ужо дагадваюцца аб нашым каханьні, толькі мне проста аб гэтым ня кажуць, а ўсё запытваюць: „Чаму ты ня выходзіш замуж за пана Грыневіча, хіба Янку чакаеш?" Грыневіч, гэта той самы, што і пры табе прыяжджаў да нас, сталы такі з жоўтымі вусамі— памятаеш? Ён тутэйшай парафіі, мае фольварак яшчэ большы за наш. Апошні раз, пры табе яшчэ, калі ён прыяжджаў, дык гаварыў аб маім замужжы за яго, але я адмовіла, кажучы, што яшчэ не пайду замуж. Хоць ты ім і моцна падабаўся, але былі-б проці нашага шчасьця".

Гэтая частка лісту засмуціла Янку, выклікала абурэньне.

„Вось у чым зло! Багацьце ўлады на першым месцы. Яно і азначае вартасьць чалавека. Цяпер я прыпамінаю, што са мною з надворнага боку абыходзіліся далікатна і нават пасяброўску, а ўнутры нейкае пачуцьцё сваёй большай ад мяне вартасьці. А чым яны вартнейшыя? Зямлі маюць больш. Цяпер я разумею іх адносіны да мяне. Чаму толькі адна Алеся іншая ад іх, такая шчырая, добрая, не ганарыстая? Мо' праз каханьне толькі? Праўду казаў Язэп, што такі лад трэба разбурыць да рэшткі. Хай ён загіне, толькі вырваць адтуль Алесю, пакуль не скалечылі і яе душы погляды, што шчасьце ў багацьці".

Сум і абурэньне за несправядлівыя адносіны родных Алесі да яго, разам з большым яшчэ пачуцьцём да Алесі, напоўнілі Янкаву душу. Пад уплывам гэтых настрояў пачаў пісаць адказны ліст. Паслаць яго, аднак, не давялося, бо зусім нечакана прачытаў у газэце, што ўсялякі рух па лініі Бабруйск—Менск спынены сформаванымі ў Расіі польскімі легіёнамі, захапіўшымі Бабруйск. А праз некалькі дзён гэту мясцовасьць занялі немцы. Янка апынуўся адрэзаным на невядомы час ад Алесі.

У сувязі з трывожнымі весткамі Алесінага лісту, Янка глыбока перажываў створанае неспагаднае становішча. Яго непакой і сумнасьць зьвярнулі ўвагу на сябе Марыны. Пачала распытваць аб прычынах суму. Паведаў ёй аб усім падрабязна, як адзінаму чалавеку, хто спагадна спаткае цяпер яго перажываньне.

— Цяжка табе, братка, ведаю я і разумею гэта,—сказала, уздыхнуўшы, Марына, як выслухала Янкаву аповесьць.—Толькі-ж яшчэ нічога ня страчана. Ня трэба сумаваць. Скончыцца вайна, выйдуць адтуль немцы і адшукаеш сваю Алесю.

— А пан Грыневіч са сваім фольваркам хіба ня будзе спакойна чакаць майго прыезду, атрымаўшы ўжо згоду родных?

— Хай сябе і не сядзіць спакойна. Калі яна цябе так моцна і шчыра кахае, дык будзе чакаць.

— Эх, Марына! Ці-ж ты ня моцна і ня шчыра кахала? Ці-ж ты не чакала свайго каханка? А выйшла за другога, хоць той, каго ты кахала і пamойму вартнейшы за гэтага скупца. Памятаю, як ты ня раз дакарала бацькоў за прымус, за тое, што разьбілі тваё каханьне і шчасьце. Яму ад гэтага не лягчэй было.

— Мяне, як ты кажаш, аддалі прымусам. Праўда гэта. Шмат я сьлёз праліла тады і нават пасьля. Як успомню, дык і цяпер яшчэ сэрца баліць. Толькі-ж гэта было даўней. Цяпер ужо ня так часта прымушаюць і пэўна Алесю ня прымусяць. Ты непакоішся, каб з ёй ня здарылася нешта падобнае да майго. Цяжка было-б табе, не лягчэй і ёй перажыць расставаньне. Ты хлапец чульлівы і шчыры, не такі, як іншыя. У першыя гады пасьля майго замуства, як я толькі прыяжджала пагасьціць дамоў і пачынала дакараць бацькоў за прымус, ты заўсёды спачуваў мне і стараўся бараніць мяне, як пакрыўджаную. Памятаю, як ты стараўся чым-небудзь выказаць да мяне сваю спагаднасьць. Вось пачынаюць пасьпяваць у садзе вішні, забаронена іх рваць, а ты патаемна нарвеш шапку вішань і ні маці, ні бацьку нясеш, а мне: А то назьбіраеш пучок красак і паставіш мне, наламаеш зялёных пахучых бярозавых галінак і паставіш іх у мой ложак, адшукаеш гняздо палёвых пчол і нясеш мёд мне, пакалышаш майго Антоську, каб сваім плачам не абудзіў мяне. Вось як ты бараніў пакрыўджаную. Бедны! Ты тады яшчэ ня сьніў, што жыцьцё так пасыпана горкасьцю, што перад табою паўстане некалі такое горкае і цяжкое пытаньне. Баліць у мяне сэрца, калі ўспамінаю гэта, аж

сьлёзы цякуць з вачэй, як параўнаю тваё бясьпечнае дзяцінства з цяперашнім перажываньнем. Ня ведаю, як і чым табе дапамагчы. Пакінь сумавацъ, братка,—дадала пасьля некалькіх хвілін узаемнага маўчаньня,— ня страціш ты сваю Алесю. Гаспадарка будзе зьнішчана? У нас ёсьць грошы, калі толькі іх атрымаем у банку, купім зямлю, або млын, або яшчэ што і будзем разам гаспадарыць і жыць. А то прыедзеш у Петраград, зоймешся чым-небудзь. Пражывём.

Яшчэ не прашло двух тыдняў, як Янка прыехаў у Петраград, а ўжо спрыкрылася яму. Як толькі атрымаў весткі, што з Алесяй немагчыма перапісвацца, адчуваў яшчэ большую прыкрасьць, больш доўгімі здаваліся дні, ня было куды дзець час. Даведаўся яшчэ Янка, што дывізія, дзе ён служыў, расформавана і разаслана паасобнымі часткамі ў іншыя месцы. Дык і ня ведаў, што рабіць і куды ехаць пасьля сканчэньня водпуску.

Шэраадностайныя дні паўночнай зімы адпавядалі якраз Янкавым настроям, паглыблялі іх сумнасьць, не дазвалялі адарвацца ад сваіх сумных думак, забыць іх. Толькі цяпер яны, шэрыя дні і сумныя настроі, розьніліся ўжо ад папярэдніх, пражытых на позыцыі; зьявіліся расткі чагосьці новага, раней не адчутага. Ужо пасьля першай гутаркі з Язэпам, Янкава думка пацягнула да разважаньня, да вырашэньня закранутага ім пытаньня. Часта цяпер прыяжджаў да Язэпа, дык і той разы два быў у Марыны. Пры кожным такім спатканьні гутарылі аб мінулым жыцьці, аб сучасным становішчы, аб тым, як пабудаваць будучыну. Янка ў часе гутарак, калі з чым не згаджаўся, дык дзеля таго, што яшчэ ня ведаў добра, і ўжо не спрачаўся, а запытваў у Язэпа і разам з ім вырашалі супярэчнае пытаньне. Язэп, відаць, шмат даведаўся аб жыцьці за час пабыўкі ў горадзе і шмат чаго чытаў. Яго довады былі простыя, жыцьцёвыя і не маглі не пераконваць. Сам Язэп ужо да рэволюцыі лічыўся бальшавіком і цяпер актыўна працаваў. У яго псыхолёгіі моцна ўрос гарачы протэст рабочага проці старога ладу і моцнае жаданьне і вера ў пабудаваньне лепшага жыцьця пры Савецкім ладзе. Янка езьдзіў з ім на рабочыя сходы, спатыкаўся з другімі рабочымі, гутарыў з імі. Зусім іншы сьвет, іншае жыцьцё было тут на рабочай акраіне сталіцы. Там, у цэнтры—яшчэ „рэшткі быўшай роскашы“, абывательскае хныканьне, скаргі і шкадаваньні за страчаныя прывілеі жыцьця, лаянка Савецкай улады, выдумліваньне ўсялякай на яе недарэчнасьці, уцеха сябе тым, што ўсё гэта скончыцца і вернецца старое жыцьцё. Там—усё мёртвае, усё ў мінулым. Там—ня людзі, ня жывыя істоты з жаданьнямі, з парываньнямі, а проста бязвольныя „капціцелі неба“. Тут, у рабочых кварталах, у клюбах, на заводзкіх сходах, у кожнай рабочай кватэры, бурліла, як струмені ў разводзьдзе, жыцьцё. Ні голад, ні холад, ні іншыя матэрыяльныя цяжары не маглі спыніць яго, прыдушыць. Вырываўся ён, як-бы крыніца з-пад зямных пластоў, бурна імчаўся наперад, захапляў, уносіў з сабою,

ламаў перашкоды, гаманіў вадаспадам на скалах. Зьзяў сваім срабрыстаясным колерам, цягнуў, вабіў да сябе сьвежасьцю непараўнальнай да каламутнай калужы, смуроднага балота абыватальска-мяшчанскага жыцьця. Тут адно жаданьне: як мага наперад, як мага далей ад мінулага. Усё для будучыны, усё ў будучыне. Малады задор і бадзёрасьць у працы— перабудоўкі ўсяго пановаму, лепшаму. Ужо па гэтаму палкаму, моцнаму жаданьню пабудаваць нешта новае можна было даведацца, як дрэнным павінна было быць для гэтых людзей мінулае.

Уражлівая Янкава натура захаплялася гэтым агульным імкненьнем ісьці наперад, прасякала настроямі рабочых кварталаў. Ён чытаў пільна газэты, хадзіў на лекцыі, даклады. На рабочых сходах, пры спатканьнях з паасобнымі рабочымі ён забываў пра ўласныя пераживаньні, пра нуду. Спачатку інстынктыўна пачуцьцём, а потым і з перакананьнем—розумам ён усё больш упэўнена і цьвёрда далучаўся да прыхільнікаў новага ладу, змагароў за яго. У ім расло жаданьне ня быць толькі сьведкай падзей, а актыўна ўдзельнічаць у іх. Два-тры тыдні пражытыя ў абставінах, калі два сьветы, два сьветапогляды так яскрава, так блізка, быццам выстаўленыя на паказ, стаялі адзін проці другога, рыхтуючыся вырашыць пытаньне: хто каго?—зрабілі ўплыў на Янку, глыбокі адбітак, як не зрабілі-б гэтага цэлыя гады. І ня дзіва,—грунт быў падатны і чакаў толькі, калі пальле цёплы дождж і засьвецяць жыцьцёвыя праменьні сонца, каб сакавітымі расткамі ўзрасло кінутае ў яго насеньне.

---

Аднойчы, гэта было неяк падвечар, Янка накіроўваўся к Народнаму Дому, каб пабыць на спэктаклі. Марына настойна яму гэта раіла: хацела чым-небудзь адагнаць ад Янкі нуду. Прыехаў за некалькі гадзін да пачатку спэктаклю. Меркаваў за гэты час пахадзіць, прыгледзецца да тэй часткі гораду. Пахадзіў крыху, занудзілася неяк. Парашыў паехаць да Язэпа і з ім ужо вярнуцца на спэктакль. Прышоў да летняга саду, а тут сеў у трамвай. У трамваі было цесна, але прысутныя пацясьніліся яшчэ больш і далі Янку месца на лаўцы. Тады да вайсковых адносіліся з нязвычайнай пашанай. Кожны стараўся гэта як-небудзь выказаць. Рабочыя паважалі салдат, як людзей больш пакрыўджаных старым ладам, як людзей, якія шмат цяжараў перажылі на позыцыі, як дапаможнікаў і саюзьнікаў у барацьбе. Буржуі і мяшчане бачылі ў іх абаронцаў „бацькаўшчыны“, „шэрых герояў“ і з патрыотычнага боку паважалі іх, асабліва пасьля рэволюцыі.

Калі трамвай праяжджаў Троіцкі мост, у вагон, дзе сядзеў Янка, увашоў разам з пасажырамі на супынку хлапец-газэтчык. „Немцы надбліжаюцца да Пскова!..“ „Вялікі князь Мікалай Мікалаевіч формуе ў Сібіры вялікае войска для паходу на Маскву!“—выкрыкваў газэтчык, прапануючы газэты. Янка заўважыў, што гэта былі „Дні“, „Современное Слово“ і інш. Іх часам і ён прачытваў. Інакш як у двукосьсі там

Савецкі ўрад і яго загады і не друкаваліся. А ўсе недахопы і няпосьпехі ўлады друкаваліся на першай старонцы і вялікімі літарамі. Вось і цяпер нешта было надрукавана вялікімі літарамі: мусіць тое, што выкрыкваў газэтчык.

Гадоў пад сорак пасажыр, што сядзеў насупроць Янкі, у каракулевай шапцы, з няголеным тварам, тлусты, як адкормлены кабан, купіў газэту першы. Як толькі раскрыў яе і стаў чытаць надрукаванае вялікімі літарамі, на твары яго адбілася злорадасная ўхмылка. Янка сачыў за ім і ўнутры чамусьці накіпала злосьць. І як толькі газэтчык, прадаўшы некалькім пасажырам газэты, падышоў да Янкі і запрапанаваў яму купіць, паўтараючы ўжо выказаныя навіны, Янка ня стрымаўся: „убірайся вон адсюль!“—крыкнуў на газэтчыка і зрабіў такі энэргічны рух у напрамку да яго, што той зараз-жа ўцёк з вагону. Усе зьвярнулі на гэта ўвагу. Тлусты пасажыр ускочыў першы і накінуўся на Янку.

— Вы навошта выгналі газэтчыка? Якое маеце права на гэта?

За ім усталі іншыя пасажыры, у тым ліку некалькі кабет. Пасыпаліся па адрасу Янкі лаянка і дакоры. Янка чуў толькі адрыўкі іх, бо крычалі гаманілі ўсе разам.

— Так, як разумеюць свабоду.

— Для іх толькі свабода, а другому нямашака.

— Ня хочуць чуць праўды, а самі што пішуць.

— Хлеба не падбаюць дастаць.

Усе абступілі Янку: асабліва гарачыўся тлусты буржуйчык, соваўся да Янкі, заахвочваў іншых. Дзеля гоману Янка ня мог адазвацца.

— Усё паадбіралі і нічога не даюць.

— Знашоўся такі разумны.

— Бо яму не падабаецца.

— Прыстаў да малога хлопца і крыўдзіць.

— Хутка ўсім ім будзе канец.

— Ваяваць з хлопцам пачаў, на пазыцыі трэба было ваяваць.

— А вы дык языкамі толькі ваявалі, пасылаючы нас, як бараноў, у акопы,—крыкнуў раззлаваны Янка, аж публіка крыху прыціхла.—Языком вы трапалі аб вайне да пераможнага канца, а самі хаваліся за нашыя плечы. Цяпер вы радуецеся, што зьвернецца стары лад, і вы зноў будзеце камандаваць, а мы паслушна выконваць загады. Не, годзе! Не дзеля таго мы пралівалі кроў. Вашаму існаваньню ня быць больш!..

Публіка неяк прыціхла, калі казаў Янка, але яшчэ ня ўнімалася. Трамвай пасьля супынку ішоў далей.

— Праўду кажаш, таварыш, не дзеля таго мы пралівалі кроў, ішлі на катаргу і сасланьне, каб цяпер ізноў пакарыцца буржуазнай сволачы,— падхапіў апошнія Янкавы словы чыйсьці гучны голас каля дзьвярэй вагону. Відаць, што гэты пасажыр сеў на супынку ў трамвай. Усе глянулі туды. З плашчадкі вагону прасоўваўся ўнутр рабочы, ужо не малады, у ватняй

сьвітцы. Хацеў прасунуцца да Янкі, але дзеля цеснаты ня мог, затрымаўся ў канцы вагону.

— Бачыш, накінуліся, як сабакі на чалавека. Тужаць па старым ладзе. Потам і крывёй людзкой хочацца карміцца. Спрабуйце толькі. Вяроўка па вас плача.

Храбрасьць тлустага пасажыра неяк заціхла. Сеў на лаўку і нават газэту схаваў у кішэню. Рэшта таксама змоўкла з часу, калі азваўся рабочы. Кабеты толькі шапталіся між сабою і ківалі, разважаючы, галовамі. Тыя пасажыры, якія раней ня ўступалі ў спрэчку, цяпер сядзелі з ухмылкай. Янка больш не адазваўся. Трамвай падыходзіў да месца, дзе была агульная перасядка.

Як толькі Янка вылез з вагону, да яго падышоў той самы рабочы, што ўмяшаўся ў спрэчку ў вагоне.

— Вось мне падабаецца, таварыш, што ты ня ўступіў ім. Так і трэба. Яны сьмелыя тады толькі, як мы баімся.

— Дык раззлаваў мяне гэты буржуй сваёй радасьцю, што стары лад быццам вернецца.

— Даўно ў Петраградзе?

— Не, нядаўна. Прыехаў на пабыўку да сястры, а цяпер еду да свайго таварыша аднавяскоўца.

— А чым ён займаецца?

— Працуе на Пуцілаўскім заводзе.

— У якой майстэрні?

— У гарматнай—ужо некалькі год там працуе.

— Я таксама працую ў гарматнай майстэрні. Магчыма, і ведаю твайго таварыша. Як яго прозьвішча?

— Язэп Клімчук.

— Ведаю, добра яго ведаю. Жыве на Някрасаўскім завулку. Спатыкаюся з ім. Добры хлапец, сьвядомы такі.

— Так можа заедзем разам да яго?—запрапанаваў Янка.

— Магу і заехаць, я недалёка ад яго жыву на Пецяргофскай шосэ,—згадзіўся новы знаёмы.

Праз хвілін 15 яны былі ўжо ў Язэпа.

Язэпа якраз знашлі ў доме. Сядзеў каля століка, еў бяз хлеба селядца і запіваў гарбатай, засалоджанай сахарынам.

— Як гэта вы разам папалі да мяне, калі пасьпелі пазнаёміцца?—спытаўся ён зьдзіўлена гасьцей.—А цябе, Антон, я даўно ўжо бачыў у сябе,—дадаў ён, не чакаючы адказу на запытаньне.

— Як мы пазнаёміліся пытаеш? Сеў я ў вагон трамваю, аж бачу, што на твайго земляка наступаюць буржуі. Вось я і рашыў пайсьці на падмогу, нешта як-бы адзіны фронт утварыць. Ён сьпераду, а я з тылу дый так абстралялі буржуяў, што яны спалохаліся. Цяпер-жа прыехалі да цябе

сьвяткаваць нашу перамогу. Аднак твой зямляк маладзец, энэргічна, павайсковаму наступаў на ворага.

— Я думаю, што вас дваіх аж занадта было досыць на цэлы вагон буржуяў. Толькі пачаставаць вас дык ня маю чым. Выпіце хіба гарбаты за кампанію. Нешта наша сталоўка слаба корміць і падмацавацца ў дому няма чым.

За шклянкай гарбаты Янка і Антон апавядалі падрабязнасьці здарэньня ў трамваі, жартавалі, сьмяяліся і адчувалі, як яны хутка падружыліся.

— Я прыехаў да цябе, Язэп, каб паехаць разам на спэктакль у Народны Дом. Давайце паедзем усе ўтрох,—запранаваў Янка.

— Не, нельга ехаць. Сёньня ў нашай майстэрні і, здаецца, і ў іншых майстэрнях таксама склікаецца надзвычайны сход. Праз гадзіну ён пачнецца. Трэба абавязкова быць там,—выказаў Язэп.

— Надзвычайны сход?—запытаўся зьдзіўлена Антон, які, прызнацца, ня ведаў аб гэтым. Мусіць нешта важнае будзе, бо нядаўна ў нас быў сход.

— Ну, калі ўжо так, дык я пайду з вамі на сход, а заўтра паедзем на спэкталь,—згадзіўся Янка.

— Заўтра можна будзе куды хоч паехаць.

Праз поўгадзіны ўсе трое пашлі на сход.

---

У вадным з большых аддзяленьняў гарматнай майстэрні, якое было звычайным месцам агульных рабочых сходаў, сабралася каля трох тысяч рабочых. Грукат спыненых машын замяніў гоман чалавечых галасоў. Мора чалавечых галоў у рознастайных шапках, з featureознымі па веку тварамі, з featureознымі па ўзросту чалавечымі постацямі, у чорных запэцканых сьвітках, затапіла ўсе свабодныя між варштатамі месцы. Хоць амаль усё свабоднае месца было занята, прыбывалі яшчэ новыя па некалькі чалавек і па аднаму. Доўга чакаць пачатку сходу не давялося. Пасярэдзіне гэтага мора вырасла вышэй постаць рабочага з чорнымі вусамі і бародкай, з энэргічным выразам твару. Стаяў ён на варштаце і чакаў, пакуль сьціхне гоман. Спачатку гоман сьціхнуў на сярэдзіне майстэрні і даносіўся яшчэ з бакоў і куткоў. Потым і там пачаў заціхаць. Усе павярнуліся да сярэдзіны, спынілі гутарку і чакалі прамовы оратара.

— Таварышы!—пачаў ён гучным, густым, па тону блізкім да баса, голасам. Мы ішлі ў кастрычнікавы бой пад лёзунгамі: „Уся ўлада Саветам, спакой, зямля—сялянам, хлеб—рабочым“. Мы ўстанавілі Савецкую ўладу ў большай частцы краіны, мы запрапанавалі ўсім дзяржавам, у тым ліку і быўшым саюзьнікам, безадкладна заключыць згоду. Мы прынялі дэкрэт аб адабраньні ў памешчыкаў зямлі і перадачы яе сялянам. Мы вядзем барацьбу з голадам. Але перш за ўсё нам патрэбна згода, бо без яе мы ня здолеем ажыцьцявіць усе тыя лёзунгі, з якімі масы ішлі ў бойку.

Мы запрапанавалі згоду, адмовіліся ад усялякіх заваяваньняў і контрыбуцыі. Наша мэта—захаваць і абараніць кастрычнікавыя дасягненьні працоўных. Мы лічым, што крывавая бойня досыць замучыла ўсе народы, і буржуазія ня здолее накіраваць проці нас свае палкі, што ёй не дазваляюць гэта працоўныя ваюючых з намі дзяржаў. Мы спадзяваліся, што будзем вызвалены ад патрэбы весьці далей крывавую вайну. Але нямецкая буржуазія са згодай нашай расійскай кінула на нас свае ўдарныя юнкерска-кадэцкія палкі. Яна з гэтымі ўдарнымі буржуазнымі палкамі, бо звычайным ужо ня верыць, наступае на Пскоў і хоча сваімі крывавымі рукамі схапіць за сэрца нашай рэволюцыі, чырвоны Петраград. Захапіўшы Петраград, яна хоча задушыць рэволюцыю, замацаваць у нас панаваньне буржуазіі, атрымаўшы ад яе за гэта ўзнагароду, якую дзесяткі гадоў мы павінны будзем аплачваць сваім потам і крывёю, нэндзай і голадам. Няўжо мы дазволім, каб гэта сталася? Ці дзеля таго мы пралівалі кроў, ці дзеля таго мы зьнішчылі самаўладзтва і буржуазію, каб цяпер дазволіць задушыць нас, прыціснуць ботам нямецкай ваеншчыны, дазволіць уваскроснуць старому і падпасьці пад яшчэ больш ўціск?

Гарачыя словы оратара, як тысячапудовы молат, спушчаны на распаленае вялізнае жалеза, сыпалі іскры, запальвалі сваёй шчырасьцю. Чалавецкае мора нэрвова хвалявала, прарываючы оратора чутнымі „не дазволім“, „усе пойдзем на барацьбу“ і воплескамі.

— Калі буржуазія, соцыял-згоднікі і ўсялякія абаронцы заклікалі працоўных да працягу вайны ў імя інтарэсаў буржуазіі, да „пераможнага канца“, мы казалі, што такая вайна патрэбна дзеля таго, каб адцягнуць увагу працоўных ад рэволюцыйнай барацьбы і замацаваць буржуазны лад. Мы заклікалі салдат да братэрскай солідарнасьці з салдатамі варожых армій, мы наладжвалі братаньні іх і заклікалі да супольнай барацьбы з супольным ворагам—сусьветнай буржуазіяй. Цяпер на нас супольна йдзе паходам нямецкая і расійская буржуазія. Барацьба з ёй—клясавая барацьба. Абарона ад яе—гэта абарона рэволюцыі і Савецкай улады. Пакуль на падмогу да нас ня прыдзе пролетарыят іншых краін, мы павінны ўзяцца за зброю і абараняцца ўласнымі сіламі. Імкнучыся дасягнуць спакою, мы, калі нас да гэтага прымушаюць, будзем бараніцца са зброяю ў руках. Мы будзем бараніць заваяваньні рэволюцыі так, як ніхто ніколі нічога яшчэ не бараніў.

Прамова оратара была нядоўгай, але выклікала нязвычайны настрой. Тут-жа на сходзе было абвешчана, што будуць формавацца ўзброеныя рабочыя атрады для пасылкі супроць немцаў пад Пскоў і што тут, на сходзе, у першую чаргу будуць запісваць добраахвотнікаў у гэтыя атрады. Скончылася прамова і паўстаў у майстэрні яшчэ больш гоман і хваляваньне. Янку неяк адарвала ад Язэпа і Антона і панясло ў натоўпе спачатку на сярэдзіну, а потым да бакавых дзьвярэй. Тут і каля іншых выхадаў запісвалі добраахвотнікаў. Шпарка працаваў аловак, за-

паўняючы прозьвішчамі лісты паперы. Называлі некалькі прозьвішчаў адразу. Той, хто запісваў, лавіў вухам адну, запытваў, запісваў, даваў адрывачныя адказы.

— Янка Пралеска? дэмобілізаваны салдат? Добра, такіх нам больш патрэбна, бо ведаюць ваенную справу. Заўтра ў раённым камітэце каля Нараўскіх варот,—наступны.

---

На Царскасельскі вакзал з усіх раёнаў Петраграду накіроўваліся нястройнымі радамі ўзброеныя рабочыя атрады. Нязвычайнае з надворнага выгляду было гэта войска. Стары капялюх, кепка, зімовая шапка, сьвітка ватняя або скураная, паліто, латаныя нагавіцы, „клёш“, навушнік, абшыты кажушок, боты, калёшы, войлакі,—усё перамешвалася, тварыла стракатасьць. Адзнакамі, што гэта ня проста купа рабочых,—былі скураная апаяска паверх вопраткі, дзьве скураных сумкі з ладункамі на апаясцы, у некаторых яшчэ брэзэнтавы патранташ праз грудзі, вайсковая торба за плячыма і стрэльба на рамні праз плячо. Яшчэ і тым розьніліся ад войска, што ўсе гаманілі між сабою, жартавалі, сьмяяліся.

У ватрадзе гарматнай майстэрні Пуцілаўскага заводу былі Янка, Язэп і Антон. Янка сваёй вайсковай вопраткай і выглядам вызначаўся неяк сярод рэшты „цывільных“. Жартаваў з Язэпам і Антонам, што яны ня ведаюць вайсковага ладу і каманды. Тыя ізноў жартавалі, калі Янка ня так назваў што-небудзь у жыцьці рабочых.

— Дзіўна неяк у нас утварылася аднадумнасьць. Учора нават ня ведалі, што будзе на сходзе, не ўгаварваліся раней ні аб чым і вось сёньня ўсе трое едзем у Пскоў,—развзажаў Язэп,—ну што ты, Янка, сказаў сястры, калі выходзіў сёньня з дому?—запытаўся праз хвіліну Язэп.

— Яна ня ведае, куды я еду. Я сказаў, што зьежджу ў Пскоў, бо там абяцалі мне даць службу. Праўду не хацеў адкрыць. Гэта яе засмуціла-б, дык пачала-б угаварваць, каб я ня ехаў.

— Вось у мяне з жонкай дык проста бяда,—адазваўся Антон.—Як даведалася, што паеду на фронт, дык у плач: „што ты робіш“, кажа, „без цябе хіба няма каму; што я буду рабіць, застаўшыся адна з дзецьмі“. Яно і праўда гэта. Суцешыў яе, сказаў, што не надоўга, хутка зьвернемся.

— Добра, што я не пасьпеў жаніцца,—прамовіў Язэп,—ужо хацеў жаніцца, але было неяк няпэўна, хадзілі чуткі, што нас мобілізуюць таксама на фронт. Рашыў адлажыць, як вайна скончыцца.

— А цяпер сам ідзеш на вайну. Будзеш чакаць хіба, як гэта вайна скончыцца. Калі грамадзянская вайна зацягнецца на некалькі гадоў, пастарэеш, дык тады і зусім ня трэба будзе жаніцца. Вось, значыцца, вызваліш рабочых ад уціску, а сябе ад жаніцьбы?—жартаваў Янка.

— Хай сабе будзе й так, невялікае шчасьце, шкадаваць ня буду. Ты ўжо, як малады, ажэнішся і за мяне. Ведаеце што, хлопцы? Сёньня

дэкрэтам Савецкага ўраду зачынены ўсе процісавецкія газэты, праз якіх вы амаль не зрабілі бойкі ў трамваі.

— І добра зрабілі, што зачынілі,—адказаў Янка.

— Даўно трэба было зачыніць,—дадаў Антон.—І дзе гэта калі бачылі падобнае: ідзе сьмяротная бойка з ворагам, і вораг, прыкрываючыся там усялякай хітрай „соцыялістычнай", „дэмократычнай" і іншай назвай, зусім адкрыта заклікае да барацьбы, бунтуе, шкодзіць абароне, утварае свой другі варожы фронт. З ім і трэба змагацца на абодвых фронтах. Свабода, кажуць. Якая можа быць свабода для ворага? Раней перамагчы яго, адабраць ад яго магчымасьць шкодзіць, а потым ужо даць яму свабоду.

*(Канец будзе).*

# „ТАК БОГ ДАЎ!..“

**М. Ніканові**

I

— Базыль!.. Базыль!.. Ці чуеш ты?!.—ужо мацней гукнула жонка на свайго мужыка, які яшчэ пад цёплай коўдрай корчыўся, пазяхаў, ды выпростваўся па належанаму месцу.

Уставаць не хацелася, хоць гвалт крычы!.. Раніцай самы той сон, і нават вочы ня хочуць глядзець на асьляпляючы сонечны бляск, што снапамі залатымі льлецца-сыплецца ў расчыненае акно, цела ўсяго ня хочацца падымаць з цёплае мярлогі...

А тут, за акном, у садку раскошным, сярод купаў дрэў, што дрыготнымі анталяжамі ляглі ценем сваім на падлозе ў хаце,—сьпевы свае галасістыя птушкі-шчабятухі купалі ў празрыстых хвалях пшанічна-заладістага сонца...

І прырода ўся купалася і лашчылася на ўлоньні дзівоснае раніцы вясновае.

„Дык як-жа тут больш спаць, калі ўжо сонца казыча вус, на ліха яму!?“ лагодна расплылося ў думках Базыля, і, нечакаўшы ўжо пануканьня, ён адкінуў коўдру, зьвесіў з ложка закасаныя аж за лыткі босыя ногі, пазяхнуў моцна, пацёр твар далонямі, як-бы мыючыся і, крэкнуўшы, як ад выпітай шклянкі сьпірытусу,—пачаў з смакам скрэбсьці бок...

— Каня завядзі, ды стрынож на пацяробе, а то вунь глымзае чарнату за гумнішчамі!..

— Яно-то праўда!..—абазваўся вінавата Базыль і пачаў хутчэй апранацца ў картовыя майткі, новую чыстую рубашку, камізэльку; надзеў боты.

На двор вышаў.

А на дварэ вясна гарэзвала красуняй сінявокай, карагоды вадзіла па небе хмарак белазорых, у рэчцы цёмнай, ад верхаводкі, мылася, перад сонечным люстэркам, прыхарашвалася, часалася...

Падышоў к карыту Базыль, трэба мыцца, ваду срэбную ў жменю бярэ, скрозь пальцы прапускае, як дзяцёнак, які цешыцца-гуляе... Аж мыцца ня хочацца, шкода, каб не пабрудзіць яе...

І пабеглі, як вада, думкі яго...

„Сёньня-ж трэба ў Прышчэпаўку схадзіць... З агрономам-жа згаварыўся, лекцыя яго сёньня будзе... Добра ўсё кажа, сукін сын!.. Хоць

цяпер вось разбурай старую сваю гаспадарку і бярыся будаваць новую... А хто яго ведае, мо‘ і сапраўды карысьць для нас гэтае шматпольле?! Сёньня такі ўжо дакладна“... думаў Базыль і далёка навокала сябе рассыпаў срэбныя пырскі.

І ўжо выціраючыся, касмацячы сваю кудлатую нячэсаную галаву і бараду, Базыль канчаткова парашыў:

— Каня завяду ды пасьнедаю і вальну аж на цэлы дзень“!..

Як уцёрся, дык бяз грэбеня разабраў тоўстымі чорна-заскарузлымі пальцамі кудлы на галаве і, не надзяючы піджака на белую вышытую ў сырчыкі сарочку, пашоў за гумнішча па каня...

Росна яшчэ было, бо раніца коўзалася пакуль што на прыполе красуючай зямлі і шкода было мусіць расставацца ці то што, але сьлёзы капацелі з красак і мачылі вымазаныя дзёгцем боты Базыля.

Злавіў свайго сівага аж каля балота і, ледзь узьбіўшыся на яго шырокую сьпіну, ступою пакіраваўся на пацяробы. А там зусім нядаўна, ну толькі гэтымі гадамі, мужыкі лес спляжылі, ляда зрабілі. А сяголета хто яго ведае чаму?! Ці то што пасьля лесу ды сонца сюды прырвалася, ці то зямля, ці то што іншае—а трава дык з чалавекам гаворыць... Бярэзіна, арэшнік бушуе...

— Эх, зямелька, родная мая!.. Як ты міла нам!.. Матка ты родная!..— барматаў сам з сабою Базыль, ужо злазячы з каня і трыножачы яго.

А потым стаў, узяўся ў бокі і палюбоўным вокам акінуў-ахінуў прасторы тлустыя... Усьмешка здавальненьня заскакала на вуснах, бараду раскудлачвае...

— Вох, як радасна, ра-а-а-дас-с-на-а-а!.. Гых, ты!..

І як-бы абрываючы раптам зыкі чароўнае музыкі і псуючы ўсю гармонію, з боку вёскі пляснуў, як абухом у дзьверы, адзін, а потым другі зыкі звону з званіцы і глуха расплыліся ў бязьмежжы...

Падсмаленай скурай на агні скарабаціўся твар Базыля, пабегла нездаволенасьць... А тады і думкі прыкрыя сапсавалі зусім гумар Базыля...

„Мацъ тваю ў дошку!.. Зноў баба паедзе верхам на мне аж у царкву!.. І чорт яго матары ведае, як-бы гэта... гм...“ задумаўся Базыль і ўсёй пецярнёю сваёй палез у патыліцу.

Але, плюнуўшы і моцна вылаяўшыся, ён, каб адцягнуць далей час, ледзь перасоўваючы боты, браўся дамоў...

На дварэ яго жонка стрэла, подбегам нясучы цэлы гладыш малака сьвежага ў клець. Поглядам сярдзітым, нездаволеным абмерала ўсяго, кінула скрозь зубы:

— Шляйся!?. У царкву пойдзеш!..

— Ідзі, калі табе трэба!..

— Во!..—аж стала пасярод двара маладзіца,—я так і думала!.. Зноў пацягнецца ў Прышчэпы!? Нячыстая сіла гэтая!.. Мне і так за табой, каб цябе агні сьпяклі...

Але Базыль, не зважаючы на лаянку і праклёны жонкі, хутка прапаў у чорных дзьвярах сянец...

Шмат чаго гаварыла кабеціна, кляла смачна, доўга, пабабску, часам прыслухоўвалася к сваёй мастацкасьці і дзівілася, што гэтак адмыслова можа.

А Базыль, знашоўшы на стале сьнеданьне, уплятаў яго, аж скіўіцы трашчэлі...

Кацярына, жонка яго, у хату ўвалілася з тэй-жа кляцьбой моцнай, адборнай... Навалілася!..

— Жарэ!.. Жарэ, каб цябе разарвала даў бог, каб цябе!.. Ніколі ад яго ні споведзі, ні малітвы, ні думкі добрай!.. Царквы адрокся, сатана гэтая, душу мусіць антыхрысту прадаў ці што?! Людзі, паглядзі вунь, пальцамі запорваюць цябе, ты ня бачыш?.. Ліханька яшчэ на маю галаву, і бацюшка...

— Ды сьціхні ўжо!.. Надаелі мне за цэлы век твае праклёны, царква, бацюшка!..

— А божа-ж мой!.. А міленечкі мой!.. А гад-жа ты!.. А зараза ты зякратая!..

Кінуў Базыль убок лыжку і, абцёршы ўсёй пецярнёю бараду і вусы, адвярнуўся к акну і забарабаніў нэрвова пальцамі па падаконьніку.

— Чаго хочаш?.. Ну скажы ты хаця, чаго ты хочаш ад мяне сёньня?— заірзала па хаце Кацярына, забразгала ў мыцельніку гаршкамі і міскамі, засапла ў нос..

Базыль ужо ведаў натуру сваёй жонкі, ведаў, што калі засапла ў нос,—значыць нораў свой паказвае..

— Схадзі ў царкву хоць у гэту нядзелю, а то чапялой з хаты выкуру, от далібож!..

Доўга спрачаліся; усё ўпіраўся Базыль, яму агроном уваччу стаяў, яго лекцыя ўвушшу зычэла:

„...Замест казаньня папоўскага з амбону ў нядзелю, прыходзьце сюды на лекцыю... Пазнаёмімся з пераходам на шматпольле“...

## II

Капліца старая.

Мохам сівым сьцены парасьлі яе, згарбацілася, недалужна пазірае ўніз крывымі мутна-чырвонымі ад сьпёкі сонца сьляпымі шыбамі...

Дый унутры ня лепш, як знадворку. Чорныя брудныя сьцены ў крывых шырокіх рагах ад дажджу, на іх іконы з чорнымі нэгрыцянскімі, жорсткімі тварамі сьвятых... Прыкры, да немагчымасьці праціўны пах дагарэўшай сьвечкі, зьмешаны з удушшам разложанага трупа нябожчыка... Галаву зрывае!..

Дзесятак баб стаяць, прыхінуўшыся к левай сьцяне, і шэпчуцца паміж сабою, а рэшта дзьве-тры калі і моляцца, дык няшчыра, абы як, абы хутчэй, каб з рук збыць, як нешта патрэбнае, але ня вельмі.

— Галубачка мая!.. Я-ж дык дзесяць губачак рэдчыкаў укідала!.. Наша-ж і хата, як казарма...

— А я корціку аснавала шэсьць губак... аснова парцяная, а ўток суконны будзе... Вось будуць цягаць восеньню і мужык мой і хлопцы...

— Куплёныя ніткі?..

— Ды дзе там чорт куп!.. Ах божа мой!.. Яйца, сына і сьвятога духа...—замітусілася баба, незнарок чорта памянуўшы ў сьвятым месцы, вочы набожна на „ўладычыцу“ зьвярнула, вусны пляскаюцца, нешта бясьсьвязнае, няўдалае шэпчуць...

Суседка, каб далей ад граху, накаленцы бацнула і закулялася вуткай на вадзе, ды, прыгінаючыся к чорнай утопчанай падлозе, цалавала яе з смакам...

— Вотча наш іжа ясі...

Бліжэй к выхадным дзьверам вялася ня менш важная гутарка, тут ня ледзь сваціць ці сабраліся кумы... Адна з іх так захапілася гамонкай, што пачала кланяцца к іканастасу, але толькі... задам...

— Мая Пятрычыха дарагая!.. Гэта-ж, дзякаваць богу, мая цяпер кароўка ацялілася... такі бычок добры, такі падла...

— А мая, воўкарэзіна, цяпер толькі папалявала...

Слухаў Базыль гамонку-шэпты баб і агідна яму рабілася, і яшчэ горш замітусілася дзесьці ў сярэдзіне нядбайнасьць, нават злосьць на ўсіх іх: на баб, на мужчын, што, сабраўшыся жменькай, гэтак сама нешта гутарылі, з апаскай пазіраючы на „царскія дзьверы“... на недарэчнасьць напоўдзеда, які стаяў прыпёршыся к століку і прадаваў сьвечкі. Базылю мігнулася чамусьці ў памяці, як нехта гаварыў, што гэты царкоўнік-сьвечачнік да настаўніцы бегае...

Апрыклымі здаліся яму словы папа-рудача з сярдзітым насупленым поглядам, у старой шмотцы-рызе.

— Сволач!.. У трывожныя часы, калі Рэспубліцы пагражалі ворагі, небясьпека, у Менскі ваенкамат залез, а тады настаўнікам быў... Ды як воўка не кармі, а ўсе ў лес глядзіць... Груганом зрабіўся, чмуціць сялянства цёмнае...

Плыло ў думках Базыля і неяк само-сабою паміма волі, аж сьмех узяў, пракацілася ў галаве:

„На Бажыяна Шмуйлава аблічча яго надта-ж змахвае... Руды такі, і рот крывіць так, і дурнаваты такі...

І ня змог устрымацца Базыль, усьмешка скаўзанула па твары, і ён вышаў на цьвінтар.

А дзень юрыў і жартаваў: то з гаем бярозавым, то травіцу гладзіў, то моцна сьціскаў у свае цёплыя обоймы рунь ядраную і тады хвалюецца яна ў радасьці пяшчотнай.

Кацярына выбегла за Базылём і тут голасам ціхім, прыдушаным, якім у царкве шапталася з суседкамі сваімі, на вуха Базылю.

— Мо' дамоў ужо нарыхтаваўся?!. Што людзі скажуць?.. Крыж ідзі хаця пацалуй, нехрысьць ты!..

Базыль ведаў, што калі разойдзецца Кацярына, тады, каб і захацеў суняць, дык і ў царкве яна не паслухае. Падняўся з каменя, на якім сядзеў, злосна плюнуў і пашыбаў зноў у царкву.

Злосьць была нястрыманая.

Крыж ужо цалавалі, і Базыль, падпіханы ззаду Кацярынай, упёрся некаму ў патыліцу... Пляшы на галаве ў таго, нейкія балячкі чырвоныя, жоўта-брудныя...

Хацеў Базыль ужо мятнуцца ўбок, але папярэдні падышоў, важна налажыў на сябе вузкі, далікатны крыж і зацмокаў сьлюнявымі вуснамі па крыжы і па валасатай руцэ бацюшкі...

Упёр поп вочы свае на Базыля... Няма куды ўжо круціцца...

І, не перахрысьціўшыся, прылажыўся да крыжа.

Агідна!..

Адразу адчуў нешта нядобрае, прыкрае...

Павярнуў Базыль галаву паглядзець, хто цалаваў гэты крыж перад ім, і спаткаўся з асобай Грышкі, п'яніцы, прайдохі гарадзкога...

„Гэта-ж кажуць, што ў яго дурная хвароба!..“ Засьвярліла думка ў Базыля, і па целе яго забегалі мурашкі.

III

Занядужылася нешта Базылю.

Трэба ў полі працаваць, сена чакае гаспадара свайго, жытцо просіцца ў пуню, гнецца-кланяецца Базылю ў пояс:

— Бяры мяне і спажывай на здароўе!..

А Базыль толькі паглядае сумнымі вачыма навокал і ня цешыцца ўжо з ураджаю свайго буйнага, гаспадарскае вока хваравітай плёнкай пацягнута, бо нядужыцца нешта Базылю...

— Вот табе тут і шматпольле!.. Скора ў магілу трэба будзе сыйсьці, ды яшчэ з-за каго?! Цэрква праклятая, поп з сваім крыжам нягодным!.. Грышка!.. Эх-х!..

І жыць захацелася тады Базылю, шкода стала нечага. Не шкадаваў ён нажатага ім, зямлі і іншага... Не!.. Гэта ўсё роўна не яго, гэта нічыё: сягоньня Базылёвага, а заўтра другога... Але так, адным словам, шкода было прастораў, зямелькі, увабранай аксамітам хлеба, сонца залатога з шчодрым праменьнем...

— Эх, ты!..

Прашло яшчэ некалькі часу, і Базыль ужо зусім зьлёг у пасьцель. Тады Кацярына за лекамі кінулася к шаптухам, вады нашэптанай пачала прыносіць, траў розных і яшчэ іншай агіды... Ня браў усяго гэтага Базыль і ў рот. Ведаў ад чаго гэтае яму і ведаў, што не шаптухі тут яму дапамогуць, а толькі доктар. І аднойчы раніцай ён паклікаў да сябе жонку.

— Кацярынка!.. Запражы каня і прывязі мне доктара... Мне што дальш, то горш. Доктар мяне вылечыць...

Затараторыла, заскакала каля ложку Базылёвага Кацярына, не спадабалася ёй, што трэба доктара прывозіць... Пробавала дурная кабеціна ўгаварваць свайго мужыка...

— Нашы бабы лепш ведаюць за твайго доктара!.. От паглядзіш, што ён табе ўсё сапсуе, горш зробіць...

Але ўгаворы не памаглі, і Кацярына хоцькі-ня-хоцькі, але выправілася ў дарогу.

Ды дарогай дзьве кумы напаткаліся. Суняла каня, затараторылася, расчулілася...

— От Базыль мой аніяк ня слухае мяне... І вухам не вядзе, што я яму казаць пробую... Базырыць!..

— Ды ня ў гнеў будзь сказана, ты яго Кацярынка і трымаеш пад абцасам!..

— Дык нічога-ж і так ня будзе!.. Гэта-ж загадаў-ткі мне ехаць і доктара прывезьці... Чорт яго ведае і што тут рабіць?!.

— Ды што-ж тут будзеш рабіць?.. Доктар твой—тое, што і я... тут...

— Ды тут вось што!..—азвалася другая дагэтуль маўчаўшая кума. Ня доктара яму, а калі выправілася з двара, то едзь, бо ня можна назад варочацца... Прывязі яму папа...

— Во!.. Во!..

— І праўда!.. Ёсьць-жа на ўсё, на хворасьці, значыцца, розныя гасподняе слова, малітва...

І доўга не чакаўшы, Кацярына зьвярнула на другую дарогу к папу і, адшпіляўшы дванаццаць вёрст, ужо везла яго к хвораму Базылю.

Прымасьціўшыся ў перадку, Кацярына наярвала каню „па цукерках“, а поп, раскапусьціўшыся на ўсё сядзеньне, чытаў Кацярыне лекцыі, нотацыі, казаньні...

Як гарохам сыпаў руды поп, а Кацярына забыўшыся, што на возе з папом, імкнецца крыж палажыць на грудзі, бо поп кажа, ну—як у царкве пяе.

— Варта вам, варта!.. Вы ўжо ўсе пачалі бога забываць, пачалі кпіць, словясловіць... Граху ўжо не прызнаюць, жэняцца пасабацку, як дзе за плотам, дзяцей ня хочуць хрысьціць, адракліся царквы, бацюшкі, гэты сан духоўны не паважаюць... Вось вам, акаянныя, за гэта бог і хваробы пасылае, каб вы, пакутуючы, яго сьвятое імя ўспаміналі...

І падумаўшы трохі, поп насупіў бровы і ціха з прыдушанай злосьцю ўзварухнуў Кацярыну.

— Кацярына!?.Казалі, што нешта твой Базыль дурэе...Што-ж гэта?..га?..

— Што, бацюшка?..

— Ды бязбожнікам ужо робіцца... Ад царквы пачаў адлучацца, гаворыць пры людзях на мяне дрэннае...

— Ды што вы, бацюшка?.. Ня можа гэтага быць!..

— Як ня можа?.. Ужо ёсьць!.. Кажа, што цераз царкву захварэў, крыж сьвяты цалуючы!.. А ня ведае таго, юродзівы, што толькі праз крыж і ачышчэньне чалавек мае як цялеснае, так і духоўнае!?—І доўга поп нагаварваў-напяваў бабе, гойдаючыся на добра вымашчаным сядзеньні...

А ў гэты час настаўнік, які жыў у гэтай вёсцы, прачуўшы пра хваробу Базыля, пашоў к яму даведацца; вельмі-ж настаўнік любіў яго. Ён ведаў яго, як чалавека разумнага, талковага... Базыль, бывала, часьцяком заходзіў к настаўніку то за газэцінай, то за радай, а то і проста так, пасядзець.

— Ну, як, Базыль, маешся?.. Як здароўе?..—мякка пытаў у яго настаўнік, увашоўшы з-за парогу к Базылю.

— От як бачыце, таварыш настаўнік!.. Дрэнна... Цэрква праклятая мяне загубіла... Вот паслухаў сваёй цёмнай, неразумнай бабы, не захацеў угнявіць, пашоў туды—вось цяпер і маеш!.. І праўду вы мне калісьці чыталі, што ня можна ні крыжа цалаваць, ні прычашчацца... Захварэць можна... Уздумаў я, здагадаўся, але ўжо позна...

Гаварылі паміж сабою настаўнік з Базылём і ўвесь час гаворкі настаўнік упэўніваў, падмацоўваў яго, што кожную хваробу, асабліва цяпер, можна вылечыць. Ловячы гэтую надзею, Базыль (а ня менш яго і настаўнік) прагна чакалі доктара.

Заляскалі калёсы па дварэ, і ў гэты час настаўнік падбег к вакну.

— А братцы!?—Пляснуў сябе па бакох настаўнік да нечаканасьці:—Базыль?! Табе, брат, баба твая і ўдружыла!.. От добрага прывезла доктара?!

— Ну?! Каго?..

— Папа!..

Зьмяніўся ў твары Базыль, закоўзаўся на ложку, заенчыў, а потым ад злосьці буйнай, нястрыманай выплюнуў.

— Сволач!.. Каго прывезла?!. Забойцу гэтага!..

— Ну, бывай здароў, Базыль!.. Я пайду!.. У другі раз...

— Не, братка, пачакай!.. Ня трэба йсьці... Ня йдзі!. Я, брат, яго скора выправаджу!..

Прыбегшы з надворку, Кацярына, ня зірнуўшы і не прывітаўшыся з настаўнікам, распасьціраючы ў руках аднекуль на ходу дастаны сьвежабелы абрус, засьцілала ім стол.

Сапучы, паважна ўлез і бацюшка ў хату, зьняў шапку, перахрысьціўся... Кінуў скоса на настаўніка і, нічога не сказаўшы, пашоў проста к сталу. Разабраўшы сваё начыньне і апрануўшы аблачэньне, поп стаў „тварыць“ малітву...

А што ў гэты час тварылася ўсярэдзіне Базыля, хто яго ведае. Відаць толькі было, што ў гэты момант ён перажываў бурнае хваляваньне.

Загарэліся вочы ліхаманкавым агнём, вусны пабялелі, трасуцца, рука худая, якая прытрымлівала край коўдры, гэтак сама дрыжэла.

— Раб божы, Базыль!..—загнусавіў поп, падыходзячы к Базылю і трымаючы ў руках крыж, а потым, абярнуўшыся да настаўніка, сярдзіта кінуў.

— Пастаронньнія ізыдзіце!..

Рвануўся Базыль. На локаць усьперся; закалаціўся нэрвова...

— Ня трэба выходзіць... Няхай будзе тут, настаўнік... Не яму трэба выйсьці, а табе, забойца... ты... пракляты!.. Як ты пасьмеў зайсьці ў маю хату?!. Ты адабраў ад мяне здароўе і ты зноў прышоў сюды... Крыж суеш, абрыдлы!.. Сам яго цалуй, сукін сын!..

Ад неспадзяваньня бацюшка палупіў вочы і шырокай пасткай расчыніў сваю ляпу і, апамятаўшыся, спуджана замахаў перад ім крыжам, увесь час адыходзячыся назад.

— Бальшавік!.. Комуністы!.. Антыхрыст ты, душапрадаўца!..

— ...Ня толькі ў маёй хаце, а нават на цэлым сьвеце табе няма месца!.. Нягодзен ты таптаць зямельку чыстую нагамі сваімі бруднымі!..

У гэты час Кацярыны ў хаце ня было—яна бегала к суседзям і цяпер стаяла ўжо з бутэлькай самагону ў руках. Зьдзівілася яна, вочы шырока расплюшчыла, не паверыла, мусіць, што Базыль, які, як казалі людзі на вёсцы, „пад камашом" быў у Кацярыны, сёньня стаў на дыбы, ды яшчэ супроць каго-ж?! Супроць...

— Бацюшкі!..

І раўнула баба каровай на ўсю хату.

— Базыль, сатана ты сіберная!.. Комуністы!.. Бязбожнік!..

— Вон з хаты!..—ужо сеўшы на ложку гукнуў нэрвова Базыль.—Вон атродзьдзе праклятае!.. Хутчэй з маіх вачэй, а то паленам гэтым!..

Хоць і хістаючыся, а рынуўся Базыль у падпечак шукаць палена.

Настаўнік, які дагэтуль маўчаў і ня ўмешваўся ў іх гутарку, суняў Базыля.

— Пакінь, Базыль!..—лагодна ўзяў яго за плечы.—Пакінь!.. Ты ня нэрвуйся, а ідзі лепш ляж!.. Без цябе гэтых доўгавалосых вампіраў убяруць...

— Да васкрэсьнет бог і растачацца вразі яго...

Шэпчучы псальм і аглядаючыся, каб палена не папала ў яго асобу, поп шмыгнуў за дзьверы, а Кацярына раўла-галасіла на ўсю хату.

## IV

— Паедзем Базыль у больніцу!?—запрапанаваў назаўтра, пасьля такой сцэны, настаўнік Базылю.

— Браточку, паедзем, бо калі я тут з сваёй бабай яшчэ паваюю, дык і пад бярозу будзе пара!..

Сам настаўнік каня запрог, нават Кацярына і дзяружку дала заслаць сядзеньне... А да гэтага часу моўчкі ўсё пазірала, як-бы ёй ня было да гэтага аніякага дзела.

І толькі выяжджаючы са двара, калі настаўнік з Базылём уселіся і Базыль папрасіў Кацярыну паглядзець гаспадарку, пакуль ён будзе лячыцца, дык тады Кацярына зноў загаласіла...

— А куды-ж ты едзеш?! А мо' ты ўжо больш і ня прыедзеш?.. Ня ехаў-бы нікуды, што-ж ты зробіш, калі гэта так бог даў!..

— Ня бог гэта даў, бо яго, як відаць, і няма зусім, а дурасьць наша была!..—у задуменьні працадзіў Базыль. І настаўнік, не зважаючы больш на галашэньне бабы, паехаў з двара.

Як прыехалі ў горад, першым чынам знашлі больніцу, і Базыль пашоў к доктару. Доўга аслухоўваў хворага доктар, круціў галавою... Потым пытаў, як ён дастаў такой хваробы і адкуль. Што знаў, апавядаў Базыль доктару.

— Вось брат, ад гэтага цалаваньня і будзе ў цябе гэтая хвароба!.. Папярэдні, хто цалаваў, быў ужо заразны і сьліну сваю пакінуў на крыжы, а ты, можна сказаць, яе зьлізаў і заразіўся... А колькі мы ўжо гаварылі аб гэтым...

Але доктар больш не гаварыў і, пазваўшы настаўніка, перадаў ...м, што хворы павінен застацца на лекі ў больніцы і ні ў якім разе не павінен ехаць дамоў...

На другі дзень, калі раніца пачала толькі выкалупвацца з сі... ночы, настаўнік прыгнаў каня ў вёску, дамоў, а Базыль застаў... ў больніцы.

Увесь час прабываньня ў больніцы Базыль (маючы, зразумела, во... ны час) цікавіўся рознай літаратурай, вывучаў яе, чаго не разум... пытаў у доктара.

А калі і зусім добра стаў папраўляцца, што ад яго хваробы не ... сталося і сьледу, тады Базыль на лекцыі ў нардом пачаў хадзіць, ... слухоўвацца да ўсяго, што называецца—„на вус“ наматваў...

З сакратаром ком'ячэйкі стаў нешта часта гутарыць; дапыт... будаваў усё нейкія пляны. І калі ад'яжджаў ён дамоў, дык разам з ... рознай літаратуры, лопаючы Базыля па плячы, даваў наказ яму са... ячэйкі:

— Змагайся, брат Базыль, там на вёсцы з усімі адмоўнымі ... вясковага жыцьця, выпякай нарогам навукі ўсё бруднае зельл... ўзышло на нашых савецкіх палетках!..

І, здаволена ўсьміхаючыся, Базыль запэўніваў партыйны схо...

— Буду старацца!.. Працы—кут непачаты. А што першае, ды... я за рэлігію вазьмуся!.. На сваіх плячох адчуў яе смак, дык цяпе... чану-ж здорава яе!..

Весела, гульліва сьмяяліся ўсе.

А дома гэтым часам вясковы камітэт узаемадапамогі парупіўся каля гаспадаркі Базыля і агульнымі сіламі вяскоўцаў сабралі з поля снапы, з пожні сена, к малацьбе прыгатавалі...

V

Стаяў цёпла-пагодны сьвяточны дзень. Мужчыны цэлымі чародамі ад няма чаго рабіць і злосныя ад нуды пазавальвалі ўсе прызбы к сонцу і цягнулі гэтакія-ж сама даўгія і нудныя гаворкі, перасыпаныя скаргамі. Баб ня было відаць, бо пашлі ў капліцу—у гэты дзень поп зьбіраў сваё жніво—ураджай. І вось у гэты час усе ўбачылі, як па пыльнай дарозе нехта ішоў проста ў вёску.

А вядома: чужы чалавек у вёску—цэлы пераварот, каробка навін.

Згрудзіліся ўсе, чакалі незнаёмага.

— Здарова, мужчынкі!..

— Ого-го-го!.. Базыль наш!..

— Як жывеш?..

— Ну, як здароўе?!

— Ну й паправіўся-ж ты, сукін сын!..

Абступіла ўся чарада Базыля, шчупала яго вачыма з усіх бакоў, аглядала, пытала аб навінах, аб горадзе...

Усе сяляне бачылі і вачам сваім ня верылі: у Базыля цэлая торба кніжак і газэт розных, на грудзёх зорка чырванее...

Калі-ж гэта было з Базылём раней?..

— Відаць, ты і добра падлячыўся, Базыль?

— Зусім ужо вылечыўся!..—радасна праменячы на ўсіх вачыма, гаварыў Базыль.

— Вылечыўся ня толькі ад хваробы, што мучыла маё цела, а гэтак сама зьняў з сябе і другую хваробу, якой хварэе яшчэ з вас кожны!..

Раты паразяўлялі ўсе, недасмоктаныя цыгаркі самасейныя ў вуснах засталіся паджарваць вусы...

— Дык як-жа ж гэта?

— А вось пойдзем ка мне ў хату і пагаворым там, а то на вуліцы нявыгодна!..

паваліла грамада за Базылём. Кацярыны Базыль дома не застаў: яна была ў капліцы, малілася за здароўе Базыля, ці што...

— ...Вось, браточкі, якая яшчэ цемень у нас: ходзім яшчэ вось у гэтую капліцу, а ня ведаем, што там, просячы ў нябеснага бога здароўя, атрымліваем толькі розныя хваробы, вось як я, напрыклад...

Доўга гаманіў Базыль аб гэтым ды аб усім патроху; гэтым ён шчупаў цьвёрды, моцны грунт самасьвядомасьці, на якім-бы можна было будаваць далей новы быт у вёсцы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пражыў месяц дома, а за гэты тэрмін шмат чаго зьмяніў у сваёй гаспадарцы...

Як увойдзеш у яго хату, дык адразу ў вочы кідаецца портрэт Леніна на чырвоным фоне. Абразоў ужо няма. Ленінскі куток зрабіў Базыль у сваёй хаце.

Колькі жонка ні спрачалася, як ні бушавала, а Базыль змог угаварыць, растлумачыць, што

— ...Рэлігія—дурман народу...

А нарэшце, і Кацярына згадзілася з Базылём, праканалася такі кабеціна...

І цяпер ня кажа:

— Так бог даў!..

Не!.. Больш удумна, крытычна глядзіць на ўсе зьявы і падзеі, больш пытае ў Базыля, бо Базыль адказ у кнізе знаходзіць, адказ на ўсе жыцьцёвыя пытаньні.

## З ПОЭМЫ „НА ШЛЯХОХ ВОЛІ“ *)

**Якуб Колас**

Па-над Камай гук гарматны,
Молат б‘е і ўдзень, і ўночы...
Што куеш там, брат рабочы?
Што прыгнуўся над варстатам?
Ці гатуеш „дар“ салдатам?
Ці доўг плаціш неаплатны?
Што-ж спусьціў ты ў зямлю вочы?
Тут жалеза, сталь Урала
На снарады, на жарэлы,
Каб калечыць, нішчыць целы.
Колькі ўжо іх там прапала!
Ды крыві яшчэ ўсё мала...
Падымай-жа молат сьмела,
Моцна бі ў чэсьць капіталу!
Там рабочы, там сяляне...
Іх сагналі брат на брата.
Рве шрапнэль іх і граната,
Б‘юць друг дружку, бо ў тумане
Іх галовы і ў дурмане...
Куй гасьцінцы для салдата!
Куй-жа, покі моцы стане!
Молат б‘е, варстат скрыгоча,
Пас дрыжыць, гудуць машыны,
Мітусеньне, рэў зьвярыны
Рэжуць вушы, б‘юць у вочы...
Так, ня весел ты, рабочы,
Ґнеш панура сваю сьпіну,
Мозаг думаць тут ня хоча...
Панурыя малюнкі паўночнае краіны,
Як строгі вы і смутны!
Я бачу хмуры лес, дзе піхты і яліны
Няветлым салашом разьвесілі галіны,
І голас мне іх чутны,
Як водгульле чужыны.

*) Абразкі ўзяты з старой арміі.

Я бачу тыя горы над Камаю-ракою,
Дзе гром грымеў гарматны.
Суровы, грозны від іх у вечным супакоі,
Стаяць яны маўкліва над сіняю лукою
І ў люстры вод гранатных
Любуюцца сабою.
За цёмным віадукам, што ў насыпе чыгункі,
Пры лесе ёсьць даліна.
Тут грозны бог вайны пісаў свае рысункі—
Акопы, дрот і ямы і розныя рыштункі.
Тут шэрая людзіна
Цярпела муштру-ўсчункі.
З усіх канцоў Расіі зганяліся народы
Па волі капіталу
У імя „праў народных“, пад сьцягам лжэ-свабоды,
І мучылі іх тут, ахвяр варожай згоды,
Ахвяр таго-ж Ваала,
Для царскай асалоды.
А там, пад віадукам, грукочучы, вагоны
Каціліся няспынна.
Ішлі-плылі на захад салдацкія колёны
Туды, дзе вір крывавы свой гымн сьпяваў шалёны,
І гінулі бязьвінна
У віры тым мільёны.
І згінулі навекі... Нікому невядомы
Імёны вашы, брацьце!
І золак новых дзён, і буры іншай громы
Ня відны вам, ня чутны—заснулі нярухома:
Пад сьмертнаю пячацьцю
Зямляныя харомы.

На пляцоўцы пятай роты,
Дзе калыша вецер дроты
Над акопным цёмным валам,
Спахмурнелі дзядзькі-глоты:
Ох, пачнуцца тут згрызоты
З тым брыгадным генэралам!
Ротны бледзен не па меры,
Холад чуюць афіцэры,
Ды хаваюць свае трусы.
Фронт разгорнут, доўгі шэры,
Камандзіры, нібы зьверы,
Пазіраюць, круцяць вусы.
— Не падгадзіць мне, рабята!

Нашай роты людзі—хваты,—
Еж вачамі генэрала!—
Генэрал Пржылуцкі—дока
І арліна мае вока—
Знойдзе раптам недахваты,
Цягне ўсіх на кожным кроку,
Лае зблізку і здалёку—
Такі строгі і заўзяты.
— Едзе! едзе!
— Пятая рота, ррраўня-я-яйсь!
Бы ня тыя сталі людзі:
Колькі могуць, пучаць грудзі,
А галовы ў бок направа
Ды чакаюць, што тут будзе,
Што брыгадны ім прысудзіць.
Генэрал ідзе рухава.
З ім палкоўнік, батальённы,
Як падданы, як прыгонны,
Ну, дрыгучая струна.
Ротны зорыць міг кардонны,
Каб падаць той голас звонны
Ды спаліць, як з пяруна.
І гаркнуў настырна,
Маладзецкі-брава:
— Пятая рота, сьмі-і-ірна!
Раўненьне направа!
Генэрал ідзе, бы сокал
І арлом глядзіць навокал.
Ротны тут—пад казырок,
Ідзе з рапартам з прыскокам,
За апошнім цьвёрдым крокам
Стаў чаканіць назубок.
Удоўж фронту йдзе брыгадны,
Няпрыступны, неўспагадны,
Вострым поглядам стрыжэ.
Белы вус, як сьнег калядны,
Сьмех хавае неразгадны,
Бы ахвяру сьцеражэ.
Прывітаўся досыць ветна,
І усьмешка чуць заметна,—
Нібы ў гумары, відаць.
І адразу нечакана
Запусьціў, як-бы з нагана,

што слова, то і „мацьˮ.
— Мерцьвякі вы! Мерцьвякі вы!
Што раскісьлі тут, як слівы?
Дзе ваяцкі ваш запал?
Што за войска? Зброд паршывы!—
Аж затросься вус той сівы,
Матам крые генэрал.
— Да-с, паручык, слабавата!
Што за людзі ў вас? цялята!..
Ну-с, заняцца маршыроўкай!—
Ротны выступіў заўзята,
І пашлі ганяць салдата,
З амуніцыяй, з вінтоўкай.
Доўга роту муштравалі,
Тхнуць салдату не давалі,
Бегам беглі, шлі пяхотам,
Ну, ўсю мудрасьць спрабавалі
І каманду падавалі
У гразь легчы срэдзь балота.
— Што спацелі, суччы дзеці?
Мала елі сьпіны плеці?!
Да-с, паручык, танкавата.
У вас людзі ў беге слабы,
Не салдаты яны—бабы,—
Дрэнна выпраўка ў салдата!..
Вам на фронт, на фронт пара-бы!
А вы, кадр, тут ажырэлі,
Толку мала з вас на дзеле—
Мурлачы ўсё, унь, якія!
Акуратны, гладкі ў целе...
Пад арэшт на дзьве нядзелі!
Толькі й служыце з-пад кія!—
Распушыў усіх брыгадны,
Будзь ён тры разы нядадны!
І пушыў усіх наўмысьля,
Бо служака ён прыкладны,
І яму тыл больш прынадны,
Чым позыцыі на Вісьле.
А нарэшце, на закуску,
Усіх злаяўшы паруску,
Выступае ён з прамовай.
— Не даваць-жа немцу спуску!
Бі яго адважна, грузка—

Немца біць для нас ня нова;
Бі агнём,
Калі штыком,
Штык зламаў—крышы прыкладам,
Зьбіў прыклад—жар кулаком,
А кулак пабіў—кусайся,
Поўзай гадам,
Рві, грызі,
У прах разі,
А ў палон жывым ня дайся:
Няхай помняць супастаты,
Што значаць рускія салдаты.

## НАЧНОЕ

**А. Гурло**

Месяц, месяц, які ты прыгожы,
Ну, як казачны нейкі юнак;
Ты хвалюеш мяне і трывожыш
Лепш за чарку хмяльнога віна.

Сьнег іскрыцца, ўсьміхаюцца зоры,
Разам з імі ўсьміхаюся я.
Струн сардэчных маіх пераборы
Нейкім новым сугуччам зьвіняць.

Гэта ноч мяне з месца скранула
І разьвеяла страхі і сны,
Прыгарнула, як родная—чула,
Нашаптала мне ласкі вясны.

Паабапал гасьцінцу прысады,
Кажуць мне, што настаў сакавік,
І ня дарам мінулага здрада
Адрыгнулася моцна ў крыві.

Захацелася ласкі мне новай,
Захацелася шчырасьці зноў...
І ня дарам так подых вясновы
Разьліваецца ў жылах віном.

ня дарам прадвесьнія цені
Паўстаюць, як жывы чалавек...
Дам я волю сваім лятуценьням,
Што раяцца ў маёй галаве.

## ЗВОН МАІХ ПЕСЬНЯЎ, ЗЬВІНІ!..

**А. Гурло**

Звон маіх песьняў, звіні!
Радасьць ва мне плюскоча,
Зьзяюць праменна агні,
Льлюць свае бляскі мне ў вочы...

Эй, захлыніся туга—
Кроў забурліла крыніцай.
Сёньня мне хочацца ў гай,
Дзе чырванеюць суніцы,

Дзе засьпяваў салавей,
Радасьць, як я, пачуўшы.
Лягу я ў мяккай траве—
Зыкі ліюцца хай ў вушы.

Буду я слухаць, сьпяваць
Звонка пад зык салаўіны.
Хай адпачне галава
І распрастаецца сьпіна.

Вельмі я шмат пераўжыў
Ў дні, што нядаўна мінулі;
Совалі ў бок мне нажы
І песьняў маіх ня чулі.

Можа пачуюць цяпер
Песьню маю і шчырасьць;
Вельмі я многа цярпеў,
Каб разгарнуцца у шыры,

Каб прывітацца з вясной,
Што надарыла раздольлем
З думкай у сэрцы адной,
Што я у жыцьці задаволен.

## МЕСЯЦ І ЗОРЫ І СЬНЕГ

**А. Гурло**

Месяц і зоры і сьнег...
Што мой настрой такі сумны!..
Просіцца сэрца к вясьне,
Просяцца пальцы на струны...

Далі—надзея мая,
Далі—мае сугалосьсі...
Усё-ж я ня ўцямлю ніяк:
Радасьць—вясна ці мо' восень?..

Што-ж, мая песьня, зьвіні—
Радасьць мой сум пераможа,
І загарацца агні,
І далі падблізяцца можа.

Прыдзе красуня-вясна,
Ў вочы мае ціха гляне...
Чаркай хмяльнога віна
Нанава я забуяню...

* * *

**М. Шкапская**

I

Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары
Яўрэй апошні, й азьвярэлыя вятры
Ад жудасьці, ад сораму і дыму
Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну,
Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка
Й няма што трасцай кідацца нялёгкай,—

А паміж тым, у прадчуваньні рымскіх ласк,
Свой разрахунак меркантыльна зьнізіў
І, як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск
Ад наступу дэнікінскіх дывізій.

Яны з абозам на усход цяклі,
Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях,
У прадчуваньні, але йшчэ ня верачы ані,
Што гэта ўжо сапраўды эпілёг дасяг,
Што ўжо няма каму тут спадчынныя іскі
Цяпер чыніць, і што у гэты год
Пашоў на дно ўвесь цяжкі пакебот,
Што звалі мы імпэрыяй расійскай...

II

— Глыток вады.—Няльга, запёрта будка.
— Глыток вады.—Нам на сям'ю вядро,
Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка...
— А нашая чарга во ў гэты чорны роў?
Глыток вады, а за яго вазьмеце
Вось гэты шаль—цяпер ўжо ўсё адно...

І чэрпае, пакуль ня гляне дно,
І ўсё ня можа смагі адалеці.
І потым, адыходзячы ў глухую ночку,
Назад сумысьля азірнецца ён у мгле,
Але яго сьвідруюць праз „цапочку"
Палохлівыя шэранькія вочы...

Два словы так сабе—аб гуннах, аб Атыльле
(На акяніцах—шруб, а на дзьвярах—замок)
І хціва мерыць шаль перад трумо
Пры цьмяным бліску дымлівых капцілак.

О, абыватаць, белая за каўняром ты гніда!
Як страшны аб табе сказ-абурэньне:
Жыцьцё за камізэльку аддаеш ты без агіды,
На соль мяняючы сваё сумленьне.

Як вымераны ўтоптаныя сьцежкі!
Бо дорага яйцо к хрыстосаваму дню,
Бліны к калядам, к сёмусе адзежка,
Ды тое, што хаціна ўстала на краю.

Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме,
І хай ляжыць стары ў абломках сьвет,—
Ў грызьні за іх і з гэтымі і з тымі
Ты скарыстаеш іх на свой клёзэт.

III

Дзе-ж, ой, матулькі, вашы дзеці?
Рукі слабы, вецер—дуж ён,—
Відаць, зьдзьмуў іх вясёлы вецер,
Скіфскі вецер з сямі старон.

Як ён сьвішча і як гамоніць
Ў гэты страшны, значаны год!
Было двое іх—двое—помніш?
А ня стала ні аднаго.

У кажусе і ў куртцы новай
Сінявокі хлопчык кадэт
Ў канаве злажыў пад Растовам
За цара свае дзевяць лет.

Вецер блытаў валасы ночкай
І нейкія словы сьпяваў,
Палатнянай яго сарочкай
Выцірала вочы трава.

І пакуль шукалі ў трупярні
Паміж штабаляў сініх цел,—
У прамежак ад сьмерці к спальні
Скіфскі вецер з сьмехам ляцеў.

А другі—ты прыпамінаеш?
Над брывёю шрам на услонь,

І ў вачох яго сінь такая-ж,
І сухая таксама скронь.

Як няведаньнем мы багаты,—
Гэта маці і неўнамёк,—
Можа быць гэта ён для брата
У стрэльбе націснуў курок.

І цяпер ў гарадзкой бальніцы,
Грудзі прабіты штыхом—
І яму нічога ня сьніцца—
Ані ты, ні бацька, ні дом.

Як стаяла яна над гэтым—
Над пасьцельлю з чырвані тэй!
Быў з ёй добрым вясёлы ветрык—
Загасіў, як сьвечку яе.

І над сэрцам яе замёрлым
Як мяккай і лёгкай зямля!
Вецер, вецер—такі вясёлы,
Так абшырна воля твая!

IV

Далі волю любіць Колю, —
Цяпер хочуць яе ўняць;
Камень кінулі ў палонку,
А цяпер цяжка падняць.

Колю знаю па хадзе я—
Вось к вакенцу падышоў.
Мы цяпер тавар ня ходкі—
Збыт на дзяцюкоў пашоў.

Ой, сяброўка з вечарынкі,
Нам з табою ня дружыць,—
Радасьць, гора мы дзялілі,
А любоў не падзяліць.

Ох, ты сіняя, ты сьцюжная зіма,
Сярод лета прышла к дзеваньцы сама.
Белай шэраняй пасьцель залягла,
Ці-ж мая мне прастата памагла?!

Круціць вецер пласконны падол.
Вецер весел ды цёмен дол.
Ой, і рэдкі ў палетку лён!

Дзе-ж то бачана да нашых дзён,
Каб дзяўчына лезла ў рукі сама,
Абы поўнай была дзеўчая машна.

Цяпер бабія ў разьвяз вузелкі,
Усе з вайной у расходзе мужыкі;
На бязмужжы і дурань муж,
Ды і дораг стаў дурань к таму-ж.
Думкі бабскія ў мяне ўсё адны:
Хай-бы хоць і ад дурняў, ды сыны...

Ах вы, грудзі мае,
Двохфунтовыя!
Цяпер ходзяць у нас
Дзеўкі ўдовамі.
Надаелі адны,
Будуць новыя,
Ах вы, грудзі мае,
Двохфунтовыя!..

*Пераклаў з расійскае мовы* **Л. І.**

* * *

**Валеры Маракоў**

Над прасторам ніў і над квяцістым лугам
Бубянцом ахвота празьвінець.
Гэты клён курчавы, як зялёнай пугай,
Апавіў і сьцебануў мяне...

Зашумелі ціха дарагія нівы
Срэбнай песьняй сьпелых каласоў.
Я прышоў падслухаць гэты шум тужлівы,
І прайсьціся роднай паласой.

Пабялела даль, і па-над сінім борам
Запаліла сонца яркі сьвет.
Як надзеі, тухнуць залатыя зоры
На прасторы песенных завей.

Зноў лясок-дубняк перада мной знаёмы
Так шуміць, як некалі шумеў,
Дзе ня раз я у разгульна-вольны момант
Разьліваў з хлапцамі песьні й сьмех!

Эх, хлапцы, нас была дружных вельмі многа,
Кожны вырас, шлях свой адшукаў:
Той пашоў сялянскаю мяжой-дарогай,
Гэты вышаў новы дзень каваць.

Толькі я адзін праходжу бяз прытулку
То па бруку пыльным і сівым,
То зальлюся песьняй нечакана-гулкай
Сярод яркіх кветак і травы...

А цяпер над лесам і квяцістым лугам
Бубянцом ахвота празьвінець.
Гэты клён курчавы, як зялёнай пугай,
Апавіў і сьцебануў мяне!..

## ЗВОН СОНЦУ...

**Ізраіль Плаўнік**

Слухай, птушкі
Сеюць цьветам
Крык жыцьця...
З сонца йстужак
Носіць вецер
Волі сьцяг...

Звоніць рэчка
Ў шуме хлаляў:
Шчасьце... Сьвет...
Лён і грэчка
Сонца хваляць,
Росьцяць цьвет...

У крыніцах
Сонца ходзіць,
Ў паплавох...
А брусьніцы
Карагодзяць,
Крыюць мох...

„Дый чаго там,
Кажуць лозы,
Сумаваць?"
Сьпеў чарота,
Звон бярозы
Крыюць гаць...

„Дык сябруй
Таксама з сонцам,
Кліча гай,
Ў Беларусі
Бачыш сон свой,—
Гэй-жа, грай!..

Грай на струнах—
На галінах—
Ўсім у тон...
Ў хмельнай руні
Сум загіне"...
Чую звон.

## ОЙ, ПАЙДУ Я...

**Ізраіль Плаўнік**

Ой, пайду я ў лес хваёвы
Ды сасонкай стану...
Хай праменьнем жар-хмялёвым
Абаўецца стан мой...

Паплыву я лугам, лугам
Ў хвалях зеляненькіх...
Пашукаю ветра-друга
Ў лёне ды гусьценькім...

Глянь, як поле шчасьцем марыць
Ў васількох жытнёвых...
Дражніць сонца—дыша жарам,
Сыпле цьвет ліповы.

Гэй, прымчыся, ветра-дружа,
Там за лесам, гаем,—
Пакупаемся у ружах,
Сонцам заіграем...

Захвалюем рэчкай звонкай,
Песьняй заструменім...
Па галінках хвойкі стромкай
Шуганём праменьнем!..

* * *

**Ізраіль Плаўнік**

А у смутку задумнага лесу
Марыў шчасьцем каханьня салоўка..
Месяц кудры над рэчкаю зьвесіў,
Нахіліла бярозка галоўку...

Нахіліла бярозка галоўку,
Думы-чары на луг асыпала,
Вышывала палі руньню-шоўкам,
Завівала расу у каралі...

Завівала расу у каралі,
Прыбірала брыльлянтамі неба...
Рыбкі срэбрам у хвалях міргалі,
Засьцілаў берагі пухам лебедзь...

Засьцілаў берагі і лагчыны...
Вецер плаваў у хвалях жытнёвых...
Мы спаткаліся ў ночку з дзяўчынай,
Частаваліся хмелем мядовым.

# РОЗА ЛЮКСЭМБУРГ

*(Прысьвячаецца былым і сучасным слухачом Рабфаку БДУ)*

**І. Герчыкаў**

Пасьля перамогі, якую атрымала коаліцыя эўропэйскіх дзяржаў пад кіраўніцтвам Англіі над Наполеонам І, у Лёндоне 1-га жніўня 1814 г. было ўрачыста адсьвяткована заключэньне „вялікае згоды“ з Францыяй і яшчэ раней, як былі падпісаны „непарушныя“ і якія павінны былі ўстанавіць вечную згоду трактаты Вэрсальскага конгрэсу, быў заложаны, як эмблема вечнае згоды, „Храм Согласия“ у Лёндоне, а цераз сто год дзень у дзень 1-га жніўня 1914 г. Эўропа была ахвачана полымем сусьветнае вайны.

Калі-б гэта полымя сусьветнага пажару паліла толькі „Храм Согласия“ ў Лёндоне, то на гэта мала хто зьвярнў-бы ўвагі; толькі дурны ня бачыў, што гэта згода нікчэмная бразготка, а сьвяткаваньне 1-га жніўня 1814 г. толькі пустая пацеха над народнай масай, якую трэба было чым-небудзь забавіць пасьля цяжараў вайны. Але полымя пажару, ахапіўшага сьвет 1-га жніўня 1914 г., паліла другі храм, які вырас на крыві і пакутах, на імкненьнях і надзеях, на сьвядомасьці і волі к свабодзе вялічэзных мас рабочага насяленьня ўсіх краін сьвету,—паліла ІІ Інтэрнацыянал. І гэта было сапраўды вялізарнейшай, гістарычнай важнасьці, катастрофай для тых, каму гэты храм служыў,—і вялізарнейшаю, гістарычнай важнасьці, урачыстасьцю для тых, хто яго праклінаў з самага яго з аснаваньня.

Цэнтрам, асноваю, базаю гэтага інтэрнацыянальнага аб'яднаньня рабочай клясы была германская Соцыял-Дэмократычная Рабочая Партыя—шматлюдная, моцная організацыя, якая дзесяцілецьцямі падгатаўлялася пры падтрыманьні ўсіх іншых нацыянальных організацый рабочае клясы дзеля таго, каб супроцьстаяць сусьветнаму пажару вайны і патушыць яго ў самым пачатку. І германская соцыял-дэмократыя ня раз брала на сябе гэту вялікую адказнасьць, а ў момант спробы зараз-жа здала ўсе свае позыцыі перад тварам сусьветнае вайны галасаваньнем сваёй парляманцкай фракцыі 4-га жніўня 1914 г. за падтрыманьне вайны.

Лёс міжнароднага соцыялізму вырашаўся на фракцыйных пасяджэньнях парляманцкай групы германскае соцыял-дэмократыі 3-га і 4-га жніўня 1914 г., і там была ўхвалена 78-м галасамі супроць 14-ці пастанова падтрымаць вайну. Гэта пастанова 4-га-ж жніўня 1914 г. была

агалошана на пасяджэньні рэйхстагу. Такім чынам, у часе фракцыйнага пасяджэньня соцыял-дэмократычнай групы рэйхстагу 14 чалавек заставаліся вернымі інтэрнацыянальным інтарэсам рабочае клясы, але ніводзін з гэтых чатырнаццаці не давёў свае вернасьці да канца, і на пасяджэньні рэйхстагу 4-га жніўня ніводзін не абазваўся супроць вайны. Усе чатырнаццаць пакарыліся партыйнай дысцыпліне і галасавалі з усёй фракцыяй, хоць сярод гэтых чатырнаццаці быў і Кароль Лібкнэхт.

Кароль Радэк апраўдвае вялікага свайго сябра. „На парозе героічнага пэрыоду свайго жыцьця ён аддаў партыі апошні абавязак,—тэй партыі, рэволюцыйная моц якой была расьсеянай марай. Пераконаньне, што дзень 4-га жніўня застанецца толькі сумным выпадкам, прымусіла яго паддацца партыйнай дысцыпліне і адмовіцца ад адкрытага протэсту супроць вайны на пасяджэньні рэйхстагу 4-га жніўня“.[1]) Не вылучаючы з чатырнаццаці Кароля Лібкнэхта, Рыхард Мюлер, быўш. старшыня Выканаўчага Камітэту Саветаў Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў Германіі, адносна галасаваньня 4-га жніўня піша наступнае: „Згодна парляманцкім звычаям, у пленуме рэйхстагу за крэдыты галасавалі і 14 праціўнікаў такога галасаваньня. Фракцыйная дысцыпліна ім была важней, чым прынцыпы соцыялізму, чым пастановы міжнародных зьездаў. Слабасьць іх, праяўленая ў рашучую мінуту, перакладвае на іх частку віны за ракавыя вынікі гэтае політыкі“[2]).

Цераз тры месяцы, 2-га сьнежня 1914 г. ня толькі германскі рэйхстаг, ня толькі ўся Германія, але ўвесь сьвет быў сьведкаю нязвычайнай, героічнай карціны, калі К. Лібкнэхт, наўпрэкі пастанове сваёй фракцыі, адзін ва ўсім рэйхстагу галасаваў супроць вайны.

Кароль Радэк расказвае аб тым, як адзін з лепшых сяброў Лібкнэхта ў астатнюю мінуту гаварыў яму: „Наўрад ці вы адважыцеся—адзін чалавек з усяго рэйхстагу — галасаваць супроць рэйхстагу“. Лібкнэхт не аказаў яму гонару, нават, адказам, апавядае далей К. Радэк.— „Я памятаю той момант, калі з журналісцкае трыбуны ў той момант галасаваньня бюджэту (2/XII—14 г. І. Г.) я ўбачыў Кароля Лібкнэхта: ён застаўся на сваім месцы; уся заля пачала крычаць, а таксама яго бліжэйшыя таварышы: „Лібкнэхт, устаньце“, але ён заставаўся спакойным“[3]). За вельмі малым выключэньнем увесь вялізарны германскі друк наваліўся на Лібкнэхта. Лібкнэхта ён не раздушыў, але вынес яго дзеяньне з сьцен рэйхстагу на сусьветную арэну.

---

[1]) Кароль Радэк—„Роза Люксембург, Кароль Либкнехт, Лео Иогихес“. Выд „Красная Новь“. М. 1924 г., стар. 46.

[2]) Рыхард Мюлер—„Мировая война и германская революция“. Выд. Мосполіграф. 1924 г., І-ы т., стар. 32.

[3]) Кароль Радэк—„Крушение германского империализма и задачи международного рабочего класса“ (Справаздача, прачытаная 2-Х—18 г. ў Маск. Сав. Тэатры). Выд. УЦВК. М. 18 г., стар. 33.

Не выпадкова, не з-за страху, якога ніколі ня было ў вялікага барацьбіта, а выходзячы з глыбокага пераконаньня, выплываўшага з усіх яго мінулых адносін да германскай с.-д. і пераацэнкі яе магчымай рэволюцыйнасьці, выплывала ўстрыманьне К. Лібкнэхта ад рашучага протэсту ў рэйхстагу 4-га жніўня 1914 г.

Што-ж адбылося за гэтыя 3 месяцы ад першага да другога галасаваньня? Шмат выясьнілася за гэты час і самае важнае тое, што значныя групы германскіх рабочых ня толькі ня былі солідарны з галасаваньнем сваёй партыі ў рэйхстагу, але былі ім глыбока абураны. Але, бясспрэчна, не выпадкова К. Радэк, які быў такім блізкім да развярочваўшыхся ў Германіі здарэньняў і разам з тым к Каролю Лібкнэхту, не на гэтыя прычыны паказвае, а, расказваючы далей аб галасаваньні 4-га жніўня і аб часе паміж 4-м жніўня і 2-м сьнежня, кажа: „Цераз некалькі дзён ён зразумеў, якая гэта вялікая памылка (галасаваньне 4-га жніўня. І. Г.). Ён зблізіўся з Розаю Люксэмбург, строгая і тэорытычна абаснаваная лінія павядзеньня якое была чужою яго шырокай, шукаючай натуры, і яны абое заключылі, ня гледзячы на поўнае непадабенства сваіх характараў, саюз на жыцьцё і сьмерць[1]).

Ня гледзячы на ўгаворы сяброў, ён парашыў адзін выступіць. „У гэтыя часы я заўважыў, як Лібкнэхт перамог астатнія сумненьні, як ён перамог слабасьць, як праявілася моральная сіла, ужо не пакідаўшая яго да самае сьмерці“.

Але заўсёды гэтыя два іменьні Р. Люксэмбург і К. Лібкнэхт неразрыўна злучаліся ў адзіным рэволюцыйным дзеяньні, як злучаліся яны да канца жыцьця з 2-га сьнежня 1914 г. Гэта яны ў пэрыод вайны абярнуліся ў адны мазгі і адно сэрца Германскае рэволюцыі, і калі Лібкнэхт уяўляў сабою нязвычайнае, палаючае полымем каханьня к чалавецтву, поўнае героізму сэрца, то Роза Люксэмбург уяўляла сабою геніяльныя мазгі выдатнейшай эпохі сусьветнае гісторыі канца XIX і пачатку XX веку.

Н. Бухарын кажа, што яна была „самаю геніяльнаю жанчынаю з усіх, што жывуць.“ І калі Н. Бухарын кажа, што „пройдуць вякі і тысячалецьці, пазабываюцца імёны палкаводцаў і каралёў, але выдатная фігура Лібкнэхта не забудзецца ніколі; яе цень будзе стаяць на мяжы дзьвёх сусьветных эпох вечна. Дзеці ў школах будуць знаць гэта імя, бо К. Лібкнэхт—гэта змагаючыся, бунтарны, непаддатны, бясстрашны пролетарыят“,—то гэта ацэнка павінна быць цалкам перанесена і на Розу Люксэмбург.

Калі-б на долю Розы Люксэмбург ня выпала ніякае іншае задачы, апрача тэй, якую яна разам з К. Лібкнэхтам выканала 2-га сьнежня 1915 г., усё-ткі яе ймя надоўга засталося-б у гісторыі сярод іменьняў найвялікшых герояў.

---

[1]) Кароль Радэк—„Роза Люксембург“ і т. д., стар. 46.

Але галасаваньне 2-га сьнежня—гэта была вяршыня, к якой Р. Люксэмбург падымалася на працягу чвэрці веку, уступіўшы на гэты шлях проста з школьнае лаўкі, з якой яна зышла вельмі рана.

II

Радзілася Роза Люксэмбург у маленькім гарадку Замосьці Люблінскай губ., у тэй часьці Польшчы, якая ўваходзіла ў склад быўш. Расійскае імпэрыі, 5 мая 1871 г., якраз цераз сем год пасьля задушэньня польскага паўстаньня 1863 г. і ўсіх тых вынікаў, якія гэта паўстаньне пацягло за сабою, і якраз у тыя дні, калі буржуазная Францыя злосна абстрэльвала першую ў сьвеце пролетарскую дзяржаву—паўстаўшую Комуну г. Парыжу, а на галаве прускага караля Вільгэльма I толькі што зазьзяла карона імпэратара Германіі, пачала сваё існаваньне Германская імпэрыя. Калі прыняць пад увагу, што ў сувязі з гэтым вызначылася самастойнае дзяржаўнае існаваньне Аўстрыі, а ў 1870 г. склалася ў адзіную дзяржаву з сталіцаю Рымам—Італія, то ўсё гэта з выстарчаючаю яснасьцю будзе казаць аб тым, што закончылася адна з доўгіх і цяжкіх эпох гісторыі Эўропы—эпоха складваньня ў агні і крыві буржуазна-нацыянальных дзяржаў. 1870 год Кароль Маркс адзначыў, як паваротны момант у гісторыі барацьбы рабочае клясы, указваючы на створаную Германскую буржуазную імпэрыю, як на цэнтр сусьветнага соцыялістычнага руху. Нарэшце, семідзесятыя гады XIX веку—пачатак эпохі імпэрыялізму, паваротнага пункту ва ўсім сусьветным разьвіцьці. Вось тыя важнейшыя абставіны, якія вызначылі жыцьцё і лёс Розы Люксэмбург.

Яна радзілася ў той час, калі капіталізм дасягаў апогею свайго разьвіцьця і разам з тым сваёй эксплёатацыі і прыгнечаньня мільённых чалавечых мас на абшары ўсяе земнае кулі.

Раньнія дзіцячыя гады яна правяла ў Люблінскай губ., у т. зв. Холмшчыне,—месьце такога зьдзеку расійскага самаўладзтва і праваслаўя над душою і сумленьнем сялянства, яшчэ адно якое ня лёгка знайсьці ва ўсёй Эўропе. Юнацкія гады яна правяла ў гімназіі ў Варшаве, у гады дзікага і бессансоўнага, выклікаўшага абурэньне, гвалту расійскага самаўладзтва над польскаю нацыянальнасьцю, над яе моваю і культураю. Яна дыхала клекатаўшым вакол яе абурэньнем, яна ўчытвалася ў гісторыю многапакутнага, тройчы прыгнечанага і сваімі і чужымі польскага сялянства, яна дыхала гневам паўстаньняў 30-га і 63-га гадоў, атмосфэрай вялікай, сударажна напружнай волі к свабодзе, тэй традыцыяй самаахвяраваньня дзеля свабоды, якую параджаў уціск і якая выхоўвала з палякаў барацьбітоў 48 году ва ўсёй Эўропе і вялікіх палякаў, парыскіх комунараў 1871 г. Гэта традыцыя самаахвяраваньня дзеля свабоды прасякла ўсю істоту Розы Люксэмбург і зрабіла яе адным з найбольшых рэволюцыянэраў усіх часоў і народаў, бо першая, галоўная рыса яе характару—рэволюцыйнасьць; сэнс, мэта, зьмест яе жыцьця—няўхільная рэволюцыя супроць уціску, рэволюцыя рушыць яе геніяльную думку.

Калі Р. Люксэмбург па сканчэньні гімназіі ў Варшаве ў 1886 г. ішла на арэну польскага грамадзкага жыцьця, у пануючых колах польскае інтэлігенцыі, выказчыцы інтарэсаў нарадзіўшайся польскай буржуазіі, дзякуючы прычынам, якія пазьней яскрава выясьніла Р. Люксэмбург, у вадносінах да расійскага самаўладзтва панаваў згодніцкі настрой, які ў сярэдзіне 90-х гадоў выліўся ў подлае і мізэрнае поўзаньне перад ім і перад асобаю расійскага імпэратара. І тады, калі значныя кадры раней рэволюцыйных элемэнтаў цягнуліся ў хвасьце за гэтым буржуазна-згодніцкім рухам, калі нават найбольш палкая моладзь абагатварала выказчыкаў гэтае згодніцкае політыкі Аляксандра Сьвентахоўскага, Баляслава Пруса, Элізы Ожэшка, Пятра Хмялеўскага, Розу прыцягаў да сябе мяцежны дух Адама Міцкевіча ў польскай і Шыльлера ў германскай літаратуры. З раньніх гадоў у ёй ні на мінуту не пагасаў рэволюцыйны дух. Але яна ўвабрала ў сябе старую рэволюцыйную традыцыю для новых рэволюцыйных баёў.

Рэволюцыя, бура рэволюцыі—гэта страшэнная сіла. Але можа быць болей страшнаю сіла традыцыі: яна схватвае, апутвае, скоўвае нават самую рэволюцыю. О, як далёка ўнесена было-б чалавецтва на крылах рэволюцыі, калі-б нават у самыя грозныя рэволюцыйныя моманты крыла рэволюцыі ня сьцягвала традыцыя! Вялікая Француская Рэволюцыя, адзетая ў тогу рымскіх герояў, з правобразамі Брутаў, Касіяў Гракхаў перад вачыма, Парыская Комуна з якобінскай шапачкаю на галаве і комунар, які разгортвае пад грымоты т'ераўскіх гармат кніжку гісторыі Вялікай Французскай Рэволюцыі з надзеяю найсьці адказ на выклікаючыя мукі пытаньні сягонешняга дня.

Лясаль, Маркс, Энгельс, Бакунін, Блянка і шмат іншых,—вялікая пляяда людзей 48-га году, народжаных бураю рэволюцыі, асьвятлёных чэрвенскімі барыкадамі Парыжу,—яны разам з рэволюцыяй адбілі бляск на ўсю далейшую гісторыю Эўропы. І пры бляску гэтае рэволюцыі зарадзілася і новая, другая пляяда рэволюцыянэраў, якія прадоўжылі справы Лясаля, Маркса і Энгельса. Але, як гэта ні здаецца незразумелым, рэволюцыйныя пасьлядоўцы Маркса ня вызваліліся ад таго, ад чаго вызваліць іх і рэволюцыю марыў Маркс, стварыўшы сваю вялікую матэрыялістычную дыалектыку,—ад традыцыі, якая скоўвае рэволюцыю. Традыцыя 48-га году навісла над усімі рэволюцыйнымі зьявішчамі Эўропы канца XIX і пачатку XX веку, ня гледзячы на тое, што 60-ыя і 70-ыя гады адзначаюць вялізарныя зьмены ў грамадзкім жыцьці Эўропы, якія як-бы ўсім, здавалася, кідаліся ў вочы, але вельмі мала хто здолеў зрабіць належныя вывады. Вялізарнейшыя дасягненьні ў гэтым напрамку належаць У. І. Леніну, а сьледам за ім ідзе Роза Люксэмбург. Мы не дарма адзначылі дату нараджэньня Розы Люксэмбург, як паваротную дату ў сусьветнай гісторыі, затым што Розе Люксэмбург ва ўсіх яе спрэчках з непасьпяваўшымі за ёю сябрамі альбо з не хацеўшымі паддацца бегу рэволюцыі праціўні-

камі прыходзілася казаць—„так, гэта было рэволюцыйна, але ў 48-м годзе, пасьля яго—гэта рэакцыйна цяпер“. „Так—гэта было правільна, але да эпохі імпэрыялізму—але гэта ніколькі не адпавядае рэчаіснасьці цяпер“. „Так,—казала яна старым польскім рэволюцыянэрам і маладым іх пасьлядоўцам,—вашы тэорыі былі правільныя да паўстаньня 1863 г., да вызваленьня польскіх сялян, да стварэньня польскае буржуазіі, і ў іх няма ані грану ні жыцьцёвасьці, ні рэволюцыйнасьці цяпер, пасьля ўсіх гэтых грамадзкіх зьмен“. Усё жыцьцё змагаўся Ленін проці бессансоўнага паўтарэньня рэволюцыйных задоў і агалашэньня рэволюцыйных ісьцін, складзеных з непераваранах абрыўкаў старых кніг. Тую-ж работу выконвала, зразумела менш удатліва і менш геніяльна, Роза Люксэмбург. Вось чаму стары рэволюцыйны дух служыў у ёй для новых рэволюцыйных баёў і паказваў новыя рэволюцыйныя шляхі тым, хто йшоў за ёю.

Яшчэ на гімназычнай лаўцы яна знаёміцца з асновамі марксызму і паддаецца ўплыву асновапаложнікаў марксыцкага руху ў Польшчы, якія зьявіліся аднячасна з тым, як толькі стала расьці буржуазія і разам з ёю рабочая кляса Польшчы. Як прускі юнкер Бісмарк зьявіўся душапрыказчыкам германскае рэволюцыі 48 га г., узяўшы з стала франкфурцкага парляманту конституцыю з агульным выбарным правам, якую ён палажыў у васнову дзяржаўнага ладу Германскае імпэрыі, так расійскае самаўладзтва стала душапрыказчыкам самых рэволюцыйных элемэнтаў польскага паўстаньня 1863 г. і санкцыянавала ў 1864 г. агалошаныя разьбітым расійскімі войскамі Народовым Жондам 1863 г. адмену паншчыны і надзяленьне сялян зямлёю. Гэта аграрная рэформа ў Польшчы, як аграрная рэформа 1861 г. ў Расіі, стварыла магчымасьці разьвіцьця буржуазнай прамысловасьці ў Польшчы, якая шпаркімі крокамі йдзе наперад, апіраючыся на вялікі расійскі рынак, пасьля таго, як у тым-жа 1864 г. была скасована мытная мяжа паміж Польшчаю і Расіяй. Ужо ў 1881 г. асобныя соцыялістычныя гурткі Польшчы зьліваюцца ў організацыю „Пролетарыят“, якая імкнецца зьвязаць сваю дзейнасьць з дзейнасьцю расійскіх народнікаў.

Якраз у 1884 г., цераз год пасьля таго, як асновапаложнікі расійскага марксызму з Пляханавым на чале ўтвараюць ў Жэнэве групу „Освобождения Труда“, адзначаючы гэтаю організацыяй пачатак вызваленьня рабочага руху ад антымарксыцкіх, народніцкіх і нацыяналістычных элемэнтаў, польскія соцыялістыя, група „Пролетарыят“, уступаюць у організацыйную сувязь з партыяй „Народной Воли“ і дзеляць з ёю індывідуальна-тэрорыстычную работу.

Якраз у 1885 г., калі ўжо ў межах Расіі ствараецца сапраўдная марксыцкая організацыя ў выглядзе першай соцыял-дэмократычнай групы Благоева і зьяўляецца першы нумар соцыял-дэмократычнай газэты „Рабочий“, польскі рабочы соцыялістычны рух церпіць страшэннае разбурэньне ад расійскай поліцыі, у выніку якога лепшыя соцыялістыя паве-

шаны, а большы лік высылаецца ў Сібір. Але гэты рух, ня гледзячы на ўсе няшчасьці, якія ён перажывае, ужо мае наперадзе вялікія пэрспэктывы, на якія паказваюць забастоўкі і беспарадкі рабочых у зьявіўшыхся рабочых цэнтрах, як Лодзь, Жырардава, Пабіаніцы і г. д.

Поруч з гэтым рабочым соцыялістычным рухам, будучым соцыялдэмократычным рухам Польшчы, які вызваліўся ад старых народніцкіх і нацыяналістычных элемэнтаў старое польскае рэволюцыйнасьці, ішоў другі—дробна-буржуазны соцыялістычны рух, наскрозь нацыяналістычны і шовіністычны.

Паміж гэтымі дзьвюма плынямі й апынулася Роза Люксэмбург.

III

Процэс разьвіцьця творчых і грамадзкіх сіл эўропэйскага грамадзтва з канца XVIII і пачатку XIX веку ішоў у кірунку перамогі фэўдалізму—улады зямельнай арыстократыі, зьнішчэньня ўсіх фэўдальных перажыткаў. Уперадзе па шляху буржуазнага разьвіцьця йшла Англія; скончыўшы з фэўдаламі, уступіла ў XIX веку Францыя, у той час, як у Польшчы ў імя захаваньня свайго становішча вышэйшая польская фэўдальная арыстократыя, уступіўшы ў саюз з прыгоньніцкай Расіяй, юнкерскай Прусіяй і рэакцыйнай Аўстрыяй, дала магчымасьць разарваць на часткі былую Рэч Паспалітую. Цяпер кругавая парука ў інтарэсах бязьлітаснай эксплёатацыі народных мас цэнтральнае Эўропы зьвязала на жыцьцё і сьмерць фэўдалаў чатырох нацыянальнасьцяй, а разарваная на часткі Польшча была сымболем фэўдальнага прыгнечаньня ў Эўропе. Вось чаму ўсякі вызваленчы рух у Эўропе падымаў пытаньне аб адраджэньні і адбудаваньні Польшчы, а Маркс справядліва пісаў Энгельсу 2 сьнежня 1856 г., што сіла і жыцьцёвасьць усіх рэволюцый з 1789 г. азначаецца іх адносінамі да Польшчы. Польшча—гэта іх знадворны тэрмомэтр [1]). Уся замежная політыка рабочага руху кружылася вакол польскага пытаньня, і Энгельс у 1886 г. пісаў, „што замежная політыка рабочых кляс у пачатку самастойнага рабочага руху можа быць рэзюмавана ў нямногіх словах: аднаўленьня Польшчы“. (Д. Разанаў. „Очерки по истории марксизма“. Выд. „Московский Рабочий“. 1923 г., стар. 630).

Не дарма польскае паўстаньне 1830 году спаткала гарачы водгук у сэрцах усіх прадстаўнікоў рабочага руху Эўропы; не дарма польскае пытаньне йграла такую вялікую ролю ў рэволюцыі 48 г., а пролёгам к ёй было Кракаўскае паўстаньне 1846 г.; не дарма, нарэшце, міжнародны пролетарыят адчуў задушэньне польскага паўстаньня 1863 г., як асабіста яму нанесены ўдар, і яскрава выказаў сваю міжнародную солідарнасьць, а самы гэты факт як-бы стаў прычынаю к ўтварэньню І Інтэрнацыяналу

[1]) К. Маркс і Ф. Энгельс.—„Письма“. Выд. „Моск. Рабоч.“. М. 1923 г., стар. 66.

Сам Маркс намагаўся ў 1864 г., каб І Інтэрнацыянал уключыў у сваю праграму аднаўленьне Польшчы.

Але цікава тое, што яшчэ ў 1851 г. ў пісьме к Марксу Энгельс выказвае тую думку, што польскае пытаньне ў міжнародным рабочым руху ня будзе траціць свайго значэньня толькі да таго часу, пакуль Расія ня будзе захвачана аграрнай рэволюцыяй [1]). І сапраўды, з таго часу, як Расія ўступіла на шлях буржуазнага разьвіцьця пасьля 1861 г. і пацягла за сабою на гэты-ж шлях Польшчу ў 1864 г., пытаньне аднаўленьня Польшчы ўсё больш стала траціць сваю актуальнасьць у рабочым руху, і на Жэнэўскім конгрэсе І Інтэрнацыяналу (1866 г.) ня было ўхвалена ніякае рэзолюцыі ў пытаньні аб нацыянальна-дзяржаўным аднаўленьні Польшчы. Конгрэс выказаў толькі пажаданьне, што рост і распаўсюджаньне Міжнароднага Грамадзтва Рабочых самі па сабе вызавуць да жыцьця соцыялдэмократычную Польшчу [2]). Абедзьве здагадкі, як выказаная Энгельсам, так і конгрэсам І Інтэрнацыяналу 1866 г., цалкам апраўдалі сябе, і ўжо ў 1880 г. на міжнародным зьезьдзе, скліканым у 50-летнюю гадавіну лістападаўскага паўстаньня 1830 г., прадстаўнік сапраўды рэволюцыйнага рабочага руху Польшчы, асновапаложнік польскае соцыял-дэмократыі і першы настаўнік марксызму Розы Люксэмбург, Людовік Варынскі закончыў сваю прамову наступнымі словамі: „Мы лічым сябе сынамі аднаго вялікага народу, значна больш няшчаснага, чым Польшча—народу пролетараў... І калі настане час узброенага паўстаньня, нас будуць вітаць тады ўжо ня воклічамі „Няхай жыве Польшча“ ці „Прэч Расію“, але адным крыкам, агульным пролетарам усяго сьвету: „Няхай жыве соцыяльная рэволюцыя“.

Такая была база новай пролетарскай рэволюцыйнасьці. Нацыяналістычныя выкрыкі засталіся ўдзелам старога дробна-бурзуазнага ахварбованага ў соцыялізм руху. Роза Люксэмбург з самага пачатку стала на гэту новую базу і першаю справаю яе жыцьця было апраўдаць гэтую новую базу.

Уціск усякіх соцыялістычных гурткоў у Варшаве ўдарыў і па Розе Люксэмбург, і яна прымушана была, нелегальна перабраўшыся цераз граніцу, уцякаць у Швайцарыю і прадоўжваць сваю адукацыю ў Цюрыхскім унівэрсытэце. Для рэволюцыйнага характару і розуму Розы Люксэмбург акадэмічныя рамкі ўнівэрсытэцкіх заняткаў і навукі былі зусім няпрыгодны, і яна ў вельмі спрыяючай, насычанай гутаркамі аб соцыялізьме, эмігранцкай атмосфэры Швайцарыі аддаецца вывучэньню марксызму па работах яго тварцоў і лепшых пасьлядоўцаў і тэорэтыкаў.

У 1892 г. зьезд польскіх соцыялістых у Парыжы ўвосень 1892 г. робіць спробу ўтварыць адзіную соцыялістычную організацыю і закладвае пачатак польскае соцыялістычнае партыі (ППС), якая ўключае ў

[1]) К. Маркс і Ф. Энгельс—„Письма“. Выд. „Моск. Рабоч.“ М. 1923 г., стар. 66.

[2]) Разанаў—„Очерки по истории марксизма“, стар. 631.

сваю програму патрабаваньне незалежнасьці Польшчы. Існасьць програмы, формуляванай у 1893 г., характарызуецца наступнымі палажэньнямі: „Польская соцыялістычная партыя ў якасьці політычнай організацыі польскае рабочае клясы, якая вядзе барацьбу за вызваленьне ад ярма капіталізму, імкнецца перш-на-перш к зьнішчэньню сучаснага політычнага прыгону і к заваяваньню ўлады для пролетарыяту. У гэтым імкненьні мэтаю яе зьяўляецца незалежная дэмократычная рэспубліка, політычная і экономічная організацыя якое зьдзяйсьняла-б патрабаваньні, выстаўляемыя ўсім міжнародным соцыял-дэмократычным лягерам. Польская соцыялістычная партыя ня бачыць магчымасьці зьдзяйсьненьня якога-небудзь з пунктаў сваёй програмы, пакуль Польшча знаходзіцца пад дубальтовым уціскам: расійскага заваяваньня і самаўладзтва. Адзіны выхад з гэтага становішча — гэта рэволюцыя, узброенае паўстаньне, для якога трэба паступова падрыхтаваць усе сілы пролетарыяту“ [1]).

Гэты лёзунг незалежнасьці Польшчы, як больш блізкая мэта рабочага руху, выклікаў протэст сапраўды рэволюцыйных марксыстых, і ў тым-жа 1892 г. ў Цюрыху організуецца гурток соцыял-дэмократыі расійскай Польшчы, у які разам з Ю. Мархлеўскім, Адольфам Варскім, Ратынскім, Весялоўскім (Карскім), Лео Іогіхесам (Тышко) увашла і Роза Люксэмбург. Гэта група адыграла такую-ж вялікую ролю ў разьвіцьці польскае соцыял-дэмократыі, як расійская група „Освобождение Труда“ ў разьвіцьці расійскай соцыял-дэмократыі; Пляханавым гэтае групы была Р. Люксэмбург. З 1893 г. па 1898 г. яна ўсёю палкасьцю свайго тэмпэраманту аддаецца барацьбе з старым лёзунгам незалежнасьці Польшчы, як лёзунгам пролетарскае рэволюцыі, выкрываючы ўсю лжывасьць яго для пролетарскае рэволюцыі, змагаючыся з прыхільнасьцю да старых рэволюцыйных прынцыпаў, якія мелі вялікі ўплыў на масы і цяпер абярнуліся ў рэволюцыйныя сказы. Гэтай мэце служылі дзесяткі артыкулаў у польскім і міжнародным соцыял-дэмократычным друку, гэтай-жа задачы служыла выданая ў 1896 г. кардынальная навуковая праца, якая адначасна была і доктарскай дысэртацыяй для атрыманьня унівэрсытэцкага дыплёму — „Прамысловае разьвіцьцё Польшы“. Да чаго складаная была барацьба Розы Люксэмбург, можна бачыць з таго, што нават такія асобы, як Вільгэльм Лібкнэхт, „верныя“, — як кажа К. Радэк, — уласьціваму старой дэмократыі лёзунгу незалежнасьці Польшчы і няздольныя зразумець контр-рэволюцыйны сэнс гэтага лёзунгу ў данай гістарычнай сытуацыі пролетарскае клясавае барацьбы, не разумелі польскіх соцыял-дэмократаў, якія былі без спачуваньня спатканы на міжнароднай соцыялістычнай арэне. Так, — Er war ein harter Stuck (гэта быў цьвёрды кавалак), як кажуць немцы, але ў Розы Люксэмбург былі моцныя сківіцы і вострыя зубы.

[1]) „Сто лет борьбы польского народа за свободу“ — складзена пад рэдакцыяй Ю. Падзьвінскага. Выд. Масква 1907 г.

Усё цячэ, усё зьмяняецца,—казала Роза Люксэмбург,—а вы, што лічыце сябе марксыстымі, не заўсёды заўважваеце тыя вялізарнейшыя зьмены, якія адбываюцца вакол вас, і дзейнічаеце пад уплывам старых ідэй і паняцьцяў.—„З таго часу, як аб'яднаньне Польшчы было агалошана постулятам міжнароднай політыкі пролетарыяту, шмат што зьмянілася. Політычнае становішча Эўропы стала зусім іншым. І тактыка змагаючагася пролетарыяту стала цяпер таксама іншаю[1]“). Вось характэрны пачатак артыкулу Розы Люксэмбург, напісанага ў 1895 г. Далей яна рысуе новы твар Расіі: „На шчасьце шмат што перамянілася і ў Расіі; цяпер яна ўжо ня тая, як-бы абсолютна амярцьвеўшая соцыяльна краіна, якою яна здавалася яшчэ трыццаць год таму назад. Цяпер фундамант яе абсолютызму падкопвае малады крот — капіталізм, а гэта дае гарантыю зьнішчэньня абсолютызму з сярэдзіны. Цяпер у Расіі ёсьць ня толькі штыхі, але пролетарыят, які пачынае змагацца, а гэта верная забясьпека наступнага вызваленьня Эўропы ад тых жудасьцяй пецярбурскага самаўладзтва, што ўціскае Эўропу, з другога боку, польскія пролетары зьяўляюцца вернымі саюзьнікамі сваіх расійскіх братоў у іх заўсёднай барацьбе, за політычную свабоду ў іх агульным астрозе.

У цяперашні час інтарэсы міжнароднага рабочага руху, стала быць, і польскага і расійскага менш усяго прымушаюць жадаць практычна немагчымага аднаўленьня польскае клясавае дзяржавы, якое вядзе за сабою раздрабленьне сіл пролетарыяту і штурхае апошні на безнадзейны шлях нацыянальных імкненьняў. Наадварот, інтарэсы міжнароднага пролетарыяту патрабуюць злучэньня ўсіх пролетарскіх сіл у расійскай дзяржаве для барацьбы скінуць царызм“. А ўсьлед за гэтым яна рысуе зьмяніўшуюся Польшчу. Сялянская рэформа 1864 году палажыла канец шляхецка-нацыянальным паўстаньням у Польшчы. Эпілёг нацыянальнае барацьбы—„сялянская рэформа зусім зьмяніла экономічную фізыономію краіны, патрасла да аснаваньня шляхецкую гаспадарку і, такім чынам, зьнішчыла матэрыяльную падставу польскага нацыянальнага руху. У Польшчы разьвіўся капіталізм,—рольніцтва, рамесьніцтвы і гандаль апынуліся ў цеснай залежнасьці ад буйнае прамысловасьці, якая стала галоўнаю восьсю народнае гаспадаркі. Вось гэта аказалася непасрэдна злучанаю з усім капіталістычным мэханізмам расійскае гаспадаркі. Польшча і Расія сталі адным экономічным мэханізмам“. Ня ў інтарэсах капіталістычнай Польшчы адрывацца ад Расіі. У свой час, як мы бачылі, буйныя польскія фэўдалы прадалі Польшчу Расіі[2]) проці інтарэсаў дробнабуржуазнай і шляхецкай Польшчы. Вось адкуль романтыка польскага вызваленьня, без жаданьня, праўда пры ўсім дэмократызьме, праўдзіва і практычна стаць на шлях вызваленьня сялян, г. зн. абярнуць вызва-

[1]) Р. Люксэмбург — „Общественные классы в Польше и восстановление Польши“

[2]) „Ніякае іншае дваранства ня ўхітрылася так глупа прадаць сябе расійцам, як гэта зрабілі палякі“—Энгельс у лісьце к Марксу 21-IV-1863 г.

ленчы рух Польшчы ў сапраўдны нацыянальны рух. Карэньні пад гэтым рухам вырваны і вызваленьнем сялян, і зьяўленьнем капіталізму і буржуазіі, інтарэсы якое зьліваюцца з інтарэсамі расійскага капіталізму. Шляхта сходзіць на нішто, — у чыіх-жа інтарэсах паправіць старую подласьць і старыя памылкі фэўдалаў? У інтарэсах зусім новае групы польскага насяленьня,—якая ніяк не вінавата была ў старых грахох,—польскага пролетарыяту, заявілі дробнабуржуазныя соцыял-патрыоты (гэтая так распаўсюджаная цяпер назва зьявілася якраз тады).—Ні ў якім разе, адказала Роза Люксэмбург, дый ня можа ён зьдзейсьніць, калі-б ён гэту задачу сабе і паставіў, раней, чым ён дойдзе да соцыялізму. Не зацікаўлены, дзякуючы таму, што ў яго няма канечнай патрэбы, адну буржуазную дзяржаву, адзін апарат для панаваньня над ім і эксплёатацыі яго замяняць другім, ён можа толькі змагацца за найлепшае зьдзяйсьненьне дэмократычных прынцыпаў унутры тэй буржуазнай організацыі, у якой ён цяпер знаходзіцца і, стала быць, выступаць разам з пролетарыятам Расійскае імпэрыі. Немагчыма зьдзейсьніць затым, што буржуазная Польшча і буржуазная Расія складаюць адно цэлае, адзін саюз для эксплёатацыі мас, якія насяляюць Расійскую імпэрыю, а затым, пры жаданьні іх разьяднаць і выдзеліць Польшчу, рабочая кляса павінна выступіць супроць буржуазіі наогул і, перамогшы буржуазію, зьдзейсьніць нацыянальную польскую ідэю; але тады гэта ўжо будзе не стварэньне буржуазнадэмократычнай, як аб гэтым думаюць соцыял-патрыоты, а соцыялістычнай Польшчы, і тады соцыялістычныя задачы стаяць наперадзе нацыянальных.

Гэта барацьба Розы Люксэмбург унутры польскае соцыял-дэмократыі выклікала ўзбурэньне ва ўсім інтэрнацыянальным соцыялістычным руху і паслужыла асноваю для агульных вывадаў аб адносінах пролетарыяту да дробна-буржуазных нацыянальна-вызваленчых рухаў у капіталістычнай Эўропе. Вось як гэтыя вывады формулюе К. Радэк: „Утварэньне капіталістычных дзяржаў зьяўляецца гістарычнаю задачаю буржуазіі, органам улады якое можа быць толькі капіталістычная дзяржава. Задача пролетарыяту заключаецца ў тым, каб весьці барацьбу за дэмократыю на глебе існуючае ўжо капіталістычнае дзяржавы. Узброены дэмократыяй, яшчэ слабы пролетарыят організуецца і атрымлівае асьвету, каб потым, калі яго сілы значна вырастуць, пачаць барацьбу за дыктатуру, як за сродак свайго вызваленьня. Гэты пункт погляду, устаноўлены Розаю Люксэмбург, у выніку барацьбы за азначэньне програмы польскае рабочае клясы дваццаць год пасьля стаў выходным момантам імкненьня пролетарыяту к свайму ўласнаму адраджэньню пасьля краху II Інтэрнацыяналу“[1]). Спачатку, пры яўна варожых адносінах нават з боку перадавых элемэнтаў соцыялізму, ня выключаючы і такіх асоб, як Ф. Энгельс, а

[1]) К. Радэк—„Роза Люксембург, Карл Либкнехт, Лео Иогихес“, стар. 16.

потым пры нядбалых з іх боку адносінах, Роза Люксэмбург выкрыла існасьць соцыял-патрыотызму і соцыял-опортунізму, раней чым ён ахапіў германскую, францускую і іншыя эўропэйскія соцыял-дэмократычныя партыі. А калі гэтае зло шырока разьлілося па Эўропе, усе довады проці яго чэрпаліся з багатага арсэналу Розы Люксэмбург. Гісторыя цалкам апраўдала ўсе яе прогнозы, калі ў часе імпэрыялістычнай вайны польская буржуазія разьбілася на тры роўнапатрыотычныя групы—аўстрыйскую, прускую і расійскую, яшчэ больш пасьля вайны, калі выявілася ўся слабасьць і гаспадарчае бясьсільле Польшчы, адарванай ад сваіх ранейшых мэтраполій—„незалежнай" Польшчы, колёніі эўропэйскага капіталізму.

Трэці Цюрыхскі зьезд ІІ-га Інтэрнацыяналу ў 1893 г. адмаўляецца прызнаць організацыю, якая дэлегуе на зьезд Розу Люксэмбург у якасьці прадстаўніка, і ня лічыць патрэбным сур'ёзна абгаварыць палажэньні, якія яна высунула.

Чацьверты Лёндонскі зьезд 2-га Інтэрнацыяналу прымае Розу Люксэмбург, як поўнамоцную дэлегатку і гэтым прызнае грамадзкае значэньне тых плыняй у польскім пролетарыяце, прадстаўніком якіх яна зьяўляецца.

У 1900 г., прабіўшыся цераз усе перашкоды, соцыял-дэмократычны рух Польшчы выліваецца ў моцную і з цягам часу ўсё ўзмацняючуюся організацыю соцыял-дэмократыі Царства Польскага і Літвы, якая ў тым-жа годзе на пятым Парыскім конгрэсе ІІ Інтэрнацыяналу канчаткова ўваходзіць поўнапраўным членам у міжнароднае соцыялістычнае аб'яднаньне. Унутры Польшчы ў яе ўваходзяць усе сапраўдна пролетарскія рэволюцыйныя элемэнты, яна прызнаецца сапраўднай рэволюцыйна-соцыялістычнай організацыяй рэволюцыйна-соцыялістычнымі элемэнтамі Расійскай соцыял-дэмократыі і грае буйнейшую гістарычную ролю ў барацьбе і з расійскім самаўладзтвам і з расійскай буржуазіяй. Польскі соцыял-дэмократычны рух зьліваецца таксама з рэволюцыйна-соцыялістычным рухам Аўстрыі і Германіі.

Гэта становішча польскае соцыял-дэмократыі нязвычайна ўскладняла дзейнасьць партыі, патрабавала вялікіх тэорытычных здольнасьцяй, уменьня разьбірацца ў надзвычайна markedнастайных абставінах і выпадках і надзвычайна напрактыкавала розум Р. Люксэмбург. Фактычна яна мела непасрэдныя адносіны і прымала больш ці менш актыўны ўдзел у рабоце ўсіх чатырох соцыял-дэмократычных організацый, апрача непасрэднай работы ў органах ІІ Інтэрнацыяналу.

## IV

У германскай соцыял-дэмократыі Р. Люксэмбург непасрэдна сутыкнулася з тэй плыньню, якой абвясьціла заядлую вайну, як толькі гэта плынь пачала рабіць першыя спробы ідэёвага і організацыйнага ўплыву на рабочыя масы,—гэта плынь, якая ўвашла ў гісторыю пад назваю рэ-

формізму, рэвізыонізму, опортунізму і пачатак якое зьвязаны з імёнамі Фольмара і Эдуарда Бэрнштэйна.

Барацьба з рэвізыонізмам складае галоўны зьмест дзейнасьці Р. Люксэмбург ад 1898—1914 г. г., калі тэорытычная барацьба закончылася тым, што рэвізыонізм быў асуджаны на шостым Амстэрдамскім зьезьдзе II Інтэрнацыяналу, а да гэтага на Дрэзьдзенскім зьезьдзе германскай соцыял-дэмократычнай партыі.

Асноўныя працы Р. Люксэмбург, накірованыя проці рэвізыонізму, не ўяўляюць ня толькі шматтомнае працы, але нават і аднаго солімнага тому, а зьмяшчаюцца ў невялічкай у сто з лішкам старонак брошуры, якая разам з тым варта многіх і многіх тамоў. З характэрнай для яе яснасьцю і рашучасьцю думкі, сьмеласьцю і конкрэтнасьцю мовы яна выяўляе антыпролетарскі, антымарксыцкі зьмест рэвізыонізму і выяўляе яго, як тэорыю, якая адарвалася ад конкрэтнай матэрыялістычнай асновы і ад клясавае базы марксызму пролетарыяту. Выканаўшы гэту задачу, яна з нязвычайнаю відавочнасьцю выяўляе тую сапраўдную базу, на якой стаіць рэвізыонізм.

Рэвізыонізм крытычна разгледзеў асноўныя палажэньні марксызму, якія надаюць гэтаму вучэньню тэорыю пролетарскай рэволюцыі і ўказваюць іменна на рэволюцыю, як на гістарычна канечную ступень для пераходу ад грамадзтва капіталістычнага к грамадзтву соцыялістычнаму, на рэволюцыю, якая можа і павінна быць падбліжана пролетарыятам пры дапамозе ўпартае клясавае барацьбы.

Гэтая завяршаючая разьвіцьцё капіталістычнага грамадзтва вялізарнейшая соцыяльная рэволюцыя прыдзе як вынік анархіі капіталістычнай вытворчасьці і пэрыодычных крызісаў, якія параджаюцца ёю. Проці вучэньня аб рэволюцыі і красе капіталізму Бернштэйн выставіў вучэньне аб дапасаванасьці капіталізму, пры якой ён зможа ўхіліцца раптоўнага крызісу, які спыняе вытворчасьць; разам з тым адпадае і яго вынік— рэволюцыя, а дзеля гэтага ўся барацьба рабочае клясы, якая орыентуецца на рэволюцыю, павінна орыентавацца на паступовыя рэформы, на паступовыя зьмены капіталістычнага ладу ў бок соцыялізму, на „вростание“ соцыялізму ў капіталізм.

„Соцыялізм чэрпае сваё навуковае абаснаваньне,—кажа Р. Люксэмбург, супярэчачы рэвізыоністым,—у трох асноўных тэндэнцыях капіталістычнага разьвіцьця: перш-на перш, ва ўзмацняючайся анархіі капіталістычнае гаспадаркі, якая вядзе няўхільна да пагібелі, падругое, у аграмаджаньні вытворчага процэсу, якое стварае станоўчы выходны пункт для пабудаваньня соцыялістычнага ладу і, патрэцяе, у растучай сіле і клясавай сьвядомасьці пролетарыяту, які зьяўляецца фактарам маючага адбыцца перавароту!

„Першую з пералічаных галоўных асноў навуковага соцыялізму Бернштэйн адхіляе. Ён упэўняе, што капіталістычнае разьвіцьцё ня йдзе

насустрэч усеагульнаму гаспадарчаму краху. Але гэтым ён адмаўляе ня толькі азначаную форму зьнікненьня капіталістычнага ладу, але й самую магчымасьць яго зьнікненьня. У такім выпадку, зьяўляецца важнае пытаньне, чаму і якім чынам мы наогул прыдзем да канчатковай мэты нашых імкненьняў. У якасьці абаснаваньня соцыялізму застаецца толькі клясавая сьвядомасьць пролетарыяту. Гэтым шляхам мы атрымліваем абаснаваньне соцыялістычнай праграмы пры дапамозе „чыстага пазнаньня", або, прасьцей кажучы, ідэалістычнае абаснаваньне."[1])

Бернштэйн паказвае на цэлы шэраг фактаў, якія Марксам і першымі пасьлядоўцамі марксызму ня былі прыняты пад увагу поўнасьцю, паколькі яны яшчэ невыстарчаюча разьвіліся і ня выявілі свайго грамадзкага значэньня, альбо якія зьявіліся толькі ў апошні час; такія—разьвіцьцё крэдыту і яго новыя формы, соцыяльнага законадаўства, профсаюзаў, шляхоў, а асабліва шляхоў зносін і, нарэшце, як-бы паменшваючая анархію капіталістычнае вытворчасьці згода паміж капіталістычнымі прадпрыемцамі ў выглядзе сындыкатаў, трэстаў, картэляў і г. д. З надзвычайнай яснасьцю і лёгічнасьцю Роза Люксэмбург давяла, што гэтыя зьявішчы ніколькі не адмаўляюць рэволюцыйную тэорыю марксызму, але падцьвярджаюць яе пры дастасаваньні к ім правільнага марксыцкага досьледу. Рэвізыонізм ёсьць, апрача ўсяго іншага, няўменьне скарыстаць марксыцкія мэтоды да вывучэньня новых гістарычных і экономічных зьявішчаў.

Практыка працы ў партыі навучыла Розу Люксэмбург разумець, што атрымліваць адны тэорытычныя перамогі мала, што зьявішчы, якія парадзілі тэорытычны рэвізыонізм яшчэ мацней адаб'юцца на практычнай працы, тым болей, што прадстаўнікі рэвізыонізму ў нямецкай соцыял-дэмократыі, панёсшы паражэньне ў вобласьці тэорытычнай, сьвядома сталі на глебу рэвізыоніцкай практыкі, ня раз кажучы аб гэтым адкрыта.

Трэба было зрабіць вялікія і грунтоўныя зьмены ў самай структуры партыі, каб паралізаваць гэту дзейнасьць. У гэтым сэнсе Роза Люксэмбург праявіла вельмі многа энэргіі і сьмеласьці дзеяньня, але тыя, што поруч з ёю вялі энэргічную барацьбу ў галіне тэорыі, не аказаліся на вышыні тае практычнае працы, якая выплывала з рашучай крытыкі рэвізыонізму. Яна вельмі добра выясьніла, што рэвізыонізм ёсьць вынік тых зноў уліўшыхся ў соцыял-дэмократыю дробнабуржуазных, інтэлігенцка-буржуазных элемэнтаў, якія сьвядома ці несьвядома замазваюць клясавыя супярэчнасьці, а з тактыкі партыі імкнуцца адкінуць усё тое, што гэтыя клясавыя супярэчнасьці абвострывае, і ва ўсёй партыйнай працы яна ўхвацілася з нястрыманаю ўпартасьцю і палкасьцю за ўсе тыя моманты, якія служылі прычынаю абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй і якія рэвізыоністыя стараліся зьмяць, адхіліць са шляху. Цяжэй за ўсё было

[1]) Р. Люксэмбург—„Реформа или революция". Выд. Петрагр. Савет. Раб. і Кр. Дэпут. Петраград 1919 г., стар. 11, 12, 13 і 14.

тое, што групы рабочае клясы, высока кваліфікаваныя і дзеля таго знаходзіўшыяся ў прывілеяваным становішчы ў параўнаньні з рэштаю масы рабочых, ішлі за рэвізыяністымі. А з гэтае-то масы ў пераважнай большасьці і выходзілі дзеячы вялізарнага партыйнага апарату, які вельмі часта зьдзяйсьняў практыку партыйнае работы зусім ні тую, як гэта выплывала з рэзолюцый зьездаў германскай партыі і інтэрнацыянальных конгрэсаў. Гэты апарат з вялікім лікам адданых справе працаўнікоў, практычных арганізатараў, з вялікім друкам і значнымі грашовымі сродкамі ўяўляў сабою вялікую вартасьць, але разам з тым і вялікі цяжар; уяўляў сабою цэльны і складаны арганізм, які склаўся ва ўмовах мірных абставін, поўны пачуцьця самазахаваньня і, як гэта ні дзіўна, калі паглядзець на яго дзейнасьць у гістарычнай пэрспэктыве, які ставіў сваёю задачаю рэволюцыю і больш усяго яе баяўся, які адсоўваў яе кудысьці туды, у неазначаную далячыню, а цяпер займаўся ўсякімі дробнымі злабаднеўнымі пытаньнямі. Рэволюцыйныя тэорыі—зьверху, рэволюцыйныя масы—зьнізу і ўхіляючаяся ад рэволюцыйнай політыкі партыя—у цэнтры. А разам з тым Эўропа ўступала ў паласу бурных рэволюцыйных узрушэньняў. Роза Люксэмбург чуткім вухам чула гукі набліжаючайся навальніцы. Яна ведала, што рэволюцыя няўхільна. Яна ня раз казала і пісала, што рэволюцыя ня робіцца, але яна ня мела таго сьляпога, а іншы раз крывадушнага фаталізму, якім часта насычваюць марксызм, адхіляючы ўсякія суб'ектыўныя моманты з гістарычнага процэсу і пакідаючы апраўданьне марксызму на сумленьні гісторыі. Сама—чалавек бязутомна імкнуўшайся волі, яна многакратна падкрэсьлівала тыя валявыя імпульсы, якія ўключае ў сабе марксызм. Яна патрабавала, каб політычныя арганізацыі рабочае клясы і ўнутры сябе і ў рабочай клясе выкоўвалі волю к рэволюцыі, рэволюцыйную моц, дзеля таго, каб і партыя і рабочая кляса маглі сьвядома стаць на чале рэволюцыйнага руху, калі прыдзе рэволюцыя. І на кожным моманце ў дзейнасьці міжнароднага соцыялізму яна казала: „Не рабеце гэтага—вы тушыце рэволюцыйную волю“, калі яна такія дзеі заўважала, і з якою радасьцю яна вітала рэволюцыйную волю рабочае клясы ў расійскай рэволюцыі 1905 г.

V

У самы разгар барацьбы з рэвізыянізмам у германскай соцыялдэмократыі Роза Люксэмбург кідаецца ў бой з самым яскравым праяўленьнем і крайнім выказваньнем рэвізыянізму ў францускім соцыялізьме, у сувязі з уваходам, калі не са згоды. то пры яўным папусьціцельстве пераважнай часткі францускага соцыялістычнага руху, соцыялістага Мільерана ў буржуазна-лібэральнае міністэрства ў 1899 г.

Свае ўдары яна накіроўвала, галоўным чынам, па адрасу тэорэтыка францускага рэвізыянізму, выдатнейшай асобы францускай політыкі даваеннага пэрыоду Жорэса, які поўнасьцю падтрымліваў Мільерана.

Роза Люксэмбург згаджалася з тым, што для соцыялістага можа быць гістарычная патрэба вайсьці ў буржуазнае міністэрства ў надзвычайна выключных выпадках, калі гэта не такі выпадак, калі соцыялісты ў рэволюцыйны момант уступае ў буржуазнае міністэрства дзеля таго, каб з сярэдзіны яго дапамагаць яго падзеньню і расчысьціць месца для рабочага ўраду,—у такім выпадку ўваход соцыялістага ў буржуазнае міністэрства канечна патрэбны. „Але,—кажа Р. Люксэмбург,—няма сумненьня, што ў процэсе разьвіцьця, ці больш праўдзіва, заняпаду капіталістычнага грамадзтва могуць надыйсьці моманты, калі канчатковы захоп улады для прадстаўнікоў пролетарыяту яшчэ немагчымы, але ўдзел іх у буржуазным урадзе аказваецца канечна патрэбным; гэта бывае тады, калі на карце стаіць свабода краіны ці дэмократычнае заваяваньне, накшталт рэспублікі, а буржуазны ўрад ужо настолькі скомпромэтаваны і дэзорганізаваны, што ня ў моцы без падтрыманьня прадстаўнікоў пролетарыяту весьці за сабою народ. У падобных выпадках прадстаўнікі трудавога народу, само сабою зразумела, не павінны адмаўляцца ад абароны агульнае справы дзеля агульных адцягненых прынцыпаў. Але і ў гэтым апошнім выпадку ўдзел соцыял-дэмократаў ва ўрадзе павінен насіць такую форму, якая ня ўводзіла-б ні буржуазію ні народ у памылку адносна пераходнага характару і канчатковай мэты іх паводзін“. Ува ўсіх далейшых артыкулах, сабраных пазьней у кніжцы „Коаліцыйная політыка ці клясавая барацьба“, яна з відавочнасьцю не пакідаючай сумненьня, даводзіць, што ў цяперашні час найбольш пэўнае становішча, пры якім соцыялісты павінен быў-бы ўступіць у буржуазнае міністэрства для таго, каб на яго развалінах утварыць рабочы ўрад, але ні ў якім выпадку для падтрыманьня пагражаемых свабод буржуазнае дзяржавы, бо яна ясна бачыць надышоўшую эпоху закату капіталізму. Крытыкуючы трохгадовую дзейнасьць Мільерана ў буржуазным урадзе, яна паказвае, наколькі кожын крок у гэтай дзейнасьці, кожнае конкрэтнае мерапрыемства дапамагала ўмацаваньню буржуазнага парадку і білі па інтарэсах рабочае клясы і рэволюцыйных мэтах соцыялізму.

Калі Жорэс і Мільеран апраўдвалі ўваход у міністэрства, коаліцыю з лібэральнай буржуазіяй, тым, што ў сувязі з справаю Дрэйфуса і цэлым шэрагам другіх акалічнасьцяй выясьнілася небясьпека для існаваньня Францускай рэспублікі і буржуазна-дэмократычных асноў гэтае рэспублікі, пад напорам монархічных, антысэміцкіх, чорнасотніцкіх, клерыкальных элемэнтаў Францыі, то Роза Люксэмбург выявіла, наколькі гэта рэспубліка ўяўляе сабою злучэньне і ўзгодненасьць інтарэсаў усіх пануючых груп, якія могуць іграць у антырэспубліканскую політыку, а па сутнасьці зацікаўленых у захаваньні рэспублікі, як організацыі, якая лепей усяго абараняе іх ад рэволюцыі і рабочае клясы. Яна выявіла ўсю контр-рэволюцыйную існасьць францускае дзяржавы пад маскаю рэспубліканскага дэмократызму. Жорэс спрабаваў апраўдвацца і тым,

што ўдзел социялістага ва ўрадзе дасьць магчымасьць прысьпяшыць зьдзяйсьненьне цэлага шэрагу социяльных рэформаў у інтарэсах рабочае клясы. Роза Люксэмбург паказала, наколькі гэтыя надзеі ня збыліся і не маглі збыцца; паколькі існуе буржуазная дзяржава, то ўтвораны ёю ўрад, хоць-бы і коаліцыйны, будзе абараняць інтарэсы буржуазіі, а не рабочае клясы. Калі-ж рабочая кляса і можа што вырваць у буржуазіі ў сэнсе социяльнага законадаўства, то ў выніку непасрэднай барацьбы, а не коаліцыяй з тэй ці іншай часткаю буржуазіі.

Але быў у гэтай спрэчцы для Р. Люксэмбург яшчэ адзін надзвычайна важны і можа найбольш важны момант.

Мы ўжо адзначалі, што Р. Люксэмбург не глядзела на марксызм, як раз назаўсёды застыўшую догму, а як на вучэньне, якое павінна разьвівацца на падставе таго мэтоду дыялектычнага матэрыялізму, які ў ім заложаны, на падставе падрахунку ўсіх супярэчнасьцяй гістарычнага процэсу і сытуацыі рэчаў у кожны даны момант. Вось што яна хацела сказаць, калі ў першым артыкуле па пытаньні аб уваходзе Мільерана ў міністэрства пісала, што социялістыя не павінны „адмаўляцца ад абароны агульнае справы дзеля агульных адцягненых прынцыпаў“. Але жорэсызм апраўдваў уваход Мільерана тым, што тут хоць і маецца парушэньне вучэньня марксызму і прынцыпаў марксызму, але затое гэтае часовае адступленьне ад тэорыі пакрываецца большымі, хоць і частковымі здабыткамі для рабочае клясы. Такія зьняважлівыя адносіны да прынцыпаў, у імя здагону за практыкай, гэты голы, бяссорамна агolены опортунізм, гэтае дапасаваньне тактыкі социялістых не да асноўных мэт і задач социяльнай рэволюцыі, а да вырываньня ў буржуазіі крошак у сягонешні дзень і так, як гэта дыктуе сягонешні дзень, хоцьбы гэта пашкодзіла далейшаму рабочаму руху,—проці гэтага беспрынцыповага „свабоднага ад догмаў социялізму“ выказвала протэст Роза Люксэмбург. Падводзячы рахунак мільеранаўскай політыцы, Р. Люксэмбург констатуе ўсю шкадлівасьць і нікчэмнасьць яе словамі: „Карабель свабодных ад догмаў социялізмаў варочаецца ў порт з свайго спробнага плаваньня па водах практычнай політычнай дзейнасьці з разьбітымі мачтамі, паломаным рулем і трупамі на палубе[1])“. Хоць яна і пісала аб няўдачным спробным плаваньні, але разам з тым разумела, што гэтае плаваньне не апошняе, і што для беспрынцыповых „социялістых“ опортуністычнае мора прадстаўляе найлепшую асярэдзіну для плаваньня. І сапраўды, за Мільеранам ідзе Брыан, а пасьля зноў Мільеран, потым Вівіані, усе социялістыя ў буржуазных урадах для гісторыі самыя бачныя і самыя значныя апоры буржуазнага парадку. Нарэшце, Мільеранізм быў папярэднікам кардынальнейшага здарэньня нашага часу—грамадзянскага міру, коаліцыі социялістых з буржуазным урадам у час сусьветнае

[1]) Р. Люксэмбург—„Реформа или революция“. Выд. Петрагр. Сав. Раб. і Чыр. Дэпутатаў. Петраград, 1919 г., стар. 11, 12, 13 і 14.

вайны. Вось чаму вялізарнаю сілаю навукова-гістарычнага прадбачаньня дыша сказ Р. Люксэмбург: „Трохгадовы пэрыод мільеранізму ў Францыі, па нашай думцы, зьяўляецца такою важнаю тычкаю ў гісторыі міжнароднага рабочага руху, як—у другім сэнсе—дзесяць тыдняў Парыскае Комуны 1871 г.“. І сапраўды, над усімі паражэньнямі рабочае клясы ў найвялікшых рэволюцыйных здарэньнях апошніх гадоў узвышаецца беспрынцыповы, коаліцыйны, опортуністычны соцыялізм, таксама, як над значнейшым паражэньнем у выглядзе сьмерці Розы Люксэмбург, як над пераможнай рэволюцыяй рабочае клясы быўш. Расійскае імпэрыі гарыць зара Парыскае Комуны 1871 г.

На практыцы мільеранізму адбілася тая адмоўная рыса ў соцыялізьме, якая высунула розьніцу паміж соцыялістычнай масай і соцыялістычнымі правадырамі. Мільеран уступіў у міністэрства не як прадстаўнік організованае рабочае клясы, а як соцыялістычная асоба, ставячы стаўку на сябе і на тое падтрыманьне, якое яго асабовая соцыялістычная політыка знойдзе ў тых ці іншых соцыялістычных колах. Гэта неразуменьне таго, што соцыялізм ёсьць масавы рух і толькі як рух мас можа мець гістарычнае значэньне і весьці к зьдзяйсьненьню соцыялізму, цягло за сабою вялізарныя адмоўныя вынікі, ужо выявіла сябе на прыкладзе таго, як асабовая політыка Мільерана была супроцьпастаўлена політыцы мас; як прыдушваючы, у бытнасьць у буржуазным урадзе, забастовачную барацьбу францускіх рабочых мас, Мільеран прыдушваў сапраўдны соцыялістычны рух, поўны гістарычнай значымасьці, у імя ложнага зданьнёвага соцыялізму адмоўнага значэньня. З гэтым вызваленьнем соцыялізму ад мас Р. Люксэмбург прышлося змагацца ў нямецкай соцыялдэмократыі і для гэтае барацьбы яе ўзброіла расійская рэволюцыя 1905 г. Гэта рэволюцыя, узварушыўшая шматмільённыя масы і ўтварыўшая розныя практычныя спосабы масавае барацьбы за соцыялізм, а для рабочае клясы, як ніколі ў гісторыі, апраўдаўшая мэтод масавае стачкі, усеагульнае забастоўкі, калі не як мэтод пераходу ад буржуазнага ладу к соцыялістычнаму, як аб гэтым вучаць анарха-сындыкалістыя,—то як сродак для ўдараў па буржуазных урадах, захопу пролетарыятам політычнае ўлады для зьдзяйсьненьня яго дыктатуры на шляху да соцыялізму.

Мы пяройдзем да выкладаньня абароны Р. Люксэмбург масавага соцыялізму ад соцыялістычных „правадыроў“, ня спыняючыся доўга над пытаньнем аб тым, ці варта было Р. Люксэмбург, ужо тады буйнейшай велічыні на соцыялістычным даляглядзе, несьціся з заграніцы ў Варшаву і класьці сваю геніяльную галаву, геніяльную галаву інтэрнацыянальнае рабочае клясы, непасрэдна ў пастку расійскага самаўладзтва з рызыкаю яе страціць. К. Каўцкі і яго блізкія прыхільнікі ўгаварвалі яе не рабіць гэтага, але яна прымчалася ў Варшаву і з галавою ўвашла ў рэволюцыйны рух, пакуль самаўладзтва не запёрла яе за астрожныя краты-

адкуль, яна, нарэшце, пасьля некалькіх месяцаў выбралася для таго, каб заграніцаю зноў кінуцца ў вір міжнароднага соцыялістычнага руху.

## VI

Падрахунак практыкі рэволюцыі 1905 г. вылажаны Р. Люксэмбург у напісанай па даручэньні Камітэту Гамбурскай соцыял-дэмократычнай організацыі невялічкай працы: „Усеагульная забастоўка і германская соцыял-дэмократыя“. Праца шмат шырэй тэмы, выходзіць далёка за яе межы, зьяўляючыся адным з важнейшых твораў марксыцкай літаратуры і, разам з тым, важнейшым гістарычным дакумантам. „Гэта брошура,— кажа аб гэтай працы К. Радэк,—зьяўляецца першаасноваю чарговае фазы разьвіцьця соцыялізму. Яна кладзе пачатак абасобліваньня комуністычнага руху ад соцыял-дэмократыі“. Гэтае значэньне прынцыповых палажэньняў, якія азначыла Р. Люксэмбург у 1907 г. для разьвіцьця комунізму, дае нам магчымасьць з разьліку месца і часу прапусьціць тыя рознагалосьсі пераважна організацыйнага характару, якія існавалі паміж Р. Люксэмбург і бальшавікамі, калі Р. Люксэмбург адносна пытаньня аб мэтодзе організацыі партыі далучылася да групы меншавікоў. Якіх-бы іншы раз глыбокіх разьмераў ні дасягаў раскол паміж Р. Люксэмбург і бальшавікамі, усё такі ў асноўных і найбольш значных прынцыпах палітыкі яна згаджалася з імі і разыходзілася з меншавікамі. Таксама мы прымем пад увагу, што ў канцы свае дзейнасьці яна амаль што апраўдала тэорыю і тактыку Расійскай Комуністычнай Партыі і зьявілася асновапаложніцай комуністычнай партыі ў Германіі.

Расійская рэволюцыя напалохала ня толькі расійскую буржуазію і самаўладзтва, але й опортуністых германскае соцыял-дэмократыі, якія баяліся, што рэволюцыйны рух у Расіі раскалыша рабочую клясу Германіі і што хваля рабочага руху разбурыць старыя добра наладжаныя для мірнага часу дапасованыя організацыі. У процівагу таму, што германскія соцыял-дэмократы, а пасьля заняпаду расійскага рэволюцыйнага руху і больш рашучыя тэорэтыкі,—як К. Каўцкі, які спачатку падтрымліваў Р. Люксэмбург,—баяліся выступленьня мас, Роза Люксэмбург на прыкладзе расійскай рэволюцыі давяла, як жывы рэволюцыйны рух сам стварае свае моцныя організацыйныя формы, і што толькі гэтыя, якія ўтвараюцца ў барацьбе, організацыі могуць ахапіць і весьці за сабою масы. Няма чаго баяцца таго, што старыя організацыі, якія вырасьлі ў мірнай абстаноўцы, ня вытрымаюць напору рэволюцыі, што стыхія зьмяце ўсе зробленыя наперад разьлікі. Рэволюцыя знае рэволюцыйны парадак,— як казаў У. І. Ленін—„жывое дыалектычнае разьвіцьцё стварае, наадварот, організацыю, як продукт барацьбы“. Агаворкі опортуністых аб тым, што масы яшчэ ня досыць уцягнуты ў організацыі, здаюцца ёй сьмешнымі; гаворыць яна аб тым, што сярод опортуністых існуе маўклівая здагадка, што ўся наогул рабочая кляса Германіі, да астатняга чалавека павінна

вайсьці ў арганізацыю раней, чым можна зрабіцца „досыць моцным“ для таго, каб асьмеліцца на масавае выступленьне“. А разам з тым „сур‘ёзнае палітычнае клясавае выступленьне з аднымі толькі арганізаванымі,—кажа яна,—адзначаецца пэўнаю безнадзейнасьцю. Калі масавая барацьба павінна мець посьпех, то яна павінна стаць сапраўдным народным рухам“[1]).

Вось сапраўдны погляд і характар рэвалюцыянэркі—рух мас стварае гісторыю, рух мас стварае арганізацыі, высоўвае людзей, дае падставу для тэорытычных вывадаў. З практычнасьцю і ўменьнем не абы якога вучонага пачынае сваю працу Р. Люксэмбург выкладаньнем і вывучэньнем масавага руху ў расійскай рэвалюцыі. Нагляданьні масавага руху, вывучэньне стыхіі і абстаноўкі руху йдзе ў перадзе тэорыі. Ня толькі непасрэдна выказанымі думкамі, ня толькі прыгожымі і яркімі словамі б‘е Роза Люксэмбург усіх тых, хто, называючы сябе рэвалюцыянэрамі, ня хоча вучыцца ў мас, хоча ісьці наперадзе мас і йдзе бяз мас ў мірны час і застаецца ззаду мас у рэвалюцыйныя часы, але больш б‘е ўнутраною сілаю, глыбокаю вучонасьцю гэтае малое паводле разьмераў працы і неператможнай дыялектыкаю, якая заложана ў ёй. „Няхай дойдзе ў Германіі справа да масавых стачак, і напэўна найбольшую дзеяздольнасьць праявяць ня тыя, якія арганізаваны цяпер лепш за ўсіх (напэўна не друкары), а тыя, якія арганізаваны горш усяго і нават зусім не арганізаваны: шахцёры, ткачы, можа быць, нават сельска-гаспадарчыя рабочыя“. У часе гэтых падзей менш усяго будуць даведвацца аб тым, ці атрымаў рух блаславеньне кіраўнікоў. „Калі яны будуць стаяць збоку ад руху і нават паспрабуюць працівіцца яму, то гэта прывядзе толькі да таго, што здарэньні пойдуць поруч з імі і што ў сваёй экономічнай і палітычнай барацьбе масы будуць біцца бяз іх“[2]).

Беручы асноваю масавыя рухі, як існасьць рэволюцыі, як яе зьмест і яе крыніцу, яна абараняе масавую стачку, як адно з праяўленьняў рэволюцыйна-масавага руху, якога не разумеюць і якога баяцца страціўшыя рэволюцыйны рух і рэволюцыйнае разуменьне правадыры партыі, якая мае сваёю падставаю рэволюцыйнае вучэньне і якая хоча стаяць на чале клясы, для якое рэволюцыя ёсьць гістарычная няўхільнасьць. Пытаньне ўсеагульнай стачкі зацікавіла Розу Люксэмбург яшчэ да расійскай рэволюцыі 1905 г. ў сувязі з масавым рухам, які адбыўся ў Бэльгіі 12—20 красавіка 1902 г., выкліканы барацьбой за ўсеагульнае выбарчае права. У. І. Ленін асабіста назіраў гэты рух, рух, які выліўся ў масавую стачку. Вось што піша адносна гэтага ў сваіх успамінах Н. Крупская: „У гэты час у Льежы было якраз надзвычайнае ўзбурэньне. За некалькі дзён перад тым войска страляла ў баставаўшых рабочых. Заметна было хваляваньне рабочых кварталаў па тварах рабочых, па куч-

[1]) Р. Люксэмбург—„Всеобщая забастовка и Н. С. Д.“, стар. 54, 55.

[2]) Там-жа.

ках стаяўшых людзей. Хадзілі яны глядзець Народны Дом. Стаіць ён у вельмі нязручным месцы: натаўп лёгка заперці перад домам, як у пастцы. Рабочыя цягнуліся к Народнаму Дому. І вось, каб папярэдзіць зграмаджэньне там народу, партыйныя вярхі назначылі сходы па ўсіх рабочых кварталах. Формальна яны былі правы, *але мімаволі зараджалася недавер'е да бэльгійскіх правадыроў соцыял-дэмократыі. Атрымліваўся нейкі падзел працы: адны страляюць у натаўп, а другія шукаюць сродкаў для яе ўспакаеньня*"[1]). (Падкрэсьлена мною І. Г.) Ленінская „Искра" прысьвяціла гэтай стачцы артыкул у № 21 ад 1-га чэрвеня, бадай што напісаны нават Леніным. У гэтым артыкуле гаварылася: „Замест таго, каб няўхільна ісьці рэволюцыйным шляхам, залучаючы да сябе саюзьнікаў з буржуазіі, але не пакараючыся ім, бэльгійскія соцыялістыя пачалі з уступкі лібэралам"[2]). Аб тым, што з такім пунктам пагляду на бэльгійскія здарэньні згаджалася з Леніным Р. Люксэмбург, дзелячы з ім абурэньне, можна бачыць з таго, што адносна гэтых здарэньняў Ленін чакаў для свае, „Зари" ад яе артыкул[3]). Расійская рэволюцыя 1905 году апраўдала вывады 1902 г., і Роза Люксэмбург абараняла рэволюцыйнае значэньне ўсеагульнай стачкі да канца свайго жыцьця і палажыла яе ў падставу ўсёй рэволюцыйнай тактыкі ў рэволюцыйныя лістападаўскія 1918 г. і студзенскія 1919 г. дні ў Германіі.

Але Р. Люксэмбург ня толькі хацела паставіць рух эўропэйскай соцыял-дэмократыі на грунт рэволюцыі, паставіўшы яе на базу масавага руху, яна змагалася за інтэрнацыянальны характар соцыял-дэмократыі, бо эўропэйская соцыял-дэмократыя, сыходзячы з базы масавага руху рабочае клясы, траціла свой інтэрнацыянальны характар і, ідучы на повадзе ў лібэралізму, упадала ў нацыянал-лібэралізм. Зьвязваючы ў адно цэлае рэволюцыйны рух XIX веку і высьвятляючы становішча рабочае клясы ў кожнай з рэволюцыі, яна аж да рэволюцыі 1905 г. паказвае, наколькі рабочы рух у кожнай нацыянальнай рэволюцыі залежыць ад інтэрнацыянальнага становішча рабочае клясы. Паказваючы германскай соцыял-дэмократыі і германскай рабочай клясе на расійскую рэволюцыю, яна посьпех ці няўдачу і ўвесь далейшы лёс рэволюцыйнага руху ў Расіі ставіла ў залежнасьць ад паводзін рабочае клясы ў інтэрнацыянальным маштабе і ў прыватнасьці ад паводзін рабочае клясы Германіі. „Сьпеласьць германскіх клясавых супярэчнасьцяй,—піша яна,— адбіваецца на здарэньнях, на моцы расійскай рэволюцыі. А бюрократы германскага рабочага руху, якія рыюцца ў скрынках сваіх канторак, каб знайсьці ў іх доказы яго сілы і сьпеласьці, ня бачаць, што тое, чаго яны шукаюць, знаходзіцца перад іх ачамі, у выглядзе буйнага гістарычнага аб'явеньня, бо ў сэнсе гістарычным расійская рэволюцыя зьяўляецца рэфлексам міжнароднага, а стала быць, перад усім германскага рабочага руху".

1) Н. Крупская.—„Из воспоминаний". Ленінградзк. зборнік, т. III, стар. 48, 49.

2) Там-жа, стар. 380,381.

3) Там-жа, стар. 433, Ліст Леніна к Пляханаву.

Гэтае няправільнае разуменьне масавага і інтэрнацыянальнага руху рабочае клясы, з якога выцякае недаацэнка сіл і магчымасьцяй як германскага, так і інтэрнацыянальнага рабочага руху прыводзіць к драбленьню руху рабочае клясы на профэсыянальна экономічны і партыйна-соцыялдэмократычны рухі. Вывучаючы, як у процэсе расійскай рэволюцыі экономічная барацьба пераходзіць у політычную, а політычная ў экономічную і як, нарэшце, політычная барацьба становіцца цэнтральным момантам руху мас, Р. Люксэмбург кажа, што перад тварам рэволюцыі ўсякія спробы зрабіць барацьбу рабочае клясы ня ўтрымаюцца, што ў аснове экономічнай барацьбы профэсыянальнай організацыі рабочае клясы ляжаць тыя палажэньні марксызму, якія азначаюць рухі марксызму, і політычная і экономічная барацьба зьліваюцца ў адно цэлае, а профсаюзы павінны падлягаць ідэёваму кіраўніцтву політычнай партыі, для таго, каб не абярнуцца ў організацыі жалкага і нікчэмнага, якое ў канчатковым падліку нічога не дае, крохаборства, і якія толькі зацямняюць для рабочае клясы разуменьне таго, што яго вызваленьне і паляпшэньне яго становішча можа адбыцца толькі пасьля поўнага зьнішчэньня панаваньня буржуазіі.

У канцы Роза Люксэмбург азначае той гістарычны пэрыод, у якім цяпер знаходзіцца рабочая кляса і які павінен вызначыць і характар яго організацый і тактыку; яна азначае гэты пэрыод як пэрыод заняпадаючага капіталізму, калі няўхільна разьвязваюцца сілы рэволюцыі і калі гісторыя ставіць на чаргу ня пытаньні частковых здабыткаў для рабочае клясы, а аб дыктатуры рабочае клясы, каб канчаткова скінуць капіталізм. Тое, чаго Р. Люксэмбург не дагаварыла ў спрэчцы з Жорэсам, у сувязі з мільеранаўшчынай, але што прасьвечвала паміж радкоў яе полемічных артыкулаў, тое яна дагаварыла ў спрэчцы з нямецкай соцыялдэмократыяй у імя рэволюцыйнай тактыкі германскае рабочае клясы. „У пэрыод адкрытай народнай політычнай барацьбы ў Германіі справа можа ісьці толькі *аб дыктатуры пролетарыяту*, як аб астатняй гістарычна канечнай мэце“. Гэта яшчэ ня значыць, што Р. Люксэмбург уяўляла сабе дасягненьне гэтае мэты ў скорым і простым парадку. „Гэта мэта,— піша яна далей,—ня можа быць дасягнута адным ударам; тут патрэбен доўгі пэрыод заўзятай соцыяльнай барацьбы“[1]).

У пэрыод рэакцыі і політычнага маразму паміж двума рэволюцыямі, калі цэлы шэраг рэволюцыянэраў, якія заслугоўваюць увагі, здавалі свае баявыя позыцыі і спраўлялі трызну па няўдачнай расійскай рэволюцыі, Роза Люксэмбург сьмела выкінула сьцяг „вялікай соцыяльнай барацьбы“ ў імя дыктатуры пролетарыяту, як найбольш блізкай мэты, і скінуць капіталізм гэтаю дыктатурай, як наступны этап,—і сама пашла ўперадзе.

[1]) Н. Крупская—„Из воспоминаний“, Ленінградзк. зборнік т. III, стар. 66. Ліст Леніна к Пляханаву.

Народжаныя ў процэсе барацьбы і патрэбныя для далейшай барацьбы словы былі сказаны. Сапраўды, Р. Люксэмбург апынулася ў становішчы таго прарока, словы якога для адных былі вар'яцкія, для другіх—спакусаю. Адным здавалася, што яна прапаведуе „рэволюцыйную романтыку, другія адчувалі, разумелі праўдзівасьць яе слоў, але ня мелі рашучасьці, каб пайсьці па шляху сьмелых, стараліся зьмякчыць вывады Р. Люксэмбург, падтрымаць яе словамі і толькі словамі, думаючы, што можна ўгаварыць процэс гісторыі і зьмякчыць моцныя ўдары клясавае барацьбы. Роза Люксэмбург разумела, што для каго яе словы вар'яцтва, таму не па шляху з рэволюцыяй; а другіх яна звала ад слова да рашучае справы, і гэты заклік крыкам набалеўшае душы, нястрыманага цярпеньня, раздаўся на інтэрнацыянальным конгрэсе ў Штутгарце ў 1907 г. ў сувязі з абгаворваньнем пытаньня аб вайне, аб імпэрыялізьме, калі яна гаварыла, што соцыялістыя могуць гаварыць прыгожыя, часамі грозныя, словы проці вайны, але нічога ня робяць проці вайны практычна. Ёй разам з Леніным належыць заслуга ўнясеньня ў рэзолюцыю Штутгарцкага конгрэсу пункту аб адносінах рабочае клясы да вайны, які варочае соцыял-дэмократыю к таму разуменьню ўзаемаадносін паміж вайною і рэволюцыяй, якія былі выпрацаваны Марксам і Энгельсам, пачынаючы з рэволюцыі 48 г., шляхам назіраньня над разьвіцьцём буржуазнаэкономічных адносін і рэволюцыйнага разьвіцьця рабочае клясы аж да канца XIX веку. Гэтае разуменьне заключалася ў тым, што вайна павінна разглядацца не як выпадковае зьявішча міжнароднай буржуазнай політыкі, а як вынік найглыбшых падстаў буржуазнай гаспадаркі, карэнных і неперможных супярэчнасьцяй яго. Чаканьне ўсеэўропэйскай вайны, як крызісу ў буржуазным грамадзтве, які павінен быць папярэднікам яго падзеньня, які павінен быць скарыстаны рабочаю клясаю, дзеля таго, каб скінуць капіталізм, чаканьне, якое ў пэрыод усякай вайны прыдавала сілы Марксу і Энгельсу, было паказчыкам глыбокага разуменьня тых прычын, якія параджаюць войны ў буржуазным гаспадарстве. Гэты пункт погляду Р. Люксэмбург выказала словамі: „Увесь вядомы фактычны матэрыял гісторыі самым яскравым чынам сьведчыць аб пастаянным дыалектычным пераходзе войнаў у клясавую барацьбу і клясавае барацьбы ў вайну і, стала быць, аб унутраным адзінстве іх існасьці“.

Гэта было тое грунтоўнае і адзінае правільнае разуменьне ўзаемаадносін паміж вайною і рэволюцыяй, якое павінна было ляжаць у васнове антымілітарыцкай, антываеннай тактыкі інтэрнацыянальнага рабочага руху. Засланяючыся за ўсякімі агульнымі сказамі, рэволюцыйнымі паводле формы і нерэволюцыйнымі паводле зьместу, ня толькі вядомыя опортуністыя, але і групы, якія стаялі лявей, зацямнялі гэтае разуменьне. Па прапанове Леніна і Р. Люксэмбург у Штутгарцкую рэзолюцыю было ўнесена палажэньне, што пролетарыят усімі сіламі павінен скарыстаць выкліканы вайною экономічны ці політычны крызіс для таго, каб най-

больш ускалыхнуць глыбока ляжачыя грамадзкія слаі і прысьпешыць падзеньне капіталістычнага панаваньня“ [1]).

Германская соцыял-дэмократыя ўсё больш і больш ад гэтых вывадаў рэзолюцыі адыходзіла, Р. Люксэмбуг засталася ёй вернаю, імкнулася да практычнага яе зьдзяйсьненьня ў Германіі, як пачала яе зьдзяйсьняць рабочая кляса Расіі ў 1905 г., прымусіўшы расійскае самаўладзтва скончыць расійска-японскую вайну, і як зьдзейсьніла яна яе ў 1917 г., абярнуўшы вайну імпэрыялістычную ў вайну грамадзянскую, дзеля таго, каб скінуць капіталізм.

Пытаньні тэорыі імпэрыялізму яшчэ толькі пачалі распрацоўвацца ў соцыялістычнай літаратуры, і тэорытычнае выяўленьне эпохі імпэрыялізму, як занепадаючай фазы капіталізму, было яшчэ ў будучым; але Роза Люксэмбург, бачачы практыку імпэрыялізму, бачыла, наколькі ён абвастрае клясавыя супярэчнасьці і наколькі максымальная рэволюцыйнасьць рабочае клясы адпавядае становішчу буржуазнага грамадзтва, паколькі ад амаль што выключна парляманцкай дзейнасьці трэба пераходзіць да непасрэдных масавых атак буржуазнага грамадзтва ў кожным пункце і па кожным пытаньні.

У сувязі з пытаньнем аб барацьбе ў 1910 г. са старым выбарчым законам у прускі парлямант, які пазбаўляў выбарчых праў масу прускага насяленьня, выявілася, наколькі масы самі рваліся да актыўных палітычных дзеяньняў, утвараючы стыхійна масавыя выступленьні супроць старога прускага закону. Люксэмбург вельмі добра разумела, што гэтае зьявішча невыпадковае, што яна зьвязана з стратаю нямецкім пролетарыятам веры ў тое, што з ростам нацыянальнага багацьця буржуазнае Германіі будзе паляпшацца і яго становішча, разам з вырываньнем уступак у гэтае буржуазіі. Сорак год, з 1870 г. шпарка адбываўся ўзрост экономікі Германіі, а становішча пераважнай масы рабочае клясы ў параўнаньні з павялічэньнем багацьця паляпшалася надзвычайна мала і пагаршалася ў гады крызісаў; а барацьба профсаюзаў, нават вялізарныя чыста экономічныя стачкі, якія цяглі за сабою вялікія цяжкасьці для рабочых і вельмі рэдка даводзіліся да канца, дзякуючы нерашучасьці профсаюзных правадыроў, таксама як і барацьба ў парляманце, давалі нікчэмныя вынікі. Люксэмбург настойвала на тым, каб масавая барацьба разгортвалася поўнасьцю, а кіраўнікі партыі — ня толькі правыя, але і цэнтр з Кауцкім на чале здалі свае позыцыі, адышлі ад мэтодаў масавае барацьбы, пераносячы ўсе спрэчкі зноў у вобласьць парляманцкага крохаборства. З гэтага часу Р. Люксэмбург стала адчуваць, што яе позыцыі ўсё больш і больш адыходзяць ад позыцый Цэнтральнага Камітэту Партыі, хоць на чале яго стаялі і не опортуністыя, а як быццам рэволюцыйныя марксыстыя. Яна разьвінае на ўсіх зьездах партыі, на ра-

[1]) К. Грунбэрг—„Интернац. и мировая война“, дакумант № 9 рэзолюцыі кангрэсу ў Штутгарце.

бочых сходах па ўсёй Германіі энэргічную агітацыю за свой пункт погляду, абярнуўшыся ў чорнага крумкача сярод белых галубоў германскае соцыял-дэмократыі, якая ўсё больш і больш скочвалася к рэформізму.

Далей, вотаваньне парляманцкай фракцыяй германскае соцыял-дэмократыі надзвычайнага ваеннага падатку, спробы апраўданьня колёніяльнае політыкі, германскага імпэрыялізму, нерашучая позыцыя, занятая германскай соцыял-дэмократыяй у сувязі з конфліктам адносна Мароко ў 1911 годзе, усё больш і больш абвастралі опозыцыю Р. Люксэмбург да Цэнтральнага Камітэту Партыі. Для абаснаваньня свае лініі яна піша ва ўсіх даступных ёй органах інтэрнацыянальнага соцыялістычнага друку, гэту-ж лінію яна праводзіць і ў сваіх лекцыях у партыйнай школе. Яна выклікае проці сябе ня толькі гнеў, германскага ўраду, які бачыць у „Чырвонай Розе“ свайго нястрыманага і рашучага ворага, але і маючых найбольшы ўплыў колаў кіраўнікоў профэсыянальнага і партыйнага руху, якія стараюцца перашкодзіць магчымасьці для агітацыі Р. Люксэмбург. Толькі прыхільнасьць да яе рабочае клясы Германіі і ацэнка яе, як лепшага выкладчыка, слухачамі партыйнае школы не даюць магчымасьці адарваць яе ад рабочае клясы і сарваць яе працу ў партыйнай школе.

Вынікамі яе працы ў партыйнай школе зьявіліся дзьве друкаваныя працы: „Уступ у політычную экономію“ і „Нагрaмаджэньне капіталу“.

Першая праца, якая зьзяе шырынёю кругагляду, якая выяўляе вялізарны вучоны апарат, якім опэравала Р. Люксэмбург, зьяўляецца скарэй зборам матэрыялаў, якія пасьля значнага папаўненьня і строга-сыстэматычнага абаснаваньня далі-б навуковую працу ў поўным сэнсе гэтага слова. Але яна была занята баявою практычнаю працаю і не змагла давесьці гэтае свае працы да канца. Сьляды надзвычайнай занятасьці і немагчымасьці выстарчаючай тэорытычнай распрацоўкі носіць на сабе і другая праца, якая навукова ўсё-ж лепей распрацована і складае найкаштоўнейшы ўклад у марксыцкую распрацоўку тэорыі імпэрыялізму.

У самы гарачы момант напружанай работы, у момант практычнай і тэорытычнай барацьбы Розы Люксэмбург з імпэрыялізмам, распачалася імпэрыялістычная бойня, і апраўдаліся самыя горшыя яе здагадкі — міжнародная соцыял-дэмократыя, II Інтэрнацыянал здалі свае позыцыі сусьветнай буржуазіі. Гэта было страшэнным ударам для Розы Люксэмбург, які ашаламаніў яе на некалькі дзён, але не затушыў, а абвастрыў у ёй дух барацьбы. Бесьперастанная, неўтамімая работа, тысячы няпрыемнасьцяй асабістага і грамадзкага жыцьця, двойчы перанесеная ў астрозе няволя не маглі не адбіцца на яе здароўі; але рашучасьць гістарычнага моманту прытупіла ўсякае пачуцьцё фізычнай і душэўнае стомленасьці, і яна рашуча кінулася ў бой, яна аказалася з тых нямногіх, якія ні на адну хвіліну не адыходзілі ад рэволюцыйных позыцый марксызму.

## VII

Цераз шэсьць месяцаў пасьля пачатку вайны ў лютым 1915 г. ў артыкуле, напісаным у вастрозе аб аднаўленьні „Інтэрнацыяналу", Роза Люксэмбург пісала, што тыя соцыял-дэмократы ўсіх краін, якія, накшталт германскай соцыял-дэмократыі, абвясьцілі клясавую барацьбу спыненай у імя няправільна тлумачанай нацыянальнай ідэі і ўступілі ў згоду з буржуазіяй, „склалі рахунак без гаспадара" [1]). Гэты гаспадар—перш-на-перш, гістарычны процэс, які знае клясавую барацьбу і толькі яе, клясавую барацьбу, якая кіруе грамадзкімі адносінамі і ў пэрыод міру і ў час вайны. „Па тэорыі гістарычнага матэрыялізму,—піша яна,—у тым выглядзе, як яна створана Марксам, уся гісторыя чалавецтва, якая дашла да нас, уяўляе сабою гісторыю клясавай барацьбы. Паводле перагледжанай Каўцкім тэорыі матэрыялізму да слоў Маркса патрэбна дадаць: „выключаючы пэрыод вайны" [2]). Поруч з дыялектыкай гісторыі гаспадаром зьяўляецца рабочая кляса, а ад рабочае клясы яўна схавалі характар і зьмест вайны. Калі, на падставе запэўненьняў урадавых чыноўнікаў і на падставе офіцыяльных дакумантаў, лжывасьць якіх рэжа вочы, офіцыяльная германская дэмократыя заяўляла: „Мы зрабілі ўсё для захаваньня міру, вайна навязана нам другімі", то яна, бяручы на сябе ўсю адказнасьць за дзеяньні офіцыяльнай германскай, юнкерскай, вільгельмаўскай дыплёматыі, ня толькі зрабіла глупства перад тварам гісторыі, але й абманывала рабочую клясу, затым што яна ня мела ніякіх падстаў браць на сябе гэту адказнасьць. У брошуры „Крызыс соцыял-дэмократыі" Р. Люксэмбург выказала гэта з дасканальнаю яснасьцю.

З самага пачатку вайны сярод рабочых былі групы, якія адчувалі лжывасьць і фальш у тым, што робіць іх партыя, але ўсё больш і больш зьяўлялася сярод рабочых сумняваючыхся, чым больш павялічвалася колькасьць соцыял-дэмократычных дэпутатаў, якія станавіліся ў опозыцыю Цэнтральнаму Камітэту і большасьці парляманцкай фракцыі. Сярод гэтых сумняваючыхся груп Р. Люксэмбург распачала сваю работу. Работа вялася сярод мас падпольна. Рабочыя, якія далучыліся да опозыцыйнага руху, праявілі вялізарныя здольнасьці да організацыйнай конспірацыйнай дзейнасьці, але ўсё-ж яна не магла схавацца ад ачэй вайсковае і паліцэйскае ўлады, і на падставе старога, нявыкананага ў свой час прыгавору, Р. Люксэмбур засадзілі ў астрог на цэлы год — з лютага 1915 г. па люты 1916 г. „Якім строгім ні быў астрожны рэжым, яна і з астрогу дадумвалася кіраваць крайнімі опозыцыйнымі элемэнтамі супроць вайны. Яшчэ да яе арышту яна стала на чале антываеннай групы, якая атрымала назву „Інтэрнацыянал", паводле адзінага нумару

[1]) Р. Люксэмбург—„Восстановление интернационала", часопіс „Интернационал". Дзярж. выд. 1923 г., стар. 10.

[2]) Ibidem.

часопісі, якую гэтай групе ўдалося нелегальным парадкам выдаць і ў якой Р. Люксэмбург зьмясьціла артыкул, які ўжо намі ўспамінаўся: „Аднаўленьне Інтэрнацыяналу“. Праўда, часопісь выдана ўжо пасьля арышту, хоць была складзена ёю. У групе „Інтэрнацыянал“ разам з Р. Люксэмбург былі: К. Лібкнэхт, Ф. Мерынг, К. Цэткін.

Заарыштаваная ў лютым 1915 г. яна ўжо ў красавіку піша другую сваю працу, надзвычайна вялікага гістарычнага значэньня—„Крызыс соцыял-дэмократыі“, якую належыць паставіць поруч з артыкуламі і працамі У. І. Леніна першых месяцаў вайны і якую ён назваў „найлепшай марксыцкай працай“. Выдаць працу ўдалося толькі ў пачатку 1916 г.

„Сцэна зусім перамянілася. Шасьцітыднёвы паход на Парыж абярнуўся ў сусьветную драму; масавая бойня абярнулася ў стамляючыя штодзенныя заняткі, якія ня мелі лёзунгу ні „ўперад“ ні „назад“. Буржуазнае дзяржаўнае мастацтва злоўлена ў абцугі з свайго ўласнага жалеза. Выкліканых адзін раз духаў ня могуць прымусіць зьнікнуць“. Так пачынае сваю брошуру Р. Люксэмбург: „Кожны новы месяц вайны павялічвае разбурэньне і затым наперад адхіляе на цэлае тысячалецьце напрасна чакаемыя выгады ваеннага посьпеху. *У канчатковым падліку ні перамога, ні паражэньне тут нічога не мяняюць. Наадварот, чыста ваеннае разьвязаньне робіцца наогул сумненным і з усё большаю праўдзівасьцю канчатковае спыненьне вайны становіцца ў залежнасьць ад агульнага зьнясіленьня.* Пры такіх абставінах нават перамога Германіі *будзе Піравай перамогай*“ [1]). (Падкрэсьлена мною. *І. Г.*).

А вось вытрымка з маніфэсту II Цымервальдаўскай конфэрэнцыі цераз два гады пасьля вайны:

„Два гады сусьветнае вайны. Два гады зьнішчэньня. Два гады крывавых ахвяр і вар‘яцтва рэакцыі.

„Палажыўшы мільёны людзей у магілу, зрабіўшы няшчаснымі мільёны сем‘яў, зрабіўшы мільёны ўдовамі і сіротамі, зграмадзіўшы разваліны на разваліны і разбурыўшы незаменныя культурныя вартасьці, *вайна папала ў тупік*“ (падкрэсьлена ў орыгінале).

„Ня гледзячы на горы ахвяр на ўсіх фронтах, ніякіх вырашаючых вынікаў. Каб толькі скалануць гэтыя фронты, урады павінны былі-б прынесьці ў ахвяру новыя мільёны людзей“.

„*Ні пераможцаў, ні пераможаных*, ці, больш праўдзіва, *усе пераможаныя*, г. зн. усе сьцяклі кроўю, усе разбураны, усе аслаблі,—такі вынік гэтае поўнае нявыказнага страху вайны“ (падкрэсьлена ў орыгінале).

Так пераказвалі думкі і словы Р. Люксэмбург тыя, што сабраліся на другую міжнародную Цымервальдаўскую конфэрэнцыю рэволюцыйныя соцыялістыя цераз год пасьля таго, як яны за сьценамі астрогу выліліся на паперы ў Розы Люксэмбург.

---

[1]) Р. Люксэмбург—„Кризис социал-демократии“, стар. 97.

Паказваючы на тое, што карэньні вайны ляжаць значна глыбей, чым гэта здаецца, яна крок за крокам выкладае разьвіцьцё імпэрыялізму і абвастрэньне адносін паміж імпэрыялістычнымі групамі на глебе імпэрыялізму. Яна бязьлітасна змагаецца з спробамі апраўдаць вайну з боку немцаў барацьбой з царызмам, абапіраючыся на лёзунгі Маркса 1848 г. Удала зрабіўшы аналіз гістарычнага зьместу царызму ў апошнія дзесяцілецьці, яна паказвае на тое, што царызм не зьяўляецца ўжо продуктам толькі расійскіх узаемаадносін,—„яго другім каранём зьяўляюцца капіталістычныя адносіны Заходняе Эўропы“[1]), а дзеля таго змагацца з расійскім царызмам можна толькі змагаючыся з усім укладам Эўропы, а не падтрымліваючы буржуазію ў вайне. Апрача таго, становішча 1848 г. ні ў якай меры не адпавядае становішчу 1914 г., „Яны нечакана выцяглі стары рахунак 1848 г.: „Няхай жыве вайна супроць Расіі“. Але ў 1848 г. ў Германіі была рэволюцыя, у Расіі-ж панавала беспрасьветная рэакцыя. У 1914 г., наадварот, Расія была рэволюцыйнай у сваёй глыбіні, тады як у Германіі панавала прускае юнкерства“[2]). Яшчэ раз, але яшчэ больш абгрунтоўваючы, яна варочаецца к грамадзянскаму міру, як к здрадзе асноўным палажэньням гістарычнага матэрыялізму.

Але социял-дэмократыя ня толькі не зрабіла нічога супроць вайны, але непасрэдна памагла буржуазіі перамагчы страх перад небясьпекаю ўзброенага паўстаньня рабочых мас.

Саракагадовае соцыялістычнае выхаваньне рабочых мас, партыйная і профэсыянальная дысцыпліна, ім прышчэпленая, замест таго, каб пайсьці на карысьць рэволюцыі, пашла на карысьць імпэрыялізму. Нарэшце, яна паказвае на тую надзвычайна вялікую страту, якую нясе чалавецтва, кладучы на палёх боек лепшыя кадры дзесяцілецьцямі выхаваных барацьбітоў за соцыялізм, якія павінны былі сваім актыўным масавым уплывам падбліжыць царства соцыялізму.

Розе Люксэмбург прышлося весьці барацьбу на два фронты: і супроць ураду, і далучыўшайся да яго оф іцыяльна соцыял-дэмократыі, і супроць нерашучых опозыцыянэраў, накшталт Каўцкага, Ледэбурга, Гаазэ.

Вайна ўсё больш і больш паварочвалася сваімі адмоўнымі бакамі да мас, у Эўропе ўсё больш і больш мацнелі рэволюцыйныя настроі. Умовы падпольнае работы падзялілі крайнюю левую опозыцыю супроць вайны на шматлікія групы... Усе сударжна шукалі правільных тэорэтычных вывадаў і організацыйных прынцыпаў для барацьбы з імпэрыялізмам, а мазгі Розы Люксэмбург з астрогу сударжна выкідалі найлепшыя прыклады нелегальнае агітацыйнае літаратуры тысячамі, якія пранікалі ў рабочыя масы. Справа будучага—строга аддзяляць тое, што непасрэдна належыць Р. Люксэмбург.

[1]) Р. Люксэмбург—„Кризис социал-демократии“, стар. 59.
[2]) Там-жа, стар. 63.

З 1-га студзеня 1916 г. опозыцыя, якая групавалася вакол Р. Люксэмбург і Карла Лібкнэхта, складваецца ў групу Spartak, якая няспыняе свае агітацыйнае дзейнасьці, выдаючы „Політычныя пісьма“ (Politische Briefe), падпісаныя псэўдонімам Спартак (Spartakus) і вядомыя пад назваю „Пісьма Спартака“ („Die Spartakus Briefe“). Пісьма пачалі выдавацца ў студзені 1916 г. і выдаваліся пэрыодычна цераз 1—3 тыдні да сьнежня 1916 г. „Тэхніка іх нелегальнага распаўсюджаньня, як відаць, была вельмі добра наладжана: скора „Пісьма Спартака“ сталі вядомы ў самых маленькіх провінцыяльных гарадох ва ўсіх частках імпэрыі“[1]).

У трэцім пісьме Спартака ад 3-га лютага 1916 г. агалошаны програмны артыкул Р. Люксэмбург „Насущный вопрос социализма“ і „Руководящие положения“, якія былі аднагалосна прыняты, у якасьці базісу для далейшае работы, на адбыўшайся ў першы дзень новага 1916 году на кватэры ў Карла Лібкнэхта тайнай усегерманскай конфэрэнцыі „Gruppe Internationale“ (Групы Інтэрнацыяналу [2]).

Артыкул і палажэньні выцякалі з артыкулу „Аднаўленьне Інтэрнацыяналу“ і брошуры „Кризис социал-демократии“ і мелі мэтаю організаваць усю рашучую опозыцыю для дзеяньняў. З нязвычайнаю сілаю гаворыць Р. Люксэмбург—„прадпасылкаю політычнай моцы зьяўляецца сіла дзеяньня, прадпасылкаю сілы дзеяньня—сіла волі, а гэта апошняя патрабуе, у сваю чаргу, поўнага аднадушша ў пытаньні аб мэце і сродках дзеяньня“. Яна заклікае сваіх аднадумцаў разарваць з усёй нерашучаю опозыцыяй, яна змагаецца супроць нятрывалага адзінства ў імя зьбіраньня сіл:

„Вось ужо новае слова пачынае распаўсюджваць туман навакол: „опозыцыя“. Ужо ў опозыцыі пачынаецца старая шкодная гульня „зьбіраньня“, старая песенька: „адзінства, адзінства—найвышэй усяго“, адзінства ўжо ня ўнутры агульнай партыі, а ўнутры опозыцыі.

Што такое „опозыцыя“? Новы ідал, замест толькі што паваленага.

Што такое „зьбіраньне“? Новая хлусьня, замест толькі што выкрытай.

Што такое „адзінства“? Новая прыгнятаючая дысцыпліна, замест толькі што пераможанай.

Не, тры разы не.

Так, калі-б „опозыцыя“ была агульнасьць духа і волі, адзінаю ў прынцыпах і тактыцы, гатоваю і здольнаю дзейнічаць. Але яна не такая...

І ў опозыцыі трэба прадоўжваць ачышчальную работу крытыкі, пакуль ня будзе прызнаны інтэрнацыяналізм, як кіруючы прынцып рабочага

---

[1]) Э. Дран і С. Леонард—„Подпольная литература revoл. Германии“. Выд. „Красная Новь“. М. 1924 г., стар. 31.

[2]) Ibedem, стар. 31.

руху, і міжнародная клясавая барацьба ня знойдзе свайго поўнага зьдзяйсьненьня ў рэволюцыйнай дзейнай гатоўнасьці пролетарыяту"[1]).

Яна паказвае сваім аднадумцам на азначаную мэту „агаласіць вайну—вайне", яна катэгорычна заяўляе, што II Інтэрнацыянал узорваны і што „для соцыялізму зьяўляецца жыцьцёвай неабходнасьцю стварэньне новага рабочага інтэрнацыяналу" на базе сапраўднай міжнароднай солідарнасьці і ўпартай клясавай барацьбы.

Дзейнасьць Спартака рабіла надзвычайна вялікі ўплыў на рабочыя масы Бэрліну. Выпушчаная з астрогу ў лютым 1916 г. Р. Люксэмбург магла бачыць дасягненьне сваіх даўнейшых жаданьняў, масавы рэволюцыйны рух рабочых ня ў вельмі вялікай, але досыць значыўшай першамайскай дэмонстрацыі па прызыве Спартака. Сутычка дэмонстрацыі з паліцыяй і арышт К. Лібкнэхта, які кідаў у натаўп лёзунгі „прэч вайну", „прэч урад", выклікалі надзвычайнае абурэньне ў рабочых масах. Р. Люксэмбург яшчэ знаходзіцца на волі і прымае непасрэдны ўдзел у організацыі масавых забастовак у Бэрліне і Брауншвайгу 28 ліпня 1916 г.

У ліпні 1916 г. яна зноў арыштавана. Вось што гісторык германскай рэволюцыі, быўш. старшыня Выкан. Камітэту Саветаў Раб. і Салд. Дэпутатаў Германіі Рыхард Мюлер піша ў сувязі з гэтым арыштам:

„Пакуль на чале „Саюзу Спартака" стаяла Роза Люксэмбург, барацьба гэтае групы проці групы Гаазэ, Ледэбурга вялася ў напрамку прынцыповым. Калі Роза Люксэмбург была заарыштавана, прынцыповая барацьба спартакаўскай групы здрабнела, і спрэчкі адносна тактычных пытаньняў сталі займаць пануючую ролю. Протоколы конфэрэнцый усіх напрамкаў опозыцыі за сьнежань і студзень 1917 г. паказваюць, як не даставала выдатнага розуму Розы Люксэмбург". Наступныя „пісьма Спартака" сьведчылі аб тым-жа. У васобе Розы Люксэмбург вайсковая ўлада пазбавіла рэволюцыйны фронт барацьбы ад аднаго з лепшых яго правадыроў. Роза Люксэмбург спрабавала, аднак, прымаць удзел у барацьбе з-за астрожных сьцен.

Толькі лістападаўская рэволюцыя 1918 г. вызваліла Р. Люксэмбург з астрогу, і яна зноў кінулася ў бой, узяўшы ў свае рукі кіраўніцтва рухам „Спартака", які да канца 1918 г. формальна ўваходзіў у незалежную соцыял-дэмократычную партыю. Абапіраючыся на групу „Спартак", яна імкнулася рушыць незалежнікаў у бок больш рэволюцыйнай тактыкі, але парашыла парваць з імі, калі пераканалася ў напраснасьці ўсіх спроб. Парваўшы з незалежнікамі, яна з сваімі аднадумцамі ў студзені 1918 г. залажыла падмурак комуністычнай партыі ў Германіі.

У кастрычніку 1917 г. бальшавікі ўзялі ўладу ў свае рукі; прашло яшчэ паўтара года да таго часу, пакуль яны знашлі, што ня толькі ў расійскім, але і ў інтэрнацыянальным маштабе стварылася досыць рэволю-

---

[1]) Э. Дран і С. Леонард—„Подпольная литература революц. Германии". Выд. „Красная Новь". М. 1924 г., стар. 37, 38.

цыйная сытуацыя для таго, каб прыступіць к непасрэднай організацыі III Інтэрнацыяналу пасьля таго, як у цэлым шэрагу краін родственныя бальшавікам соцыялістычныя групы канчаткова прыблізіліся да іх і стварылі комуністычныя партыі. Стварэньне комуністычнай партыі ў Германіі адыграла ў даным выпадку рашаючую ролю. Розе Люксэмбург ужо ня прышлося быць на III конгрэсе Комуністычнага Інтэрнацыяналу ў Маскве ў сакавіку 1919 году, але заслугі яе ў стварэньні гэтага Інтэрнацыяналу надзвычайна вялікія.

Гэтыя факты зводзяць на нішто тое вялікае значэньне, якое некаторыя соцыял-дэмократы надаюць працы Р. Люксэмбург, напісанай ёю ў верасьні 1918 г. ў астрозе, якая ўключае ў сабе адмоўную крытыку некаторых момантаў тактыкі і прынцыповых позыцый бальшавікоў у час рэволюцыі.

У студзені 1918 г. ў прамове сваёй па выпадку стварэньня комуністычнай партыі Р. Люксэмбург, заклікаючы да масавай рэволюцыйнай экономічнай і політычнай барацьбы, зноў выкінула стары лёзунг масавае забастоўкі, як самага рашаючага мэтоду барацьбы. Але цяпер для германскае рабочае клясы гэта былі ўжо не тэорэтычныя разважаньні. За час, калі Р. Люксэмбург была ў астрозе, масавыя забастоўкі галадаючага і абуранага пролетарыяту ня раз ускалыхвалі грамадзянскі мір Германіі. Да гэтага сродку стыхійна зьвярнуўся авангард рабочае клясы 6-га сьнежня 1919 г. ў адказ на цэлы шэраг контр-рэволюцыйных дзеяньняў ураду Эбэрта-Шэйдэмана, тады як паводле ўсіх умоў політычных абставін такая забастоўка нямінуча павінна была перайсьці ў узброенае паўстаньне, пры няспрыяючых для такога паўстаньня ўмовах, пры шырокіх політычных патрабаваньнях скінуць урад Эберта-Шэйдэмана, якое напісалі паўстаўшыя рабочыя на сваім сьцягу. Рух быў задушаны. Ня гледзячы на тое, што комуністычная партыя прынцыпова ня была згодна з гэтым выступленьнем, але не магла пакінуць паўстаўшых без свае дапамогі раз барацьба разьвінулася: уся контр-рэволюцыя і офіцыяльная соцыялдэмократыя абвінавацілі ў гэтым паўстаньні групу „Спартак", папракалі кіраўнікоў групы тым, што яны павялі сотні рабочых на сьмерць, а самі засталіся жывыя. У соцыял-дэмократычнай газэце „Vorwärts" (Уперад) 13 сьнежня 1919 г. былі зьмешчаны наступныя вершы Цыклера:

Многа соцень мёртвых у шэраг ляжаць  
Пролетары,  
Карл, Роза, Радэк і кампанія,  
Сярод мёртвых нікога з іх,  
Пролетары.

15 сьнежня 1919 году Кароль Лібкнэхт і Роза Люксэмбург былі забіты. Вось страшныя протокольныя весткі аб тым, як забілі Р. Люксэмбург.

„Пры вобыску аднае кватэры 15 сьнежня 1919 г. ў Вільмэрсфордзе (частка Бэрліну) былі заарыштаваны міліцыяй (контр-рэволюцыйная, добравольна рэкрутаваўшаяся ў пераважнасьці з буржуа міліцыя) бяз

ордэру на арышт К. Лібкнэхт і Р. Люксэмбург. Арыштаваныя былі адведзены ў гасьцініцу „Эдэн“, дзе зьмяшчаўся штаб гвардзейскай Кавалярыйскай Стралковай дывізіі. Калі Р. Люксэмбург выводзілі цераз парадны пад'езд гасьцініцы, як быццам-бы для адпраўкі ў астрог, каля дзьвярэй стаяў салдат Рунге. Капітан Пэтры аддаў загад паклапаціцца, каб Люксэмбург не папала ў астрог жывою. Калі Г-жа Люксэмбург праходзіла цераз дзьверы, Рунге два разы ўдарыў яе па галаве так, што яна ўпала. Начальнік конвою обэр-лейтэнант Фогель гэтаму не перашкаджаў. Г-жу Люксэмбург увапхнулі ў аўтомобіль. Калі аўтомобіль ад'яжджаў, нейкі чалавек падскочыў ззаду і ўдарыў яе па галаве цьвёрдым прадметам. Па дарозе обэр-лейтэнант Фогель стрэліў ёй у галаву. Аўтомобіль паехаў паміж каналам Ополчэньня і Зоолёгічным садам. На беражнай каналу стаяў натаўп салдат. Аўтомобіль спыніўся. Салдаты па загаду Фогеля кінулі труп у канал.

Удзельнікі забойства на другі дзень фотографаваліся ўсе разам пасьля папойкі“[1]).

Урад Эберта Шэйдэмана раней хацеў замясьці сьляды злачынства, а калі гэта стала немагчымым, устроіў камэдыю суду і пакараньня забойцаў.

За дзень да свайго арышту Р. Люксэмбург запісала ў сваім апошнім перадсьмяротным артыкуле рэволюцыйны прынцып, якім яна кіравалася на працягу ўсяго жыцьця і які павінен стаць кіруючым палажэньнем для ўсякага рэволюцыянэра:

„Масы зьяўляюцца рашаючым элемэнтам, яны зьяўляюцца тэй скалою, на якую будзе абапірацца канчатковая перамога рэволюцыі. Кіраўнікі могуць і павінны зноў стварацца самымі масамі і з нетраў гэтых мас“.

На гэтыя масы яна глядзела, як на будучае чалавецтва і ў „Крызысе германскай соцыял-дэмократыі“ пісала: „На нашым барту мы нясем найвялікшы скарб чалавецтва, для захаваньня якога пастаўлены пролетарыят“. Гэты скарб—рэволюцыйны соцыялізм.

Мы толькі павярхоўна прабеглі і далёка ня вычарпалі ні палітычнай дзейнасьці, ні жыцьця, ні асобы Розы Люксэмбург, але і ў гэтым скорым агглядзе нельга не застанавіцца на пісьмах Розы Люксэмбург. Тое, што агалошана да гэтага часу: „Пісьма к Карлу і Луізе Каўцкім“ і „Пісьма з астрогу“ Соні Лібкнэхт—жонцы Кароля Лібкнэхта, бяз сумненьня складаюць самую малую частку тых нэдзвычайна важных для гісторыі дакумантаў, якімі зьяўляюцца пісьмы Р. Люксэмбург удзельнікам міжнароднага соцыялістычнага руху. Але гэтыя пісьмы маюць ня толькі гісторыка-палітычную цікавасьць: значная частка іх мае цікавасьць гісторыка-літаратурную „De profundis“ Розы Люксэмбург—пісьма з астрогу к Соні Лібкнэхт — найкаштоўнейшы ўклад у сусьветную літаратуру, які

[1]) Э. Гумбэль—„Четыре года политических убийств“.

яшчэ трэба разглядзець і ацаніць. Гэтыя пісьма выяўляюць Р. Люксэмбург ня толькі як вучонага марксыстага, які мае пад сваімі грамадзкімі поглядамі грунтоўную прыродазнаўча-гістарычную базу, але й тонкі густ эстэта, найтанчэйшы літаратурны густ, выясьненьне якога ня толькі дало-б уяўленьне аб лепшых прыкладах сучаснае сусьветнае літаратуры, але й аб найвысокім і ўдасканальнейшым разуменьні літаратуры сучаснасьці. Гэты досьлед даў-бы вельмі багаты матэрыял для ўтварэньня марксыцкай тэорыі і гісторыі мастацтва і літаратуры.

Цяжкае было па знадворных абставінах жыцьцё Розы Люксэмбург і разам з тым дух яе поўны заўсёднага оптымізму радасьці жыцьця, пачуцьця паўнаты жыцьцёвага „бытия“,—усяго таго, што можа даць пры самых цяжкіх знадворных абставінах барацьбіту за шчасьлівую будучыну чалавецтва сузнаньне таго, што ён чэрпае свае сілы і абапіраецца ў свае дзейнасьці на масы, якія зьяўляюцца сапраўднымі тварцамі гісторыі.

# СУЧАСНАЯ ТУРЦЫЯ

*(З цыклю па нацыянальна-рэволюцыйным руху ў краінах Усходу)*

**Л. Каган**

Пераможная Антанта задалася мэтаю зьвесьці к політычнаму нулю сваіх супраціўнікаў у імпэрыялістычнай вайне 1914 г. Так, паводле Вэрсальскага дагавору, Германія і, у прыватнасьці, Прусія па велічыні сваёй тэрыторыі вернута к сярэдзіне XVIII веку; Аўстрыя вярнулася ў стадыю герцогства Аўстрыйскага. Але ніводная з пераможаных дзяржаў ня была ў такой меры прыдушана пасьля вайны, як Турцыя.

Яшчэ ў XIX в. эўропэйскія дыплёматы насіліся з думкаю аб сьмерці „хворага на Босфоры". XX век, які адзначыўся вельмі шпаркім разьвіцьцём капіталізму ў Англіі, Германіі, Італіі, яшчэ больш завастрыў пытаньне аб разьдзеле Турцыі, і гэтае-ж пытаньне стала аднэю з прычын для сусьветнае бойні 14 году. Калі Германія насілася з думкаю падуладзіць Турцыю мірным шляхам, экономічна, Англія і „іжэ з нёю" мелі на ўвазе разбурыць ваенным парадкам і Германію і яе ўсходняга протэжэ. Ужо ў 1905 г. адбылася тайная згода паміж дзяржавамі Антанты адносна падзелу Турцыі, якая была дапоўнена і перагледжана вясною 1916 г. ў выніку перагавораў у Лёндоне і Піцеры. Вось асноўныя пункты гэтае згоды: 1) Расія атрымлівае Константынопаль, заходняе ўзьбярэжжа Босфору, узьбярэжжа Мрамарнага мора і Дарданэл, узьбярэжжа Малое Азіі паміж Босфорам і Ізьмідзкаю затокаю, астравы Мрамарнага мора і астравы Імброс і Тэледос. Апрача таго, Расіі адыходзіць шэраг краін у Малой Азіі: Эрзэрумская, Трапэзундзкая, Ванская, Бітліская; 2) Францыя атрымлівае шэраг уладаньняў у Сырыі, Аданскі вілайэт і паласу паміж Антаб-Мадрын да расійскай граніцы; 3) у зоне паміж францускімі і ангельскімі ўладаньнямі ўтвараецца конфэдэрацыя арабскіх дзяржаў; 4) Палестына выдзяляецца ў асобную краіну пад кіраўніцтвам Англіі, Францыі і Расіі; 5) Італія атрымлівае краіну, сумежную з Адаліяй; 6) Грэцыі даюцца тэрыторыяльныя здабыткі ў Айданскім (Сьмірноўскім) вілайэце[1]). Усе гэтыя здагадкі зводзіліся, стала быць, к мэце закончыць векавую барацьбу Эўропы з Османскім сьветам, зьнішчыць зусім Турцыю, як дзяржаву.

---

[1]) Тэкст яе быў агалошаны ў лістападзе Савецкім урадам сярод іншых тайных дагавораў царскага ўраду.

У момант падпісаньня перамір'я—31 кастрычніка 1918 г.—усе галоўныя цэнтры Турцыі былі заняты войскам перамогшых: Константынопаль і Дарданэлы—ангельскім і францускім войскам, Мэсопотамія, Курдыстан і Палястына—грэкамі. Апрача таго, грэкамі-ж, якія марылі аб утварэньні Понтыйскае дзяржавы, былі заняты аколіцы Самсуну, а вілайэты Трапэзунд, Эрзэрум, Ван настолькі былі разбураны вайною, што былі амаль што без насельнікаў. Зусім незалежнай ад замежнай інтэрвэнцыі засталася толькі невялікая і параўнаўча бедная частка Турцыі—сярэдзіна Анатоліі.

Такое было становішча Турцыі ў момант падпісаньня Сэврскага дагавору—10 жніўня 1920 г. Дагавор падпісалі Англія, Францыя, Італія, Японія, Грэцыя, Румынія, Бэльгія, Польшча, Чэха-Славаччына, Португалія, Армэнія і Турцыя. Гэты дагавор быў настолькі зьняважлівы для Турцыі, што так і застаўся без ратыфікацыі: бо краіна ўсё роўна ўся была амаль што окупавана і ўзброенай барацьбы на першых, па крайняй меры, часох быць не магло. Паводле тэксту Сэврскага дагавору за Турцыяй заставаліся наступныя провінцыі:

| | Тэрыторыя ў кв. клм. | Насяленьне |
|---|---|---|
| Константынопаль . | 3.763 | 1.203.000 |
| Чаталядж . . . . | 1.833 | 78.000 |
| Вілайэты: | | |
| Ізьмід . . . . . | 7.825 | 222.000 |
| Біга . . . . . . | 6.375 | 129.500 |
| Бруса . . . . . | 63.500 | 1.626.800 |
| Коніа . . . . . | 98.525 | 1.069.000 |
| Адона . . . . . | 38.500 | 422.400 |
| Ангора . . . . . | 68.425 | 932.800 |
| Кастамунія . . . | 48.925 | 961.200 |
| Сівас . . . . . | 59.925 | 1.057.500 |
| Мамурэт-уль-Азіс . | 31.750 | 575.200 |
| Сырыя (частка) . . | 25.677 | 133.400 |
| Дзіарбэкір . . . | 36.200 | 471.500 |
| Уся Турцыя . | 439.869 | 8.616.200 |

Паводле другіх даных [1]) плошча тэрыторыі—174.900 кв. міль і насяленьня 8 міл. чалавек. Страціла-ж Турцыя з прычыны вайны 438.750 кв. міль і 12 мільён. насяленьня (паводле другіх даных—1.351.750 кв. клм. тэрыторыі і 13.034.700 чал. насяленьня). Спакойнаю, без варожых адносін, засталася ў Турцыі толькі адна граніца—з СССР. Згодна дагавору з Савецкай Расіяй ад 16 сакавіка 1921 г., Турцыі была ўступлена Карская вобласьць, паўднёвая частка Эрыванскае губэрні і паўднёвая частка Батумскае вобласьці, што складае тэрыторыю ў 19.915 кв. клм. з 492 тыс.

[1]) Statemans Іear Book за 1920 г. (стар. 1315) і 1921 г. (стар. 1335).

насяленьня. Расія адмовілася таксама прыняць выдзеленыя для яе мясцовасьці—Трапэзунд, Эрзэрум, Вана.

Такім чынам, разам з памянёнымі вобласьцямі пасьляваенная Турцыя мела 613.487 кв. клм. тэрыторыі і 11.797.400 душ насяленьня. Як урэгуляваў Сэврскі дагавор палажэньне розных частак быўшае Отоманскае імпэрыі?

Перш-на-перш, дагавор фактычна зусім адарваў ад Турцыі яе Эўропэйскую частку. Дарданэлы, Босфор і Мрамарнае мора адданы былі пад контроль асобнай „камісіі па пратоках", якая атрымала права „дзейнічаць зусім незалежна ад мясцовай адміністрацыі пад уласным сьцягам, мець свой бюджэт і спэцыяльна сваю організацыю"[1]). Калі ўзьнікаюць якія-небудзь непаразуменьні, гэта „камісія" зварачаецца да прадстаўнікоў Англіі, Францыі і Італіі ў Константынопалі, якія, згодна спэцыяльных дагавораў, пасылаюць атрады заняць зоны праток. „Камісія" мае права набываць ва ўласнасьць заводы і землі, зьбіраць падаткі за плаваньне ў пратоках, выпускаць пазыкі. Калі дадаць да ўжо сказанага, што ў пратоках ня можа быць прадпрынята ніякае ваеннае ці варожае дзеяньне іначай, як на моцы пастановы Савету Лігі Нацый (чытай—Антанты!), стане зразумелым, што фактычна пратокі ад Турцыі адабраны зусім. Зразумела, пад панаваньне Лігі Нацыі ў Эўропэйскай Турцыі падведзена і салідная ваенная база: 50 ваенных суднаў у Мрамарным моры і Дарданэлах, ня лічачы малых; шэсьць дрэдноутаў у Босфоры, з якіх толькі адзін францускі і адзін грэцкі—рэшта ангельскія; у Константынопалі і яго аколіцах дэсантная армія ў 60.000 чал., з якіх тры дывізіі ангельскія. Наогул, па існасьці Сэвр аддаў пратокі ў рукі Англіі, найбольш зацікаўленай з усіх краін Антанты ва ўладаньні імі: яны-жа—дзін з найважнейшых пунктаў (поруч з Гібральтарам, Мальтаю, Кіпрам, Эгіптам і Суэцкім каналам) абароны гандлёвых шляхоў Вялікабрытаніі, у прыватнасьці, шляхі ў Індыю. Зробім рэзюмэ: падзел Эўропэйскай Турцыі па Сэврскім дагаворы атрымаўся, прыкладам, такі! Босфор, Дарданэлы і Мрамарнае мора ў поўнай падлегласьці Англії; французы ў сваёй сфэры ўплыву трымаюць чыгунку, якая формальна лічыцца за Турцыяй; грэцкая сфэра захапляе Адрыянопаль і часткова Фракію. У Константынопалі і яго провінцыі існуе і турэцкая грамадзянская ўлада, але яна фактычна жалкая пешка ў руках антантаўскіх заправіл.

Пераходзім да Азыяцкае Турцыі. Перш-на-перш—Сьмірна. Турцыя абязалася перадаць яе, паводле Сэврскага дагавору, грэкам. Каб утрымаць у Сьмірнаўскім раёне сваю ўладу, грэкі высадзілі тут дэсант—110-тысячную армію супроць турэцкага нацыянальнага войска. Як-бы ў насьмешку, Антанта абумоўлівае ў дагаворы права Турцыі падняць свой сьцяг на адным з фортаў па-за Сьмірнаю. Далей—Сырыя і Мэсопотамія.

[1]) Ч. III Сэврскага дагавору.

Ст. 22 дагавору абвяшчае іх незалежнымі вобласьцямі, але гэта „незалежнасьць“ такога-ж сорту, як „незалежнасьць“ Эгіпту і Судану.

Фактычна Сырыя пераходзіць да Францыі, Мэсопотамія—да Англіі (і тая і другая—формальна „насіцелі мандатаў“ на гэтыя вобласьці[1]). Абапіраюцца „насіцелі“ мандатаў у Сырыі—на 80-тысячную францускую армію, у Мэсопотаміі—на стотысячную ангельскую.

Палестына. Тут—„нацыянальны яўрэйскі ачаг“ (цытавана з дэклярацыі ангельскага ўраду ад 2 лістапада 1917 г., пацьверджанай Сэврскім дагаворам). Фактычна-ж кіруе краінаю Англія, і сыёністыя граюць там жалкую і агідную ролю—служаць агентамі для зьдзяйсьненьня імпэрыялістычных мэт Англіі ў Палестыне. Такі-ж, прыкладам, і лёс Геджасу, месца знаходжаньня „сьвятых месцаў“ мусульманскага сьвету—Мэкка і Мэдына. Гэта па Сэвры—таксама „незалежная“ дзяржава, ангельская колёнія таксама. Нарэшце—Армэнія. Яе Турцыя па Сэврскім дагаворы прызнае самастойнаю дзяржаваю з выхадам к мору. Дагавор датычыцца і пытаньняў унутранага кіраўніцтва і ўзброенай Турцыі. Для захаваньня ўнутранага парадку дапушчаецца організацыя ў краіне жандармэрыі, лікам да 35 тысяч чалавек. Ні артылерыі, ні сапёрнага войска гэта жандармэрыя мець не павінна, а камандаваць ёю павінны афіцэры саюзных і нэўтральных дзяржаў.

Абарона султана не павінна складацца больш, як з 700 асоб. Вытворчасьць аружжа і амуніцыі павінна знаходзіцца пад контролем саюзьнікаў. Усе крэпасьці павінны быць разбураны. Шляхі і чыгунка, якія прадназначаны для транспорту лёгкае артылерыі, павінны быць разбураны паводле погляду Англіі, Францыі і Італіі. Усе судны Турцыі—гандлёвыя і ваенныя—перадаюцца саюзьнікам. Яна пазбаўляецца права мець паветраную флёту; паветраная-ж флёта саюзьнікаў мае права пралятаць над турэцкаю тэрыторыяй і апускацца на ёй. Расходы па ўтрыманьні окупацыйнага войска Турцыя прымае на сябе.

Такі ў асноўных рысах Сэврскі дагавор, які сваім цынізмам пакідае далёка за сабою і Брэскі і Вэрсальскі дагаворы. Зразумелая рэч—яго ня мог спакойна прыняць турэцкі народ. Ангора стала цэнтрам вызваленчай барацьбы туркаў, тут сконцэнтраваліся ўтоптаныя ў гразь ботамі пераможцаў усе сілы народу для рэваншу, для аднаўленьня сваёй нацыянальнай самастойнасьці. Але перад тым, як гаварыць аб пасьлясэврскім пэрыодзе нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў Турцыі, маленькі экскурс у прошлае гэтае барацьбы.

---

[1]) Па газэтах за апошнія месяцы мы маем магчымасьць пераканацца ў тым, як жывуць новыя „самастойныя“ дзяржавы—Сырыя і Мэсопотамія. Напамінаем для ілюстрацыі нядаўнія падзеі ў Дамаску.

II

Карані нацыянальна-вызваленчага руху ў Турцыі—у колёнізатарскай політыцы эўропэйскіх дзяржаў у краіне яшчэ за шмат дзесяцілецьцяў да Сэвру, з аднаго боку, і разьвіцьці ў Турцыі ўласнага капіталізму—з другога.

Пачнем з другога. Дзякуючы разьвіцьцю гандлёвых зносін з Эўропай і пранікненьню ў краіну замежных капіталаў, Турцыя, хоць і памалу, але экономічна перараджаецца. Калі ў 1875 г. ў краіне зусім ня было чыгунак, то ў 1908 г. чыгуначная сетка Турцыі ўжо мае чыгункі 6.000 клм. Шпарка растуць звароты замежнага гандлю: у 1887 г.—618 міл. марак (увоз і вываз), у 1890 г.—670 міл. м., у 1892 г.—738 міл. м., у 1904 г.—889 міл. м. Асабліва павялічваюцца гандлёвыя звароты прыморскіх гарадоў: Константынопалю, Сьмірны, Трапэзунду, Бэйруту, Каперы і др. Так, умяшчальнасьць суднаў, якія прышлі ў Константынопаль у 1900 г.—10.473 рэгістрованыя тоны, а якія прышлі ў той-жа порт у 1905 г.—15.279 тон. Умяшчальнасьць суднаў, якія наведвалі Салонікі, расьце з 50 тысяч тон у 1892 г. да 120 тысяч тон у 1903 г. Вось табліца росту імпорту тавараў з эўропэйскіх дзяржаў у Турцыю (у фунтах стэрлінгаў):

| КРАІНЫ | Сярэдні ўвоз за пяцілецьце 1896-1900 г. | 1903 г. | 1905 г. | 1906 г. | 1907 г. | Павялічэньне у % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | у тысячах | | | | | |
| Англія | 5.701 | 5.701 | 6.965 | 8.352 | 7.809 | 39 |
| Аўстра-Вэнгрыя | 2.430 | 2.256 | 3.833 | 4.831 | 4.496 | 89 |
| Германія | 1.629 | 2.514 | 3.552 | 3.555 | 4.087 | 138 |
| Італія | 1.344 | 2.268 | 2.860 | 3.545 | 3.152 | 133 |
| Францыя | 1.887 | 1.832 | 1.121 | 2.365 | 3.319 | 22 |
| Расія | 1.521 | — | 1.540 | 1.538 | 9.115 | 38 |
| Бэльгія | — | — | 1.030 | 1.326 | 1.257 | — |

З яшчэ большай шпаркасьцю расьце экспорт тавараў: вываз у Англію дае за пэрыод 1905—1907 г. г. павялічэньне на 14,8 проц. (з 5.948.000 ф. ст. да 6.830.000 ф. ст.), у Францыю—на 18 проц., у Паўночна-Амэрыканскія З.-Ш. на 30 проц., у Германію—на 14,14 проц., у Італію—на 16,3 проц., у Бэльгію—16,7 проц., у Расію—на 22,4 проц.

Паданыя лічбы сьведчаць аб нараджэньні ў Турцыі свайго мясцовага капіталу. А між іншым, стары турэцкі ўрад султана Абдул-Гаміда схіляўся нізка перад эўропэйскімі ўрадамі; самае слова „падзішах"—султан стала разглядацца, як сьляпая прылада ў руках эўропэйскіх дзяржаў для барацьбы з адраджэньнем Отоманскай імпэрыі. Усе слаі турэцкага

насяленьня, выключаючы буйную буржуазію, — яна складае нязначную меншасьць у вагульнай масе пераважна гандлёвай і дробнапрамысловай буржуазіі краіны—былі процi старога дэспатычнага рэжыму, які знаходзіўся на повадзе ў чужынцаў: і сялянства, якое мела надзею на палепшаньне свайго становішча пры дапамозе рэволюцыі (а Турцыя—краіна сялянская ў пераважнасьці, і рамясьнікі, і пролетарыят, зьвязваўшыя пытаньне палепшаньня свайго дабрабыту з палепшаньнем становішча работадацеляў—мясцовых капіталістых (політыка заахвочваньня замежных капіталістых з боку султанскага ўраду вяла, натуральна, к зьбядненьню мясцовых капіталістых). Вось чаму так нечакана мела посьпех першая турэцкая рэволюцыя 1908 г. Два маёры—Энвэр-бэй і Ніазі-бэй падпялі сьцяг паўстаньня супроць старога Отоманскага рэжыму, абапіраючыся на нязначную ўзброеную сілу, і дэспотычная монархія ўпала, як домік з картаў. Характэрна, атрады Энвэр-бэя і Ніазі-бэя складаліся ў пераважнасьці з неваенных, і іх непераможнасьць тлумачыцца тым, што ўся сялянская Турцыя стала за іх пры актыўным спачуваньні рэшты слаёў насяленьня краіны.

Рэволюцыя 1908 г. перадала кіраўніцтва краінаю ў рукі младатурак (так называлася партыя лібэральнай буржуазіі і ваеншчыны ў Турцыі).

Перад новым урадам паўстаў шэраг сур'ёзьнейшых пытаньняў, якія патрабавалі тэрміновага вырашэньня: сялянскае і рабочае пытаньне, векавы конфлікт паміж мусульманскімі і хрысьціянскімі народнасьцямі Турцыі, вырашэньне альбанскага, македонскага, армянскага, арабскага і іншых „праклятых“ пытаньняў, якія давалі мотывы для ўмяшацельства ва ўнутраныя справы Турцыі замежным дзяржавам. І малады ўрад з гэтымі задачамі ня справіўся,—наадварот: сваёю няўдачнаю політыкаю ён ня ўхіліў, а мімаволі прысьпешыў процэс раздрабненьня калісьці магутнай краіны. Прычыны? Яны, зразумела, у клясавай існасьці младатурак—лібэральна-буржуазнай, стала быць, пудлівай і няздольнай на радыкальныя мерапрыемствы. Дый наўрад ці спасьлі-б Турцыю і радыкальныя рэформы—вельмі сур'ёзныя ворагі зацікаўлены былі ў раздрабненьні яе, і ад гэтага ня спас-бы Турцыю ніякі ўрад. З 1912 г. для маладое констытуцыйнае Турцыі хітрыкамі імпэрыялістычных дзяржаў Эўропы пачынаецца паласа бесьперарыўных войнаў (Балканскія войны, потым вайна 1914 г.). Іх натуральны вынік—экономічнае разбурэньне краіны. Так, калі ў 1911 г. здабыча вугалю складала 880.000 тон, то ў 1913 г. здабываецца толькі 784 тыс. тон, у 1915 г.—400 тыс. тон, у 1917 г.—144 тыс. тон, у 1919 г.—368 тыс. тон, у 1920 г.—544 тыс. тон, у 1921 г.—320 тыс. тон. Узрастаюць у 4 разы цэны на продукты. На 25—30 проц. зьніжаецца вытворчасьць працы. Некаторыя вобласьці, як, напр., Ванская акруга, абарачаецца літаральна ў пустыню. І, нарэшце, Сэвр. Турцыя зьведзена да ступені дробнае поўсамастойнае азыяцкае краіны, пратокі ў руках ангельцаў, турэцкая спадчына рассована па руках французаў, грэкаў,—здава-

лася-б, з „хворым чалавекам“ пакончана назаўсёды, там ужо ня можа быць ні вызваленчага, ні якога-б то ні было наогул руху. Падзеі наступных за Сэврам гадоў паказалі, аднак, зусім адваротнае.

III

„Чым горш, тым лепш“. Турцыі трэба было перажыць Сэвр, каб у сучасным концэрце дзяржаў стаць аднэю з тых дзяржаў, якія трымаюць сябе ў адносінах да саюзьнікаў больш ці менш незалежна. Пасьля Савецкага Саюзу Турцыя займае другое такое месца. Як гэта здарылася?

Для кінутай у прах абязьвечанай Турцыі Анатолія стала свайго роду Мэккаю нацыянальна-вызваленчага руху. Менавіта Анатолія, а не Константынопаль, фактычна окупаваны саюзьнікамі, дзе якая-б то ні была ўзброеная барацьба не павінна была-б мець посьпеху.

Студэнты, прадстаўнікі лібэральных профэсій, рабочыя, афіцэры сталі пакідаць Константынопаль і іншыя окупаваныя гарады і провінцыі Турцыі, перабіраліся ў Малую Азію і тут або ўступалі ў шэрагі паўстанцкага войска, або ўваходзілі ў розныя організацыі, якія дапамагалі арміі ў яе барацьбе з Антантаю. Сярод гэтых бяжэнцаў з Турцыі быў і генэрал Кемаль-паша, праслаўлены абаронца проток у часе імпэрыялістычнай вайны і актыўны ўдзельнік ліпеньскае рэволюцыі 1908 г. Ён адразу стаў на чале анатолійскага нацыянальнага руху і прыняў каманду над усёй паўстанцкай арміяй. Перш-на-перш, Кемаль склікае Нацыянальны Конгрэс у Эрзэруме, на які прыбываюць прадстаўнікі і окупаваных турэцкіх вобласьцяй. Паміж іншым, Конгрэс гэты ня першы пасьля ваеннага разгрому Турцыі, а трэці: да яго зьбіраліся першы ў Айдзінскім вілайэце, другі—у Трапэзундзе, але паводле свайго значэньня для нацыянальна-вызваленчага руху Конгрэс у Эрзэруме займае першае месца.

Сабраўся Эрзэрумскі Конгрэс пад знакам барацьбы з дашнакцаканскай Армэніяй. Справа ў тым, што для францускіх захватніцкіх імкненьняў Армэнія пасьля Сэвру стала такой-жа, як Мэсопотамія для захватніцкіх імкненьняў Англіі. І такім чынам, у руках турэцкіх нацыяналістых і армянафобаў стварылася найлепшае аружжа для падбухторваньня турэцкіх народных мас супроць армян. Недалёкабачны дашнакцаканскі ўрад Армэніі організаваў у краіне пагромы мусульманскага насяленьня, якія варты Абдул-Гаміда і Нікалая II-га, адкрыта падгатаўляў анэксію вілайэтаў усходняе Анатоліі—вось чаму свой першы ўдар паўстанцкая анатолійская армія пастанавіла накіраваць супроць Армэніі.

На Эрзэрумскім Конгрэсе прымалі ўдзел, пераважна, прадстаўнікі сямі вілайэтаў—Ван, Бітліс, Харбут, Сівас, Эрзэрум, Дзіарбэкір і Трапэзунд. Конгрэс сабраўся ў ліпні-жніўні 1919 г. і на ім-то і адбылося публічнае адмаўленьне Кемаля ад генэральства і клятва яго працаваць, „як звычайны, разам з народам, за вызваленьне радзімы“. Усьлед за Эрзэрумскім Конгрэсам (у верасьні 1919 г. сабраўся Сіваскі Конгрэс, на якім былі

ўжо і дэлегаты Тракіі. Гэты Конгрэс афіцыяльна назваў сябе „Конгрэсам абароны праў Анатоліі і Эўропэйскай Турцыі“. На гэтым Конгрэсе была выпрацавана програма дзеяньняў, якая ў асноўным зводзілася да захаваньня незалежнасьці і непадзельнасьці турэцкага народу ў яго этнографічных межах. Тут-жа паложан быў пачатак організацыі „Хуккукі міліэ“ (камітэтаў абароны праў) і выбраны яе цэнтральны выканаўчы камітэт пад старшынствам Кемаля-пашы.

Асноўныя прынцыпы, выстаўленыя абаімі конгрэсамі, зводзяцца к ніжэйпаданым пунктам:

1. Незалежнасць і поўная сувэрэннасьць краіны ва ўнутраных і знадворных справах.

2. Поўная непарушнасьць тэрыторыі Турцыі ў межах, якія ёй былі падуладны ў момант падпісаньня перамір'я, уключаючы і захоплены ангельцамі пасьля перамір'я Мосул. Арабскім-жа краінам надаецца поўная свабода самым вырашыць свой лёс.

3. Тэрміновыя выбары дэпутатаў і адкрытыя палаты.

4. Абязацельства ўраду не падпісваць міру бяз згоды краіны ў асобе яе прадстаўнікоў.

5. Прызнаньне за нацменшасьцямі іх праў.

6. Самае важнае—працяг барацьбы на ўсіх фронтах супроць бяссорамных захопаў ворагаў да поўнага вызваленьня краіны.

На Сіваскім-жа Конгрэсе пастаноўлена было патрабаваць у султана адстаўкі вялікага візыра Фэрыд-Джамад-Пашы, які праводзіў політыку поўнага паднявольваньня Антанце, і давесьці да ведама як султана, так і дзяржаў Антанты ўжо прыведзеныя вышэй пастановы. Патрабаваньні свае анатолійцы падмацавалі організацыяй арміі, на чале якой паставілі таго-ж Кемаля. Усіх урадавых чыноўнікаў паарыштоўвалі і замянілі прадстаўнікамі „Хуккукі міліэ“. Пачалася вайна паміж урадам Фэрыда-Пашы і партыяй Кемаля.

У вайне перамог Кемаль, бо ўсё, пасылаемае ў Малую Азію войска пераходзіла на старану нацыянальных. Больш таго, анатолійцы адважыліся атакаваць антантаўскія окупацыйныя атрады і ў цэлым шэрагу пунктаў прымусілі іх адступіць. У прыватнасьці, кемалістыя прымусілі італьлянцаў ачысьціць сваю „зону“.

Перамога атрымалася поўная: султан капітуляваў, даў адстаўку Фэрыду-Пашы і прызваў да ўлады генэрала Алі-Рыза, чалавека ўне-партыйнага, „нэўтральнага“, як ён сам сябе называў. На гэты ўрад была ўскладзена місія правесьці выбары ў парлямант, які павінен сабрацца ў Константынопалі.

У Константынопалі да думкі аб скліканьні парляманту аднесьліся двуяка: адны знаходзілі сьмешным „лезьці воўку ў зубы“, другія палагалі, што можна ставіць на джэльтмэнскія пачуцьці саюзьнікаў і варта ехаць у Константынопаль. Перамагла апошняя думка, і большасьць

членаў „Камітэтаў абароны праў", выбраных у парлямант, паехала ў Константынопаль. Сам Кемаль, таксама, зразумела, выбраны ў парлямант, сьвядома ўстрымаўся ад паездкі і застаўся выжыдаць падзей у Сівасе.

Саюзьнікі не перашкаджалі ні выбарам у нацыянальны парлямант, ні зьезду дэпутатаў, думаючы, што большасьць членаў у парляманце акажацца з партыі „Хурыэт-вэ-Ітыляф"—буржуазнай партыі саюзьніцкай орыентацыі, якая прадстаўляла інтарэсы турэцкіх нуварышоў пэрыоду вайны. 12 студзеня 1920 г. Алі-Рыза ўрачыста адчыніў парлямант, бо султан у гэты дзень дыплёматычна захварэў. Здагадкі саюзьнікаў адносна соцыяльнага складу парляманту ня спраўдзіліся: з 130 дэпутатаў, якія зьехаліся ў Константынопаль, толькі трое былі прадстаўнікамі „Хурыэт-вэ-Ітыляф"; рэшта-ж 127 утварылі блёк „Фэлахі-ватан" (спасеньне радзімы), які праводзіў політыку „Хуккукі-міліэ". „Фэлахі-ватан" распачаў працу ў поўным контакце з Цэнтральным Камітэтам „Хуккукі-міліэ" і яго правадыром Кемалем. Першым яго крокам было прад'яўленьне саюзнікам мінімальнае програмы—Нацыянальнага Дагавору (Paste National), на аснове якога ён гатовы падпісаць згоду з Антантаю. Зьмест гэтага дакуманту ў асноўным зводзіцца да наступнага:

1. Члены отоманскага парляманту лічаць, што окупаваныя саюзьнікамі тэрыторыі з арабскім насяленьнем самі вольна-праведзеным плебісцытам павінны вырашыць пытаньне аб сваім далейшым лёсе.

2. Яны згодны на паўторны плебісцыт у трох санджаках—Карскім, Ардаганскім і Батумскім, насяленьне якіх пастаралася скарыстаць першы-ж выпадак далучыцца да сваёй радзімы.

3. Плебісцытам-жа павінна быць вырашана пытаньне аб Заходняй Тракіі.

4. Константынопаль павінен быць бязумоўна ачышчаны саюзьнікамі. Свабоду праток турэцкі ўрад абавязваецца пры гэтым захаваць.

5. Нацменшасьцям у турэцкіх уладаньнях будуць дадзены ўсе правы пры ўмове наданьня тых-жа праў мусульманскім меншасьцям у краінах Антанты.

Саюзьнікі, надзеі якіх ня спраўдзіліся, адкрылі страшэннае газэтнае нацкоўваньне супроць парляманту. Яны пісалі, што дэпутаты часткаю германскія шпіёны, часткаю агенты Леніна ў Турцыі. Кемаля-ж антантаўская прэса ніколі інакчай не рысавала, як бандыта і бальшавіцкага эмісара.

Але парлямант трымаў сябе мужна. Ён пастанавіў аддаць пад суд габінэт Фэрыд-пашы за заключэньне перамір'я і невыпаўненьне ўмоў гэтага дагавору. Затым парлямант прымусіў падацца ў адстаўку габінэт Алі-Рыза, а на яго месца паставіў больш радыкальнага Саліха-пашу. Нарэшце, парлямант пастанавіў скінуць султана Махмуда VI, які баяўся вельмі ангельскіх гармат, замяніць яго адным з насьледнікаў і пераехаць разам з новым султанам у Анатолію пад абарону нацыянальнае арміі.

Тады саюзьнікі парашылі дзейнічаць больш рашуча. Яны зусім окупавалі Константынопаль і пераарыштавалі большасьць членаў парляманту, у тым ліку і вялікага візіра Саліха-пашу, кіраўнікоў блёку Фэллахі-ватан, Рэуф-бэя, Рэфік-бэя, усіх міністраў. Цікава адзначыць, што арышт членаў парляманту прароблены быў надзвычайна груба і нетактоўна: дэпутатаў сьцягвалі з ложкаў, зьвязвалі, як злачынцаў, і ў аднэй бялізьне кідалі на борт ангельскага крэйсэру. Некаторых нават білі і рабавалі салдаты-конвоіры. Потым усіх арыштаваных саслалі на востраў Мальту. Турэцкі гарнізон быў узяты ў палон, у Константынопалі зьнішчана было і зданьнё прыналежнасьці яго да Турцыі. Так нічым скончылася наіўная спроба часткі нацыяналістых мірным парляманцкім шляхам, у Константынопалі, пад жэраламі ангельскіх гармат, дабіцца вызваленьня Турцыі. Усім цяпер стала зразумела, што шлях для вызваленьня Турцыі—шлях барацьбы. У вызваленчым руху краіны адкрываецца новая старонка.

Цікавая драбніца—разгром Константынопальскага парляманту выклікае ў Турцыі вельмі значны паварот у грамадзкім разуменьні ў сэнсе патрэбнасьці збліжэньня з Сав. Расіяй. Ня толькі рабочыя, сяляне і дробная буржуазія, але нават і прадстаўнікі буржуазіі буйнае пачынаюць адкрыта выказвацца за гэта збліжэньне і выказваць сваю радасьць па выпадках паводзін расійскіх бальшавікоў. На супярэчаньні антантаўскіх агентаў, што яны-ж першыя пацерпяць ад прыходу бальшавікоў, звычайна сьледваў адказ: „Толькі бальшавікі ня схіляюць сваёй галавы перад Англіяй. Яна—нашая астатняя апора“.

Прыклад расійскіх бальшавікоў, якія мужна і пабеданосна вялі барацьбу з інтэрвэнтамі, заражае і туркаў, дае ім упэўненасьць у магчымасьці канчатковай перамогі.

Даведаўшыся аб здарэньнях у Константынопалі, ЦК Хуккукі-міліэ Анатолії і Эўропэйскай Турцыі абвясьціў, што, з прычыны разгрому парляманту і палону султана саюзьнікамі, у Ангоры організуецца Часовы Ўрад і склікаецца новы парлямант. Гэты новы парлямант—Вялікае Нацыянальнае Сабраньне (Мэджыліс)—адчыніўся 24 красавіка 1920 году. У яго склад увашлі і константынопальскія бяжэнцы-дэпутаты, якія прабраліся ў Ангору па большай часьці пехатою, каля 40 чалавек, сярод іх, паміж іншым, вядомая турэцкая пісьменьніца Халідэ-Эдыб-Ханум, якую ангельцы таксама хацелі саслаць на Мальту. У модных чаравіках і шоўкавых панчохах, пехатою, пад дажджом і сьнегам, дабралася яна з Константынопалю ў Ангору.

Выбарчая сыстэма ў мэджыліс была цэнзавая—у сярэднім па адным дэпутаце на 50.000 цэнзавікоў. Туды, стала быць, маглі прайсьці толькі прадстаўнікі купецтва, сярэдняй буржуазіі, духавенства, лібэральных профэсій. Усяго выбралі 300 дэпутатаў. Склад мэджылісу—абсолютная

большасьць купцоў, муллаў—50, адвокатаў—15, штаб-афіцэраў—15, прадстаўнікоў поўпролетарскіх мас—3.

Калі зьехаліся дэпутаты, мэджыліс абвясьціў сябе Вярхоўным Нацыянальным Сабраньнем, насіцелем вышэйшай законадаўчай і выканаўчай улады. Першым старшынёю Сабраньня і галавою выканаўчай улады аднагалосна быў абраны Мустафа Кемаль, 2-м старшынёю—быўшы старшыня разагнанага Константынопальскага парляманту Джэлал-Эддзін-Арыф—дэлегат ад буйнай судовай буржуазіі.

Пачало Сабраньне з пасылкі дэклярацыі саюзьнікам, у якой проклямавалася: 1) няпрызнаньне Сабраньнем константынопальскага ўраду; 2) агалашэньне ўлады Нацыянальнага Сабраньня адзінаю на тэрыторыі Турцыі; 3) скасаваньне ўсіх дагавораў і згод константынопальскага ўраду з замежнымі дзяржавамі; 4) скасаваньне ўсіх загадаў і фірманаў, якія выходзілі ад султана, палоньніка ангельцаў.

Спачатку Антанта, апроч пасылкі ўзброеных атрадаў супроць ангорскага ўраду, спрабуе падняць контр-рэволюцыйныя паўстаньні ў самой Анатоліі. Так, на чале раскіданых па краіне разбойніцкіх бандаў Антанта ставіць некага Аізавура, узнагародзіўшы яго папярэдне тытулам пашы. Нацыяналістыя спраўляюцца з гэтым анатолійскім Дутавым пасьля ўпартае барацьбы, і сам ён ледзьве выратоўваецца на борце ангельскага ваеннага судна. Дый няма нічога дзіўнага—умелаю ваенна-організатарскаю працаю Кемаль давёў сваю армію да 100.000 штыхоў, а аб узбраеньні яе паклапацілася Антанта: яна шчэдра давала баявыя прыпасы дашнакцаканскай Арменіі, і пасьля разгрому апошняй кемалістымі ў рукі войска Кязіма-Кара-бэкіра (камандуючага кемаліцкай арміяй на армянскім фронце) перашла надзвычайна вялікая здабыча.

Пацярпеўшы крах і ў дашнакцаканскай і анзавураўскай спробах задушыць Ангору, Антанта робіць новую спробу ў гэтым напрамку—нацкоўвае на Анатолію грэкаў. Сабраўшы армію ў 110 тыс. чалавек, грэкі пачынаюць шырокае наступленьне супроць туркаў і адзін час пагражаюць самаму існаваньню Кемаліцкай Турцыі: быў момант у сярэдзіне 1921 г., калі грэкі захапілі Ушак, Афігел-Карагісар, галоўны базысны склад нацыянальнай арміі, і падбліжаліся да Ангоры. Але на рэчцы Саккарыі грэкі панесьлі рашаючае паражэньне і ініцыятару антантаўскай авантуры Вэнізэлосу прыходзіцца нават уцякаць з Грэцыі ў Парыж. Каля году трымаецца зацішша, якое ўстанавілася на фронце пасьля грэка-турэцкае барацьбы.

Што прадпрымае ў гэты час Антанта?

Разьлікі на скорую і рашучую ліквідацыю анатолійскага ўраду ня спраўдзіліся. Сарвалася к таму-ж часу і надзея задушыць Савецкую Расію. Трэба было меркавацца з фактам існаваньня тае і другое дзяржавы, якнебудзь наладзіць адносіны з імі. Францыя першая рашуча мяняе тактыку ў адносінах да Ангоры: зімою 1921 г. яна робіць згоду з урадам

Кемаля, якая прадстаўляе сабою буйную перамогу апошняга. Паводле гэтае згоды Францыя адмаўляецца ад Кілікіі, надае шэраг ільгот Турцыі на Сырыйскай граніцы, без абумоўліваньня прызнае Ангорскі ўрад. Гэтым крокам Францыі канчаецца пэрыод інтэрвэнцыі для рэволюцыйнай Турцыі, адчыняецца цэлая сэрыя конфэрэнцый і дыплёматычнае перапіскі. Але ўпартасьць Грэцыі і Англіі з аднаго боку, і цьвёрдасьць Турцыі з другога, зводзяць усе гэтыя перамаўленьні к нулю.

27 жніўня 1922 г. турэцкая армія пераходзіць у наступленьне. Грэкі шпарка адступаюць к мору. Ушак, Афіум, Карагісар, Бруса, нарэшце, Сьмірна пераходзяць у рукі нацыяналістых. Самыя пратокі з Константынопалем падпадаюць пад пагрозу захвату іх туркамі. А між тым ужыць інтэрвэнцыю Антанта ўжо ня можа, бо няма агульнае думкі адносна турэцкага пытаньня. Розныя часткі Антанты, з якіх яна складаецца: Францыя, Італія, рабочая кляса Англіі і яе домініёнаў супроць новай вайны. З другога боку, вычэрпаны і сілы Кемаліцкага войска зацяжнаю барацьбою з грэкамі, і на ўзброены захоп пратох туркі не адважваюцца. Няўпэўненае становішча ліквідавана было на ваеннай конфэрэнцыі ў Мудані. Туркі эвакуавалі цалком нэўтральную зону і ўзамен яе атрымалі Ўсходнюю Тракію. Цераз два месяцы для разбору турэцкага пытаньня сабралася конфэрэнцыя ў Лёзане.

Конфэрэнцыя цягнулася 8 месяцаў і праходзіла надзвычайна бурна. Яна ня раз знаходзілася пад пагрозаю зрыву ў пытаньні аб капітуляцыях, аб лёсе Мосулю, аб выплаце отоманскае пазыкі і г. д.

Але дагаварыцца па зацягнуўшымся бліжня-ўсходнім пытаньні было вельмі-ж патрэбна,—і згода была нарэшце дасягнута: 24 ліпня 1923 г. быў падпісаны Лёзанскі дагавор, які адкрыў новую старонку ў гісторыі Турцыі.

Турцыя атрымала ў Лёзане шэраг перамог, атрымала іх затым, што змагла супроцьпаставіць узброеным сілам інтэрвэнтаў уласныя значныя сілы, перамагла і затым, што, з аднаго боку, атрымала моцнае падтрыманьне Савецкага ўраду, з другога,—скарыстала варожасьць паміж Англіяй, Францыяй і Злучанымі Штатамі Амэрыкі.

Турцыя атрымала назад Константынопаль і Ўсходнюю Тракію, а стала быць, за выключэньнем Мосулю, амаль што цалкам апраўдала тэрыторыяльную програму нацыянальнага абяцаньня [1]); значна зьменшаны быў разьмер отоманскай пазыкі дзякуючы таму, што яна была пропорцыянальна разложана на ўсе часткі тэрыторыі, якія былі адабраны ад Отоманскай імпэрыі ў выніку бальканскіх войнаў і сусьветнае вайны; шэраг концэсій, вырваных у Абдул-Гаміда, быў скасованы. Толькі ў ад-

---

[1]) Сэўрскім дагаворам Турцыя была зьведзена тэрыторыяльна да 439,869 кв. клм. і па ліку насяленьня ў 8.616.200 чал. З адданымі ёй РСФСР Карскім пашалыкам гэтыя цыфры павялічваюцца да 613.487 кв. клм. і 11.797.400 чал.; пасьля-лёзанская Турцыя—725.277 кв. клм. і 15.040.800 чал. насяленьня.

ным пытаньні—аб устанаўляемай саюзнікамі „свабодзе праток“, якая пагражала і турэцкай і саўрасійскай забясьпецы, прышлося паддацца і Турцыі і СССР. Гэта барацьба адзначана, паміж іншым, і крывавым забойствам у Лёзане тав. Вароўскага. Праўда, Савецкі Ўрад сваю згоду падпісаць конвэнцыю аб пратоках абумовіў правам і ўносіць у яе ў далейшым папраўкі, і зусім ад яе адмовіцца, калі выявіцца, што ёю „невыстарчаюча гарантаваны інтарэсы гандлю Савецкіх Рэспублік і агульнага міру“.

Так на працягу ўсяго толькі пяці год з дня заключэньня перамір'я кінутая ў прах Турцыя зноў адрадзілася. І паднялася яна пры гэтым не як дэспотычная монархія Абдул-Гаміда, а як буржуазная рэспубліка з Мустафою Кемалем у якасьці прэзыдэнта на чале (29 кастрычніка 1923 г. Турцыя была абвешчана рэспублікаю з „газі“—пераможцам Кемалем у якасьці прэзыдэнта; 3 сакавіка 1924 г. быў прыняты Турэцкім урадам законапроект аб адмене Османскага Халіфату).

Што ўяўляе сабою ў адносінах соцыяльным гэта новая Турцыя? Якія пэрспэктывы яе далейшага ўздыму і разьвіцьця?

Да вырашэньня гэтых пытаньняў мы і пераходзім пасьля прыведзенага агляду разьвіцьця ў Турцыі нацыянальна вызваленчай барацьбы.

## IV

Перад ўсім аб зямельным пытаньні ў Турцыі. Ня гледзячы на ўжо адзначанае намі вышэй капіталістычнае разьвіцьцё краіны, Турцыя, а тым больш Малаазыйская яе частка—краіна пераважна земляробская. У краіне няма буйнага прыватнага зямляўладаньня, ёсьць шмат вольных дзяржаўных зямель, і ўсё-ж каля 30 проц. турэцкіх сялян уласнае зямлі ня маюць і прымушаны працаваць у якасьці батракоў арандатараў і гарадзкіх чорнарабочых-падзёншчыкаў. Крайняя-ж беднасьць зямельнага сялянства тлумачылася, галоўным чынам, непамерна вялікімі падаткамі. Саноўнікі, пашы, бэкі, жандары, зборшчыкі падаткаў, скупшчыкі збожжа, мянялы, ліхвяры зусім абяднілі селяніна, выклікалі ў ім нястрыманую нянавісьць да існуючага ладу. Яшчэ больш абвастрылі беднасьць сялянства войны балканскія і сусьветная. І гэта ў той час, калі ў краіне маецца надзвычайна вялікі фонд няўжыванай зямлі—прыкладам у 90 проц. (абрабляюцца 71 міл. дунамаў—толькі 4,5 проц. усяе зямельнае плошчы) і асобным бэям у Анатоліі належаць надзвычайна вялікія зямельныя надзелы: некаторыя трымаюць пад сваім уладаньнем па 30—40 вёсак. Ці зрабіла што-небудзь Вялікае Нацыянальнае Сабраньне для свайго сялянства, якое іграла такую вялікую ролю ў справе вызваленьня Турцыі? Пакуль вельмі мала. Так, яно выдала дэкрэт аб засеве, згодна якому кожны мае права засеяць любую свабодную зямлю, прычым увесь даход ідзе на карысьць яго бяз усякае платы ўласьніку зямлі. Але радыкальных зьмен у цяжкае матэрыяльнае становішча сялянства гэты дэкрэт, зразумела, унесьці ня

мог, а на аграрнае законадаўства савецкага тыпу, якае адно толькі магло скора залячыць раны сялянства, кемаліцкі дробнабуржуазны ўрад, зразумела, няздольны. Вось чаму пропаганда комуністычных ідэй пачынае знаходзіць сабе ўсё больш і больш спрыяючую глебу сярод жабрацкага і нездаволенага тым, што яму дала пакуль што рэволюцыйная барацьба, анатолійскага сялянства. Гэтага нельга, зразумела, сказаць аб анатолійскай зямляўласьніцкай клясе наогул. Буйныя эксплёататары-бэі, як у час барацьбы з грэкамі і Антантаю, называлі сябе бальшавікамі, цяпер вельмі ўпарта прыгнятаюць „комуністычную заразу“ ў вёсках Анатоліі.

Пераходзім да буржуазіі і пролетарыяту ў Турцыі. Аб іх дадуць нам некаторае ўяўленьне ніжэй паданыя цыфры, апублікаваныя бюлетэнем Камісарыяту Нацыянальнай Экономіі к лістападу 1923 г.

| Назва галіны прамысловасьці. | Колькасьць прадпрыемстваў. | Лік рабочых. |
|---|---|---|
| 1. Мэталюргічная . | 3.272 | 8.021 |
| 2. Спажыўчых продуктаў . . . . | 1.273 | 4.493 |
| 3. Ткацкая . . . . | 20.057 | 35.316 |
| 4. Каменю і гліны . | 704 | 3.612 |
| 5. Лясная . . . . | 2.067 | 6.007 |
| 6. Гарбарская . . | 5.348 | 17.964 |
| 7. Хімічная . . . | 337 | 803 |
| Разам . . | 33.058 | 76.216 |

У гэтай табліцы прапушчаны чыгункі, абслугоўваемыя 5.000 чалав., вугальныя шахты з 11 тыс. рабочых, 10 тысяч партовых рабочых, друкарань, трамваю і электростанцый, 3.000 баваўнянікаў і 6.000 тытуншчыкаў. На турэцкую буржуазію працуе, такім чынам, прыкладам 100—120 т. пролетарская армія. Трэба адзначыць пры гэтым, што сярэдняя рабочая сіла на прадпрыемстве 1-2 чалавекі, і, стала быць, буржуазія ў Турцыі пераважна дробная. Толькі ткацкія і гарбарныя прадпрыемствы адносна буйныя, уся-ж рэшта—звычайныя ўсходнія майстэрні. Умовы працы ў Турцыі? Яшчэ напярэдадні вайны 14 году яны былі нязносныя—сярэдні працяг рабочага дня быў 14 гадзін, у некаторых галінах працы, як, напрыклад, у хлебапякарнях, працоўны дзень даходзіў да 20 гадзін. Заработная-ж плата хісталася ад $2^1/_2$ піастраў (20 кап.) да 8—10 піастраў (64—80 кап). Умовы-ж жаночае і дзіцячае працы былі яшчэ горшыя.

Тлумачыцца такое дрэннае становішча рабочых Турцыі пастаянным посулам працы з боку жабрацкага сялянства. Эўропэйскія-ж падарожнікі звычайна захапляюцца сэнтымэнтальна „нетребовательностью“ турэцкага

рабочага, які здавольваецца на дзень кавалкам хлеба, галінкаю вінаграду і сподачкам фасолі.

Нідзе ў Эўропе ня выяўлена так яскрава процілегласьць інтарэсаў паміж буйнаю і сярэдняю буржуазіяй, як у Турцыі. Буйная буржуазія ў Турцыі зьявілася ўжо ў даваенны пэрыод і складалася ў пераважнасьці з грэкаў, армян, левантынцаў. Гэта буржуазія—верны друг Антанты. Яна думала, што нават зьнішчэньне Турцыі, як дзяржавы, ніяк не адаб'ецца на яе кішэнях і вечна поўзала перад эўропэйскімі заваявацелямі, падтрымлівала нават Сэвр. Іначай заўсёды глядзела на спробу абярнуць Турцыю ў колёнію буржуазія сярэдняя і дробная. Яна зьявілася за апошнія 15 год, акрыяла і разьвілася, адхіліўшы конкурэнцыю эўропэйскай, армянскае і грэцкае буржуазіі, стала кіраўніцай турэцкага народу ў яго вызваленчай барацьбе. Гэта буржуазія разумее, што крах нацыянальна-вызваленчага руху азначае для яе здачу захопленых экономічных позыцый, уступку свайго месца грэкам, армянам, левантынцам і інш. прадстаўнікам міжнароднай прамысловасьці і гандлю. А турэцкія рабочыя і рамесьніцкія масы яшчэ не даволі ўсьвядомілі сябе клясава, у гады героічнай барацьбы кемаліцкай Турцыі за сваё існаваньне трымалі моцны блёк з гэтаю дробнаю буржуазіяй, таксама, як і сялянства Анатоліі. Вось тое асаблівае клясавае перакрыжаваньне ў кемаліцкай Турцыі, у вабставінах якога прышлося і прыходзіцца жыць і працаваць турэцкай компартыі. Ёй, з аднаго боку, трэба падтрымліваць нацыянальна-вызваленчы рух (апошні далёка яшчэ ня можа лічыцца зусім закончаным: яшчэ ня вырашаны пытаньні Мосульскае, Александрэцкае і інш.), а разам з ім і кіруючую рухам дробную і сярэднюю буржуазію; з другога боку, турэцкія комуністыя павінны ўтвараць і незалежныя ад буржуазіі організацыі працоўных рабоча-сялянскіх мас, вакол якіх концэнтраваліся-б кадры стойкіх працаўнікоў і барацьбітоў. Вось гэтыя мэты і імкнулася зьдзейсьніць група турэцкіх комуністых, кіруемая Субхі, Ізмалам Хаккі і іншымі таварышамі. Працавала група вельмі энэргічна. Яна выдавала газэту „Энна-Дунна“, якая распаўсюджвалася ў Турцыі. Ёю-ж былі перакладзены на турэцкую мову і выданы шматлікія кніжкі і брошуры: 1) „Комуністычны маніфэст“, 2) біографія Леніна, 3) Констытуцыя РСФСР, 4) „Азбука комунізму“, 5) „Труд і капітал“, 6) Програма турэцкай комуністычнай партыі, 7) Тэзісы Леніна аб буржуазнай дэмократыі і пролетарскай дыктатуры.

З аднаго толькі гэтага пералічэньня відаць, што група Субхі-Хаккі стаяла на грунце III Інтэрнацыяналу. У групы быў шэраг падпольных ячэек у Ізьмідзе, Трапэзундзе, Самсуне, Ангоры, Коніі, Адане, Сьмірне. Вялася пропаганда пераважна сярод прамысловых рабочых, дробных, страціўшых маемасьць, рамесьнікаў і саматужнікаў,—усё элемэнтаў, якія пачалі ўжо не здавальняцца ўмерана-рэформіцкім кемаліцкім рэжымам. Стала даваць спрыяючыя вынікі агітацыя комуністых у арміі, у пераважнасьці сялянскай і, стала быць, нездаволенай палоўчатай політыкаю ўраду ў гэтым пытаньні.

Зразумелая рэч, ні буржуазія, ні ўрад ня спрыялі ўмовам працы турэцкай компартыі. 28 студзеня 1921 г. партыі быў нанесены страшэнны ўдар, ад якога яна ня зусім ачуняла да гэтага часу: уся галава партыі разам з т. Субхі—17 чалавек лепшых комуністых Турцыі—былі зьверскі замучаны фанатычным натаўпам у Трапэзундзе і пасьля кінуты ў мора. Дакладна не ўстаноўлена, ці гэта зроблена з ведама Кемаля, ці па ўласнай ініцыятыве анатолійскай буржуазіі. Ва ўсякім разе, падладжана было гэтае зьнішчэньне ненавідных комуністых буржуазіяй надта лоўка. Вось вынятка з лісту т. Джавада, члена замежнага бюро турэцкае компартыі к т. Паўловічу (рэктару Акадэміі Ўсходаведзеньня) па выпадку гэтага жудаснага забойства: „Народу гаварылі: „Комуністыя, прыехаўшыя з Расіі,—бальшавікі. Яны прыбылі з замерам зачыніць усе крамы; ніхто ня будзе мець права ні купляць, ні прадаваць. Затым будуць зроблены вобыскі. Уся маемасьць і грошы будуць рэквізаваны. Комуністыя—бязбожнікі, яны кідаюць у вастрог ўсіх тых, хто верыць у Аллаха. Рэлігія, уласнасьць і гандаль—рэчы, забароненыя бальшавікамі“. Сярод натаўпу былі цёмныя людзі, падкупленыя буржуазіяй і нацкованыя поліцыяй супроць комуністых. Яны накінуліся на васьмёх таварышоў, закідвалі іх каменьнямі і хацелі разарваць іх на кавалкі. Па дарозе нашым таварышом ніхто не хацеў падаць ні хлеба, ні фуражу для іх коняй. Урад стараецца выявіць сябе абаронцаю бальшавікоў. Няпраўда, быццам урадам былі ўжыты меры для абароны комуністых. Мы ведаем з пэўных крыніц, што сама поліцыя давала загад зачыніць крамы і ўзбурвала натаўп закідваць каменьнем нашых бяззбройных таварышоў. Гэтаму зьдзеку нашы таварышы падпадалі ў чатырох ці пяці гарадох і мясцовасьцях. Але асабліва пад зьверскую расправу падпалі таварышы ў Трапэзундзе. Тут зараз-жа пасьля іх прыезду яны былі адведзены ў порт пры злосных крыках натаўпу. Там іх выкрылі, адабралі ў іх некалькі рэвольвэраў, якія знашліся пры іх. Пасьля гэтага іх сілком пасадзілі ў моторную лодку, якая зараз-жа адплыла. За гэтаю лодкаю паплыла другая, у якой знаходзіліся ўзброеныя людзі. Нашых таварышоў зьвязалі, закалолі штыхамі і кінулі ў мора“.—Вось жудасная аповесьць пра расправу з лепшымі прадстаўнікамі комуністычнага руху ў Турцыі. Зразумела, рух аправіўся пасьля гэтага ўдару, компартыя Турцыі існуе і працу вядзе, але становішча яе ў кемаліцкай Турцыі ня лепшае, як у заходня-эўропэйскіх капіталістычных краінах.

Ёсьць яшчэ адзін козыр для барацьбы з комуністымі ў Турцыі ў руках турэцкага ўраду. Гэта—офіцыяльная турэцкая компартыя. Турэцкія працоўныя, якія інстынктыўна спачуваюць комунізму, вельмі яшчэ цёмныя і політычна няпісьменныя, каб разьбірацца ў сапраўдным характары розных політычных партый і дзеля гэтага лёгка пападаюцца на вуду ашуканцаў і ваўкоў у вавечай шкуры з гэтае партыі, якой урад дапамагае. Вось некалькі характэрных вынятак з поглядаў гэтае псэўда-комуністычнай партыі:

1. „Турэцкі народ, паводле гістарычных прычын прыхільнасьці да рэлігіі, ня можа цалкам у даны момант успрыняць комуністычную програму: яго трэба доўга і ўпарта штурхаць да гэтага. У наступны-ж момант пропаганда комуністычных ідэй ня толькі шкодна, але і гібельна для краіны. Калі салдат даведаецца, што не павінна быць радзімы, ён ня пойдзе яе абараняць; пачуўшы, што не павінна быць варожасьці нацый, ня пойдзе ваяваць з грэкамі; пачуўшы аб роўнасьці, перастане пакарацца начальству. Акрамя таго, нашы партыйныя дзеячы без знаёмства з дзяржаўным організмам Савецкай Расіі, ня будуць мець магчымасьці стварыць нічога новага, а разбураць толькі стары фундамант гаспадарчага жыцьця і давядуць краіну да пагібелі... Што датычыць да сучаснага моманту ў інтарэсах краіны мы павінны супроцьдзейнічаць усім агітатарам, пропагандыстым, якія выступаюць па сваёй ініцыятыве бяз ведама кіруючых органаў. Увесьці бальшавізм могуць толькі самі туркі, пры чым бальшавізм будзе ўведзены ў краіне зьверху“.

2. „Турэцкая комуністычная організацыя воляй Аллаха канчаткова ўрэгулявана... Мы адхіляем тую думку, па якой для ўгрунтаваньня комуністычных асноў сярод чалавечага грамадзтва неабходна ўжыць крывавыя рэволюцыі і ўласьцівыя ім спадарожнікі гэтых крывавых рэволюцый— злачынства і крайнасьці. Для забясьпекі шчасьця, супакою і дабрабыту ўсяго чалавецтва (без выключэньня), нельга ўжываць сродкі, радыкальна-процілеглыя пастаўленай мэце... Комунізм,—перш-на-перш, экономічны колектывізм. Але тыя, што надаюць комунізму дзікае і страшнае тлумачэньне зьнішчэньня ўласнасьці, гвалтоўнага адабраньня і падзелу чужое маемасьці, зьнішчэньня багатыроў, незалежных людзей, зьяўляюцца прыхільнікамі комуністычнага імпэрыялізму (!)“.

3. „Мы заклікаем да сьвядомага ўразуменьня тых, хто хістаецца, ці адпавядаюць асновы мусульманскага вучэньня прынцыпам комунізму...“ (Далей ідзе пашыраная аргумэнтацыя таго, што іслам і комунізм—паняцьці роўназначныя).

Комэнтарыі залішні.

А між іншым гэта псэўдо-комуністычная партыя мае свой ЦК у Ангоры, газэту „Эні Гюн“, уласнага Кароля Маркса ў асобе свайго лідэра, які быў султанскім міністрам, Эсхан-Алі-Бэка (так называе Эсхана газэта „Эні Гюн“).

Якія яшчэ маюцца палітычныя партыі ў кемаліцкай Турцыі?

Апрача ўжо памянёнай намі вышэй дробнабуржуазнай і ўмерана-рэформіцкай „Хуккукі-міліэ“, аблюбленым лёзунгам якой па сёнешні дзень зьяўляецца „спачатку канчатковая перамога над імпэрыялізмам, потым сур'ёзныя рэформы“, мае даволі вялікі ўплыў у краіне партыя „Халк Зюмрасі“ (народная партыя). Шмат сяброў ВНС—з гэтай партыі. Галоўныя пункты яе програмы: „Для ўстанаўленьня ў дзяржаве бязумоўнага народаўладзтва з'організавалася „Народная група“.

„Мэта групы—забясьпека неабходных рэформаў, зьдзяйсьненьне іх у залежнасьці ад запатрабаваньняў часу і патрэб народу“.

„Група, абапіраючыся на „священныя“ асновы Ісламу, імкнецца к звароту умоў шчырага супрацоўніцтва, а таксама к зьнішчэньню разбэшчваючага ўплыву Захаду і ліквідацыі яго апэтытаў, і лічыць свой напрамак правільным, бо ён узгадняецца з прызначэньнямі Аллаха“.

Далей гэтых дэкляратыўных пунктаў ідзе даволі радыкальная програма дзеяньняў: барацьба з п'янствам, простытуцыяй, крымінальнымі злачынствамі, бясплатнае ўсеагульнае навучаньне, надзел зямлёю безьзямельных, бясплатная ўсеагульная мэддапамога, абавязак ураду дастаўляць працу рабочым.

У програме „Халк Зюмрасі“, такім чынам, надзвычайная расьцягнутасьць, перамешваньне чыста соцыялістычных лёзунгаў з філянтропічнымі тэндэнцыямі і моцнай прыхільнасьцю да Аллаха. Няцяжка здагадацца, што ўяўляе яна анатолійскую дробную буржуазію і, часткова, сялянства краіны. Сярод мас Анатоліі „Халк Зюмрасі“ мае даволі значны ўплыў.

Урэшце, рознастайнасьцю тэй-жа „Халк Зюмрасі“ зьяўляецца другая дробнабуржуазная партыя „Зялёнай арміі“.

Чаму так многа дробна-буржуазных партый?

На гэта адказаць няцяжка. Менавіта-ж дробная буржуазія была ў авангардзе нацыянальна-вызваленчага руху, яна цяпер кіруе краінай, яна штурхае яе к уласнаму капіталістычнаму разьвіцьцю. А для шырокага ўласнага комуністычнага руху няма яшчэ пакуль і спрыяючых экономічных прадпасылак і выстарчаючай палітсьвядомасьці працоўных кемаліцкай Турцыі.

## V

Цяпер аб турэцка-савецкіх адносінах. Яны вызначаюцца тым дагаворам, які Савецкая Ўлада заключала з Турцыяй 16 сакавіка 1921 г. Нядаўна мы зьвязаліся з Турцыяй яшчэ адным дагаворам як-бы ў разьвіцьцё і дапаўненьне палажэньняў папярэдняга, пяцілецьце з дня падпісаньня якога так урачыста было адзначана ўрадамі абедзьвюх дзяржаў.

Конфэрэнцыя ў Маскве для заключэньня расійска-турэцкага дагавору сабралася ў лютым 1921 г., адначасна з Лёнданскай (аднэй з бескарысных конфэрэнцый для вырашэньня антантаўска-турэцкага пытаньня, папярэднічаўшай Лёзане). Які выразны контраст паміж абедзьвюма конфэрэнцыямі! У Лёндоне Лейд-Джордж не адмовіў сабе ў прыемнасьці напомніць туркам жорсткае рымскае Vac viktis!, у Лёндоне, як лейтмотыў, ва ўсіх выступленьнях ня туркаў гучэла крывадушнае абурэньне з прычыны віноўнасьці, моў, адных толькі немцаў і туркаў ў парушэньні міру ў Эўропе і ўсіх жудасьцяй імпэрыялістычнай вайны. Няхай-жа маўчаць цяпер і немцы і туркі, калі яны са сваімі д'ябальскімі намерамі кінуты

ў прах! Гісторыя ў асобе Антанты чыніць свой суд над двума народамі-злачынцамі, і няхай гэтыя апошнія безадказна і пакорна прымаюць прыгавор над сабою.

Зусім іншыя варункі былі ў Маскве. Тут дэлегаты абедзьвюх дзяржаў засядалі, як роўныя з роўнымі. Тут мелася на мэце не абгаварваць захватніцкія пляны, падрыхтоўваць напады, дзяліць здабычу і таргавацца з-за гэтага разьдзелу. Проста сабраліся прадстаўнікі дзьвюх вольных, не прызнаючых над сабою антантаўскай апекі, дзяржаў, каб падпісаць шчыры бескарысны дагавор.

Падпісалі дагавор з расійскай стараны Наркаміндзел Чычэрын і член УЦВК—Коркмасаў, з турэцкае—старшыня дэлегацыі Наркам гаспадаркі Юсуф Кемаль, Наркам асьветы доктар Рыза-Нур і турэцкі пасол у Сав. Расіі Алі-Фуа-паша. Паводле гэтага дагавору СССР і Турцыя абавязваюцца не прызнаваць ніякіх міжнародных актаў, якія датычацца другое стараны і ня прызнаных ёю.

Тэрыторыя Турцыі азначаецца згодна „Пакт Насіональ"—урачыстага акту, прынятаму турэцкім парлямантам у Константынопалі 28 студзеня 1920 году. Такім чынам, на паўночным усходзе: за Грузіяю прызнаецца Батум з правам вольнага транзыту цераз яго тавараў для туркаў; Нахічэвань абвяшчаецца аўтономнай тэрыторыяй пад протэктарацтвам Азэрбэйджану; да Турцыі адыходзяць акругі: Артвінская, Ардыганская і Карская, але там, дзе Арначай блізка падыходзіць да Александропольска-Эрыванскага шляху, устанаўляецца з турэцкага боку 8-мі вёрсная паласа, дзе Турцыя абавязваецца ня трымаць войска і не будаваць крэпасьцяй.

Абедзьве стараны прызнаюць права ўсходніх народаў на свабоду і незалежнасьць і выбар уласнага дзяржаўнага ладу паводле свайго жаданьня.

Константынопаль прызнаецца сталіцаю Турцыі.

Адменьваюцца старыя дагаворы паміж Расіяй і Турцыяй і пазыкі Турцыі Расійскай дзяржаве, а таксама касуюцца капітуляцыі.

Не дапушчаецца ўтварэньне груп, прэтэндуючых на ролю ўраду другое стараны ці яе часткі, ці маючых на мэце барацьбу супроць другое стараны.

Устанаўляецца свабодны транзыт паміж абедзьвюма старанамі ў межах іх законаў.

Далей ідуць артыкулы аб звароце палонных, аб абаюдных правох і абавязках грамадзян і г. д.

Дазволім сабе яшчэ адну цытату з дагавору, каб малюнак савецка-турэцкіх адносін атрымаўся поўны.

Вось пачатак дэклярацыйнай часткі дагавору:

„Урад РСФСР і ўрад ВНСТ, згаджаючыся з прынцыпамі брацтва нацый і права народаў на самавызначэньне, адзначаючы існуючую паміж імі солідарнасьць у барацьбе супроць імпэрыялізму, таксама як і той

факт, што ўсякія цяжкасьці, створаныя для аднаго з двух народаў, пагаршаюць становішча другога, і ўсямерна заахвочваемыя жаданьнем устанавіць паміж імі пастаянныя сардэчныя ўзаемаадносіны і неперарыўную шчырую дружбу, заснованую на ўзаемных інтарэсах другіх старон, парашылі заключыць дагавор аб дружбе і брацтве“.

Значэньне гэтага дагавору было, зразумела, вельмі вялікае і для Сав. Расіі і для Турцыі. Першай ён прынёс вельмі вялікую карысьць тым, што наносіў удар імпэрыялістычным плянам Антанты і надзвычайна падняў прэстыж Сав. Расіі ў краінах Усходу; Турцыя-ж, дзякуючы гэтаму дагавору, у гады барацьбы за сваю незалежнасьць мела хоць адну пэўную граніцу, якую можна было пакінуць без ваеннае ахраны—Каўкаскую.

З дня заключэньня дагавору прашло пяць год і ўсе гэтыя гады сяброўскія адносіны паміж абедзьвюма дзяржавамі толькі ўзмацняюцца. Зразумела, турэцкія працоўныя яшчэ не сказалі апошняга слова, яшчэ не абярнулі Турцыю кемаліцкую ў Турцыю савецкую. Калі гэта адбудзецца, савецка-турэцкая дружба памацнее яшчэ больш. Але і кемаліцкая Турцыя—фактар рэволюцыянізуючы для Бліжняга Ўсходу. Погляды ўсяго прыдушанага імпэрыялізмам Мусульманскага сьвету—Індыі, Эгіпту, Пэрсіі—накіраваны на незалежную і мацнеючую Турцыю. Яна для іх—сымболь магчымасьці нацыянальнага вызваленьня, калі ёсьць досыць волі і рашучасьці да барацьбы і перамог, калі ёсьць вялікае моральнае падтрыманьне Савецкага Саюзу—гэтага вялікага фактара вызваленчага руху не ў аднэй толькі Турцыі. У час, калі гэтыя краіны стануць свабоднымі, як Турцыя, зразумела, недалёка.

## VI

У заключэньне—некалькі слоў аб быўшым нядаўна контр-рэволюцыйным выступленьні ў Турцыі і пэрспэктывах.

Мы ўжо ўспаміналі аб тым, што ВНСТ[1]) скасавала і султанат і халіфат. Гэта барацьба з рэакцыямі монархічнай і клерыкальнай павялічыла лік ворагаў кемаліцкай Турцыі. Супроць яе з гістарычнай няўхільнасьцю аказаліся: 1) міжнародны імпэрыялізм, 2) монархічныя колы быўшае прыдворнае знаці, вышэйшага чыноўніцтва і афіцэрства, 3) рэакцыйна-настроенае мусульманскае духавенства, 4) кляса фэўдалаў-абшарнікаў, 5) буйная гандлёвая буржуазія.

К гэтаму яшчэ пасьля перамогі над ворагамі і ў асярэдзіне самой кіруючай Народнай партыі зьявілася опозыцыйная група, знаходзіўшая, што ўрад „вельмі шпарка“ ідзе па шляху рэформаў. Гэта група к моманту контр-рэволюцыйнага паўстаньня адкалолася ад Народнай партыі, утварыла ўласную партыю—„прогрэсыўна-рэспубліканцкую“, як яна сябе шырокавяшчальна назвала, і об'ектыўна падтрымала паўстаньне. Паў-

[1]) Вялікае Нацыянальнае Сабраньне Турцыі.

станьне паднялося ў Курдыстане, і ніці яго цягнуцца і к Лёндону, і к клерыкальна-монархічным групоўкам Константынопалю. Яго непасрэднаю прычынаю была праведзеная кемаліцкім урадам адмена „ашара“[1]), балюча ўдарыўшая, зразумела, па заможным зямляўладаньні. Сымптаматычна, што паўстаньне ў Турцыі пачалося на брытанскай граніцы і пачалося ў момант наведваньня Мосульскага раёну камісіяй Лігі Нацый, камандыраванай для правядзеньня пагранічнае мяжы. Карыстаючыся сваім уплывам сярод няпісьменных і дзікіх курдаў, фэўдалы пры дапамозе рэакцыянэраў-муллаў уцягнулі ў паўстаньне каля 10 тыс. байцоў.

Лёзунгі паўстаньня?

Зразумела—не „назад к ашару“ і не ненавіднае курдам слова „інглізі“ (ангелец). Правадыры паўстаньня адыгрываліся на рэлігійным фанатызьме курдаў і іх імкненьні к поўнаму аддзяленьню ад Турцыі, поўнай дзяржаўнай незалежнасьці.

Урад Кемаля ня спужаўся. Ён зараз-жа замяніў старшыню габінэту прогрэсыстага-рэспубліканца Фэтхі-пашу радыкалам Ісмэт-пашою, выставіў супроць курдаў 40-тысячную армію і паўстаньне задушыў, з вялікімі, праўда, труднасьцямі і ахвярамі, бо ўмовы вайны ў горным Курдыстане надзвычайна цяжкія.

Гэтае паўстаньне—прадсьмяротны ўрок для кемаліцкага ўраду, што трэба рашуча ісьці па шляху рэформаў, асабліва ў галіне аграрнай і рабочага законадаўства, якія ў Ангоры яшчэ моцна церпяць да гэтага часу; больш рашуча змагацца з контр-рэволюцыйнымі элемэнтамі ў краіне; узяць больш рашучы напрамак для падняцьця культурнага ўзроўню мас,—тады такія недарэчнасьці, як паўстаньне курдаў з-за адмены „ашара“, стануць у Турцыі немагчымымі.

Пэрспэктывы?

Кемаліцкая Турцыя ідзе па шляху ўласнага капіталістычнага разьвіцьця. Стала быць, там няўхільна абвастрэньне клясавых антагонізмаў, няўхільны—у недалёкім часе—і новы пераварот, які Турцыю дробна-буржуазную—кемаліцкую аберне ў Турцыю Савецкую.

У добры час.

**Ад рэдакцыі**. Артыкул быў ужо надрукаваны, калі здарыліся дзьве цікавыя падзеі: Новы выступ курдаў супроць ангорскага ўраду і спроба ангельцаў аднавіць халіфат у Эгіпце. Гэта ёсьць яшчэ адзін довад за тое, што маладому ангорскаму ўраду трэба быць на варце.

---

[1]) Ашар—асабісты зямельны падатак у карысьць духавенства і абшарнікаў, які даходзіў да 12,5 проц. з ураджаю.

## ЛЕНІН і ПЛЕХАНАЎ

*(Іх адносіны згодна новых матэрыялаў)*

**С. Вольфсон**

Ленін і Плеханаў—дзьве найбольш магутныя індывідуальнасьці з ліку ідэолёгаў расійскага пролетарыяту, пачынаючы з першых крокаў яго па шляху сьвядомай клясавай барацьбы, канчаючы пераможным заканчэньнем барацьбы за ўладу.

Рабочы рух нашай краіны так непарыўна сплёўся з іменьнямі Плеханава і Леніна, што немагчыма зразумець і дасьледваць яго які-небудзь больш або менш значны этап без таго, каб не прыпыніцца на іменьнях Г. В. Плеханава і Ў. І. Леніна.

Вось чаму супастаўленьне гэтых двох іменьняў, спроба разабрацца ў тым, як склаліся і разьвіваліся адносіны гэтых двох вялікіх правадыроў расійскага соцыялізму, дасьледзіны таго, як яны часамі йшлі локаць у локаць, як змагальнікі за адзіную справу, або як яны ў барацьбе за тую самую адзіную справу разыходзіліся, шукаючы шляху, у розныя бакі,—зьяўляюцца ня толькі цікавай, але і вельмі патрэбнай працай. Зьдзейсьненьню гэтай працы да гэтага часу перашкаджаў непераможны перапынак,—адсутнасьць адпаведных матэрыялаў. Матэрыялы для суджэньня аб адносінах Плеханава і Леніна мы атрымалі толькі вельмі нядаўна і гэты матэрыял толькі й дазваляе нам рабіць адпаведныя вынікі. Шэраг проектаў партыйнай програмы, проекты аграрнай програмы, запісы ў дзеньніку Леніна, успаміны Крупскай, Мартава, Аксэльрода, Троцкага і, урэшце, што самае важнае, перапіска паміж Георгам Валентынавічам, і Ўладзімерам Ільлічом,—гэткія тыя матэрыялы, якія мы за апошнія месяцы атрымалі ў сваё распараджэньне і якія дазваляюць нам так або інакш зрабіць спробу адказаць на пастаўленае вышэй пытаньне. Усяго апублікавана цяпер, апрача таго матэрыялу, якія паказаў, 38 пісьмаў Плеханава да Леніна і 30 пісьмаў Леніна да Плеханава. Пісьма апублікаваны часткова ў 3-м Ленінскім зборніку, часткова ў 4-м зборніку групы „Освобождение Труда“, і затым адно пісьмо зьявілася на францускай мове, апублікаванае Каменскай у Францыі і на расійскую мову было перакладзена мною ў часопісі „Под знаменем марксизма“ за 1924 г. № 6-7.

Перапіска Г. В. і Ў. І. ахоплівае час з канца дзевяцьсотых гадоў па восень 1903 г., г. зн. пэрыод з прыезду Ў. І. заграніцу, організацыі

„Искры", „Зари", 2-гі зьезд партыі, выхад Леніна з „Искры" і кооптаваньне Плеханавым меншавіцкай колегіі.

Есьць адно пісьмо Леніна з сібірскай ссылкі і яго-ж пісьмо, якое адносіцца к першай рэволюцыі, пісанае ўвосень 1905 г. і, урэшце, апошняе з пісьмаў, якія пісалі Плеханаў і Ленін, адносяцца к 1910 г. Гэтымі 68 пісьмамі, аб якіх я гаварыў, перапіска, што была паміж Г. В. і Ў. І., ня вычэрпваецца. Можна сказаць зусім пэўна, што значная частка пісьмаў загінула. Загінула ў час вандраваньня Ўл. Ільліча, з прычыны розных цэнзурных і розных іншых меркаваньняў. Магчыма, некалькі пісьмаў будзе яшчэ апублікавана. Але асноўнае ядро перапіскі ўсё-ткі—перад намі.

I

Перапіска паміж Г. В. і Ўл. Ільлічом пачалася, як я ўжо казаў, тады, калі Ленін быў яшчэ ў ссылцы, г. зн. у канцы дзевяностых гадоў. Як вядома, знаёмства Леніна з Плеханавым пачалося з 1895 г., калі Ленін упяршыню прыехаў заграніцу. Паездка Леніна адбылася ў выніку нарады прадстаўнікоў розных соцыял-дэмократычных груп, якая адбылася ўзімку 94-95 г. ў Пецярбургу. Гэта нарада дэлегавала заграніцу, для таго, каб наладзіць там выданьне популярнай літаратуры і завязаць сувязь з групай „Освобождение Труда",—дзьвёх асоб. Гэтымі асобамі былі Эўгені Іванавіч Нікіцін-Спонці і Ўладзімер Ільліч Ульянаў. Ульянаў зрабіў на членаў групы „Освобождение Труда" вельмі моцнае ўражаньне. Ідэолёгі расійскага пролетарыяту, якіх налічвалася вельмі мала і якія састарыліся ў барацьбе за рабочую справу, адразу пачулі, што ў асобе маладога невядомага юнака, які прыехаў з Расіі, зьявіўся чалавек з вялікімі здольнасьцямі, з вялізнай адданасьцю рабочай клясе і справе рэволюцыі, чалавек, перад якім, як відаць, стаіць прадоўжваньне справы, пачатай заснавальнікамі расійскага марксызму. П. Б. Аксэльрод, адзін з выдатнейшых прадстаўнікоў групы „Освобождение Труда", пасьля азнаямленьня з артыкулам, які Ленін надрукаваў тады ў зборніку „Материалы к истории хозяйственного развития России", адразу адчуў у маладым аўтары „тэмпэрамант, баявы аганёк". Цераз якія-небудзь чвэрць веку, цераз шмат гадоў пасьля таго, як паміж Ленінам і Аксэльродам адбыўся найвялікшы разрыў, як жыцьцё зрабіла іх заядлымі палітычнымі ворагамі, Аксэльрод гаварыў у сваіх успамінах: „Гэтыя гутаркі з Ульянавым былі для мяне сапраўдным сьвятам, і я зараз успамінаю аб іх, як аб адным з самых радасных, самых сьветлых момантаў у жыцьці групы „Освобождение Труда." [1]) У той самы час, г. зн. увесну 1895 году, Ленін і пазнаёміўся з Плеханавым. Ён зьвярнуўся да яго, як да першага прадстаўніка групы. Георгі Валентынавіч пазнаёміў яго з рэштай кіраўнікоў. Адным з вынікаў збліжэньня Леніна з групай „Освобождение Труда" было выданьне вядомых зборнікаў „Работник".

[1]) Перапіска Г. В. Плеханава і П. Б. Аксэльрода. Т. І. М. 1925 г. Стар. 271.

Неўзабаве пасьля звароту ў Расію Ленін быў заарыштаваны і прыгавораны да ссылкі ў Сібір на 3 гады. Трэба думаць, што, будучы ў ссылцы, Ул. Ільліч і распачаў пісьмовыя зносіны з Плеханавым. Першым з пісьмаў Леніна да Плеханава, якія да нас дашлі, было пісьмо, напісанае 22-га сакавіка 1899 году, г. зн., прыкладна, праз 10 месяцаў пасьля таго, як Ленін трапіў у ссылку. Пісьмо Леніна пачынаецца словамі: „Дарагі Георгі Валентынавіч, атрымаў Вашае пісьмо" і г. д. — гэта значыць, яно зьяўляецца адказным і, такім чынам, можна думаць, што перапіска паміж Леніным і Плеханавым пачалася адразу пасьля прыезду Ул. Ільліча ў ссылку. На жаль, пісьмо папярэдняе паказанаму да нас не дашло. Мы ведаем, што Ул. Ільліч, будучы ў ссылцы, асабліва пільна сачыў за процэсам нараджэньня рэвізыонізму як замежнага, так і айчыннага. Першае праяўленьне бэрштэйніянства, першыя выступаньні экономістых і Струвэ выклікалі ў Ул. Ільліча сур'ёзную трывогу. Закінуты ў сібірскую глуш, пазбаўлены патрэбнай інформацыі і ня маючы ў сваім распараджэньні адпаведнай літаратуры, Ул. Ільліч інстынктыўна пачуў трупны пах опортунізму, што ўжо даносіўся здалёк. Характэрна, што ў той час яго думка заўсёды зварачаецца да Плеханава, як да таго, хто павінен адратаваць гонар і вартасьць рэволюцыйнага марксызму. У пісьме ад 2-га верасьня 1898 году Ленін піша да аднаго з сваіх бліжэйшых у той час таварышоў — А. Н. Патрэсава (прамова йдзе аб двух артыкулах, якія зьявіліся за подпісам Н. Г. у „Русском богатстве", якія належалі вядомаму ў той час соцыялістычнаму дзеячу Жытлоўскаму і якія накіраваны супроць марксыцкай філёзофіі): „Я павінен прызнацца, што не компэтэнтны ў пытаньнях, якія ўзьняў аўтар і мяне вельмі зьдзіўляе, чаму гэта аўтар „Beiträgzeur geschichte des Materialismus" (Плеханаў Г. В.) ня выказваўся ў расійскай літаратуры і ня выказваецца рашуча супроць нэо-кантыянства, даючы магчымасьць Струвэ і Булгакаву полемізаваць аб паасобных пытаньнях гэтай філёзофіі, нібыта яна ўжо ўвашла ў склад пагляду расійскіх вучняў... Полеміка яго (Плеханава Г. В.) з Бэрнштэйнам і Конрадам Шмідтам мяне вельмі цікавіць.

Адносна Бэрнштэйна ў Ул. І., як відаць, паўстала сумненьне, ці не занадта рэзка разьвінаецца полеміка з ім. Але тады, як ён атрымаў магчымасьць азнаёміцца беспасярэдна з выступаньнем Бэрнштэйна, калі ён атрымаў у сваё распараджэньне яго кнігу, дык у пісьме да Плеханава ад 22 сакавіка 99 году Ленін піша: „Пра Бэрнштэйна магу сказаць, што, зразумела, яго „тэорыя" слабей за слабае і, калі-б гутарка ішла аб ёй, дык ад Бэрнштэйна не засталося-б і знаку. Але ён прадстаўляе сабою выказьніка вельмі моцнай плыні ў партыі і ў гэтым сэнсе яго соцыяльнае значэньне куды перавышае яго індывідуальныя і інтэлектуальныя сілы".

Ацэнка, якую ў гэтым пісьме дае Ул. Ільліч Бэрнштэйну, па сваёй істоце супадае з тэй, якую даў Плеханаў у сваіх працах, калі ён пісаў: „Справа не ў Бэрнштэйне, страшны не Бэрнштэйн, а бэрштэйніянства,

як азнака заняпаду партыі, што надыходзіць. У канцы таго самага году Ленін яшчэ больш пэўна выказваецца па гэтым пытаньні. Ён піша Патрэсаву: „Я прачытаў і перачытаў з вялікім задаваленьнем „Beiträge zur Geschichte des Materialismus“, прачытаў артыкул таго самага аўтара ў „Neue Zeit.“ супроць Бэрнштэйна і Конрада Шмідта, прачытаў услаўленага нашымі кантыянцамі Штальлера і рашуча перашоў на бок моністых“ (Плеханава. С. В.). Урэшце ў тым самым пісьме Ленін піша: „Не разумею толькі аднаго, як мог Каменскі пакінуць без адказу артыкулы Струвэ і Бэрнштэйна ў „Новом Слове“ супроць Энгельса“...

Калі вызначаюцца абрысы здані опортунізму і рэвізыянізму, Ленін чакае абароны рэволюцыйнага марксызму ад Плеханава, для яго гэта нешта, што само па сабе разумеецца і зусім натуральна. Каму-ж, як не аўтару „Моністычнага пагляду на гісторыю“, абараняць сьцяг ваяўнічага матэрыялізму? А тое, што тут „спрэчка ідзе аб галовах“, аб тым, што рэвізыянізм зьяўляецца сьмяротнай пагрозай рэволюцыйнаму марксызму,— у гэтым у Леніна сумненьня ня было. У пісьме ад 22 сакавіка 1899 г. ён піша Георгу Валентынавічу: „Рэвізыя нізмцягне за сабою небясьпеку, куды большую, чымся гэта здаецца з павярхоўнага азнаямленьня з ім“.

Энэргічная перапіска паміж Г. В. і Ул. Ільлічом пачынаецца з канца 1900 году, хутка пасьля нарады, якая адбывалася ў вёсцы „Корсье“ каля Жэнэвы 24—28 жніўня. Нарада гэтая адбывалася паміж Леніным і Патрэсавым, якія прыехалі з Расіі ў якасьці прадстаўнікоў організацыі „Искры“—з аднаго боку, Плеханавым, Аксэльродам, Засуліч—прадстаўнікамі групы „Освобождение Труда“—з другога. На гэтай нарадзе, поўнай рэзкіх сутычак і конфліктаў, нарадзе, якая падрабязна ахарактарызавана ў запісу Ул. Ільліча „як амаль што не патухла „Іскра“ і была дасягнута пэўная згода аб выданьні газэты пад сумеснай рэдакцыяй Плеханава, Леніна, Аксэльрода, Патрэсава і Засуліч“.

Нам вядомы чатыры пісьмы, напісаныя Г. В. Ул. Іл. хутка пасьля нарады—у верасьні, лістападзе, сьнежні 1900 году. Яны былі прасякнуты вялікай дружасьцю, прысьвечаны організацыйным і інш. пытаньням, якія зьвязаны з выданьнем „Искры“, зьмяшчаюць разгляд літаратурных матэрыялаў, што прызначаны для газэты. Адначасна сустракаюцца ўвагі, якія маюць вялікую тэорытычную цікавасьць. Так характэрны наступны выраз Плеханава, напісаны ў зьвязку з артыкулам Богучарскага, прызначаным для першага нумару „Искры“: „Богучарскі кажа, што сяляне ў большасьці варожыя соцыялізму, гэта не дакладна, селянін, як той, хто прадае рабочую сілу, ня можа быць варожым соцыялізму па існасьці справы. А толькі па невуцтву. Гэта вельмі важная розьніца, якую належыць выстаўляць на від у інтарэсах прыцягненьня да нас дэмократычных элемэнтаў нашага грамадзтва“.

Вельмі важнае пісьмо Леніна да Плеханава ад 30 студзеня 1901 г. Пісьмо гэта прысьвечана адносінам да Струвэ. Тут патрэбна невялікае

адхіленьне. Да таго часу, калі Ленін прыехаў заграніцу, так званыя легальныя марксыстыя, на чале Струвэ і М. І. Туган-Бараноўскім, лічыліся, ужываючы сучасны выраз,—„падарожнікамі“ соцыял-дэмократыі. Струвэ, напрыклад, у 96 годзе на міжнародным соцыялістычным конгрэсе ў Лёндоне ўвашоў у склад соцыял-дэмократычнай Расійскай дэлегацыі (як бачыце, нешта нават куды большае, чымся падарожнік!). Струвэ быў таксама ў 96 годзе аўтарам маніфэсту расійскай соцыял-дэмократычнай рабочай партыі, прынятага Менскім Устаноўчым Зьездам партыі. Калі гурток так званых маладых соцыял-дэмократаў, на чале якіх стаялі Ленін, Мартаў, Патрэсаў, узялі за мэту стварыць агульна-партыйную палітычную, агульна-партыйную тэорытычную часопісь, дык яны надумалі прыцягнуць да гэтае справы і „падарожнікаў“, ня гледзячы на іх выразны ў той час ухіл у бок рэвізыянізму і іх „крытычнае“ нахіленьне, у якім Ленін і іншыя добра аддавалі сабе справаздачу.

Перамаўленьні пра контакт паміж соцыял-дэмократамі і легальнымі марксыстымі мелі месца ў 900 г. ў Пскове,—іх вынікам зьявілася паездзка Леніна і Патрэсава заграніцу і тыя перамаўленьні, якія прывялі да заснаваньня газэты „Искры“ і часопісі „Заря“. Дзеля таго, што Пскоўская нарада мае беспасрэдныя адносіны да пытаньня, якое нас цікавіць, дык я падам некалькі радкоў з толькі што апублікаванага запісу Ю. О. Мартава, які адносіцца к гэтаму моманту. Мартаў піша: „Ня гледзячы на тое, што яны абодва былі пераконаны ў тым, што Струвэ і К⁰ ступілі на шлях, які хутка адводзіць іх ад соцыялістычнага лягэру ў лягэр буржуазнага лібэралізму, і Ульянаў і Патрэсаў вынесьлі ўражаньне, што на бліжэйшы час гэтая група ахвотна задаволіцца роляй другой скрыпкі, калі ўбачыць, што нам, з нашым „ортодоксальным“ сьцягам удалося організаваць моцна рэволюцыйную партыю дзеяньня“. Формальная згода ў Пскове не адбылася, але наогул вызначыліся абрысы гэтае згоды, вызначыліся прынцыповыя магчымасьці яе, і ў выніку гэтых магчымасьцяй Ленін і Патрэсаў накіраваліся заграніцу. Ленін, зразумела, добра ведаў да гэтага часу цану „марксызму“ Струвэ,—аб гэтым сьведчаць некаторыя яго працы. Але ўсё-ткі Ленін і Патрэсаў лічылі патрэбным прыцягнуць да новай справы і легальных марксыстых. Гэтая прапанова спаткала з боку Пляханава літаральна шалёны адпор. Ленін піша ў сваім запісу: „Адкрываецца ход нарады. Ставіцца пытаньне аб адносінах да Струвэ і Туган-Бараноўскага. Мы стаімо за ўмоўнае закліканьне (нас няўхільна штурхала на гэта рэзкасьць Г. В.). Мы хацелі гэтым паказаць, што жадаем іншых адносін. Надзвычайная рэзкасьць Г. В. проста, нібы інстыктыўна штурхае на протэст, на абарону яго супрацоўнікаў. В. І. Засуліч вельмі ўдала заўважыла, што Г. В. заўсёды полемізуе так, што выклікае ў чытача спачуваньне да свайго супрацоўніка. Г. В. вельмі холадна і суха заяўляе аб сваёй поўнай нязгодзе і дэмонстрацыйна маўчыць... Уся раніца адбы-

ваецца пад нейкай цяжкай атмосфэрай: справа набывала такі выгляд, нібыта Г. В. ставіць ультыматум—або ён, або заклікаць гэтых „прахвостаў". Мы парашылі ўступіць і заявілі, што „па дамаганьні Г. В. адмаўляемся". Гэта было 24 жніўня 1900 года. А цераз якіх-небудзь 4 месяцы, 29 сьнежня таго самага году Ленін канчаткова парваў з думкай аб згодзе з Струвэ. Адбылося гэта пасьля нарады ў Мюнхэне, дзе былі зжыты апошнія ілюзіі на гэты конт. Свае ўражаньні Ленін перадаў у запісе, які нядаўна дашоў да нас. У ім ён называе Мюнхэнскую нараду гістарычнай, якая абагульняе цэлую паласу яго жыцьця. „Гэта быў паказальны", піша Ленін, „гістарычны ў сваім родзе сход... Я разумеў так, што Струве ідзе да нас, вышла якраз наадварот. Адбылася гэтая дзіўная памылка, відаць, таму, што Патрэсаву надта вельмі хацелася таго, чым „вабіў" Струвэ, іменна палітычнага матэрыялу, корэспондэнцыі etsc, а „чаго жадаецца, таму верыцца"... І іменна гэты сход канчаткова й няўхільна адхіляў такую веру. Струвэ паказаў сябе з зусім новага боку, паказаў сябе „палітыкам" чыстае вады, палітыкам у горшым сэнсе слова, шалахвостам, гандляром і нахалам... Струвэ зьявіўся з верай у нашу слабасьць, зьявіўся прапаноўваць нам умовы здачы і ён зрабіў гэта ў надзвычайна ўмелай форме, не сказаўшы ніводнага рэзкага слоўца, але тым ня менш выявіўшы, якая грубая гандлярская натура здрадніка-лібэрала хаваецца пад гэтай прыгожай лушпайкай самага найноўшага „крыкуна". Аднак, перамаўленьні з Струвэ адбываюцца. У канцы студзеня ў Мюнхэне адбываецца нарада рэдакцыі „Искры" з Струвэ, на якой разглядаецца пытаньне аб выданьні групай „Искра" сумесна з Струвэ ў якасьці прадстаўніка дэмократычнай опозыцыі „агульна-палітычнага дадатку да часопісі „Заря". Пасьля нарады Ленін піша Плеханаву: „Цяпер вось атрымаў пісьмо, дарагі Г. В., толькі што зьвярнуўшыся з канчатковых перамаўленьняў з „Юдай" Струвэ"... Рэдакцыя зрабіла згоду з Струвэ. Ленін абураецца з гэтае прычыны:

Нас будуць завальваць матэрыялам гэтага роду, мы будзем бегаць па выкананьні даручэньня Юды (Струвэ), які сваім гаспадараньнем у суч[асным] агл[ядзе] (справа відочная, што гаспадар і гаспадар поўны будзе там ён, бо ў яго грошы і 99 проц. матэрыялаў—мы ласьне зрэдка крыха-па-крысе будзем мець магчымасьць даць туды) зробіць надзіва добрую лібэральную кар'еру і спробу адцісьнуць ня толькі поўнаважкую „Зарю", але й „Искру". Мы будзем бегаць, клапатаць, корэктаваць, перавозіць, а яго вяльможнасьць п. Юда (Струвэ) будзе Rédacteur en chef найбольш уплывовай ў шырокай so genannter („грамадзянскай" думцы) часопісі. А „романтычную" ўцеху можна пакінуць гэтым rechtgläubigen: хай называецца „дадатак" да соцыял-дэмократычнай часопісі „Заря", хай цешацца слоўцамі, а я пакуль што забяру ў рукі самую справу. Запытаньне, няўжо нібыта слынная „гегемонія" соцыял-дэмократыі ня зьвіцца пры гэтым простым... У чым яна выразіцца, апрача

слоўца: „дадатак“ да соцыял-дэмократычнае часопісі. Што матэрыялам ён нас задушыць, гэта бясспрэчна, бо мы й для „Зари“ з „Искрой“ не пасьпяваем пісаць... Я зьняў адбітак з гэтага пісьма,—піша Ўл. І Ленін,—дадаю яго да протоколу сягонешняга пасяджэньня, як заяўленьне майго протэсту і маёй „асаблівай думкі“, і заклікаю вас таксама падняць сьцяг паўстаньня. Лепей разрыў, чымся гэтае фактычнае падляганьне програме Credo поруч з галоснымі выразамі супроць Cred'ызм.

Плеханаў, аднак, ня лічыў мэтазгодным пайсьці за поклічам Леніна і 2-га лютага ён пісаў рэдакцыі ў Мюнхэн: „Я атрымаў пісьмо Леніна і вашыя тры (два пісьмы Аксэльроду і адно—Засуліч) і думаю, што трэба згадзіцца на ўмовы дагавору; іншага выйсьця цяпер няма, а потым пабачым. Праўда, што трэ' было патаргавацца наконт матэрыялу для „Искры“, але калі ён (г. зн. Струвэ) ня згодны, дык усё такі разрываць ня трэба“.

Але адначасна Плеханаў добра падлічае, як небясьпечны для расійскага марксызму выступаньні Струвэ. Барацьба з Струвэ робіцца для Г. В. галоўнай палітычнай задачай. У шэрагу пісем да Леніна—з чэрвеня па жнівень—Плеханаў паведамляе, што ён захоплены артыкуламі супроць Струвэ, што ён цалкам аддаўся гэтай працы, што да сканчэньня яе, ён ня можа ўзяцца ні за якую іншую працу. Барацьбе з Струвэ Плеханаў надае першараднае значэньне і лічыць, што яна не дапушчае ніякіх уступак, умоў, ваганьняў. „Werther genosse“—піша ён 26-га лістапада 1900 г. Леніну—„не шкадуйце нашых палітычных ворагаў, яны не пашкадуюць нас. Па кім-небудзь з нас прыдзецца паніхіду сьпяваць, як кажа купец Калашнікаў: нашая барацьба ёсьць барацьба на сьмерць; душэце галаву гадзіне, пакуль ёсьць магчымасьць душыць яе“.

Разам з тым у сваіх пісьмах да Леніна Плеханаў праводзіць думку, што барацьба з струвізмам павінна весьціся вельмі асьцярожна і, так сказаць, „дыплёматычна“, што яна, галоўным чынам, павінна быць накіравана супроць Струвэ і К°, але так, каб гэта ня вельмі палохала лібэральных дэмократаў. У гэтых адносінах асаблівую цікавасьць прадстаўляе пісьмо Плеханава да Леніна, якое было напісана 14-га чэрвеня 1901 году і выклікана артыкулам Леніна „Гонители земства и аннибалы либерализма“, які быў прызначаны для „Зари“. „Артыкул Ваш“, піша Плеханаў Леніну, „я прачытаў з вялікай увагай і скажу вось што: Вашы адозвы аб Струвэ зусім справядлівыя.

Але... і тут сёе-тое трэба зьмякчыць. І вось чаму. У Вашых адозвах чуваць вельмі зразумелае нам раздразьненьне. Але чытач гэтага раздразьненьня можа і не зразумець. Памойму, трэба гаварыць не з раздразьненьнем, а „*свысока*“: шкада, што аўтар не зразумеў яшчэ вось таго і таго—але з усяго відаць, што ён (аўтар) ня дурны; мусіць, з часам ён пасунецца наперад, і тады ў яго артыкуле ня будзе наступных супярэчнасьцяй

(ідуць усе паказаныя Вамі супярэчнасьці). Але, паўтараем, ён яшчэ разаўецца, і тут трэба, каб падбядзёрыць яго, пастукаць яго па плячы: хлопец ён усё-ж не без галавы. Дайце веры, гэта куды зласьлівей, і чытач ня ўбачыць тут ніякага незразумелага раздразьненьня. У першых чатырох разьдзелах патрэбна, памойму, зьмяніць некаторыя выразы. Ня трэба цяпер лаяць *лібэрала наогул.* Гэта нетактычна, трэба ад дрэннага лібэрала апэляваць на добрага, хоць-бы існаваньне такога было для нас сумненна... Мы-ж павінны адносіцца да лібэралаў, як да магчымых саюзьнікаў, а тон у Вас, трэба сазнацца, зусім не саюзьніцкі. Зьмякчэце яго, даражэнькі; артыкул сам па сабе вельмі прыгожы і было-б вельмі шкода, калі-б зробленае ім уражаньне было часткай сапсавана некаторымі вельмі рэзкімі выразамі па адрасу лібэралізму. Вы гаворыце, як вораг, а трэба гаварыць, як саюзьнік (хоць-бы толькі ў магчымасьці). Нельга таксама проста сказаць: мы хочам, каб лібэралы зрабілі нам паслугі. Мы, сапраўды, вельмі хочам гэтага. Але ў Вас гэта занадта выяўлена (я нават прыпісаў: так гаварыць нельга). Трэба выказвацца больш дыплёматычна. Ідэалістычны слоўнік вельмі багаты патрэбнымі тут дыплёматычнымі словамі. Зьвярнецеся да яго.

„Такім чынам, зьмякчайце, даражэнькі, лібэралізм ня трэба гладзіць цяпер супроць шэрсьці. Гэта вялікая памылка.

...Вы кажаце: мяркуйце аб маіх адозвах аб Р. Н. С. (Струвэ) з пункту погляду справядлівасьці. Гэта цяжка: самы факт існаваньня Р. Н. С. (Струвэ) на сьвеце ёсьць найвялікшая несправядлівасьць“.

Ленін у васноўным зрабіў так, як радзіў Плеханаў. Ён зрабіў у артыкуле шэраг папpавак, але ў той самы час зазначыў, што тону артыкулу ён ня можа зьмяніць. Калі Ленін атрымаў адозву Плеханава, дык ён 21-га чэрвеня піша Аксэльроду: „Г. В. напісаў ужо мне падрабязна, што па яго думцы пажадана зьмяніць, і я, вядома, пастараюся ўсё гэта зрабіць. Толькі адносна зьмены тону ня ведаю, ці ўдасца, ці буду магчы ў дыплёматычным тоне пісаць пра пана, які выклікае ўва мне бурныя пачуцьці...“ Цераз некалькі дзён—26-га чэрвеня—Ленін зноў піша Аксэльроду аб тым самым. „Наогул я зусім ужо ня так упіраюся наконт зьмякчэньняў частковых, але прынцыпова не магу адрачыся ад думкі аб нашым праве (і аб нашых абавязках) разьнесьці Струвэ за яго палітычнае жонглёрства. Ён іменна палітычны жонглёр—у гэтым мяне канчаткова пераканала чытаньне і перачытваньне прадмовы, і ў сваю крытыку я ўнёс усё, што далі нам апошнія месяцы... Так сказаць, душу адвадзіў, рахуючыся з гэтым суб‘ектам“. Адначасна Ленін паведамляе Г. В.: „Атрымаў свой артыкул ад П. Б. (Аксэльрода) з яго пісьмом. П. Б. (Аксэльрод) таксама стаіць за зьмякчэньне. І я, разумеецца, унёс ужо ўсе, конкрэтна паказаныя вамі і П. Б. (Аксэльродам) зьмякчэньні. А што тычыцца зьмены ўсяго тону артыкулу . . . . . . зьмены ўсіх нападаў зласьлівым навучаньнем „свысока“, дык хоць мне гэты Ваш плян і па-

дабаецца, я сумняваюся, што я мог гэта зрабіць. Калі-б у мяне ня было раздразьненьня супроць аўтара, я-б і ня пісаў так. А калі ёсьць раздразьненьне (зразумелае ня толькі нам, але й кожнаму соцыял-дэмократычнаму чытачу прадмовы), дык мне ўжо яго не схаваць і тут ужо не схітраваць. Пастараюся яшчэ і яшчэ зьмякчыць і яшчэ і яшчэ абмовіць: можа што-небудзь удасца“.

Характэрна, што як толькі Ленін або Плеханаў заўважаць на небасхіле фігуру якога-небудзь супраціўніка,—рэвізыяністага, экономістага, таемнага або яўнага ворага, дык яны адразу б'юць трывогу, зазначаючы адзін аднаму на патрэбу пачаць барацьбу. Ацэнка, якую яны даюць пры гэтым супраціўніку, амаль заўсёды супадае, і прызнаньне патрэбы распачаць барацьбу зьяўляецца амаль заўсёды ўзаемным. Падам некалькі прыкладаў. Калі ў другім нумары „Искры“ зьявілася заметка, якая была напісана ў спрыяючым тоне ў адносінах да Міхайлоўскага, дык Ленін і Плеханаў запротэставалі супроць яе. У пісьме ад 13-га траўня 1901 г. Г. В. піша Леніну:

„Наконт артыкулу аб Міхайлоўскім я ня толькі згодны з Вамі, але скажу болей: артыкул слабы іменна тым, што ён недахватна адцяніў і акрэсьліў ролю Міхайлоўскага ў гісторыі нашага разумовага разьвіцьця. Ён быў прадстаўніком літаратурнага заняпаду, які пачаўся ў нас з таго часу, як саслалі Чарнышэўскага, і прадоўжваўся (я кажу (НВ) пра літаратурны заняпад) у семідзесятых гадох дзякуючы таму, што лепшыя сілы інтэлігенцыі ішлі ў нас тады ўжо не ў літаратуру, а ў практычны рух. Толькі дзякуючы гэтаму адцягненьню лепшых сіл на другую працу і магчыма было тое працяглае панаваньне звычайнасьцяй, якое характарызуе эпоху Міхайлоўскага. Будучаму гісторыку літаратуры сорамна будзе за юбілей гэтае нікчэмнасьці. І нельга не пашкадаваць аб тым, што „Искра“ не сказала ў гэтым выпадку ўсяго таго, што яна павінна была сказаць, як орган мысьлячай часткі нашых рэволюцыянэраў. Калі „Искра“ не сказала, дык ніякі іншы орган, які характарызуе эпоху Міхайлоўскага, ня скажа“.

Далей адносіны да Бярдзяева. Калі Бярдзяеў пачаў сваю нібыта слынную эволюцыю ад марксызму да ідэалізму, у рэдакцыі „Искра“ вызначыліся некаторыя ваганьні наконт таго тону, які трэба ўзяць у вадносінах да Бярдзяева. Але ні ў Леніна, ні ў Плеханава наконт гэтага сумненьняў ня было. Яны лічылі патрэбным абвясьціць Бярдзяеву барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць. „З Расіі пішуць“—паведамляе Ленін Плеханава 30-га чэрвеня 1901 году,—„што публіка вельмі захоплена Бярдзяевым. Вось каго-б трэба разьнесьці ня толькі ў спэцыяльна філёзофскай галіне.“

Наколькі адзінымі былі Плеханаў і Ленін у вадносінах да Бярдзяева, добра паказвае выпадак з артыкулам Л. І. Аксэльрод-Ортодокс „Чаму мы ня хочам ісьці назад“, прысьвечаны Бярдзяеву. Калі артыкул быў напісаны і адасланы ў рэдакцыю, зьявілася новая праца Бярдзяева „Ба-

рацьба за ідэалізм“, якая вызначыла яго далейшы ўхіл управа. У сувязі з гэтым Аксэльрод напісала дадатную заметку, якую хацела зьмясьціць у якасьці пост-скрыптума да артыкулу. Большасьць рэдакцыі паўстала супроць рэзкага тону заметкі, будучы, як відаць, ня зусім здаволена і самым артыкулам.—Так, напрыклад, 12-га чэрвеня 1901 году Ленін пісаў Плеханаву: „Пачалі мы спрэчкі наконт артыкулу крыху-крыху з Патрэсавым і Засуліч... Яны знаходзілі plump (нязграбна) вылазкі супроць Кісьцякоўскага (2×2=5) і канец аб „буржуазнасьці“ Бярдзяева.

Пост-скрыптум, што зрабіла Аксэльрод, выклікаў больш энэргічны адпор з боку большасьці рэдакцыі. Ленін піша 7 ліпня Плеханаву: „Я ўсё не магу сабрацца напісаць Вам наконт канца артыкулу Ортодокса... Struvefreundliche Partei адкінула гэты канец большасьцю $2^3/_4$ галасоў супроць $1^1/_4$ (гэта Аляксей (Мартаў) „падзяліўся“ на $^3/_4$ і $^1/_4$)—я застаўся ў меншасьці з сваім „за“. Не спадабалася ім увага наконт рамантычнага каханьня і агульны характар дадатку. А памойму яна ясна і дзелавіта абсякала гэтага пана, асабліва коратка, рэзка, заключныя вершы добрыя“.

Пляханаў зусім салідарна з Леніным паўстаў супроць адмоўнай позыцыі ў адносінах да пост-скрыптум. Ён піша Леніну: „Ня думайце, дарагі Пятроў (адзін з псэўдонімаў Ул. І. С. В.), што я бунтуюся...

Не, я заўчасна падлягаю большасьці. Але я прашу гэтую большасьць падумаць аб інтарэсах нашай літаратурнай справы. „Заря“ заснавана для абароны ортодоксіі. Навошта-ж нам, ортодоксам, забараняюць цяпер выказваць у „Заре“ наш погляд аб неданосках, як п. Бярдзяеў? Навошта закрываюць нам рот? Няўжо гэтым хочуць дадаць нам энэргіі ў абароне ортодоксіі? І няўжо нашы цэнзоры не разумеюць, што цяпер нельга друкаваць артыкулу Ортодокса (Л. І. Аксэльрод) без пост-скрыптум. Факт-жа зьяўленьня новага артыкулу Бярдзяева будзе аслабляць уражаньне крытыкі Ортодокса (Л. І. Аксэльрод), калі гэты апошні не абмовіцца наконт артыкулу. Дый навошта-ж траціць выпадак сказаць праўду ворагам? Бярдзяева ня кожны дзень захопіш на такой позыцыі, якую ён заняў у сваім апошнім артыкуле.

Я ўмаляю Юлія Осіпавіча (Мартава) яшчэ раз абмеркаваць пытаньне раней, чым забараняць пост-скрыптум. Апрача таго, я прашу вас запытаць наконт гэтага ў Аксэльрода. Наогул, умаляю вас ужыць усе законныя сродкі для спасеньня... Дальбог, нам зьвязваюць рукі, а потым хочуць, каб мы палемізавалі з крытыкамі. Ці разумна гэта? Старайцеся, галубок Пятроў, і вы, Ю. О. Caveant consules!“

Адзінымі былі Г. В. і Ул. Ільліч таксама ў сваіх адносінах да эсэраў, на якіх яны глядзелі, як на самых сур'ёзных і небясьпечных ворагаў, кажучы аб якіх, яны амаль што гублялі самаўладаньне. 30-га ліпня 1902 году Плеханаў зазначае Леніну: „Вы мала спатыкаеце людзей і не ўяўляеце сабе, якая навальніца насоўваецца на нас у васобе тэрорыстых, соц.-рэволюцыянэраў і інш. Страшныя не асобы, а беспрынцыпо-

вая стыхія, стыхія-ж расьце". Ленін быў зусім згодны ў ацэнцы становішча з Плеханавым. Яшчэ ў чэрвэні 1901 г. ён пісаў Г. В.: „Я думаю, што гэтага Чарнова трэба разьнесьці бяз літасьці". Ён піша Плеханаву аб тым, што трэба, каб Г. В. выступіў супроць эсэраў. У пісьме ад 14-га сьнежня 1902 г ён дамагаецца таго, каб Плеханаў напісаў супроць эсэраў брошуру. „Усе і ўся",—піша Ленін, „за тое, каб вам дасталася брошура, а патрэбна яна супроць эсэраў канечна, іх абавязкова трэба ґрунтоўна з усіх бакоў разгледзець па костачках. Шкодзяць яны нам страшэнна".

У пісьме ад 28-га студзеня 1903 г. Ленін вымагае ад Плеханава перадавой супроць эсэраў „грамавой" і піша, што ў яго „вельмі сьвярбяць рукі" выступіць супроць Чарнова. Плеханаў аднёсься да гэтай думкі вельмі прыхільна. Калі Ленін западозрыў у вадным з артыкулаў Чарнова фальшывую цытату, ён літаральна ўстрапянуўся і рашыў гэта высьветліць.

„Напішэце зараз-жа да Каўцкага. Ен, здаецца, дзесь ці на травіцы, але гэта нічога, ён адкажа. Калі вы ня можаце самі напісаць Каўцкаму, дык хай напіша Веліка Дзьмітраўна[1]) (Засуліч). Вазьмецеся таксама за Бэбеля; прымусьце Парвуса зьвярнуцца ў Партэй-Архіў. Яму, напэўна, прышлюць адтуль Die Neve Rheinische Zeitung. Зьвярнецеся таксама за даведкай да Дзіца і Цэткінай. Словам, закладзеце жонак і дзяцей, але выяўце падлог, калі ён ёсьць. А гэтага можна дазнацца толькі шляхам энэргічных дасьледзін".

Трэба адзначыць, што калі перад партыяй вырастае сур'ёзная пагроза, калі адчуваецца патрэбнасьць нанесьці рашучы ўдар небясьпечнаму ворагу, калі трэба прыняць адказную пастанову, Плеханаў і Ленін разумеюць, што тут няўхільна выступаньне каго-небудзь з іх. Калі трэба праявіць энэргію, наэлектрызаваць таварышоў па рэдакцыі, падштурхнуць каго-небудзь з іх да працы—тое самае. „Дзейнічайце genosse,—піша Леніну Плеханаў 17-га верасьня 1901 году,—„абвясьцеце ваеннае становішча і пад страхам сьмяротнай кары вымагайце агляду ў каго-небудзь з мюнхэнскіх членаў рэдакцыі". Урэшце, пісьмы багаты на паказаньні і рады. Гутарка ідзе аб паверцы тэкстаў, перасылцы кніг, падборы матэрыялу, падрыхтоўцы даных і г. д. і г. д.

Гэтая ўзаемная дапамога ўсьцяж пераходзіць мяжу тэхнічных паслуг, мяжу з супрацоўніцтвам, якое прымушае ўспамінаць аб перапісцы Маркса і Энгельса.

## II

Цяпер я хачу прыпыніцца на тых конфліктах, якія час-ад-часу паўставалі паміж Леніным і Плеханавым і якія знашлі свой яскравы адбітак у іх перапісцы.

Першы з гэтых конфліктаў паўстаў у сувязі з выпрацоўкай партыйнае програмы. Пільная патрэбнасьць выпрацоўкі програмы, якая

[1]) Партыйная клічка Веры Йванаўны.

магла-б быць прапанавана 2-му партыйнаму зьезду, улічвалася ўсімі. Ужо ў канцы ліпня 1901 году Плеханаў піша Леніну аб будучым спатканьні з Аксэльродам, сумесна з якім ён меў на ўвазе распрацоўваць програму. Ленін адказвае Плеханаву: „Мяне вельмі ўзрадавала вестка, што вы з Паўлам Барысавічам угледзіцеся і зоймецеся гэтай програмай. Гэта будзе вялізным крокам наперад, калі мы з такой програмай, як ваша і П. Б., выступім перад публікай, бо справа гэта самая пільная“. У канцы 1901 г. Плеханаў падаў свой проект програмы на абмеркаваньне рэдакцыйнай колегіі „Искры“. Самае напружанае абмеркаваньне проекту цягнулася з студзеня да чэрвеня 1902 г., калі ён быў апублікаваны ў № 21 „Искры“ і паступіў на абмеркаваньне 2-га Зьезду Партыі.

Мы цяпер маем выключнай каштоўнасьці матэрыял, які знаёміць нас з усім процэсам абмеркаваньня програмы і барацьбы, што адбылася навокал яе. 26 дакумантаў, якія адносяцца да гэтага абмеркаваньня і апублікаваны ў 3-м „Ленинском сборнике“ пераконана сьведчаць аб тым, з якой пільнай уважлівасьцю аднеслася кіруючая група „Искры“ да проекту, як удумліва і напружана яна ўзважвала кожнае палажэньне, як пільна аналізавала яна кожны прынцып, што падавала програма. Я думаю, што ні ў якім парляманце ніводзін законапроект так узмоцнена не дыскусуецца, як гэта зрабіла колегія „Искры“ ў адносінах да проекту партыйнай програмы. І гэта мела месца, зразумела, не таму, што правадыры партыйнай організацыі, якая складвалася, былі вялікімі „літаралістымі“. „Адзін крок руху важней за тузін добрых програм“. Гэта, зразумела, зусім правільна. Але ў тых умовах, якія характарызавалі ў той час становішча расійскай соц.-дэмократыі, лёс і кірунак *руху* ў значным стопні залежалі ад *програмы*. Гэта быў момант, адносна якога Плеханаў заўважыў, што варта толькі сабрацца двом расійскім соц.-дэмократам, каб зараз-жа зьявіліся тры соцыял-дэмократычныя програмы. Такім чынам, навокал плеханаўскага проекту разьвінулася самая ажыўленая дыскусія, якая мела сваім зьместам па існасьці, уласна полеміку Леніна з Плеханавым.

Свае асноўныя рознагалосьсі з Плеханавым Ленін зводзіў да наступных чатырох пунктаў:

1) Па спосабе формуляваньня самага важнага аддзелу, які адносіцца да характарыстыкі капіталізму, гэты проект дае не програму пролетарыяту, які змагаецца супроць рэальных праяўленьняў вельмі азначанага капіталізму, а програму экономічнага падручніка, прысьвечанага капіталізму наогул.

2) Асабліва не падыходзіць програма для партыі расійскага пролетарыяту, таму што эволюцыя расійскага капіталізму, супярэчнасьці і грамадзкія няшчасьці, якія нараджае расійскі капіталізм, амаль цалкам абойдзены і зацемнены, дзякуючы тэй самай сыстэме характарызаваць капіталізм наогул.

3) Некаторым самым важным пунктам надана ў проекце такое недакладнае формуляваньне, якое няўхільна народзіць шэраг самых небясьпечных непаразуменьняў і абцяжыць нам нашу тэорытычную барацьбу і пропаганду. Так, напрыклад, рост вялікай вытворчасьці абмежаваны аднымі „прамысловымі“ прадпрыемствамі. Эволюцыя сельскагаспадарчага капіталізму ні-то зацемнена, ні-то зусім абмінута. Потым месца „дыктатуры пролетарыяту“ заняла „рэволюцыя, якую ў будучыне трэба будзе зьдзейсьніць пролетарыяту, падтрыманаму іншымі пластамі насельніцтва, якое церпіць ад капіталістычнай эксплёатацыі“, і нават замест клясавай барацьбы пролетарыяту пастаўлена „барацьба працоўнаэксплёатуемай масы“. Такое формуляваньне супярэчыць асноўнаму прынцыпу „Інтэрнацыяналу“: „вызваленьне рабочай клясы можа быць толькі справай самой рабочай клясы“. Апрача пролетарыяту, другая частка „працоўнай і эксплёатуемай масы“ (г. зн., галоўным чынам, дробныя вытворцы) толькі часткова рэволюцыйна ў сваёй барацьбе з буржуазіяй. Іменна, яна рэволюцыйна толькі тады, калі яна, „маючы на ўвазе пераход у пролетарыят“, „становіцца на пункт погляду пролетарыяту“ (Комуністычны Маніфэст). Рэакцыйнасьць-жа дробных вытворцаў зусім не адзначана ў проекце, такім чынам наогул і цалкам адносіны пролетарыяту да „працоўнай і эксплёатуемай масы“ абмаляваны няправільна.

4) Проект заўсёды сходзіць з програмы ва ўласным сэнсе на комэнтары.

Што-ж тычыцца Плеханава, дык ён паўстаў супроць Ленінскага проекту з вялікай рашучасьцю:

У пісьме да В. І. Засуліч, ад пачатку сакавіка 1902 г., ён пісаў, што гэты проект „у поўным сэнсе слова немагчымы“, што ён „ня зробіць гонару групе „Освобождение Труда“. У пісьме да Аксэльрода ад 12-га сакавіка 1902 г. ён дадаваў, што калі „проект Фрэя (Леніна) будзе прыняты“, дык ён, Плеханаў, „прымушаны будзе заявіць, што ён усё-ткі лічыць яго нездавальняючым. Выйдзе нешта падобнае да новага распаду. Каб папярэдзіць яго, лепей перашкодзіць ухвале“.

Цераз два дні ён піша аб тым самым В. І. Засуліч: „Прашу вас, зрабеце ўвагу Бэргу (Мартаву), што навязваньне нам програмы Фрэя (Леніна) *немагчыма*. Ну, а як быць з Фрэевай програмай, калі яе ўхваляць? Я не магу прызнаць яе прынцыпова. Ці абмяркуеце вы?“

Усё-ж такі, калі Засуліч прапанавала, каб узгадніць проекты ў асаблівай камісіі, Г. В. ахвотна згадзіўся на гэта і ў пісьме ад 19-га сакавіка 1902 г. ён пісаў Веры Іванаўне:

„Я думаю, што камісія ня дрэнна зробіць, калі ўзгодніць мой проект з проектам Фрэя (Леніна); баюся толькі, што гэта праца ёй ня ўдасца.

1) „Характарыстыка капіталізму даецца такая, якая ахоплівае і процэс разьвіцьця капіталізму ў Расіі, але разам з тым адзначае розьніцу ў сьцепені (у параўнаньні з перадавымі краінамі)“.

Тут ёсьць, згодна маёй думцы, des Pudels Kern. Фрэю (Леніну) хацелася знайсьці такое формуляваньне, у якім утапілася-б усякая розьніца паміж Расіяй і Захадам. Я разумею псыхолёгічную падставу такога імкненьня, але ведаю таксама, што яно прыводзіць часамі да вялікіх лёгічных і соцыолёгічных промахаў. Цяпер выкананьне жаданьня Фрэя (Леніна) паставіла-б нас у альтэрнатыву: або 1) не адказаць крытыкам на іх „крытыку" Марксавага погляду на капіталізм, а такі адказ павінен заключацца ў програме, каб яна не выклікала закіду ў тым, што яе аўтары не ўзялі пад увагу сучаснага становішча „навукі", або 2) даваць няправільную характарыстыку капіталізму, бо расійскія экономічныя адносіны далёка не ўладаюць яшчэ усімі тыповымі рысамі разьвітага капіталізму. Але... калі камісія здолее ўхіліцца гэтай альтэрнатывы, дык тым лепей. Адкрытая полеміка паміж Фрэем (Леніным) і мною мела-б тую нявыгоду, што дала-б прычыну прамоўцы аб распадзе паміж „ортодоксамі". А такія памоўкі цяпер вельмі для нас нявыгодны і нават проста небясьпечны.

Зусім не разумею, як гэта „формуляваць пункты ў духу пролетарскай (спадзяюся, не мартынаўскай), пролетарскай барацьбы". А я як формуляваў? Уся наша програма ад пачатку да канца павінна мець на ўвазе іменна гэту барацьбу, але калі каму-небудзь не падабаецца, што ў маім проекце паказана тое, што пролетарыят зьдзейсьніць рэволюцыю, падтрыманы іншымі пластамі эксплёатуемай масы, дык тут я бачу прынцыповае рознагалосьсе. Справа ня ў тым, што пролетарыят зьдзейсьніць рэволюцыю ў *інтарэсах* гэтых пластоў, а ў тым, што некаторыя з іх ён можа і павінен прыцягнуць *для сумеснай барацьбы з капіталам.*

Вы гаворыце ў пісьме да мяне, што ў маніфэсьце комуністых усе іншыя пласты, апрача пролетараў, названы рэакцыйнымі, але-ж маніфэст меў на ўвазе тагачаснага нямецкага клейн-бюргера; цяпер умовы значна зьмяніліся, і я думаю, што чым далей будзе разьвівацца капіталізм у перадавых краінах, тым больш частка дробнай буржуазіі і дробнага сялянства будзе прымушацца да пераходу на бок пролетарыяту. Мы не абавязаны думаць, як Маркс, там і тады, дзе і калі сам Маркс думаў-бы інакш. Апрача таго, я вельмі добра памятаю, як ядавіта Энгельс сьмяяўся над тымі геносамі (таварышамі), якія выабражаюць, што дробная буржуазія няўхільна павінна быць рэакцыйнай.

Супроць дадатку, што тычыцца дыктатуры пролетарыяту, я нічога ня маю, Фрэй (Ленін) знашоў, калі я быў у Мюнхэне, што ў маім першым проекце аб ёй гаварылася вельмі „крыклівa". Я замяніў выражэньне дыктатура пролетарыяту, выражэньнем улада пролетарыяту: гэта адно і тое самае, бо ў політыцы хто мае ўладу, той і дыктатар. Але выходзіць, што цяпер у мяне сказана ня зусім „крыклівa". Дадайце „крыку".

Узгадняльная камісія за аснову прыняла проект Плеханава, дадаўшы ў яго некаторыя зьмены ў кірунку, паказаным проектам Леніна. Наконт

гэтых выпраўленьняў Г. В. зрабіў шэраг уваг, у якіх, паміж іншым, гаварыў:

„Буржуазнае грамадзтва ў яго разьвітым выглядзе характарызуецца (марксыстымі) панаваньнем у ім таварнай вытворчасьці на падставе капіталістычных вытворчых адносін. Камісія выкінула гэтую адзіна-магчымую (навуковую) характарыстыку, выабразіўшы, што я паставіў яе ў сваім проекце з недагляду, з абмылкі, з неразуменьня, або з чаго-небудзь іншага. Але я паставіў яе en connaisancet de cause. Сучаснае буржуазнае грамадзтва адрозьніваецца іменна тым, што ў ім пануе вытворчасьць тавараў і што гэтыя тавары вытвараюцца на вышэй паказанай аснове. Іменна гэтай умовай і тлумачыцца тое, што сярэднія цэны на тавар адыходзяць ад іх працоўнай вартасьці.

„Чаго нельга цярпець“, заяўляў далей Плеханаў, „дык гэта наступнага:

Камісія, выпраўляючы мой проект, прышла да такога формуляваньня, што ў ім „наогул дробныя вытворцы“ (той самы 3-ці пункт) зьяўляюцца прымушанымі пэрыодычна прадаваць сваю рабочую сілу. Гэта фактычна няправільна, як гэта скажа камісіі кожны, знаёмы з статыстыкай: ня ўсе дробныя вытворцы знаходзяцца ў такім становішчы. Гэта, бязумоўна, патрэбна выправіць“.

Наогул і цалкам Г. В. усё-ткі згаджаўся з проектам камісіі і заяўляў:

„Такім парадкам я на проект згодны нават і ў тым выпадку, калі вы ня прымеце пад увагу ні аднэй з маіх уваг“.

Усё-ткі камісія з паказаньнямі Плеханава палічылася і ў канчатковым яе проекце ёсьць шэраг зьмен, зробленых згодна паданых паказаньняў. Ул. І. было дана права выступіць супроць гэтага проекту ў друку, але Ленін гэтай магчымасьці не скарыстаў, як відаць, лічачы шкодным шырака агалашаць разыходжаньне.

Амаль адначасна выбухнуў конфлікт паміж Ул. Ільлічом і Г. В. з прычыны аграрнай програмы. Аграрная програма была напісана Леніным у лютым-сакавіку 1902 году. Яна разглядалася на Цюрыхскай нарадзе членаў рэдакцыі, якая адбывалася 15-га красавіка бяз Леніна, каторы ня меў магчымасьці тады прыехаць у Цюрых. Нарада ўхваліла прапанаваць Леніну зрабіць шэраг паправак. Ленін у васноўным прапанову прыняў і выпраўлены рукапіс зьвярнуў Плеханаву. Георгі Валентынавіч скрэйзаў яе мноствам,—больш ста,—уваг, часамі прынцыповых, тэорытычных, а часамі меўшых дробны, я-б нават сказаў, прыдзірчывы характар: граматычныя, стылістычныя і ўсякія іншыя выпраўленьні. Асноўныя прынцыповыя рознамоўі вызначыліся на дзьвёх групах пытаньняў: 1) вымаганьне звароту сялянству адрэзкаў, 2( лёзунг нацыяналізацыі зямлі.

Наконт адрэзкаў Ленін пісаў: „Права экспропрыяцыі і выкупу даецца толькі ў адносінах да тых зямель, якія 1) адрэзаны ў сялян пры

зьнішчэньні прыгоннага права“ ...і 2) якія служаць у руках памешчыка прыладай для іх заневальненьня“.

Такім чынам, Ленін вымагаў звароту гэтых адрэзкаў, якія, як ён формуляваў, служылі і служаць прыладай заневальненьня. Плеханаў наконт гэтага вымаганьня заявіў: „Калі я спачатку галасаваў за гэты пункт, я ня меў на ўвазе, што адрэзкі будуць зьвернуты толькі ў тых маёнтках, дзе яны служаць прыладамі эксплёатацыі. Я зразумеў гэты пункт так, што адрэзкі зварачаюцца скрозь, што, кажучы наогул, яны скрозь служаць прыладай заневальненьня“... Такім парадкам, Плеханаў высунуў вымаганьне бязумоўнага і абсолютнага звароту адрэзкаў. Па другім з пытаньняў—аб нацыяналізацыі зямлі, Плеханаў і Мартаў лічылі, што Ленін мала падкрэсьлівае рэакцыйнасьць гэтага лёзунгу. Навокал гэтых двох пунктаў—звароту адрэзкаў і лёзунгу нацыяналізацыі зямлі разьвінаецца самая ажыўленая дыскусія. Гэта дыскусія ўяўляе з сябе вялікі тэорытычны інтарэс для кожнага гісторыка і дасьледцы Расійскай соцыял-дэмократыі, бо ў гэтай дыскусіі ўжо ясна і выразна вызначыліся тыя рознагалосьсі, якія потым,—у якасьці аднаго з элемэнтаў,—абумовілі сабою распад расійскай соцыял-дэмократыі на дзьве часткі. Гэта дыскусія можа і павінна служыць, на гэта ёсьць усе даныя, прадметам спэцыяльных дасьледзін.

Я толькі прыпыняюся на гэтым коратка, разам з тым конфліктам, які выбухнуў паміж Г. В. і Ўл. Ільлічом. Рэзкасьць, з якой Плеханаў формуляваў свае ўвагі, яго ядавітыя слоўцы наконт „фэльетоннага стылю“, „жудаснага складу“ і г. д.—усё гэта выклікала вялікае абурэньне Ўладзімера Ільліча, які напісаў адразу пасьля атрыманьня ўваг Г. В. наступныя непазбытыя цікавасьці словы: „Увагі „аўтара ўваг“ паказваюць з поўнай яснасьцю толькі наступнае. Калі ён (г. зн. Плеханаў. С. В.) паставіў сабе за мэту зрабіць *немагчымай* сумесную працу ў рэдакцыі, дык ён вельмі хутка і верна ідзе да гэтай шляхетнай мэты, але хай-жа ён і нясе вынікі, калі ён яе дасягне... Калі я ў гэткім самым тоне „разьбяру“ артыкул Плеханава, дык гэта будзе адразу фіналам нашага супрацоўніцтва...

... Аўтар уваг напамінае мне таго фурмана, які думае, што для таго, каб добра кіраваць, трэба часьцей і мацней тузаць коняй. Я, зразумела, ня больш за „каня“, пры фурмане—Плеханаве, але бывае-ж, што нават самы затузаны конь скідае ня ў меру пры̆ткага фурмана“.

Разам з тым Ленін напісаў 14-га траўня пісьмо Плеханаву вельмі рэзкае па тону, якое парывала паміж імі адносіны. Як відаць, гэтае пісьмо ня было адаслана Г. В., бо яно пасьля сьмерці Ўладзімера Ільліча было знойдзена ў яго паперах. Вось тэкст гэтага пісьма. Гэтае пісьмо адзінае з усяе перапіскі Г. В. з Ул. Ільлічом ня толькі па зьмесьце, але і па форме. У гэтым пісьме ўжо няма звычайных зваротаў як „дарагі“, няма подпісу—„ваш“ і г. д. Пісьмо бяз усякага звароту і піша: „Атры-

маў артыкул з вашымі ўвагамі. Добрыя ў вас разуменьні аб такце ў адносінах да колег па рэдакцыі. Вы нават не саромеецеся ў выбары самых зьняважлівых выразаў, ня кажучы ўжо аб „галасаваньні“ прапаноў, якіх вы не ўзялі працы і формуляваць, і нават „галасаваньні“ наконт стылю. Хацеў-бы ведаць, што вы скажаце, калі я таксама адказаў-бы на ваш артыкул аб програме. Калі вы паставілі сабе за мэту зрабіць немагчымай нашу агульную працу, дык абраным вамі шляхам вы вельмі хутка можаце дайсьці да гэтай мэты. Што-ж тычыцца не дзелавых, а асабовых адносін, дык іх вы ўжо канчаткова сапсавалі або больш правільна дабіліся іх поўнага перапыну.

Пісьмо, як відаць, ня было адаслана, таму што Мартаў і некаторыя іншыя члены рэдакцыі энэргічна ўмяшаліся ў конфлікт з мэтаю яго ліквідацыі.

Мартаў апэлюе да Аксэльрода і дае паказаньні на тое, што ўвагі Плеханава напісаны ня толькі ў вышэйшай ступені рэзка, але месцамі нібыта знарок рэзка, бяз усякага абмеркаваньня, нават той ці іншы сказ гучыць проста абразаю. Мартаў паказвае Аксэльроду, што выхад Ул. Ільліча з рэдакцыі і конфлікт паміж Леніным і Плеханавым, як паміж дзьвюма найбольшымі сіламі, можа прывесьці да распаду рэдакцыі, і заклікае яго ўмяшацца ў гэтую справу, з мэтай ліквідацыі конфлікту. У выніку гэтага вядомы партыйны працаўнік Глебаў-Наскоў 9 чэрвеня зьвярнуўся да Мартава з вельмі цікавым пісьмом, магчыма, напісаным па згодзе з Плеханавым, якое мае паказаньні на тое, што ніякага замеру абразіць Леніна з боку Плеханава ня было. Адбываюцца некаторыя ваганьні. Ленін, Мартаў і Патрэсаў ня ведалі, якую позыцыю ім заняць. Патрэсаў у сваіх пісьмах падкрэсьлівае патрэбнасьць давесьці конфлікт да канца, запатрабаваць узяць назад увагі Плеханава, або пайсьці з ім на разрыў, калі ён іх ня возьме. Але Ленін болей быў схілен да тактыкі замірэньня, а Плеханаў, пад уплывам Засуліч і Дэйча, робіць рашучы крок да ліквідацыі конфлікту. Ён піша 20 чэрвеня Леніну пісьмо, якое пачынаецца дзелавым паведамленьнем і зьмяшчае, між іншым, наступную заяву:

„Карыстаюся выпадкам сказаць Вам, дарагі Ул. Ільліч, што Вы дарма на мяне гневаецеся. Пакрыўдзіць я Вас не хацеў. Мы абодва крыху пагарачыліся ў спрэчках аб програме, вось і ўсё. Калі-небудзь, як мы з Вамі пабачымся, дык мы пагаворым аб гэтым з вока на вока „па душы“ (гэта тут галоўнае), і тады, калі Вы захочаце быць бесстароньнім, Вы самі ўбачыце, што ў мяне таксама былі пэўныя падставы лічыць сябе пакрыўджаным. А зараз адкладзем гэту прыватную справу ў інтарэсах другой больш важнай, агульнай справы. Дайце веры аднаму: я вельмі Вас паважаю і думаю, што на 75 проц. мы з Вамі бліжэй адзін да аднаго, чымся да ўсіх іншых сяброў „Колегіі“, на рэшту 25 проц. ёсьць і розьніца, але-ж 75 у тры разы болей 25, і ў імя аднадум'я трэба

запомніць на рознагалосьсе. Вы мала спатыкаеце людзей расійскіх і не ўяўляеце сабе, якая навальніца насоўваецца на нас у васобе тэрорыстых, „Соцыялістых-рэволюцыянэраў“ і інш. Страшныя не асобы, а беспрынцыповая „Стыхія“, а стыхія расьце. І цяпер вось распачынаць нам нязгоду проста нямысьліма. Таму, яшчэ раз прашу, ня гневайцеся на мяне, а калі хочаце, каб я даў Вам якое-небудзь задаваленьне, напішэце аб гэтым мне, я зраблю ўсё, што магу, каб толькі не раздразьняць таварыша, які вельмі карысны для справы і якога я, дайце гэтаму веры, паважаю ад усяе душы.

Подпіс. Моцна цісну Вашу руку, калі толькі Вы нічога ня маеце супроць гэтага. Плеханаў“.

Ленін адразу-ж, 23 чэрвеня адказвае Плеханаву, што ён з ахвотаю пойдзе на замірэньне: „Дарагі Георг Валентынавіч! Вялікі камень скінуўся з маіх плеч, калі я атрымаў Вашае пісьмо, якое паклала канец думкам аб „нязгодзе“. Чым больш няўхільнай здавалася нам гэта апошняя, тым больш цяжкія былі такія думкі, бо партыйныя вынікі былі-б самыя сумныя.

Я буду вельмі рады пагаварыць з Вамі пры спатканьні аб пачатку „гісторыі“ ў Мюнхэне,—не дзеля таго, зразумела, каб капацца ў старым, а дзеля таго, каб высьветліць сабе, што было тады для Вас крыўдным. Што я ня меў і ў думках пакрыўдзіць Вас, гэта вы, зразумела, ведаеце“.

Такім чынам, конфлікт быў ліквідаваны.

Па існасьці-ж пытаньняў, якія яго справакавалі, Ул. Ільліч адмовіўся ад высунутага ім спачатку абмежаваньня адрэзкаў, якія падлягалі звароту; што-ж тычыцца месцаў, якія адносіліся да нацыяналізацыі, дык Ільліч, не жадаючы зьмяняць поглядаў на разуменьне гэтага пытаньня, згадзіўся зусім выкінуць тыя месцы, якія адносяцца да нацыяналізацыі з тым, каб Плеханаў гэтыя месцы падаў у вагульных комэнтарах да програмы. Так артыкул Леніна і быў апублікаваны 22-га ліпня.

## III

Мы прыпыніліся на конфлікце, які выбухнуў паміж Плеханавым і Леніным адносна аграрнай програмы партыі. Пасьля замірэньня адносіны паміж Плеханавым і Леніным хутка аднаўляюцца. 2-гі Зьезд партыі моцна і, здавалася, надоўга ўмацаваў адносіны паміж Леніным і Плеханавым. Яны абодва, у той час наймацнейшыя сілы партыі, на зьезьдзе сталі на чале соцыял-дэмократычнай Горы ў барацьбе з соцыял-дэмократычнай Жырондай. Усе асноўныя пытаньні, якія дэбатаваліся на зьезьдзе: вядомая спрэчка аб першым парграфе статуту, пытаньне аб тактыцы ў адносінах да лібэралаў, аб каштоўнасьці дэмократычнага прынцыпу—усе гэтыя пытаньні выявілі аднадумства Плеханава і Леніна. У справаздачы зьезду ёсьць вельмі характэрнае месца, як паказьнік тых адносін, якія скляліся паміж Плеханавым і Леніным. Калі некаторыя дэлегаты спрабавалі разь-

межаваць позыцыі Плеханава і Леніна, дык Плеханаў сказаў ім: „У Напалеона была рысачка разводзіць сваіх маршалаў з іх жонкамі; некаторыя маршалы спакараліся яму, хоць і кахалі сваіх жонак, але я буду больш цьвёрдым, чымся напалеонаўскія маршалы, я ня буду разводзіцца з Леніным і спадзяюся, што ён ня мае замеру разводзіцца са мною". Справаздача ў гэтым месцы адзначае: „тав. Ленін адмоўна пакруціў галавою".

Зьезд, як вядома, паставіў Плеханава і Леніна на чале „Искры". Пасьля невялікага часу, які прашоў у цесным супрацоўніцтве, у Леніна з Плеханавым пачаліся некаторыя разыходжаньні. Разыходжаньні гэтыя тычыліся адносін да быўшай рэдакцыйнай колегіі „Искры", якая пасьля перамогі Плеханава-Ленінскай большасьці, ухілілася ад удзелу ў цэнтральным органе партыі. У Плеханава было імкненьне пайсьці на згоду з быўшымі супрацоўнікамі „Искры", каб скончыць „усеагульную стачку генэралаў". Плеханаў разьлічаў на тое, што ў процэсе сумеснай працы з Аксэльродам і інш. яны пазбавяцца тых опортуністычных нахілаў, якія імі былі выяўлены на Зьезьдзе. Ленін, аднак, лічыў такога роду надзеі незьдзяйсьняльнымі, а самы компроміс шкодным. — Тады Плеханаў паставіў Леніну ультыматум, у выніку якога Ленін вышаў з рэдакцыі. Мы маем некалькі пісьмаў, якія адносяцца к часу разрыву і характарызуюць тыя ваганьні, якія адчувалі пры гэтым Георгі Валентынавіч і Уладзімер Ільліч.

1-га лістапада 1902 году Ленін пісаў Плеханаву: „Дарагі Георгі Валентынавіч! Ніяк не магу супакоіцца наконт пытаньняў, якія хвалююць нас. Гэтае адцягваньне, адклад рашэньня—нешта жудаснае, катаваньне.

Я дапраўды-ж, зусім і цалкам разумею вашыя мотывы ды абмеркаваньні на карысьць уступкі мартаўцам. Але я глыбока пераконан, што ўступка ў цяперашні момант—самы разыкоўны крок, які вядзе да віхуры і нязгоды, куды больш пэўна, чымся вайна з мартаўцамі." Як відаць, Плеханаў застаўся пры сваім замеры і 6-га лістапада Ленін ужо канчаткова рашыў выйсьці ў адстаўку. Ён піша Плеханаву:

„Я ніяк не магу згадзіцца на гэтае. Я ня лічу таксама магчымым заставацца далей у неофіцыяльным становішчы фактычнага рэдактара, ня гледзячы на сваю адстаўку, раз вы кажаце, што поўная свабода дзеяньняў разумеецца вамі так, што не выключае і перадачы вамі рэдакцыі мартаўцам. Я прымушан таму перадаць вам усе офіцыяльныя зносіны рэдакцыі ЦО і ўсе матэрыялы, якія й пасылаю вам асобным конвэртам. Калі патрэбны будуць якія-небудзь тлумачэньні наконт матэрыялаў, дык я, зразумела, ахвотна дам іх. Некаторыя матэрыялы аддадзены супрацоўнікам (Лебедзеву, Шварцу, Рубэрсу), якім трэба будзе сказаць, каб яны аддалі ўсё вам.

P. S. Калі ласка не зразумейце перадачу рэдакцыі ў сэнсе, нібыта, слыннага бойкоту. Гэта супярэчыла-б таму, што я проста заявіў вам у

сваім заяўленьні ад 9-га лістапада г. г. Аб сваім выхадзе з рэдакцыі я, зразумела, паведамлю таварышоў.

Яшчэ праз некалькі дзён, 1-га лістапада, Плеханаў піша пісьмо, поўнае зьдзіўленьня ў зьвязку з тым, што ЦК ня даў адказу на становішча, якое стварылася. Урэшце, 26-га лістапада Плеханаў прымае канчатковае рашэньне, ён піша прадстаўніку ЦК:

„Усё гэта паставіла мяне ў вельмі цяжкое становішча. У мяне была вельмі моцная спакуса выйсьці ў адстаўку. Але я ўспомніў, як вы настойліва адмаўлялі мяне ад гэтага, і рашыў, што я абавязан застацца на сваёй пасадзе, калі не жадаю здрадзіць справе. І я застаюся. Але дзеля таго, што мне было-б вельмі цяжка аднаму рэдагаваць „Искру“ і ў інтарэсах уладжваньня ўсіх нас змардаваўшага конфлікту я рашыў кооптаваць Мартава, Аксэльрода (Паўла), В. Засуліч і Старавера. Даводзячы аб гэтым да ведама ЦК, я яшчэ раз раджу яму быць лагодным. Ад яго залежыць цяпер канчаткова ўладзіць усё за адзін дзень“.

„Развод“ зьдзейсьніўся цераз якіх-небудзь 3 месяцы пасьля зьезду.

Праходзіць больш году ад выхаду Леніна з рэдакцыі „Искры“ да таго, як забушавалі першыя хвалі рэволюцыі. Гэта быў год заядлай барацьбы паміж „Искрай“, на чале якой стаяў Плеханаў, і „Вперед“, на чале якога стаяў Ленін. Плеханаў і Ленін вядуць барацьбу па мностве тактычных пытаньняў. Барацьба ўсьцяж набывае даволі вострую і рэзкую форму. Але тады, калі воддаль прагрымелі першыя рэволюцыйныя грымоты, Уладзімер Ільліч зрабіў крок, аб якім мы да гэтых часоў нічога ня ведалі, але які ўяўляе з сябе акт вялікага палітычнага значэньня. Ён падаў руку Плеханаву і прапанаваў яму ў імя дабра рэволюцыі аднавіць саюз, які распаўся. Увосень 1905 году (у кастрычніку) Ленін звараччаецца да Плеханава з пісьмом наступнага зьместу:

„Вельмі паважаны Георгі Валентынавіч.

Я зварачаюся да вас з гэтым пісьмом таму, што пераконан, што пытаньне аб патрэбнасьці аб'яднаньня соцыял-дэмократыі таксама насьпела канчаткова, а яго магчымасьць іменна цяпер асабліва вялікая. Дзьве прычыны прымусілі мяне не адкладаць далей простага звароту да вас: 1) заснаваньне ў Піцеры легальнай газэты с.-д. („Новой жизни“) і 2) здарэньне апошніх дзён. Калі нават гэтыя здарэньні і не прывядуць вельмі хутка да нашага звароту ў Расію, дык ва ўсякім выпадку гэты зварот цяпер зусім, зусім блізкі, і с.-д. газэта дае гатовую глебу для самай сур'ёзнай агульнай працы.

Што мы, бальшавікі, вельмі жадаем працаваць разам з вамі, гэта мне наўрад ці трэба паўтараць вам. Я пісаў у Піцер, каб усе рэдактары новай газэты (пакуль што іх сем: Багданаў, Румянцаў, Базараў, Луначарскі, Арлоўскі, Альмінскі і я) зьвярнуліся да вас з колектыўнай і афіцыяльнай просьбай увайсьці ў рэдакцыйную колегію. Але здарэньні не чакаюць, глеба перарвана, і я лічу, што ня маю права адкладаць па-

трэбны крок дзеля аднэй па існасьці формальнасьці. Па існасьці я цалкам і бязумоўна пераконан у вагульнай згодзе і радасьці наконт такой прапановы. А вельмі добра ведаю, што ўсе бальшавікі разглядалі заўсёды разыход з вамі, як нешта часовае, выкліканае выключнымі ўмовамі.

Спрэчкі няма, барацьба часта цягнула нас на такія крокі, заяўленьні, выступаньні, якія не маглі не абцяжыць будучага злучэньня, але гатоўнасьць аб'яднацца, сьвядомасьць крайняй ненормальнасьці таго, што лепшая сіла расійскіх с.-д. стаіць з боку ад працы, сьвядомасьць крайняй патрэбнасьці для ўсяго руху ў вашым кіруючым блізкім непасрэдным удзеле—усё гэта было ў нас заўсёды. І мы ўсе цьвёрда верылі, што ня сёньня, ня заўтра, дык пазаўтра наша злучэньне з вамі ўсё-ткі адбудзецца, ня гледзячы на ўсе труднасьці і перашкоды. Але лепей, каб гэта было сёньня, чымся заўтра. Справы пашлі цяпер так, што можна спазьніцца, і мы маем замер пакласьці ўсе намаганьні, каб не спазьніцца.

Ці захочаце вы працаваць разам з намі? Я быў-бы надзвычайна рады, калі-б вы згадзіліся на тое, каб нам спаткацца ўдваіх і пагаварыць на гэту тэму. Я пераконан, што пры асабістым спатканьні шмат якія непаразуменьні былі-б ухілены, шмат якія труднасьці для справы аб'яднаньня адразу-б выпалі. Але на выпадак, што вы ня згодзіцеся наогул цяпер, я дазволю сабе наперад закрануць некаторыя з гэтых труднасьцяй.

Труднасьці такія: 1) вашыя рознагалосьсі з шмат якімі членамі новай рэдакцыі, 2) вашае нежаданьне ўваходзіць у вадну з дзьвёх палавін с.-д. партыі. Першая труднасьць мне здаецца зусім ухілімай. Наша згода з вамі тычыцца, прыкладна, 9/10 пытаньняў тэорыі і тактыкі, а дзеля 1/10 разыходзіцца ня варта. Вы хацелі і хочаце выпраўляць некаторыя памылковыя, на ваш погляд, зацьвярджэньні ў маіх творах, але я нідзе і ніколі не спрабаваў зьвязаць каго-б то ні было з с.-д. спэцыяльна сваімі поглядамі і ніхто, бязумоўна, ніхто з новай рэдакцыі не ангажаваў сябе ні ў якія „леніністыя". Прамова Барсава на 3-м зьезьдзе выражае ў гэтых адносінах агульныя погляды, і вы лічыце памылковымі філёзофскія погляды трох з названых сямі асоб. Але гэтыя трое не спрабавалі і не спрабуюць зьвязаць гэтыя свае погляды з якой-бы там ні было афіцыяльна-партыйнай справай. І гэтыя трое — я кажу не на вецер, а на падставе вядомых мне дакладных фактаў—былі-б надзвычайна рады сумеснай працы з вамі. Палітычна разыходзіцца цяпер, у такі час, нам з вамі, калі ваша агульнае спачуваньне поглядам большасьці вядома і з вашага рэфэрату, відаць з вашых апошніх твораў, відаць наўкосным парадкам з позыцыі найбольш, можа быць, солідарнага з вамі Парвуса,—дык палітычна разыходзіцца нам цяпер было-б вельмі нежадана, вельмі няўмесна, вельмі шкодна для с.-д. партыі.

А новая легальная газэта, якая будзе мець аўдыторыю ў дзесяткі, калі ня соткі рабочых,—дый уся заўтрашняя праца ў Расіі ў такі момант, калі вашы вялізныя веды і вялізная палітычная практыка страшэнна па-

трэбны расійскаму пролетарыяту,—усё гэта ствараe новую глебу, на якой лягчэй за ўсё будзе забыць старое, сыйсьціся на жывой справе. Пераход ад Жэнэўскай працы да Піцерскай—вельмі спрыяючы псыхолёгічна і ў партыйных адносінах пераход для пераходу ад разьяднаньня да аб'яднаньня, і я вельмі спадзяюся, што мы не прапусьцім такога моманту, якога ня было з часу другога зьезду і які не паўторыцца, мабыць, хутка.

Але тут другая труднасьць. Вы не захочаце, мабыць, аб'яднацца з аднэй палавінай партыі. Вы затрэбуеце, як Conditiv sineqna non, аб'яднаньня ўсёй партыі для вашага ўдзелу ў справе. Што такое аб'яднаньне жадана і патрэбна, у гэтым цалкам ваша праўда. Але ці магчыма яно цяпер? Вы самі схілены адказваць на гэта адмоўна, бо прапанавалі нядаўна толькі фэдэрацыю. Цяпер самай шырокай трыбунай для нашага ўзьдзеяньня на пролетарыят зьяўляецца штодзенная піцерская газэта (мы будзем мець магчымасьць паставіць выданьне ў 100 тысяч экзэмпляраў і давесьці цану да аднэй капейкі за нумар). Ці мысьліма цяпер коаліцыйная рэдакцыя з меншавікамі? І мы думаем, што не. І меншавікі думаюць, што не. І вы, мяркуючы па вашай прапанове фэдэрацыі, думаеце, што не. Няўжо-ж будуць патрэбны тры газэты? Няўжо-ж для палітычнага органу рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі мы ня можам сыйсьціся разам, калі організацыйных рознагалосьсяў у нас, уласна, ніякіх няма і заўтрашні пераход партыі на адкрытае становішча расьсее ўсе астачы небясьпек наконт змовы. А тактычныя нашыя рознагалосьсі рэволюцыя сама зьмятае з дзіўнай хуткасьцю ды, прытым, у рэзолюцыі 3-га зьезду вы ня высоўвалі ніякіх рознагалосьсяў, а гэтыя-ж рэзолюцыі—адзіная, што зьвязвае нас, усіх бальшавікоў, дырэктыва партыі.

Пры такіх умовах, здаецца мне, ваш пераход да нас зусім магчымы і справы будучага аб'яднаньня ён не абцяжыць, а палегчыць і паскорыць. Замест цяперашняй зацяглай, з прычыны вашага ўхіленьня, барацьбы атрымаецца больш цьвёрдая сытуацыя ўсёй рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі. Ад гэтага і барацьба зробіцца больш спакойнай, больш вытрыманай. Ад гэтага ўся шырокая маса с.-д. адразу адчуе сябе пэўна, надзейна, адразу павее іншым духам, і новая газэта пачне захопліваць сабе з гадзіны на гадзіну перадавую ў с.-д. позыцыю, не аглядаючыся назад, не разьбіраючы падрабязнасьцяй старога, і толькі цьвёрда і вытрымана кіруючы рабочымі масамі на цяперашнім полі барацьбы.

Скончу яшчэ раз просьбай згадзіцца на наша спатканьне з вамі і выказам нашай агульнай, бальшавікоў, перакананасьці ў карысьці, важнасьці і патрэбнасьці сумеснай працы з вамі. Шчыра паважаючы вас, ваш Ленін".

Плеханаў, аднак, аднёсься да прапановы пэсымістычна і на прапанову не пашоў.

Час рэволюцыі і наступнай рэакцыі—канец 1905-1906-1907 г. г. ня толькі не засыпалі ямы, што ўтварылася паміж Леніным і Плеханавым,

але моцна паглыбілі іх разыходжаньні. Яны выступаюць, як адкрытыя і азначана варожа настроеныя ворагі. Барацьба паміж імі ідзе напружаная і заядлая. Але цікава, што калі востры момант барацьбы мінуў, сам Ул. Ільліч паўстаў супроць занадта спрошчанага разуменьня позыцый Г. В., супроць тлумачэньня яе, як „здрады".

У першым Ленінскім зборніку Каменеў піша:

„Для правільнага разуменьня адносін Ул. Ільліча да Плеханава трэба ўспомніць, што пасьля самай рэзкай полемікі з Плеханавым у 1906-1907 г. г. ніхто іншы, як сам-жа Ўл. Ільліч высунуў у 1909 г. тлумачэньне тактыкі Плеханава ў першай рэволюцыі, як спробы рэволюцыйнага манэўру, які ва ўсякім выпадку заслугоўвае сур'ёзнага разгляду. І ўжо тады мы жартліва гаварылі Ўл. Ільлічу: „А, бач, вы, Уладзімер Ільліч, закаханы ў Плеханава". Уладзімер Ільліч адказваў жартамі.

Эпоха рэакцыі і ліквідатарства абумовіла сабою новае зблізэньне Пляханава і Леніна. У момант цяжкой рэакцыі, што ахапіла краіну, у годы размагнічэньня рэволюцыйнай энэргіі, рэфлексіі, што развальвае, і розных ухілаў,—навокал лёзунгу „хай жыве падпольле" адбываецца зблізэньне Леніна з Плеханавым. Яны зноў выходзяць, як таварышы, сумесна змагаюцца з ліквідатарствам, імкнуцца захаваць здаровае ядро партыі ад опортуністычнай гангрэны, супроцьдзейнічаюць партыйнаму драбленьню, ваюють з богаадшуканьнем і філёзофскімі перакручваньнямі марксызму. У гэтай барацьбе Г. В. і Ўл. Ільліч часта выступаюць супроць тых, з кім яны нядаўна былі зьвязаны. Ленін—правадыр бальшавікоў сумесна з Плеханавым наносіць цяжкія ўдары членам фракцыі Багданава, Базарава і Луначарскага, якія перакручвалі марксызм сваімі эмпірыокрытычнымі богаадшукальнымі тэндэнцыямі. З другога боку, Плеханаў парывае з сваймі аднадумнікамі, выходзіць з рэдакцыі пяцітомніку „История русского общественного движения", вядзе выключна рэзкую полеміку з Патрэсавым—сваім нядаўным таварышом. Пад уплывам усяго гэтага зьяўляецца думка аб магчымасьці аб'яднаньня фракцыі. Ленін, як відаць, зварачаецца да Плеханава з адпаведнай прапановай. Пісьмо Леніна, на жаль, пакуль што да нас не дашло, але нам вядомы тэкст адказнага пісьма Плеханава Ўл. Ільлічу; адказ датаваны 2-га красавіка 1906 г. Плеханаў піша:

„Дарагі таварыш!

Прабачайце мяне за тое, што спазьніўся адказам вам. Я быў хворы. Я таксама думаю, што адзіны сродак пакласьці канец крызісу, які вельмі асільвае нашу партыю,—гэта зблізэньне паміж марксыстымі-меншавікамі і марксыстымі-бальшавікамі, і я думаю, што мне належыць асабіста перагаварыць з вамі, але я знаходжу, што нашае спатканьне прынясе больш карысьці, калі яно адбудзецца крыху пазьней, калі становішча абедзьвюх фракцый зробіцца больш ясным.

Здарэньні разьвінаюцца хутка, а час добра дзейнічае на людзей. Меншавікі пачынаюць усё больш адыходзіць ад тэорыі ліквідатарства. Я хачу думаць, што бальшавікі з іх боку пачынаюць адыходзіць ня толькі ад анарха-сындыкаліцкай тэорыі, але адмаўляюцца таксама ад вельмі прасталінейнага тлумачэньня канцэпцыі легальных рабочых арганізацый, што, паміж намі будзь сказана, моцна палепшыць посьпех ліквідарства.

Чакаючы, падрыхтуем глебу для зблізжэньня, кожны ў сваёй сфэры.

Адданы вам Плеханаў".

Спроба, як вядома, ні да чаго не прывяла...

Вайна і рэвалюцыя зрабілі Плеханава і Леніна ворагамі, якія змагаюцца, не даючы адзін аднаму міласьці. Бадай самыя злыя словы, якія былі выказаны Плеханавым у час вайны, былі накіраваны ім супроць Леніна і самае няміласьцівае, сказанае Леніным, было адрасавана Плеханаву... Плеханаў памёр у першыя месяцы існаваньня Савецкай Рэспублікі, калі паветра нашай краіны было яшчэ насычана пахам пораху. Вялізны палітычны такт Леніна падказаў яму аддаць апошні абавязак таму, з кім яго зьвязвалі доўгія гады сумеснай барацьбы за рэвалюцыю і ўспаміны аб таксама доўгіх гадох разыходжаньня. У той момант, калі вызначылася пагроза, што позыцыя Плеханава апошні год яго жыцьця зацемніць у сьвядомасьці мас папярэднія дзесяцігодзьдзі і што масы створаць сабе, такім чынам, няправільнае ўяўленьне аб вялікім змагальніку і мысьліцелі,—у гэты момант Ленін палічыў абавязкам паказаць масам і партыі, што духоўная спадчына Плеханава хавае ў сабе вялізнай каштоўнасьці скарб, які рэвалюцыя можа і павінна ўпісаць у свой ідэолёгічны інвэнтар.

З выпадковае прычыны, або, больш дакладна, ня маючы ніякай формальнай прычыны, Ул. Ільліч у сваёй брошуры „Еще раз о профсоюзах" напісаў усім нам добра вядомыя словы аб тым, што „нельга зрабіцца сьвядомым, сапраўдным комуністым без таго, каб не вывучаць, іменна вывучаць, усё напісанае Плеханавым па філёзофіі, бо гэта лепшае з усяе міжнароднай літаратуры марксызму... Гэта павінна ўвайсьці ў сэрыю абавязковых падручнікаў комунізму... рабочай дзяржаве, памойму, трэба вымагаць з профэсароў філёзофіі, каб яны ведалі выкладаньні марксыцкай філёзофіі Плеханавым і ўмелі перадаваць гэтыя веды вучням". Так Ленін гаварыў, зразумела, таму, раней за ўсё, што ўлічаў, як шмат могуць партыя, пролетарыят, рэволюцыйная краіна ўзяць з скарбніцы плеханаўскай творчасьці. Гэта было рашаючым у тым закліку, які ішоў ад Ул. Ільліча ў момант грамадзянскай вайны. Але ня цяжка заўважыць, што на гэтым выступаньні Ул. Ільліча адбіліся яго асабовыя адносіны да Георга Валентынавіча. Н. К. Крупская ў сваіх, у мінулым годзе апублікаваных успамінах гаворыць: „Уладзімер Ільліч Георга Валентынавіча любіў, вельмі любіў. Георг Валентынавіч адыграў вялізную ролю

ў разьвіцьці Ўл. Ільліча, памог яму знайсьці правільны рэволюцыйны шлях і таму Г. В. быў доўгі час абкружан для яго орэолем. Кожнае самае нязначнае разыходжаньне з ім ён перажываў вельмі балюча пасьля расколу ўважліва прыслухоўваўся да таго, што гаварыў Г. В. Як радасна ён паўтараў словы Плеханава—„Не хачу памерці опортуністым“. Нават у 1914 годзе Ўл. Ільліч страшэнна непакоіўся, рыхтуючыся да выступаньня супроць вайны: „Няўжо ён не зразумее?“ казаў Ул. Ільліч. Аб тым-жа гаворыць і Каменеў—таварыш Уладзімера Ільліча. Ён піша, што нават пасьля канчатковага разрыву з Плехановым, Ленін захаваў да апошняга асаблівае пачуцьцё. Мы ведалі, што Ўл. Ільліч ніколі ня ставіў яго на адну дошку з іншымі з ворагаў, ён цаніў у ім умелую практыку, баявы дух, ваяўнічы пал сталага марксыстага заўсёды і на ўсіх паваротах гістарычнага шляху. „У Плеханаве жыве сапраўдны якобінец“, ня раз гаварыў Ул. Ільліч, і гэта было ў яго вуснах вышэйшай пахвалай.

Гэткія матэрыялы, якія дазваляюць нам меркаваць аб тым, як складаліся і разьвіваліся на працягу шмат гадоў адносіны Плеханава і Леніна. У гэтых адносінах было шмат такога дружацкага і ўзаемна-аб'яднаючага, што прымушае часамі, гаворачы аб Плеханаве і Леніне, успамінаць нават аб сіамскіх блізьняцох міжнароднага соцыялізму—аб Марксе і Энгельсе. Але роўналежнай тут, зразумела, не правясьці. У Маркса і Энгельса мы маем саракагадовае супрацоўніцтва ў бліжэйшым і неразрыўным адзінстве, незацемненае ні адзіным разыходжаньнем. Духоўны шлюб—адзін з нямногіх у гісторыі чалавецтва. Ня тое ў Плеханава і Леніна. Саракагадовая творчасьць Плеханава і трыццаці-гадовая дзейнасьць Леніна ведаюць даўгія гады супрацоўніцтва, але ведаюць і даўгія гады разрыву, суровай узаемнай барацьбы і адчужэньня. Справа яшчэ наступных дасьледзін разабрацца ў гэтых адносінах, ва ўсёй іх складанасьці і шматбаковасьці і абмаляваць іх на фоне тых тэндэнцый, якія праявіліся ў расійскай соцыял-дэмократыі, у расійскай рабочай клясе, у нашым рэволюцыйным руху.

Я хачу скончыць толькі голым пералічэньнем тых палажэньняў, якія, я думаю, павінны быць адыходнымі для гэтых будучых дасьледзін.

1) Плеханаў—пачынальнік расійскага соцыялізму, заснавальнік марксыцкай партыі, айцец ідэй гегемоніі пролетарыяту ў нашай рэволюцыі.

Ленін—завяршальнік расійскага соцыялізму, зьдзяйсьняльнік у жыцьці ідэй марксызму, зьдзяйсьняльнік гегемоніі пролетарыяту, заснавальнік дзяржаўнага ладу, пераходнага да соцыялізму.

2) Плеханаў—самы выдатны марксыцкі дасьледца філёзофіі, эстэтыкі, разьвіцьця грамадзкай думкі.

Ленін—самы вялікі тэорэтык клясавай барацьбы, геніяльны майстра яе, які адкрыў новую старонку ў гісторыі міжнароднага соцыялізму.

3) І Плеханаў і Ленін—самыя вялікія дыялектыкі рэвалюцыйнай думкі, высунутыя міжнародным соцыялізмам пасьля Маркса і Энгельса.

4) Плеханаў правёў жыцьцё ва ўмовах прымушанага адрыву ад пролетарскіх мас Расіі. Гэта часта перакручвала лінію яго тактычнага паводзеньня, як практычнага дзеяча расійскай соцыял-дэмократыі. Ленін асабліва чула лавіў настроі мас і трымаў дзейсны контакт з імі.

5) Рыса, якая родніць Плеханава і Леніна, якая рабіла іх „блізкімі ў варожасьці“—іх рэвалюцыйнае якобінства, прызнаньне дабра рэвалюцыі вышэйшым законам, вышэйшым крытэрыем сваёй дзеяльнасьці і творчасьці.

Далейшую працу трэба будаваць так, каб выявіць прычыны збліжэньня Леніна з Плеханавым і іх разыходжаньняў. Тут гралі вялікую ролю ня толькі суб'ектыўныя моманты (яны, зразумела, былі), а былі і пэўныя соцыяльныя карані, з прычыны якіх Плеханаў і Ленін зьяўляліся сябрамі і ворагамі, былі ворага-сябрамі і сябра-ворагамі! Усё гэта было. І задача дасьледцы пайсьці па шляху адшуканьня гэтых соцыяльных каранёў.

# НАШАЕ ГРАМАДЗТВА І ДЗІЦЯЧЫ ТЭАТР[1])

**Хр. Херсонскі**

Поэта Аляксандар Блок у гутарцы з Максімам Горкім, пытаючы аб сэнсе жыцьця, сказаў, што яго вельмі непакояць „дзіцячыя пытаньні“—„самыя глыбокія і страшныя“.

Поэту дадзявалі людзі, якія займаюцца па прывычцы разьвязваньнем проблем соцыяльнага быцьця і якія забываюць, як яму здавалася, аб самых блізкіх, аб самых простых і страшных пытаньнях кожнай „душы“,—аб глыбокіх адчуваньнях асабістага жыцьця кожнага чалавека.

Блок называў „дзіцячымі“ свае асабістыя інтымныя адчуваньні таму, што яны зблізкаюць дарослага з дзіцём.

І праўда, кепска было-б, калі-б мы забывалі аб жывых мучэньнях і пытаньнях, якія ўзьнікаюць у васабістым жыцьці чалавека сягоньня. Мала сказаць, што пролетарская рэволюцыя гуманная ўжо тым, што яна вядзе да вялікага гуманізму ў соцыялізьме, мала паказваць на будучыну,—трэба рабіць сягонешнюю раніцу, трэба лячыць, любіць, выхоўваць і шанаваць чалавека.

Быт і псыхолёгія нашых дзяцей—гэта баромэтр грамадзкага перараджэньня, нашага прарастаньня да соцыялізму,—парасткі новага грамадзтва. Кепскі садоўнік дзіцячага саду, кепскі выхавацель—кепскі рэволюцыянэр.

Дзіця—індывідуальнасьць, якая яшчэ ня склалася.

Скласьці яе—соцыяльная проблема, грамадзкая задача.

Дзеці ў масе—гэта рассыпаныя зерняты будучага грамадзтва. Насеньне, а ня кветкі нашай эпохі.

Эпоха катастрофічная, цяжкая, супярэчная рассыпала мільёны маленькіх сэрцаў і розумаў у гразь вуліцы, пад калёсы паяздоў, у памыйныя ямы, у асфальтавыя катлы, у згіноту ўсякіх прытонаў. Другі мільён зерняят мы пасадзілі на соцыялістычныя градкі,—пад сонцам і пяшчотнымі рукамі садоўнікаў усіляецца веснавая рунь.

„Ідзе, гудзе зялёны шум“...

І тыя і другія аднолькава нашы дзеці. Меней ад іх нашы,—тыя хатнія дзеці, якіх маткі выгадоўваюць на смачных дражджох, у цяпле

---

[1]) У 1926 г. споўнілася пяць год ад дня заснаваньня першага ў СССР Маскоўскага тэатру для дзяцей, адкрытага Маскоўскім Саветам, якім кіруе Н. І Сац.

мяшчанскіх пярын, у сонным сытым прытулку хаты, адгароджанай цёплай сямейнай печчу ад халодных вятрыскаў жыцьця.

Пра бяспрытульных і піонэраў нашыя думы, нашыя клопаты. Пра іх глыбокія і страшныя пытаньні, нялёгкія для разьвязваньня.

Піонэры з наіўнай бадзёрасьцю і завучана адказваюць—„Заўсёды гатовы". Але не, яшчэ не гатовы. Другія бяз догляду гатовы да ўсяго, але нічога ня створаць у грамадзтве. Гэта—вялізная армія спажыўцоў жыцьця, калі не зрабіць яе працаўнікамі, стварыцелямі.

Як да іх падысьці?

Поэта Блок адчуваў сябе дзіцём, калі мучыўся самымі цяжкімі сваімі асабістымі пытаньнямі. Блок быў лірыкам. Суб'ектыўным лірыкам.

Дзіця, кожнае,—таксама суб'ектыўнае і лірычнае.

Мы памятаем няшчаснае дарослае дзіця, якога кахаюць усе—лірыка Сяргея Есеніна.

Яго лёс вельмі блізкі да лёсу шмат якіх бяспрытульных дзяцей нашай эпохі.

Если-б не был бы я поэтом,
То, наверно, был мошенник и вор...
„Есть одна хорошая песня у соловушки,
Песня панихидн я по моей головушке.
Жила - забубенная, жила—ножевая,
А тепер вдруг свесилась, словно неживая.
Думы мои, думы! Боль в висках и темени.
Промотал я молодость без поры, без времені...

Аб ім у пахавальнай прамове Л. Д. Троцкі пісаў: „Рэволюцыя катастрофічна, эпічна, публічна". Індывідуальнасьць лірыка—у супярэчнасьці з нашай рэволюцыяй. Мы змагаемся яшчэ за хлеб і яшчэ не заваявалі сьвету шчасьлівых песень. Але мы змагаемся, каб заваяваць, стварыць такі сьвет.

З маленства нашыя дзеці сурова вучацца здабываць сабе хлеб.

Піонэры—у нормальнай працы і ў грамадзкай організацыі.

Бяспрытульныя ўрываюць сваю сухую скарынку ва ўмовах ненормальных, якія калечаць чалавека і грамадзтва.

У веснавы дзень 1-га траўня і тыя і другія езьдзяць па горадзе ў вялікіх грузавікох, увабраных у зелень. Пабач з ружовымі сьветлымі тварамі, што пырскаюць дзяцінствам, сустракаюцца зморшчаныя твары падлеткаў з вуліцы, дачасных дзядоў, твары, зжованыя горам, голадам, хваробамі. На грузавіку такім таксама плякат: „Мы—кветкі жыцьця". Але жыцьцё для іх было астрогам.

Я чуў нудотную злую кпінку абывателя, але бачыў і сьлёзы на вачох прахожых.

Гэтыя дзядоўскія твары ў грузавіку напамінаюць мне другія твары цяжкіх успамінаў. Люты 1917 году. Бутырская турма. Політычныя вязьні-

Шмат якія з іх з 1906 году знаходзіліся ў адзіночцы, у каменным мяшку.

Мы ламалі дзьверы.

— Грамадзянін, таварыш... вы вольны.

Іх твараў я не забуду ўсё жыцьцё. За шмат даўгія годы мучэньняў яны парабіліся маскамі, жахлівымі маскамі смутку.

Кожная пакутная гадзіна астрогу, як халодная капля, падала на шчокі і губы і высякала шрамы. Нібы хто нажом паласаваў, катаваў гэтыя твары. І паверх горкіх рыс выбілася, зазьзяла,—гэтак зазьзяла, што вачом глядзець было цяжка,—радая ўзьнеслась вызваленьня і пачатку рэволюцыі, пачатку новага жыцьця.

Адначасна адбітак горкага смутку і вялікага шчасьця на гэтых тварах старых дзяцей кранаў глыбіню душы. На іх нельга было глядзець бяз сьлёз.

Тыя самыя твары.

І тыя і другія змагаліся за жыцьцё.

Дзяды-дзеці і дзеці-дзяды—скалечаны.

Скалечанае асабістае жыцьцё, цяжкія страшныя пытаньні і мучэньні шмат якіх індывідуальнасьцяй дарослых і дзяцей. Складанае і заблытанае жыцьцё дзіцяці нашай эпохі,—будзем будаваць будучае і кахаць, шанаваць, выхоўваць цяперашняе.

„Асоба чалавека расьцьвіце тады сапраўдным цьветам“.

„Будзем рыхтаваць будучае! Будзем рыхтаваць будучае! Будзем заваёўваць для кожнага і кожнай права на хлеб і права на песьню“.

(Л. Д. Троцкі аб сьмерці Есеніна).

Гэта павінен рабіць тэатр для дзяцей, у гэтым сэнс яго рэпэртуару і сэнс уцягненьня дзяцей у суперажываньні, у вагульную ігру з акторамі. Памятаць аб лірыцы асабістасьці і аб эпосе, працы і барацьбе колектыву.

З лірычных індывідуальных песень складаецца ў масе эпос рэволюцыі. З масавых сустрэч, асабістых драм—катастрофічнасьць яе перажываньня. У колектыве складаецца рэволюцыя і толькі ў колектыве індывідуальнасьць выжыве і акрыяе, пераможа „страшныя дзіцячыя“ пытаньні і расьцьвіце сапраўдным цьветам у нашу і ў будучую эпоху.

З далікатнага і труднага, шчасьлівага і горкага насеньня, з дзяцей піонэрскага лягеру і абшарпанцаў вуліцы—дзіцячы тэатр павінен гадаваць новае грамадзтва. Тэатр па існасьці сваёй эмоцыяльны і лірычны, ён глыбока і шчыра хвалюе дзіцячае сэрца і розум.

Калі хваляваньне, што йдзе ад яго, не пальлецца на млын колектыўнай працы, барацьбы і колектыўных песень, то ён будзе кепскім садоўнікам дзіцячага саду.

Ізноў і ізноў будзе зрывацца „ў багну неабароненае людзкое дзіця“.

* * *

Памятаць перш за ўсё не пра хатніх дзяцей, а пра дзяцей лягеру, працоўнай школы і вуліцы.

Памятаць, што дзіцячыя запатрабаваньні не маленькія. Ня зюзюкаць.

Не хавацца пад убраньне баечак і эстэтызму ад вятроў і песень лягеру, працоўнай школы і вуліцы.

Прыслухоўвацца да кожнай індывідуальнасьці дзіцяці, каб глыбей і мацней зьяднаць і выгадаваць яе ў колектыве.

„Жывая творчасьць мас—асноўны фактар новай грамадзкасьці" (Н. Ленін). Трэба моцна злучыць усю сваю працу з жывой творчасьцю дзяцей і зрабіцца іх патрэбным, сваім лягерам гульняў, думак, пачуцьцяў, уражаньняў і працы, у якім:

Разам з дзяцьмі рыхтаваць будучае.

Заваёўваць для кожнага і для кожнай права на хлеб і права на песьню.

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА У НЯМЕЧЧЫНЕ

*(Ад нашага корэспондэнта)*

**Я. М—віч**

Матэрыяльны дабрабыт Беларусі залежыць ад продукцыйнасьці сельскай гаспадаркі, якая пры адсутнасьці разьвітой прамысловасьці зьяўляецца адначасова і народнай гаспадаркай усёй краіны. Адгэтуль вядома, што чым з большай інтэнсыўнасьцю і правільнасьцю будуць скарыстаны прыродныя багацьці краю, тым лепшыя будуць яго вынікі ў справе ўзмацненьня народнай гаспадаркі і ўсяго дабрабыту рэспублікі. Сельская гаспадарка Беларускай Сав. Соц. Рэспублікі ўзмацняецца з кожным годам,—гэта факт. Але гэтага мала. Продукцыйнасьць сельска-гаспадарчай працы, працы селяніна, павінна быць даведзена да ўзроўню, які адпавядаў-бы прыроднаму багацьцю зямлі. Абрабляючы зямлю першабытным спосабам без дапамогі сучаснай навукі—агрономіі,—дасягненьняў вялікіх ад гэтага чакаць нельга. Для таго, каб зямля акупала сябе, трэба ўмець яе добра абрабляць. З гэтай мэтай ня шкодзіла-б пазнаёміцца з станам сельскай гаспадаркі ў Нямеччыне, якая знаходзіцца на ўзроўні высока продукцыйнай пастаноўкі справы.

Ня гледзячы на тое, што Нямеччына зьяўляецца краінаю пераважна дробнага зямлякарыстаньня (каля 80 проц. усёй зямлі належыць сялянству), яе вёска даволі заможная, ня кажучы ўжо аб беднаце ў нашым разуменьні. К ліку вясковай беднаты ў Нямеччыне можна аднесьці толькі парабкоў. Гэта катэгорыя сялянства ўтварае месцамі цэлыя вёскі, якія кормяцца ад работы на памешчыка і поўнасьцю ад яго (памешчыка) залежаць, як ня маючыя ўласнай зямлі. Жыцьцё парабкоўскіх пасёлкаў цяжкае і вельмі далёкае ад здаволенага і сытага дабрабыту мужыцкай вёскі, пры сваёй уласнай зямлі. Два гады таму назад па Нямеччыне пракацілася была хваля аграрных, ці, лепей сказаць, парабкоўскіх бунтаў, пралілося нямала памешчыцкай крыві. Але сялянства парабкоў не падтрымала. Нямецкі селянін—заўзяты ўласьнік, працаўнік усялякіх трасянін, асабліва цяпер, калі інфляцыя надарыла яго рознымі „дзіковінкамі“ з гораду. Гэта абставіна, аднак, не перашкаджае нямецкаму селяніну быць харошым гаспадаром і атрымоўваць ад сваёй зямлі максымум таго, што яна можа даць яму. Ня зразу дашоў да гэтага ўменьня немец. Яго дабрабыт і роля ня самі сабою прышлі, а зьявіліся шляхам доўгай і клапатлівай шчырасьці да зямлі і яе правільнага ўрабляньня. Барацьба нямецкай

вёскі за паляпшэньне і незалежнасьць свайго матэрыяльнага быту, пачалася з коопэрацыі, пакрыўшай к наступнаму часу Нямеччыну густою сеткаю коопэрацыйных таварыстваў, якія граюць значную ролю ў жыцьці дзяржавы. На 1-ае студзеня 1925 году сел.-гасп. коопэратываў у Нямеччыне дасягала лічбы 39.270.

Коопэрацыйнымі таварыствамі Нямеччыны здабываецца на патрэбы дробных зямляўласьнікаў кожны год на 1 мільён рублёў угнаеньня і кармавых сродкаў. Пры гэтым коопэрацыйныя таварыствы ставяць сабе мэтай ня толькі дастаўку сялянам усяго патрэбнага па больш таннай цане: яны праводзяць асьветныя мэты, а іменна: паказваюць сялянам на значэньне тых ці іншых сродкаў альбо спосабаў, рэкомэндуюць ім тавар у залежнасьці ад мясцовых кліматычных умоў і асабістых жаданьняў у патрэбе пакупацеля. Ня меншую карысьць дробнаму гаспадару прыносяць коопэрацыйныя таварыствы і ў справе продажы яго продуктаў, а асабліва цяпер, калі інфляцыя пазбавіла вёску ад сродкаў, патрэбных для звароту (обороту). Патрэба ў грашох адчуваецца галоўным чынам восеньню, калі патрэбна здабываць збожжа для засеваў і закупляць корм для жывёлы. Прыходзіцца прадаваць толькі што зжаты з поля хлеб скупшчыку-спэкулянту, каб гэты апошні к вясьне, вядома, зарабіў удвайне. Вось тут на дапамогу дробнай сельскай гаспадарцы і прыходзяць коопэрацыйныя таварыствы, наладжваючы ўласныя буйныя склады, магазыны збожжа, у якіх яно захоўваецца ад псаваньня і ляжыць да таго моманту, калі цэны на хлеб ужо ня так нізкі, як пасьля ўраджаю. Сабраныя ў касах коопэратываў грошы служаць фінансавым падмуркам для інтэнсыўнага вядзеньня дробным гаспадаром гаспадаркі па ўсіх галінах: жывёлагадоўля, гародніцтва, садоўніцтва, малочная справа і інш.

Пэрыод інфляцыі моцна надарваў матэрыяльны дабрабыт нямецкіх коопэратываў, зрабіўшы іх капіталы ў бескаштоўныя паперкі. Але, з другога боку, бескаштоўнасьць маркі ў шмат якіх выпадках адыграла ролю ў звальненьні сельскай гаспадаркі ад запазычанасьці. Узьнікшы пасьля інфляцыі Рэнтны Банк адпусьціў сельскай гаспадарцы крэдыт у першую чаргу. 550 мільёнаў залатых марак Рэнтнага Банку атрымалі гаспадары праз коопэратывы, і коопэрацыйная справа зноў ажыла і пацякла па свайму рэчышчу ўперад пасьля інфляцыйнага застою. Апрача мэт узаемадапамогі, асьветных і інш., коопэратывы нясуць на сабе абавязкі і адміністрацыйна-законадаўчыя: яны абараняюць коопэрацыйныя інтарэсы ў законадаўчых і адміністрацыйных установах; вырабляюць, узмацняюць і дасканальна паляпшаюць коопэрацыйныя формы ў пытаньнях распараджэньня ўраду, вядуць коопэрацыйную статыстыку і г. д. Пры цэнтральным кіраўніцтве саюзу коопэратываў у Бэрліне выдаецца свой друкаваны орган „Deutshe Landwirtshaftlche genossenchaftpresse“ і існуюць коопэрацыйныя курсы. Між сельска-гаспадарчай коопэрацыяй Беларускай ССР (СССР) і нямецкай наглядаецца значная розьніца. У той час, як

коопэрацыя Саюзу ССР падтрымліваецца і рэгулюецца зьверху, коопэрацыя Нямеччыны складалася паступова і зьнізу. Тут сапраўды ня можна бачыць удзелу ўраду ў дапамозе коопэрацыйнаму руху, які носіць выключна прыватна-прававы характар і зьвяртаецца за дапамогай да дзяржавы толькі ў самыя крытычныя моманты, як было, напрыклад, пасьля нядаўняй інфляцыі. Такі стан рэчаў, аднак, вядзе к таму, што коопэрацыйныя таварыствы губляюць паступова ідэолёгічны прынцып і набываюць капіталістычны ўхіл (іначай, вядома, у краіне капіталу і капіталістычнай ідэолёгіі і быць ня можа). Але заслуга нямецкай коопэрацыі ў справе тэхнічнага паляпшэньня сельскай гаспадаркі так вяліка, а тэхніка коопэрацыйнай справы Нямеччыны высокая, што яна выстаўляецца, як узор, які служыць і для другіх краін. Побач з коопэрацыйнымі таварыствамі ў інтарэсах практычнага паляпшэньня сельскай гаспадаркі дзейнічае так званае „Нямецкае сельска-гаспадарчае таварыства", якое налічвае некалькі дзесяткаў тысяч членаў. Задачай гэтага таварыства зьяўляецца організацыя і цэнтралізацыя абмену думкамі і дасьведчаньнямі ў вытворчасьці па ўсіх галінах сельска-гаспадарчай практыкі. Дзякуючы рабоце таварыства, усе дасягненьні навукі і тэхнікі пранікаюць зараз-жа ў сялянскую гушчу, і самы дробны земляроб мае магчымасьць усім гэтым карыстацца без затрат спэцыяльных сродкаў. Гэтае таварыства мае свае ўласныя дасьледчыя станцыі, організоўвае зьезды, нарады, ладзіць штогоднія выстаўкі сельска-гаспадарчага вырабу і інш. Паміма таварыства не праходзіць у жыцьцё ні адно навуковае дасягненьне. Вынаходцы, каб азнаёміць вёску з навуковымі дасягненьнямі, зьвяртаюцца спачатку да таварыства, якое потым само ўжо знаёміць шырокія колы насельніцтва. На дасьледчых станцыях таварыства дасьледуе карыснасьць розных угнаеньняў, уласьцівасьць глебы, якасьць зерня, корму, сел.-гасп. прылад і інш.

Сяляне карыстаюцца таксама паслугамі таварыства пры куплі і продажы патрэбных сельскаму гаспадару розных рэчаў. Карацей кажучы, няма пытаньня ў сельскай гаспадарцы, дзе-б ня прымала ўдзелу таварыства, прычым усё разьбіраецца і разьвязваецца на падставе багатай практыкі і ў згодзе з вывадамі навукі. Апрача гэтай цэнтральнай сталай організацыі (таварыства), сям-там існуюць мясцовыя організацыі, якія абслугоўваюць невялічкія раёны і толькі ў галіне пытаньняў чыста мясцовага характару. Цяпер пастараемся паказаць найбольш важны фактар з жыцьця нямецкай сельскай гаспадаркі і асабліва дробнай—справа сельскай гаспадарчай адукацыі. Раней за ўсё сельска-гаспадарчыя акадэміі. Іх ёсьць у Нямеччыне чатыры: у Бэрліне, Боньне, Гогенгейме і Вэйгенштэфэне. Далей ідуць адзінаццаць агрономічных інстытутаў пры унівэрсытэтах у г. Браслаўлі, Гальле, Іене, Гамбургу, Кіле, Лейпцыгу, Гэсэне, Ростоку, Гетынгене, Кёнігзбэргу і Мюнстэры. І потым, у Мюнхэнскім і Браўншвэйскім політэхнікумах існуюць сельска-гаспадарчыя аддзяленьні. Пералічаныя вышэйшыя школы альбо спэцыяльныя аддзяленьні пры

іх зьяўляюцца ня толькі навучальнымі ўстановамі, але цэлымі дасьледчымі інстытутамі. Тым ня меней веды, якія даюцца гэтымі школамі, ёсьць толькі тэорэтычныя, і скончыўшыя іх агрономы і інжынэры прымушаны яшчэ праходзіць курс практычнага азнаямленьня з справай, выбраўшы сваёй спэцыяльнасьцю тую ці іншую галіну сельскай гаспадаркі. Па даных практыкі, вышэйшыя школы мала прыгодны для беспасярэднага абслугоўваньня практычнага гаспадара. Для яго нядаўна ўтварыўся новы тып школы—сельска-гаспадарчыя сэмінарыі, дзе на працягу аднаго году вучні атрымоўваюць выключна веды практычнага характару. Сэмінарыі гэтыя карыстаюцца ўсё большым і большым поспехам і ў цяперашні час лічба іх дасягае ўжо дзесяці. Але ўсё гэта, вядома, хоць і добра, але не па сілах дробнаму земляробу. Тады на сцэну выступіў тып школ, спэцыяльна прыстасованы да запатрабаваньняў і жыцьця дробнага гаспадара, дзе вучню даюцца веды не агульнага характару, а патрэбныя да яго ўласнай гаспадаркі. Курс гэтых школ двух альбо трохгадовы, і заняткі вядуцца толькі зімою, каб не адрываць дзяцей ад работы ўлетку, і то пераважна па вечарох два разы на тыдзень па дзьве-тры гадзіны. Гэтыя школы цікавы яшчэ і тым, што зьяўляюцца ў сваёй акрузе цэнтрам усяго агрономічнага жыцьця, бо іх настаўнікі—агрономы—на процягу лета аб'яжджаюць гаспадаркі і па мясцох даюць сваім вучням і парады і паказаньні. Словам, гэтыя школы ў жыцьці нямецкай сельскай гаспадаркі зьяўляюцца настолькі заметнай зьявай, што мы лічым патрэбным пазнаёміць чытача з іх жыцьцём больш падрабязна.

Як было паказана вышэй, курс у іх двух-трох гадовы і заняткі бываюць толькі зімою. Дысцыпліны выкладаньня: нямецкая мова, матэматыка, прыродазнаўства і законазнаўства. Спачатку заняткаў настаўнік гутарыць з вучнямі па розных пытаньнях, якія маюць адносіны да сельскай гаспадаркі, вучні потым пішуць па гэтым пытаньні пісьмовую работу, разьвязваюць задачы; чытаюцца характэрныя літаратурныя творы і г. д. Словам, апрацоўваецца ў азначаным напрамку думка вучня, каб затым лягчэй было прыступіць да вывучэньня дысцыплін паасобку. У першым навучальным годзе вучні знаёмяцца з расьлінамі, з якімі прыходзіцца мець дачыненьне сельскаму гаспадару, вывучаюць жыцьцёвыя процэсы гэтых расьлін, умовы іх прарастаньня, кармленьня і спосабы догляду за імі. Прыводзім для паказу шэраг пытаньняў, якія абгаварваюцца на лекцыях у першым навучальным годзе („Н. Р.“ № 109). Што трэба расьліне, каб яна магла існаваць? Адказ—цяпло, сьвет, вільгаць, глеба, паветра. Хэмічны склад расьліны? Адказ—пры высыханьні з яе вылучаецца вада, а калі спаліць, апрача таго,—вуглярод і азот; у попеле застаецца вапна, калі і фосфарны квас. З чаго складаецца глеба? Адказ—з вады, з згарэўшых і не згарэўшых рэчаў. Першыя маюць вуглярод і азот. Рэчы, якія не згараюць, такія: каменьне, гліна, пясок, вапна. З чаго складаецца паветра? Чаму патрэбна ўгнойваць глебу? Чаму на адным і тым-жа за-

гоне нельга сеяць кожны год тое самае? Як дабіцца таго, каб паплавы давалі травы больш і лепшай якасьці? На што патрэбна зьвяртаць увагу пры дaглядзе за садавіною? Кожнае з гэтых пытаньняў абгаварваецца ў гутарцы настаўніка разам з вучнямі, тут-жа паказваецца прыкладамі, дапаўняецца вершамі, літаратурнымі альбо популярнымі навуковымі адрыўкамі і потым усё гэта замацняецца пісьмовай работай. Затым разьвязваюцца задачы аб колькасьці спажыўных матэрыялаў, якія знаходзяцца ў азначанай колькасьці ўгнаеньня, вылічэньне колькасьці зерня, патрэбнага для засеву на пэўным кавалку зямлі і г. д. З програм другога навучальнага году (альбо курсу) патрэбна адзначыць такія пытаньні: Што трэба жывёле для існаваньня? Адказ—харч, вада, паветра, цяпло. Як паглынаецца паветра і для чаго (фізыолёгічныя функцыі рота, носа, скуры)? Як прымаецца вада і харч (дзейнасьць жывата і кішок, значэньне сьліны, соку з жывата і жэлчы)? Якое значэньне мае кроў? З чаго складаюцца кармовыя сродкі? Адказ—з вады і сухой масы. Колькі сухой масы трэба жывёле (адносіны вагі жывёлы да вагі зьедзенага жывёлай харчу)? Як павялічыць удой? і г. д.

І, нарэшце, програма трэцяга курсу пабудована на пытаньнях, як весьці гаспадарку і навокал яе жыцьця ўжо больш з надворнага боку. Тут мы сустракаем такія пытаньні. Як даведацца гаспадару, ці ёсьць прогрэс у яго гаспадарцы, ці йдзе яна на ўбытак? Як яму за гэтым сачыць (вядзеньне кніг)? Як захаваць гаспадарку ад убыткаў навальных страт (пажар, навадненьне, градабіцьцё)? Як таней здабыць усё патрэбнае для гаспадаркі (коопэратывы, купля машын і другіх прылад у складчыну)? Як пабудованы суды? Як пабудавана дзяржава? Што дае дзяржава грамадзянам і чаго патрабуе ад іх?

Школ апісанага тыпу—праўдзівей, курсаў—у Нямеччыне налічваецца некалькі тысяч і яны падтрымліваюцца ўрадам. Апрача апісаных намі тыпаў школ, ёсьць школы і другіх відаў, але яны асабліва тыповымі назвацца ня могуць і дзеля гэтага спыняцца на іх няма сэнсу.

Гэткім чынам, мы бачым, што сельская гаспадарка ў Нямеччыне дзякуючы высокаму культурнаму ўзроўню крайны, даведзена да вышэйшай ступені інтэнсыфікацыі. Эксплёатацыя зямлі нямецкім селянінам выкарыстоўваецца ўсімі тэхнічнымі і навуковымі спосабамі. Дзякуючы гэтаму, трэба адзначыць, што зусім невялікі яе абшар дае да 3 чвэртак гадавога патрабленьня хлеба і іншых палявых культур. Жавёлагадоўля даведзена да найвышэйшага пункту, таксама даючы мажлівасьць амаль ня поўнасьцю здавальняць мясам і малочнымі продуктамі жыхарства краю,

Але, паміма тэхнікі і ведаў у галінах сельска-гаспадарчых, якія стаяць у Нямеччыне высока, вялікую сілу маюць тыя старанныя адносіны, клопаты к зямлі, якія выяўляе нямецкі селянін. Гэты бок асабліва трэба падкрэсьліць, бо ад яго ў многім залежыць той багаты плён, які дае зямля нямецкаму селяніну.

Бэрлін.

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСЬНЯ НА УКРАІНЕ

*(Факты і ўражаньні)*

**Ю. Дрэйзін**

Яшчэ ў лістападзе мінулага 1925 году украінская дзяржаўная харавая капэля „Думка“ (у Кіеве) зьвярнулася да Інбелкульту з просьбаю прыслаць беларускія песьні ў мастацкай апрацоўцы дзеля азнаямленьня з імі і публічнага выкананьня капэляй. Музычная падсэкцыя Інбелкульту паслала ў Кіеў 17 наступных песень: 1) Ой, рана на Івана; 2) Дарожка, дарожка; 3) Далінаю жыта; 4) Ой, маці сына ды спарадзіла (апрацоўка Прохарава); 5) Зажурылася ўдоўка; 6) Проці жаркага сонца; 7) Як у полі; 8) Ой, загуду, загуду; 9) Маладая дзяўчынанька; 10) Ды ўжо сонейка; 11) Гэй ты, вярба мая; 12) А ў бары, бары (апрацоўка Аладава); 13) Ой, ляцелі гусі; 14) Ой, доля мая, доля (апрацоўка Нікольскага); 15) Ой, куры, куры, ня пейце рана (апрац. Грэчанінава); 16) Калыханка і 17) Беларуская марсэльеза (апрац. Тэраўскага).

У канцы студзеня бягучага году „Думка“ паведаміла, што 7-га лютага адбудзецца концэрт „Думкі“, прысьвечаны выключна беларускай песьні, і прасіла прыслаць на гэты концэрт прадстаўніка музычнай падсэкцыі Інбелкульту. Прэзыдыум ІБК камандыраваў аўтара гэтых радкоў у Кіеў дзеля паказанай мэты. Разам з тым ён павінен быў азнаёміцца і наогул з пастаноўкаю музычнае справы на Украіне.

Я пасьпяшыў на концэрт а палове 11-ай гадз. Ішло ўжо 3-е аддзяленьне і засталіся нявыкананымі тры песьні.

Концэрт адбываўся ў вялікай і прыгожай зале будынку комуністычнай асьветы, які быў поўны публікаю пераважна з украінцаў. Перад апошнім нумарам я зьвярнуўся да „Думкі“ і да публікі з прамоваю. Перадаўшы „Думцы“ прывітаньне ад музычнай падсэкцыі ІБК і пажадаўшы ёй усялякіх далейшых посьпехаў у яе працы, я застанавіўся на характарыстыцы музычнага боку беларускае песьні, на экономічных, грамадзкіх і політычных прычынах пахаджэньня таго чыста нацыянальнага суму, які прасякае беларускую песьню, гаварыў далей аб яе музычнасьці, аб агульнай музычнасьці беларускай нацыі, у каооткім нарысе выдажыў гісторыю зьбіраньня беларускае песьні і скончыў тымі пэрспэктывамі далейшага музычнага разьвіцьця, якія адчыніліся перад беларусамі (а разам і украінцамі), дзякуючы Кастрычнікавай рэволюцыі. Заклікаў музычных дзеячоў

Украіны да сувязі з музычнымі дзеячамі Беларусі, да напружанай працы і да падтрыманьня адных аднымі.

Гэтая прамова была прынята публікаю надзвычайна цёпла. Калі прывітальныя крыкі і воплескі сьціхлі, дырыжэр „Думкі“ Нестар Гарадавенка зьвярнуўся да публікі з просьбаю дазволіць яму паўтарыць дзьве песьні з тых, якія былі ўжо выкананы ў двух першых аддзяленьнях концэрту. Дазвол быў дадзены, і, гэткім чынам, я на гэтым концэрце меў магчымасьць праслухаць 5 песень. Я павінен адзначыць, што тыя песьні[1]), якія былі выкананы, прымаліся публікаю вельмі цёпла. Концэрт беларускае песьні меў наогул вялікі посьпех.

На другі дзень, 8-га лютага, я быў у „Думцы“ на рэпэтыцыі. Рэпэтыцыя складалася з двух аддзяленьняў, паміж якімі быў антракт. У першым аддзяленьні рэпэтыраваліся творы Гайдна, Дэбюсі і Равэля, якія меліся быць выкананы на концэрце піаністага Тарноўскага 10 лютага. У другім аддзяленьні рэпэтыцыі пяяліся украінскія песьні як прымітывы, так і ў мастацкай апрацоўцы розных украінскіх композытараў. Спаміж гэтых апрацовак адзначаюцца вялікім мастацкім хараством апрацоўкі Леантовіча, у якіх гармонічнае майстэрства ня зьнішчае галоўнага настрою нацыянальнае песьні і не закрывае і нікольні ня псуе, а толькі аздабляе асноўную мэлёдыю.

Пасьля рэпэтыцыі я наведаў пасяджэньне праўленьня таварыства імя Леантовіча. На гэтым пасяджэньні абгаварвалася пытаньне аб утварэньні украінскае філярмоніі.

9-га лютага я зноў быў у „Думцы“ на рэпэтыцыі. У другім аддзяленьні рэпэтыцыі, па прапанове дырыжэра Н. Гарадавенка, „Думка“ пяяла выключна беларускія песьні па майму выбару.

Раней, чымся гаварыць аб выкананьні „Думкаю“ беларускае песьні, я павінен сказаць аб „Думцы“ наогул, бо ўсе тыя дадатныя бакі (і хібы, калі яны толькі існуюць), якія выяўляюцца ў „Думцы“ наогул, выявіліся і ў яе пяяньні беларускіх песень.

Капэля „Думка“ вядзе пачатак свайго існаваньня ад вандроўнай капэлі, якая ў 1920 годзе ў складзе 45 сьпевакоў, пад кіраўніцтвам дырыжэра Нестара Феафанавіча Гарадавенка, аб'езьдзіла Палтаўшчыну і Харкаўшчыну ад імя украінскае коопэрацыі. Пасьля звароту з гэтае вандроўкі, Кіеўская губнарасьвета ўзяла пад сваё кіраўніцтва ўсе мастацкія ўстановы ад коопэрацыі і даручыла Н. Гарадавенку стварыць дзяржаўную капэлю. З 15-га лістапада 1920 г. „Думка“ ўжо існуе, як дзяржаўная харавая організацыя.

Першапачаткова яна насіла назву (паукраінску): „Державная Українська Мандрівная Капела“, скарочана—Думка, а ў сакавіку 1924 г. пастановаю Саўнаркому Украіны яна была празвана „Першою робітничеселянською капелою УССР“, але побач з гэтаю новаю назваю захавала і старую „Думка“.

---

[1]) Праз дзень, на рэпэтыцыі „Думкі“, я праслухаў яшчэ чатыры песьні.

За пяць год свайго існаваньня „Думка“ дала 621 концэрт (концэрт беларускае песьні быў 621-м). Рэпэртуар яе дасягае аграмаднага ліку— каля 500 нумароў. Пераважная большасьць гэтых нумароў, разумеецца, творы нацыянальнай украінскай музыкі як народнай, так і мастацкай, але „Думка“ пяе шмат твораў і музыкі іншых народаў як расійцаў, так і заходня-эўропэйцаў. „Думка“ аб'езьдзіла ўсю левабярэжную Украіну, выступаючы ня толькі ў гарадох, але й па вёсках, часта на вольным паветры, у 1924 годзе аб'езьдзіла Донбас, дзе пяяла ў шахтах пад зямлёю, аб'езьдзіла Азэрбэйджан, Грузію, дзе пяяла грузінскія песьні на грузінскай мове. Пяяла „Думка“ і ў Маскве ў часе Ўсесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўкі. І ўсюды і заўсёды „Думка“ выклікала зьдзіўленьне і захапленьне сваім мастацкім пяяньнем. Яна мае шмат адозваў у прэсе, якія гавораць аб „Думцы“ толькі з надзвычайнай прыхільнасьцю. Поўныя захапленьня адозвы давалі аб „Думцы“ такія выдатныя музыкі, як дырыжэры Н. Малько і Оскар Фрыд. Н. Малько ў сваім артыкуле аб „Думцы“, між іншым, пісаў:

„Мяне зьдзівіла капэля „Думка“, калі я прыехаў у Кіеў год таму назад і ў першы раз пачуў яе. Добры роўны падбор галасоў, дасканала ўраўнаважаная гучнасьць, вялікая гібкасьць і падатнасьць як у сэнсе дынамічных нюансаў, так і агульнага руху (тэмп і яго модыфікацыі), магутнае forte і таямнічае pianissimo, абсолютная мастацкая дысцыпліна, зьліцьцё ў адно ўсяго колектыву пры пяяньні вольным і часта капрызным, аграмадны рэпэртуар,—усё гэтае было нязвычайнае і новае“... І далей: „Я сказаў шмат пахвал і ніводнага дакору. Гэта нявычайна, але нязвычайна і капэля „Думка“, дзе ўсе,—і Нестар Гарадавенка, і сьпявакі,—носяць адбітак мастакоў у лепшым шляхетным сэнсе гэтага слова. Капэля „Думка“—безадноснае зьявішча высокае культуры. Ня трэба й гаварыць, якое значэньне яно мае, калі падыходзіць да яго з пункту погляду культуры украінскай. І аб гэтым вельмі трэба помніць тым, каму павінна быць дарагою гэтая культура“.

Той-жа Малько расказвае аб Оскары Фрыдзе так: „Калі О. Фрыд прышоў на рэпэтыцыю „Думкі“, ён быў поўны зьдзіўленьня і клікаў: „Чаму тут ёсьць рытм, а там (у опэрным оркестры) няма?“ Фрыд доўга гутарыў з капэляй, слухаў яе пяяньне, сам прадырыгаваў адным нумарам з араторыі „Чатыры часы году“ Гайдна, і доўга потым з захапленьнем гаварыў мне аб „Думцы“.

Малько ў сваёй адозьве пералічыў усе галоўнейшыя дадатныя бакі „Думкі“. Усе гэтыя бакі і выявіліся ў пяяньні „Думкаю“ і беларускіх песень. Яны гучэлі так хараша, як можа быць ніколі і нідзе раней ня гучэлі.

Але... і ўсё-ж такі і тут ёсьць некаторае „але“. Вось іменна дадатныя бакі „Думкі“ ў выкананьні ёю беларускіх песень аказаліся хібамі. Беларуская песьня гучэла надта звонка, гучна, магутна. Не адчувалася

таго спэцыфічна беларускага суму, якім прасякнута беларуская песьня. Адчувалася, што беларуская песьня гучыць не на Беларусі і што пяюць яе не беларусы. Можа быць тут дзе прызвычаенасьць, але здавалася, што нават галасы украінцаў менш падыходзяць да беларускай песьні, чымся нашыя галасы. У нас, на Беларусі, ёсьць прыгожыя, і нават вельмі прыгожыя, галасы, але, наогул кажучы, яны як быццам больш цьмяныя, тусклыя, чымся сьветлыя, празрыстыя, звонкія галасы украінцаў. І вось гэтыя цьмяныя беларускія галасы больш як быццам, падыходзяць да беларускай песьні з яе гістарычным сумам, чымся украінскія.

Але... ці ёсьць гэта сапраўды „хіба“ „Думкі“, калі яна пяе беларускія песьні? Можа быць з этнографічнага боку гэта і была некаторая хіба, але-ж гэта было музычнае хараство, непараўнанае хараство. І хацелася, каб цяпер і ў далейшым, калі зьніклі ўжо канчаткова і назаўсёды гістарычныя ўмовы, утварыўшыя сум беларускай песьні, калі насталі новыя часы, калі перад творцай беларускай песьні—беларускім працоўным народам адчынілася сьветлая будучына,—хацелася, каб гэты сум пазабыўся, каб беларуская песьня загучэла моцна, радасна, магутна, так, як яна (прыблізна) гучэла ў „Думцы“, і нават яшчэ мацней, яшчэ радасьней, яшчэ магутней.

Невыстарчаючая „этнографічнасьць“ выкананьня „Думкаю“ беларускіх песень залежала, гэткім чынам, як кажуць, ад аб'ектыўных прычын, але не ад таго, што „Думка“ мала ўважліва аднеслася да справы, не зразумела беларускае песьні, мала працавала над ёю. Якраз наадварот, уся капэля, разам з яе кіраўнікам, адразу-ж зацікавілася беларускімі песьнямі, зразумела іх, нават захапілася хараством некаторых і працавала над падрыхтоўкаю гэтага концэрту больш, чымся над програмамі іншых концэртаў. Падрыхтоўка цэлай новай програмы для концэрту звычайна патрабуе ад „Думкі“ ня болей чымся 10 дзён, а беларускаму концэрту „Думка“ аддала 18 дзён.

Даны „Думкаю“ концэрт беларускае песьні і пасылка на гэты концэрт прадстаўніка музычнай падсэкцыі ІБК можа быць зьявяцца пачаткам тэй цеснай сувязі паміж музычнымі дзеячамі абедзьвюх краін, аб якой шмат прыходзілася гаварыць і ў „Думцы“ і ў музычным таварыстве імя Леантовіча. І „Думка“ і таварыства прыслалі музычнай падсэкцыі нямала сваіх выданьняў (часопісь „Музыка“ за 1923 і 1924 г. г., усе выданыя дагэтуль таварыствам харавыя рэчы і інш.) і рэпэртуару (асабліва творы Леантовіча). А музычная падсэкцыя ІБК падрыхтоўвае пасылку „Думцы“ новых беларускіх песень у ліку 30 (згодна просьбе аб гэтым „Думкі“).

„Думка“ мае намер неўзабаве прыехаць на Беларусь і аб'ехаць буйнейшыя гарады Беларусі. Гэтае падарожжа будзе мець, бязумоўна, гістарычнае значэньне. „Думка“ пакажа нам, як трэба пяяць, пакажа, што значыць праўдзівае мастацтва харавога пяяньня. Гэта будуць доб-

рыя лекцыі для нашых хораў і іхных кіраўнікоў, бо хору лепшага за „Думку“ ня існуе на ўсім абшары СССР. І музычныя дзеячы Менску, разумеецца, прыложаць усе свае сілы, каб падарожжа „Думкі“ па гарадох Беларусі ажыцьцявілася.

Але украінцы прасілі, каб хор (дзяржаўнага тэатру) прыехаў да іх. І трэба сказаць, што падарожжа нашага хору ў Кіеў належала-б таксама ажыцьцявіць. Разумеецца, наш хор не такі, як „Думка“, але ён зусім не благі, а „этнографічнасьць“ беларускіх песень ён выяўляе лепш, чымся „Думка“, і гэты бок вельмі будзе цікавым для украінцаў.

Трэба ведаць, што „Думка“ не зьяўляецца адзіным хорам на Украіне, які сьпявае беларускія песьні. Пяюць іх і іншыя хоры. Так, 14 студзеня бягучага году ў Палтаве таксама быў дадзены концэрт беларускіх песень хорам УНО, пад кіраўніцтвам В. М Верхавінца. Пяяліся песьні ў гармонізацыі Гацкага і (большасьць) Тэраўскага. Уступную прамову гаварыў В. О. Шчапоцьцеў. Концэрт меў вялікі посьпех, і некаторыя песьні прыходзілася паўтараць.

Беларуская песьня знаходзіць прызнаньне за межамі Беларусі, бо праўдзівае хараство заўсёды знойдзе прызнаньне...

# СЁНЬНЯ ЛІТАРАТУРНАЙ ФРАНЦЫІ

## П. Леанідовіч

Тут няма на думцы даць вычарпальны і дакладны аналіз сучаснай францускай літаратуры. Чытач наўрад ці будзе задаволен нават кольказьцю чыста даведачных вестак, зьмешчаных ніжэй. Тут толькі спроба азнаёміць чытача з самымі галоўнымі (часамі нават ня ў сэнсе выдатнасьці) плынямі сучаснага літаратурнага жыцьця Францыі і асобнымі прадстаўнікамі гэтага жыцьця, што стаяць на чале гэтых плыняў.

Спроба гэта выклікана ўмовай, якая грае цяпер паважную ролю на нашым кніжным рынку. Справа ў тым, што ўважнаму чытачу кніг мусіць кінуцца ў вочы багацьце перакладных романаў у вітрінах, прычым гэтыя романы выданы з разьлікам на масавы збыт, бо танна каштуюць, выгодны па формату і наогул разьлічаны на лёгкае, нядумнае, хуткае ўспрыйманьне. Цэлы шэраг больш або менш вялікіх выдавецтваў (прыватных), як „Сеятель“, „Унив. Б-ка“, „Пучина“, „Мысль“ і інш., толькі і існуюць на сродкі, што атрымоўваюць ад гэтых сваіх шматтомных сэрый перакладнага матэрыялу. Матэрыял гэты магутнай хваляй затапіў вітрыны кнігарань, знаходзіць аб сабе прэсу часамі на старонках нашых сур'ёзных, вялікіх газэт і наогул неяк атрымаў права грамадзянства. Зразумела, — гэта толькі „пакуль што“, пакуль у СССР яшчэ з цэлым шэрагам краін, а з Францыяй галоўным чынам, няма аформленай літаратурнай конвэнцыі. З складаньнем гэтай конвэнцыі распачнецца больш пільны *адбор* перакладнага матэрыялу. Сьмяцьцё адвеецца ад збожжа, і мы будзем сьведкамі таго радага дня, калі адліў quasi-мастацкасьці і макулятуры ўсё-ткі пакіне на нашым чытацкім беразе некалькі жамчужын і караляў, што зьзяюць сапраўдным зьзяньнем таленту.

„Книгоноша“ — вельмі добры бібліографічны даведчык СССР—ужо цяпер распачынае гэту барацьбу з запанаваньнем макулятурнай перакладнай дрэні, якую практыкуюць Высоцкія, Гілеры і К-°, усё гэта „прыватнікі“ нашага выдавецкага фронту. Удумліва і з разборам выдаюць чужаземных пісьменьнікаў толькі дзяржаўныя выдавецтвы рэспублікі, выдавецтва „Земля и фабрика“ і некаторыя іншыя нашы выдавецтвы.

Па выданьнях францускай літаратуры, якія ўжо ёсьць, а таксама па першакрыніцах, якімі аўтар гэтых радкоў меў магчымасьць карыстацца апошнія тры-чатыры гады, можна падагульніць свае ўражаньні і лёгка ўявіць сабе малюнак сучаснага становішча літаратуры ў Францыі.

Вось гэтыя ўражаньні тут і хочацца расказаць чытачом.

---

Зразумела, „тон“ задае „Акадэмія“. „Несьмяротныя“.

Да ведама тых, хто прывык „шапку гнуць“ перад гэтым імпозантным тытулам, тут можна сказаць, што „Акадэмія“ ў Францыі ня можа параўноўвацца нават з якой хаця нашай выстаўкай павятовага маштабу па гадоўлі жывёлы. Калі на апошніх даюць прэмію, дык усё-ткі за вартасьці, па заслугах. У Парыжы — „зусім наадварот“. Як сьведчыць Іл. Эрэнбург, які пражыў ня мала дзён і начэй у гушчы пісьменьніцкай Францыі:

„Літаратурныя прэміі (што выдаюцца Акадэміяй) мала зьвязаны з літаратурнымі вартасьцямі твору, якому даецца прэмія. Гэта пытаньне высокай політыкі, выдавецкай шчодрасьці і пісьменьніцкай далікатнасьці“.

Шэраг удалых, гіранічных азначэньняў істоты і духу об'ектыўнасьці францускай „Акадэміі несьмяротных“ знаходзім і ў Ан. Франса.

„Я мала цікаўлюся яе (Акадэміі) інтарэсамі,—піша, напр., Франс.—Гэтыя інтарэсы вельмі ўжо далёкія ад інтарэсаў культуры і мастацтва. Інтарэсы Акадэміі—гэта інтарэсы біржы або таго ці іншага ўплывовага політычнага салёну“.

І урэшце, наўрад ці не самую забойную характарыстыку „Акадэміі“ даваў у свой час Гюі-дэ-Мопасан.

У пісьменьніцы Ж. Адам знашлося пісьмо Мопасана ад 1881 г. У тым годзе галоўным сакратаром Акадэміі быў Каміл Дусэ. Мізэрная нядзольнасьць, як парыскі архірэй Дюшэн або мароканскі губарнатар Ліотэ, якія таксама лічацца цяпер „акадэмікамі“ і за ўсё сваё жыцьцё нічога не напісалі, апрача — першы — вітыеватых адозваў да паствы, а другі — пышлівых армейскіх загадаў.

Дусэ, Пуанкарэ, Ліотэ, Дюшэн — хто ведае іх раманы і вершы, драмы і поэмы? Ніхто! Іх затое ведаюць, як кавалераў ордэну „ганаровага легіёну“, як утрымацеляў багатых політычных салёнаў і ўладароў прыгожых замкаў на паўднёвым узьбярэжжы.

Дык вось, яшчэ ў 1881 г. Мопасан пісаў:

„Гэта добрая старая Акадэмія ўсё яшчэ час-ад-часу адчувае патрэбу пагуляць з маладымі людзьмі. Яна ўпрыгожваецца, францiцца і йдзе ўніз, на ўзьбярэжную, на тротуар свайго даўнейшага дому. Яна падпільноўвае, хітрая бабуля. Вочы яе запальваюцца. Яна сёньня нахварбавала і напудрыла свае зморшчаныя шчокі і апранула свае самыя лепшыя пашчэмкі. Чуць убачыўшы маладога юнака гадоў 20-ці, доўгавалосага і з вачыма, узьнятымі на неба, яна шэпча: „Пс, пс, паслухайце, малады чалавек“. Ён абарачваецца, зьдзіўлены павядзеньнем гэтай нахальнай бабулі, потым боязна і саромліва падыходзіць да яе. Ён у непаразуменьні. (Падумайце толькі,—калі старая і вельмі паважная дама раптам пачынае залёты з вамі, можа сапраўды ахапіць непаразуменьне). І яшчэ: маладыя людзі бедныя: у іх няма грошай, ім трэба слава, ім трэба каханьне. Тады што-ж,—бярэш, што знаходзіш. А калі ўдалося ўжо спакусіць некалькіх, яна зьбірае іх і кажа ім: „Мы будзем гуляць у дзяцiныя гульні. Хто выйграе—атрымае вялікі пацалунак, падарунак і пяшчоты. Рэўнівых ня будзе, я роўна падзялю ўсе мае прыгожасьці“.

Далей Мопасан падае месца з прамовы сакратара Акадэміі (Дусэ), які гаворыць аб тым, як тры маладых маёры „ўзялі прыступам“ акадэмічную прэмію. „Яны таксама добра ўладаюць пяром, як шабляй“. По-

тым ідзе старшыня суда, што атрымаў прэмію за пераклад вершаў Містраля, якія ён, аднак, спрабуе выдаць за свой орыгінальны твор і піша:

„Старая дама раздае нагароды Пачынаецца даўгое дэфіле фаворытаў. Яны комэнтавалі ўвесь сьвет, грэкаў, латынян, ангельцаў, індусаў, пісьменьнікаў Камбоджы і Кохінхіны, усіх малых вялікіх людзей і ўсіх вялікіх людзей як вядомых, так і невядомых. Яны адкапалі незаўважаныя таленты, невядомыя заслугі, яны вынашлі дыплёматаў, якія зьмерлі бяз славы, і вайсковых, якія зьмерлі без вялікіх учынкаў. Мабыць, сапраўды Акадэмія любіць вялікіх людзей, калі яна дае такую нагароду... іх комэнтавальнікам. Адным толькі комэнтавальнікам“.

Звычаі „Акадэміі“ — „добра захаваліся“. Акадэмія і цяпер нічым не адрозьніваецца ад часоў Мопасана.

Паспрабуем давесьці гэта на прыкладах.

Пытаньне, якое хвалюе цяпер увесь літаратурны сьвет Францыі, наступнае:

„Каму ўрэшце дадуць прэмію ў гэтым годзе“?

Зразумела, марыць аб прэміі можа толькі — далікатная беспасрэднасьць, спрактыкаваны лізун, ціхагалосы красамоўца мяшчанскага дабрабыту.

Кожнаму сьвежаму, беспасрэднаму, што хвалюе сваёй вострасьцю таленту, будзе зроблен адвод.

І вось малады і не пазбыты талентнасьці романісты Кэссэль на вышуканьні прэміі праваліўся.

Пан Пуанкарэ (з якога часу ён зрабіўся крытыкам?) угледзеў у вадным з романаў Кэссэля:

„зьневажэньне памяці Мікалая другога“.

Так адмаўленьне ў прэміі і мотывавана. Пакуль што другіх кандыдатаў ня відаць.

Апрача Акадэміі, у Францыі прэміі даюць яшчэ цэлы шэраг культурных таварыстваў і організацыі па мастацтвазнаўству. Самыя вялікія ад іх, гэта: „гонкураўцы“ (прэмія памяці бр. Гонкур) „Femina“ (асоцыяцыя дам-патронэс з вышэйшага грамадзтва, што пястуюцца чытаньнем „цікавых і маладых“ бэлетрыстых) і інш.

Выдавецтва Рыдэра дало „гонкураўцам“ свой портфэль, у надзеі вырваць з гэтага менш „вымагальнага апарату“, чым Акадэмія, прэмію сваёй продукцыі.

*Усім без выключэньня романам выдавецтва Рыдэра „гонкураўцамі“ было адмоўлена*. Прычына: у іх, гэтых, романах „выразна сочыцца захапленьне ідэямі эўропэізму“(?!) Sic!

Але—„ёсьць яшчэ судзьдзі“... Т-ва „Femina“ дало прэмію ў гэтым годзе Жозэфу Дэльтэйлю.

5 год таму назад ён выдаў „Халеру“, тады будучы стралком сэнэгальскага батальёну. Гэты твор у моцных і вострых вобразах тлумачыць вядомую тэму Жыцьця і Сьмерці, твор, напісаны з заядласьцю незакелзанага, маладога, мастацкага тэмпэраманту, яшчэ не атручанага „фор-

мальнымі“ канонамі „пэўнай школы“—зьвярнуў на сябе ўвагу. Кніга разышлася ў 50.000 экз. Усё гаварыла за тое, што „дамскае грамадзтва“, праглае на маладую сунічку і якое ахоўвае цэлібат шыльды на фронтоне,—дасьць прэмію „Халеры“; усё гаварыла за тое, што „Халера“ атрымае прэмію „Femina“. Чуць закранутыя суфражызмам, дзеля эксцэнтрычнасьці—чл. чл. „Femina“ павінны былі даць прэмію Дэльтэйлю. Але... ён усё-ткі толькі радавы стралок. І ад яго напэўна пахне сэнэгальскай цыбуляй?! Да таго-ж яго ніхто ня бачыў у вочы. Ці ўмее ён абыходзіцца ў грамадзе? А „Femina“ вымагае кожны год новага Бокачыо для дэкамэрона сваіх галянтных, чуць папсутых цынізмам, сходаў...

Дэльтэйль і яго „Халера“ (да рэчы: фу, якая грубая назва!) прэміі не атрымалі.

Дэльтэйль выдае цераз 5 год (1925 г.) роман-аповесьць: „Жанна Д'Арк“. О, гэта ўжо назва зусім падыходзіць для таго, каб красавацца на начным століку вяльможнай буржуазкі з „Femina“. „Жанна Д'Арк“—уступка Дэльтэйля грамадзкай думцы. Талент, што абяцаў быць цікавым, пашоў на ніз. „Трэба ўмець жыць!“ гаворыць адзін з герояў Дэльтэйля. Дэльтэйль узяў гэты выраз эпіграфам для свайго жыцьця. „Трэба ўмець жыць“. Гэта значыць спакарыць жыцьцё без барацьбы. І вось 5 год упартага самазакілзаньня, пільнага вытручваньня з сваёй пісьменьніцкай істоты гэткай размашыстай нястрыманасьці і беспасрэднасьці! Падмена творчага жару сухім разьлікам і кірункам на агульны густ. Дэльтэйль у годы, папярэднія выпуску „Жанны Д'Арк“, дашоў у рахубнай пагоні за сіняй птушкай з „Femina“ да таго, што на аднэй з сваіх кніг напісаў эпіграфам: „Я пішу, каб падабацца жанчынам“!..

Праўда, гэта праца над сабою не дала Дэльтэйлю абсолютных рэзультатаў. Ён усё яшчэ, нават у „Ж. Д'Арк“, прыводзіць у замяшаньне добрых каталічак „плоцьнасьцю“, грубым целесным падыходам да вельмі „высокіх і чыстых“ матэрый. Яму цяжка апісаць спаньнё маладой дзяўчыны інакш, як:

„Тсс. Жанна сьпіць. Яна ў труізьме і ў хаосе. О, салодкая сумесь сьвежага цела, мачы і малака, паветра поўнае руж і гарачыні, тлустая прыгожасьць“.

І вось на гэту акалічнасьць таксама зьвернута ўвага лаўрэату „Femina“. „Трэба ўмець жыць“. Жозэф Дэльтэйль, які ўжо нааскоміў зубы чытачоў усяго моднага, перавыдае свой раньні твор „На рэчцы Амуры“. Гэта не фігуральны выраз. Рэчка Амур—сапраўдны фон, на якім разьвінаюцца сцэны... з нашай рэволюцыі ў Сібіры. Тут дзейнічаюць і Сямёнаў і Чырвоная армія і рэўкомы. Пачытаць пра бальшавікоў у Францыі любяць. Асабліва, калі гэтыя апісаньні падобных да зьвяроў істот вышлі з-пад пяра „самога“ Дэльтэйля. Пачытаць аб сабе і мы любім. Праўда „На рэчцы Амуры“ не зьневажае нас. Тут няма брахняпіснага паху. Дзейнічаюць анархічнага кірунку хлапцы—і толькі. Але—з бытавога боку, з пункту погляду рэальнай праўды, веды Саюзу, яго быту, укладу і інш.,

чаго толькі не набрахана. Даволі паказаць, што катоў, па Дэльтэйлю, у нас, у Саюзе, называюць ня йнакш, як... па імені і па бацьку. Мы не сумняваемся, што аўтар абмануты якім-небудзь з нашых зьбеглых аднапляменьнікаў ў помсту за тое, што ў романе няма ніводнага малюнку, дзе-б чэкістыя грызьлі зубамі дзіцячыя галовы і камісары паштова-тэлеграфных кантор не вырывалі-б завушніцы ў вялікіх князінь разам з вушамі...

Чыталі мы і такія романы. Здаецца, ў пана Бэро. (Аднак, аб ім асобна).

Мы знарок аддалі так шмат увагі і месца Дэльтэйлю. Праўдзівасьць вымагае адзначыць, што ў ліку прызнаных Францыяй пісьменьнікаў, Жозэф Дэльтэйль вылучаецца сваім талентам. Стыль Дэльтэйля—ня ўтончанае штукарства Франса, якое палоніць сваёй апрацоўкай слова. Творчасьць Дэльтэйля—ня прылізаная бязумоўна супакойная пісьменнасьць Поля Марана. Дэльтэйль—чалавек на грузавіку. Яго трасе жыцьцё. І ён крычыць, як зьвер, заядла, ня ўдумоўваючыся ў тональнасьць крыку. Ён—увесь з мяса, з скуры. Не падолны ні на воднага з сваіх папярэднікаў. У яго няма хрышчонага бацькі ў францускай літаратуры. Уся гэта таленавітасьць Дэльтэйля ідзе, на жаль, „на спажыўца",—бо такі Дэльтэйль—чалавек, з дэвізам „трэба ўмець жыць". О, калі-б гэты пісьменьнік пастараўся паглыбіць свае тэмы і пашоў-бы шукаць чытача ў гушчу рабочых Парыжу і Ліону, дык ён напэўна ня быў-бы лаўрэатам „Femina" і напэўна вырас-бы з цікавага і толькі абяцаючага, павярхоўнага эстэтыпісьменьніка—у вялікую адказную велічыню.

Дэльтэйль—кумір літаратурных гурткоў моладзі, якая эстэтуе гульлівых гурманоў „прыгожага". Яго мала проклямуюць палітыкі і зусім ня чытаюць „нізы". Зусім іншае адбываецца цяпер з панам Бэро.

Ён трапіў у пісьменьнікі, гэты вольны на язык, не пазбыты вострасьці фэльетоністы ўрадавых і бульварных газэт. Яго імя цяпер на губах дэпутатаў парляманту, дробных ранцье і чыноўнікаў. Яго нават ведаюць у рабочых кварталах. І ўсю гэтую славу яму дала кніга аб Расіі.

А. Луначарскі так характарызуе Бэро:

„Ня ведаю, з чыёй прычыны ў Расію быў пушчаны добра вядомы ультра-буржуазны фэльетоністы—Бэро. У Расіі ён, як відаць, быў карыстаўся воляй і тым лягчэй адшукваў толькі такія факты, якія малявалі нашую сапраўднасьць у самым цёмным асьвятленьні. Да гэтага ён дадаў некалькі няправільных абагуленьняў і выдумак".

Кніга Бэро хутка пашла ў ход. Яе, перш-на-перш, скарысталі „спэцы з расійскай пасі" (эміграцкія верхаводы). Зьм. Меражкоўскі і Ів. Бунін, м. Кускова і А. Л. Купрын, усе гэтыя „быўшыя", уся гэта чэлядзь міністэрскіх пярэдніх Эўропы апублікавала гарачае прывітаньне пану Бэро. Ён іх зразумеў. Яны зразумелі яго. Мілюкоў, захлёбваючыся і душачыся языком, навязваў кнігу ўсім знаёмым дзеячом унутранай і замежнай палітыкі з нашых ворагаў. У выніку — Бэро чытаюць. І ў нас, напр., існуе

нават пераконанасьць, што гэты кандыдацкі крызіс у „несьмяротныя“ разьвяжацца выбраньнем пана Бэро.

Нядаўна ў газэце „Orust idien“ выдатны буржуазны гісторык Оляр выступіў супроць Бэро. Ён пісаў, „што кніжка яго сур‘ёзнага давер‘я не заслугоўвае“ і „дакумантацыя гэтага журналісты недахватная“. Оляр цяпер перашоўшы за 75-гадовы ўзрост, кідаецца ў залёты з „об‘ектыўнасьцю“. Ён, як кажа Луначарскі, „да гэтых часоў стараецца быць Дон-Кіхотам справядлівасьці“. Але хто прыслухоўваецца ў Францыі да Оляра?

Пан Бэро сваёй бранёй адыграў на руку дэ-Монзі і Брыяну, а гэтага даволі для таго, каб ціха спачываць на ляўрах і быць прызнаным. Зразумела, рабочыя Францыі, азнаёміўшыся з творамі Бэро, ацанілі яго згодна заслуг. Аб гэтым сьведчаць адозвы левых газэт.

Такім парадкам, Дэльтэйль і Бэро—два ўладары думак верхавін чытаючай Францыі.

Аб іншых у наступны раз.

(*Працяг будзе*).

# КНІГАПІС

**М. Зарэцкі. Пад сонцам.** *Дзярж. Выд. Бел. Менск—1925 г. Ст. 100. Цана 50 к.*

М. Зарэцкага публіка любіць чытаць. Міма яго ня пройдзеш. Возьмешся за кніжку, прачытаеш да канца ды яшчэ раз перачытаеш. Вабіць ён да сябе гартам сказаў: усе яны, бы ён сам, прымаюць штык на руку. „Калі“—і яны колюць. І сіла сказаў вялікая, на кожным сказе адцятая. Так:

„Замятушыўся народ, засноўдаўся гурмай пасьпешнай. Потым усе ў адзін бок падаліся. У сонцы яркай крывёю зардзелі чырвоныя сьцягі. Многа сьцягаў—цэлае мора“.

Так людзі, так і ўсё!

„Стромкі, сухі бор. Блішчыць сьвежай жоўцю ствалоў, песьціць погляд сваёй цёмнай зелянінай—прытульнай, і зьвініць звонам напружана ціхім, празрыстым“.

Сказы рытмічныя. У гэтым іх сіла. Гэта рытм новага жыцьця, і набыў яго Зарэцкі ў барацьбе на чырвоным фронце. Гэтай сілай ён вылучаецца з усіх „маладнякоўцаў“.

Новы рытм вымагае і новага зьместу: стары зьмест пад ім зломіцца, будзе выглядаць, бы ногі з-пад кароткае коўдры, трэсьціся, бы млын стары ў веснавую паводку, пад хвалямі жыцьцёвымі. А зьмест новы падае сілу і рытму; яны зьліваюцца і віхурнай мяцеліцай кружаць у новае невядомае жыцьцё, суладзьдзе зьместу і рытму ў Зарэцкага ёсьць. Вабіць ён чытача і гэтым бокам сваіх апавяданьняў.

У першых двох апавяданьнях зборніку Зарэцкі даў нам тып двох кабет: „Кветку пажоўклую“ і „Дзіўную“. Так і апавяданьні называюцца. „Кветка пажоўклая“—Гарнова, порсткая, як сказы Зарэцкага,—кветка Кастрычніка, бо яна закрасавала пасьля Кастрычніка, у самы завірушны момант барацьбы. „Слабая істота“ набіраецца надзвычайнай моцы толькі ў гэты момант і... падпісвае сьмяротны прыгавор брату-шпіёну. Парваны ўмоўнасьці! Парван ціск старой культуры сям'і. Але вышла яна з паноў, з другое клясы. таму ў час мірнага будаўніцтва, калі пачынаецца для такіх людзей усьведамленьне „я“, яна „згубіла сваё месца ў жыцьці“, ня вытрымала „палкага сонца“. Таму яна й пажоўклая. І пісьменьнік ставіць кропку над „і“:

„І нямала было такіх кветак, што прыцягнуліся к сонцу кастрычніка, што закрасавалі ў ім цьветам жывым, пышна-дзейным.

Але глыбока ўрасьлі карані ў атрутна-гнілую глебу, набраклую лёкам сьмяротэльным.

І ня вытрымалі палкага сонца.

Пажоўклі“.

Гэта зьмест учарашні, сёнешні і мабыць яшчэ заўтрашні. Для вырашэньня проблемы чалавек мінулай культуры, чалавек варожай пролетарыяту клясы ў завіруху і ў мірным будаўніцтве поплеч з пролетарыятам. Пісьменьнік узяў кабету—„слабую істоту“. Але ці мала было такіх мужчын, што „ня вытрымалі палкага сонца. Пажоўклі“. Тэма цікавая, жыцьцёва разьвязана і новая ў беларускай літаратуры.

„Дзіўная“—другая кабета—Шумава, што „Губкомам командырвана на працу сярод жанчын“, таксама

кветка кастрычніка, але гэта не Гарнова „пажоўклая“, а кветка, што „закрасавала цьветам жывым, пышнадзейным“, красуе ім на IX кастрычніку і будзе красаваць ім у чырвонай далі вякоў. Гэта так, бо яна ўсёй сваёй істотай рвецца, прагла рвецца да новага, лепшага, у вагульна-людзкую сям‘ю. Не. Яна ня толькі рвецца: яна ўся ў новым, пашырае гэтае новае, асьцерагаецца, каб не асіліла слабае месца“—адданасьць свайму дзіцяці,— і аднача сна набіраецца ад барацьбы гарту і сілы. Сіла яе ў тым, што яна ведае канечную мэту барацьбы: дзіця павінна „вырасьці чалавекам вольным“.

У гэтым апавяданьні пісьменьнік закрануў самую асноўную проблему выхаваньня. Ён адшуквае „адзіны правільны шлях“, які павінен выгадаваць чалавека *вольнага*, ня зьвязанага *лішнімі прывязанасьцямі*, і паказвае, як гэта цяжка даецца „*дзіўным*“.

У вабодвух гэтых апавяданьнях жоўкне і гніе старое і *жоўкне пад палкім сонцам кастрычніка*, а на ім, гэтым гнаі, скрозь яго прабіваюцца і шумуюць парасткі руні новай, перад якой у вапавяданьні „сьмерць“ нікне сама сьмерць, гэтае пудала нездаровага чалавецтва. У зборніку хоць і жоўкне старое, бы той быльнёг, але сьмерці няма. Гэта толькі ўмоўная назва, бо „сьмерць—гэта-ж слабая, бясьсільная цацка“. Гіне сьмерць перад новымі парасткамі, гіне яна ад сьвядомасьці чалавека, што дзеткі прыстроены, што „праца не прапала“ марна. І раз гэта ўсьвядоміў стары рэволюцыянэр—барацьбіт адзінотны „дзядзька Раговіч“, дык панятна, чаму гэта ён „пакавыляў па вуліцы“, ледзь пераступаючы нагамі слабымі“. „Старому захацелася дзетак убачыць. Ён „знашоў тое, перад чым сьмерць—слабая бясьсільная цацка... знашоў сілу жыцьця і...

„Заходзіла сонца з густа аблітага чырваньню неба, спаўзала, хавалася за кругавідам.

— Мо‘ памірала?

— Ды не. Дзе-ж памірала, калі аставалася тут, на зямлі, сваёй цеплю жывой, сваім духам, што сілу жыцьцёвую творыць, што творыць жыцьцё. Дзе-ж яно памірала?..

—Вось так і чалавек.

Гэта мотыў новы і для беларускай літаратуры і для больш дужай расійскай і разьвязваньне яго *зусім новае*.

Так разьвязаць проблему „Чалавек і сьмерць“ можа толькі загартаваны барацьбіт, што цалком набрак творчай сілы Кастрычніка.

Апавяданьнем „Радасьць“ пісьменьнік закончыў свой збор апавяданьняў. У гэтым апавяданьні ён крануў „глыбокі і цёмны, дня якога ня ўбачыць“ вір чалавека. Закінуў туды сетку і выцягнуў... Радасьць.

— Рознае сонца бывае.

— І радасьць бывае розная... Вось чалавек загубіў жыцьцё другога чалавека. „Здаецца, само паветра... жалкавала аб бязьвінна загубленым жыцьці маладым“. А забойца „ня чуў гэтага“. Яму гукі оркестры... пераліваліся ў гульліва-пабедную музыку“. Яму „хацелася голас падаць. Не закрычаць, а пісьнуць хацелася—тонка-тонка і дзіка... А потым кульнуцца катком, пакаціцца па мокрым бруку“.

Гэта радасьць, дзікая радасьць, от як тое сонца, што часамі „неяк дзіка, не да рэчы выгляне з боку з-за хмар—касавокае—і падражніць, пакпіць над дурным чалавекам“.

Другая радасьць—у сям‘і рабочага, якую ціснуў пусты куток. „Бывае так: зьбярэцца сям‘я ўся, адпачывае. Ціха мірная згода гатова ахутаць усіх сваім лёгкім крылом. Во-во ўжо здаецца прыдзе і цёпла заіскрыцца ў пакоі радасьць. Але зірне каторы ў пусты халодны куток і ўспомніць. І пяройдзе да ўсіх, і пратне ўсіх жорсткім павевам скразьнік няпрытульнасьці, злосна выштурхне радасьць з пакою“. Зьявіўся стол. „Сядзелі ўсе, гаманілі, сьмяяліся. Была

радасьць, была прытульнасьць і ціхае шчасьце“. Засьпявалі!

І трэцяя радасьць. „Гарачая чырвань. Пабедная музыка. Звонкія песьні. Гоман народу—бурлівы, густы“.—*Дэмонстрацыя!*

„І над усімі—агнёвае сонца“

„І над усімі—агнёвая радасьць“.

Агнёвая радасьць і ў зборніку.

Манера ставіць азначэньні, прыслоўкі ў канцы кароткіх адшліфаваных сказаў, надае сілы сказам і апавяданьням. Так расстаўлены ў зборніку і апавяданьні: наступнае—актава папярэдняга, гучыць галасьней. Абрываецца акордам, за якім мусіць быць новы, яшчэ больш магутны акорд. Так абарваўся і зборнік. Абарваўся суладзьдзем. Прачытаеш яго, паслухаеш гэтых пераліваў, яшчэ раз перачытаеш і слухаў-бы без канца.

Жонка рабочага пасьля радасьці за сталом „не ўцярпела: замылілася соладка і падвяла“, гаспадару і дзецям, „тоненькім-тоненькім галасочкам“:

...У бары зязюля
кукуе,
Ніхто зязюлі
ня чуе...

Зарэцкі пачуў гэтую *зязюлю* і вывадзіць яе з цёмнага бору пад „палкае сонца“—і гэтым ён дужы!

Беларуская літаратура ўзбагацілася вельмі каштоўнымі апавяданьнямі.

**К. Гарабурда.**

**З. Бядуля. Апавяданьні.** *Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск. 1926. Стр. 95. Цана 50 к.*

Большасьць зьмешчаных у даным зборніку апавяданьняў З. Бядулі ўжо знаёма шырокаму колу чытачоў, бо яны друкаваліся на старонках газэты „Савецкая Беларусь“ і толькі цяпер сабраны аўтарам у гэты зборнік. Тут зьмешчаны апавяданьні: „Дэлегатка“, „У глушы“, „Галіфэ“. „Тры крыжыкі“, „На варце“, „Летапісец“, „Пуд жыта“ і „Як я зрабіўся контрабандыстым“.

З. Бядуля, як прозаік, выступіў у беларускай літаратуры даўно. Апавяданьні яго друкаваліся ў розных беларускіх часопісях і газэтах. Творчасьць яго вельмі match рознастайная, што кожны заўважыць, калі захоча пазнаёміцца з яго папярэднімі творамі. У папярэдняй творчасьці ўвагу поэтымастака спынялі на сабе розныя праявы чалавечага жыцьця. Ён даваў ня толькі лірыку асабовых перажываньняў, але і глыбокі аналіз чалавечай псыхікі наогул. Портрэты сялянбеларусаў у творчасьці З. Бядулі вельмі выразныя і жыцьцёвыя. Проблемы грамадзкага жыцьця таксама закраналіся ў творах З. Бядулі. Кастрычнікавая рэволюцыя абудзіла ў поэце-мастаку поэту-грамадзяніна новага ладу. Поэта вельмі ненавідзіць стары спарахнелы лад. З-пад яго пяра паяўляюцца рэволюцыйныя сатыры, у якіх ён бічуе стары аджыўшы буржуазна-памешчыцкі рэжым. У сваіх творах ён разаблачае сапраўдную істоту папоў і іншых дармаедаў, якія сядзелі на карку селяніна і рабочага да Кастрычнікавай рэволюцыі і ад якіх яшчэ й дагэтуль ня вызвалілася канчаткова цёмнае сялянства. У вапавяданьні „Пуд жыта“ якраз вельмі выразна паказана сапраўдная натура „сьвятых“ айцоў царквы,—пад „сьвятою“ скарлупою якіх месьціцца пражорлівая, хцівая душа. Падобная тэма распрацавана З. Бядуляй і ў другім апавяданьні „Летапісец“. Гэтыя апавяданьні хоць і меншую літаратурную вартасьць маюць, але і тут адчуваецца ўласьцівая Бядулі самабытнасьць і орыгінальнасьць.

У вапавяданьні „Галіфэ“ З. Бядуля дае портрэт старога залатапагоньніка, які прымазаўся да ўлады, але, выконваючы абавязкі сакратара сельсавету, ён ня толькі не зьяўляецца савецкім будаўніком, а, наадворот, у ім сядзіць стары царскі афіцэр, які прызвычаіўся да зьдзекаў над народам, і ўся яго дзейнасьць зьяўляецца

шкоднай для савецкага будаўніцтва. Портрэт вельмі рэальны і жыцьцёвы ў першыя гады рэволюцыі. Таксама вельмі выразна З. Бядуля малюе і другое зло нашай сучаснасьці—контрабанду („Як я зрабіўся контрабандыстым“). Гэты маленькі роман бадай адзін з лепшых твораў, якія зьмешчаны ў зборніку, досыць арыгінальны па форме. Хітрасьць контрабандыстых паказана ў апавяданьні „На варце“. На гэтым фоне даецца сьветлы вобраз змагара з контрабандай, чырвонаармейца, які шчыра абараняе інтарэсы савецкай дзяржавы. Тэма ў беларускай літаратуры новая, распрацована добра, памастацку.

Беларуская вёска, быт сялян, цемра і забабоннасьць гэтых сялян паказаны ў апавяданьнях „Дэлегатка“, „У глушы“. У вапавяданьні „Дэлегатка“, напісаным прыгожа, даецца вобраз вясковай кабеты, якая з цёмнай, несьвядомай зрабілася перадавою, сьвядомаю кабетаю ў вёсцы. Тут паказана эволюцыя разьвіцьця гэтай кабеты досыць яскрава і маляўніча.

Наогул увесь гэты зборнік З. Бядулі ёсьць водгук на сучаснасьць. Тут З. Бядуля з дозай гумару дае нам шэраг абразоў з жыцьця духавенства, контрабанды, паказвае беларускую вёску, у якой яшчэ глыбока пануе цемра і забабоннасьць, але якая ўжо пачынае выходзіць на сьветлы шлях. Напісаны гэтыя апавяданьні мастацкай прозай, што таксама зьяўляецца плюсам для нашай беднай прозаічнай творчасьці, бо цяпер наогул ёсьць тэндэнцыя ва ўсіх пісьменьнікаў пісаць вершам, ня глядзячы на тое, што вершы менш чытаюцца, чым проза. Як прозаік, З. Бядуля займае адно з першых месцаў у беларускім пісьменстве. Стылістычным сродкам яго зьяўляецца згушчэньне хварбаў. Проза яго багата прыгожымі вобразамі, але вобразамі вельмі зразумелымі. Наогул трэба толькі пажадаць, каб З. Бядуля ня спыняўся пісаць прозай, бо беларуская скарбніца мастацкай прозы вельмі яшчэ бедная, а попыт на прозу вялікі з боку чытачоў.

Тэхнічна зборнік выданы ня кепска, толькі вокладка нічога ня варта.

**П. Ж.**

**Язэп Лёсік. Граматыка беларускае мовы. Фонэтыка.** *Выдана коштам аўтара. Менск. 1926, ст. 131.*

У прадмове да сваёй кніжкі аўтар кажа, што ў аснову ўсіх трох часьцін яго „граматыкі беларускае мовы“ паложаны ўсім вядомыя працы акад. Е. Карскага. „Новага ці свайго ўласнага нічога ня ўводжу“. Перад намі 1-я часьць „Граматыкі беларускае мовы“ т. Я. Лёсіка: „Фонэтыка“. І для яе выходным пунктам зьяўляецца „Беларусы“ акад. Карскага. Але т. Лёсік дарма так „скромнічае“. У сваёй фонэтыцы ён падаў шмат „новага“ і „ўласнага“. Вось на аналізе гэтага „новага“ я, галоўным чынам, і хачу спыніцца ў сваёй кароткай рацэнзіі.

У кніжцы знаходзім „Уводзіны“ і 6 аддзелаў: І. Граматыка II. Гукі і іх падзел. III. Склад і націск. IV. Азбука і пісьмо. V. Зьмена галосных і VI. Зьмена зычных. Пры адсутнасьці популярных кніг па мовазнаўству на беларускай мове, нейкія месцы „Фонэтыкі“ т. Лёсіка, бязумоўна, прынясуць карысьць настаўніку мовы, асабліва на вёсцы. Цікава яму будзе прачытаць аб тым, што такое мова, якія нашы моўныя органы, аб славянскіх мовах (гл. „Уводзіны“, але ў той самы час, побач з правільнымі, ён атрымае з кніжкі і шмат памылковых вед. Некаторыя з гэтых памылак вельмі грубыя.

Да ўводзін магу дадаць толькі вось што. Насавыя галосныя знаходзім ня толькі ў польскай мове (гл. ст. 14) яны захаваліся яшчэ і ў гутарках баўгарскае мовы. Ня зусім правільны словы аўтара (на 16 ст.), што „моваю пісьменства даўней на

Беларусі была мова ц.-славянская (старабаўгарская), а не беларуская".

З аддзелу граматыкі ня зусім удалым лічу азначэньне гэтае часьці лінгвістыкі (гл. ст. 19). Іншыя дзьве часткі мовазнаўства, сэмасыолёгія і лексынолёгія таксама займаюцца пытаньнем аб слове. Крыху пастарэлы погляд аўтара на прычыны фонэтычных зьмен. Гукавыя зьмены не заўсёды імкнуцца аблягчыць вымаўленьне, як яму здаецца (гл. ст. 21-22); у васнове іх ляжаць тыя самыя псыхолёгічныя законы асоцыяцыі ці інш. Прыпадабненьне звонкага з глухім (*гладкі—глаткі*) ці, наадварот, глухога з звонкім разьвіваецца таму, што пры вымове першага з двох гукаў (д) у сфэры бесьсьвядомага зьяўляецца прадстаўленьне наступнага зычнага, якое і ўплывае на вымову папярэдняга зычнага. У тым самым § (116) знаходзім яшчэ і другую памылку. Аўтар зусім не бярэ пад увагу хронолёгіі беларуск. мовы, калі ён гаворыць, што некалі было *селы*, а потым стала *сёлы*. Пераход *е* ў *о* (*ё*) адбыўся раней ад зьяўленьня *ы* ў множн. л. ніяк. р. Не магу пагадзіцца з тым, што т. Лёсік піша аб выключэньнях з моўных законаў. „Моўныя факты, супярэчныя знойдзеным законам, пакуль што *называюцца* (курсіў мой. П. Б.) фактамі, што вытварыліся па аналёгіі з іншымі словамі". Як ведама, ня ўсе выключэньні з моўных законаў можна тлумачыць аналёгіяй, і таму формулёўку т. Лёсіка трэба прызнаць няўдалай. Шмат памылак у ваддзеле „гукі" і іх „падзел". Нельга казаць, што пры вымаўленьні *д*, *т*, *з*, *с* перашкоду для паветра становяць зубы (ст. 25). Ляпей было-б так: перашкоду ўтварае язык разам з зубамі. Вельмі пажадана было-б знайсьці ў кніжцы, апрача азначэньня анатомофізыолёгічн. розьніцы паміж галоснымі і зычнымі, яшчэ і азначэньне акустычнае розьніцы.

Зусім бязгрунтоўнай трэба прызнаць думку т. Лёсіка аб блізкасьці *о* да *у*. Гэтыя гукі ня бліжэй адзін да другога, як, напр., *о* да *а*. Жадаючы быць у гэтым месцы орыгінальным, т. Лёсік зрабіў вялікую памылку *у* ў прыстаўцы *су*—: *сумежны* (гл. ст. 26 і 62) зьявілася не з *о*, а з юса вялікага. Аб гэтым ён мог-бы прачытаць хоць-бы ў акад. Карскага (Белоруссы, т. II, 1, ст. 119).

Не разумею, як аўтар на 27 ст. мог напісаць, што малы юс вымаўляўся, як *ен—ем*, а вялікі юс, як *он—ом*. Славянскія насавыя галосныя якраз і адрозьніваюцца ад злучэньняў *ен—ем—он—ом*, з якіх яны і зьявіліся ў выніку імкненьня праславянскае мовы да ўтварэньня адкрытых складоў: *мен/со* перашло ў *мęсо*.

Калі-б аўтар быў знаёмы з „Общим языковедением" Томсона або з „Очерком физиологии славянской речи" Ол. Брока, ён тады ня даў-бы таго падзелу зычных гукаў, які знаходзім у яго на 28 стар. Нельга да пярэднязычных адносіць *д*, *т*, *з*, *с*, *ц*, *л*, *н*; яны будуць зубнымі; да сярэднязычных належаць і *г*, *Г*, *к*, *х*, калі[1]) яны стаяць перад мяккімі галоснымі (*зінуць*). Няўдала аўтар формуляваў (на ст. 31) розьніцу паміж выбуховымі і трывалымі зычнымі. Гэта розьніца залежыць не „ад укладкі органаў мовы і ад способу гучэньня паветра", а ад характару перашкоды. У гэтым § трэба было-б разглядзець і зычныя зьлітыя, аб якіх чамусь аўтар сказаў зусім у другім месцы (у § 25).

Як і іншыя мовазнаўцы, так і т. Лёсік не адрозьнівае зычных j і w ад галосных *і*, *у* нескладовых, якія ня зусім правільна вызначаюцца літарамі *й*, *ў*.

---

[1]) Карыстаюся выпадкам, каб падзяліцца сваімі спасьцярогамі адносна беларускага *х*: перад *а* яно ў вымове большасьці студэнтаў і студэнтак не заднянёбнае, а чыстае гартаннае: *хадзіць*, *хачу*. Гэтага, здаецца, яшчэ ніхто не адзначыў.

У III аддзеле (Склад і націск) дзівіць нас азначэньне сутнасьці складу, як часьці слова, што вымаўляецца асобным напорам паветра (ст. 32). Ня спыняючыся тут на пытаньні аб тым, што такое склад, скажу толькі, што адным напорам паветра, які ідзе з лёгкіх, можна вымавіць ня толькі 1-ы склад слова *ха-та*, а нават цэлы сказ: *хата майго суседа ўчора амаль не згарэла*. Нельга таксама гаварыць, што ў слове стольскі складоў, колькі ў ім галосных гукаў: ёсьць, з аднаго боку, нескладовыя галосныя (*дай*, *ай*), з другога боку, санорныя *л*, *р* і інш. ў некаторых мовах могуць быць складатворчымі (напр., у сэрб. *трі*, у чэск. vlk).

Аўтар не адрозьнівае націску слова ад націску сказу, ці гэт. зв. псыхолёгічн. націску. Сказаўшы аб націску слова, ён яго значэньне тлумачыць на прыкладах псыхолёгічнага націску: *вы* лавілі рыбу?—вы *лавілі* рыбу?—вы лавілі *рыбу*? (стар. 35). Пераблытаў ён і пытаньне аб пераносе націску (багатыр—*багатыра*, гл. ст. 35) з пытаньнем аб рухомасьці націску (гл. прыклады далей). Няведама, чаму т. Лёсік да складаных слоў аднёс прозьвішча *Багдановіч*, дадаўшы яшчэ пры гэтым, што пахаджэньне гэтага слова забылася (ст. 37).

Шмат памылковых меркаваньняў зьмяшчае маленькі 35 § „Націск у чужаземных словах“. Як відаць, аўтар ня ведае грэцкае мовы, калі ён піша, што ў гэтай мове націск звычайна стаіць на трэцім ад канца складзе; нельга пагадзіцца з правілам адносна націску слоў, запазычаных з лацінскае мовы і вельмі наіўная думка аўтара, што ў *рэч паспалітая* націск на трэцім складзе ад канца па аналёгіі з словам *рэспубліка*. Між інш., слова *музыка* ў укр. мове і раней у рас. мела націск на перадапошнім складзе (гл. артыкул Огіенка, Русск. Фил. Вестн. за 1917 г.).

Болей удаўся т. Лёсіку IV аддзел „Азбука і пісьмо“. З цікавасьцю чытач прачытае §§ аб пахаджэньні азбукі і, наогул, пісьма, аб правапісе. Дарма толькі аўтар так рашуча прымае погляд аб тым, што кірыліцу злажыў Кірыла. Хоць яго і ў апошні час прытрымліваюцца акад. Карскі і Сабалеўскі, але ў славістыцы пануе зданьне, што Кірыла прыдумаў глаголіцу (аб гэтым, праўда, аўтар успамінае, гл. ст. 42).

У аддзеле V-м (Зьмена галосных) т. Лёсік удала заўважае, што аканьне зьявілася прычынаю некаторых морфолёгічных зьмен (паступовага зьніканьня ніяк. р. і ф. клічн. скл. для ім. назоўн. жан. р., гл. ст. 54).

Кажучы аб лёсе глухіх, аўтар не адрозьнівае гэт. зв. моцнага і слабога становішча і ў сувязі з гэтым дае такую памылковую формулу: „калі глухія ъ і ь стаялі ў націскным складзе, а за імі йшоў... яшчэ глухі ъ або ь, то ў такім выпадку глухі праясьняўся“ (ст. 57). Гэта ня зусім дакладна. Чаму ў такім выпадку ў слове *дьнсь* абодва першыя ь не праясьняюцца? Да формулы т. Лёсіка трэба дадаць: „ішоў... яшчэ глухі ъ або ь *слабы, які мусіў зьнікнуць*“. Даданыя словы падкрэсьліў.

На тэй самай 57 старонцы мы чытаем: „Пры плаўных *р* і *л* ніколі ня было чыстых *о*, *е*, а заўсёды сталі даўней глухія ъ або ь“. Як відаць, паважаны колега забыў аб такіх словах, як *вол*, *стол*, *гроза*, *лебедзь*, у якіх *о*, *е* не з ъ, ь, а са старых *о*, *е*.

На ст. 58-59 аўтар кажа, што ў выніку зьнікненьня ъ, ь немілагучны зьбег зычных разьбіваўся ўстаўкаю галосных *о*, *е*, *э*, але амаль у палове яго прыкладаў (*ветр*, *огнь*, *земль*, *сёстр*) адсутнасьць глухіх спрадвечная, дагістарычная (параўн. лац. ignis).

У § 55 аб поўнагалосьсі памылкова перадаюцца прыклады з іншых слав. моў. У ст.-сл. мове была *срѣда*, *млѣко*, а не *среда*, *млеко*; для польск. м. не паказаны 4-ы наступнік злу-

чэньняў галосн. з плаўным паміж зычнымі—*rze* (brzeg), адпаведных усх.-сл. —ере,—ст.-сл. *рѣ*. Але больш за ўсё памыляецца аўтар, калі ён думае, што ва ўсх.-слав. мовах побач з *оро*, *оло*, *ере*, ёсьць яшчэ і *еле*. У выніку даўнейшага сьцьвярдзеньня *л* у злуч. *ел* між зычнымі мы цяпер маем не *мелеко*, як можна было-б чакаць, а *молоко*, блр. *малако*. Да ц.-слав. формаў у белар. м. нельга аднесьці слоў *уласны*, якое да беларуск. і укр. моў перашло з чэскае (праз польскую, гл. Кульбакіна, „Украинск. язык, 1919, ст. 90), а таксама і *срэбра* (пар. укр. *срібло*).

Зусім дарма т. Лёсік у такіх прыкладах як *штонікі*, *пакоціцца*, *знойдзеш* лічыць *о* вынікам фонэтычнае зьмены *а* (ст. 61); у іх гэта *о* зьявілася па аналёгіі чаргаваньня ненаціскнога этымолёгічнага *о* з ненаціскной галоснай *(а)*: пад уплывам радоў *дойдзеш*, *дайсьці* ўтварылася хібная аналёгія: *знойдзеш* пры *знайсьці*. Нельга гаварыць аб пераходзе *ѣ* ў *і* ў такіх прыкладах, як *цьвісьці*, *сьвітае* пры *цьвет*, *сьвет* (ст. 62): тут старое чаргаваньне *ѣ-и*.

Аўтар робіць лёгічную памылку idem per idem, гаворачы на 63 ст., што ў ст.-сл. м. *э* (на пісьме *е*) магло стаяць толькі пасьля мяккага зычнага, а ў цяперашн. белар. м. можа стаяць часамі пасьля цьвёрдых (*уздэчка* і і); *э* і *е*, як вядома, якраз і вызначаюць адзін галосны гук, але розную вымову зычных перад ім.

Чаму паважаны колега, кажучы на 64—66 стар. аб дыфтонгах на „месцы ст.-сл. *о*, *е* ў закрытых націскных складох“ (стол, печ) і на месцы *ѣ*, зусім не дадае, што гэтая зьява не агульна-беларуская, а толькі дыялектычная, якая сустракаецца ў паўднёв. гутарках. Між інш. думаю, што дыфтонга аўтар ня мог чуць у слове *мароз*, бо звычайна ён не разьвіваецца ў поўнагалосных формах.

На 69 ст. чытаем: „да прыстаўных гукаў належыць *а* з *о*=*ъ* у такіх разох: нада мною, пада мною...“. Але тут *а* з *о*, якое вышла з даўнейшага праслав. *ъ*.

У словах *дзірка*, *дзіра* (гл. ст. 69) *і* не з *ы*: тут адбіваецца другі варыянт кораня; параўн. ст.-сл. *дира*, чэск. *díra*, польск. *dziura*.

Кажучы аб тым, што ў *бувай*, *была* (гл. ст. 70), можна было-б дадаць, што ў паўдн.-белар. гутарках *ы* фонэтычна пераходзіць у *у*: мула, путаць.

У § аб чаргаваньні (ст. 72-73) няўдалая формулёўка: „*е* беглае чаргуецца з *і*: *дзерці—(драць)—зьдзіраць*“ і інш. прыкл.

Перахаджу да апошняга VI аддзелу „зьмена зычных“. На 75 ст., відавочна, lapsus: „У словах *грозьба* (грозіць), *гарадзьба* (гарадзіць)—няма прыпадабненьня, а ў слове *малацьба* (маладзьба)—ёсьць. На ст. 78 і 87-88 кажа аб ацьвярдзеньні *л* у некаторых дыялектах: ко*л*ца, сі*л*на. Цікава, ці ня чуваць там уласна *л* сярэдняе, якое, між інш., і знаходзім пры такіх самых умовах і ў укр. м.?

У § 89 „Распрыпадабненьне зычных“ папалі прыклады перастаноўкі: *капляр* зам. *капраль*, *селядоршы* зам. *серадольшы*, *паляруш* (паралюш).

Ня зусім правільна выкладае т. Лёсік „падваеньне зычных“.

Тое самае няведаньне грэцкае мовы магло стаць прычынай такіх слоў, якія чытаем на 96 ст. „У грэкаў было „*ф*“ цьвёрдае і мяккае (*θ*)“. Да гэтага маленькая ўвага: у крыніцы імені *Панас*, *Апанас* была якраз *θ*, а не *ф* (гл. ст. 97).

Кажучы аб лёсе *dj* ў беларуск. мове, т. Лёсік (ст. 99-100) думае, што *дж (хаджу)* разьвілося пазьней за *ж*: *мяжа*; гэты погляд, якога прытрымліваўся і Сабалеўскі, няправільны: блр. і укр. *дж* становіць захаваньне першае стадыі; пазьней-жа *дж* перашло ў *ж* у рас. і ў некаторых выпадках у белар. і укр. мовах.

Падводзячы падагульненьне ўсяму, што мы сказалі аб кніжцы т. Лёсіка,

мы бачым, што аўтар добра зразумеў шмат матэрыялу з мовазнаўства, але адсутнасьць сапраўднае лігвістычнае падрыхтоўкі часта не дае яму магчымасьці вытлумачыць зьявы беларускае мовы там, дзе ён жадае гэта зрабіць незалежна ад сваёй галоўнай крыніцы—акад. Карскага. Няма ў яго і абавязкова патрэбнае гістарычнае пэрспэктывы. Тав. Лёсік наўмысьля не ўспамінае ніколі аб прарускай эпосе. Але ў такім разе яму трэба было-б дакладней угрунтаваць погляд аб самастойнасьці пахаджэньня белар. мовы ад праславянскае і паўней разьвіць параўнаньнем з іншымі слав. мовамі, а не гаварыць, напр., што пераход *л* у *ў* становіць асаблівасьць белар. м. (на ст. 89), калі гэтую зьяву ведае і укр. м., або што дзеканьне і цеканьне адна з выдатнейшых асаблівасьцяй нашае мовы (на ст. 98), калі дзеканьне і цеканьне знаходзім і ў польск. м.

Але калі ў 2-м выданьні выправіць зазначаныя памылкі, кніжка, бязумоўна, зможа стаць карыснаю для настаўнікаў беларускае мовы.

**П. Бузук.**

**Географія Беларусі А. Смоліча.** *Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва за 1925 г. Тыраж 30.000 экз. Цана 1 р. 80 кап.*

У прадмове да „Географія Беларусі“ аўтар прызначае яе да сямігодак, але бадай што гэты падручнік будзе ўжывацца і ў тэхнікумах, і на розных курсах, і нават, магчыма, што і ў пачатковых школах, бо другое літаратуры па географіі Беларусі ў нас няма. Для сямігодак падручнік Смоліча матэрыялу мае трошкі замнога, дый цана, якая вызначана на вокладцы падручніка, завысакавата для масавай школы. Высокая цана досыць шкодна для распаўсюджаньня падручніка, аб гэтым варта было-б заўсёды памятаць Дзярж. Выдавецтву.

Зараз сярод пэдагогаў Савецкага Саюзу ёсьць такі ўхіл, што географія, як асобная дысцыпліна ў масавай школе не патрэбна, яна павінна быць падзелена паміж прыродазнаўствам і грамадазнаўствам, бо сама яна нічога новага не дае, а толькі дапаўняе вышэйазначаныя дзьве дысцыпліны. З такога ўхілу вынікае, што асобных падручнікаў па географіі таксама ня трэба. Такі напрамак зьявіўся ад таго, што ўсе падручнікі па географіі надта аднабокі, яны заўсёды больш адбівалі соцыяльны ўклад жыцьця і мала звярочвалі ўвагі на прыроду тэй ці іншае краіны. Вось, напрыклад, калі мы возьмем любы расійскі падручнік, то з яго зьместу вельмі лёгка ўявіць, хто гаспадарыць у тым ці іншым краі, а таксама лёгка ўявіць адміністрацыйны падзел гэтых краёў, але вельмі трудна ўявіць з таго-ж самага падручніка аб расьліннай формацыі, аб складзе глебы і другіх зьявах прыроды. Такая аднабокасьць шкодна адбіваецца на правільным разьвіцьці вучняў.

Што датычыць рэцэнзуемага падручніка, то ён таксама ня зусім свабодны ад зазначаных вышэй недахопаў. Праўда, аўтар у сваёй кнізе адвёў цэлыя шэсьць старонак на апісаньне расьліннасьці, тут ён нават далучыў карту, на якой вызначаны межы пашырэньня некаторых дрэў, а таксама зроблены чатыры малюнкі расьлінак розных відаў. Усё гэта добра, толькі таго, што сказаў аўтар, мала, трэба было больш спыніцца на расьліннасьці, прынамсі, на лесе і яго значэньні для краю. Пра лекавыя расьліны аўтар нідзе не зазначае, хаця лекавыя расьліны на Беларусі маюць прамысловае значэньне, нават Камісарыят Замежнага Гандлю іх вывозіць заграніцу.

Пры апісаньні мінэральных багацьцяў мала зьвернута ўвагі на торф. У вадным месцы пра торф сказана, што ён у нас мае значэньне ўсяго

толькі, як апал, а ў другім месцы, ужо пры апісаньні балот, сказана, што з торфу заграніцаю выррабляюць крэозот і некаторыя другія хэмічныя продукты. Нядобра тое, што веды аб торфе раскіданы ў розных параграфах, у падручніку гэтага ня трэба рабіць, бо асобныя адрыўкі, раскіданыя ў розных мясцох, ня зробяць на вучня належнага ўражаньня. Пры апісаньні торфу, як апалу, патрэбна было параўнаць цяплыню торфу ў лічбавых даных з цяплынёю адпаведнай колькасьці дроў, напрыклад: пуд торфу пры згараньні дае цяплыні ікс, пуд асінавых дроў пры згараньні дае цяплыні такі самы ікс, а пуд дубовых тры іксы і г. д. Падобныя лічбы далі-б поўнае ўяўленьне аб торфе, як апале. Зараз у нас торф і як апал ня мае вялікага значэньня, ён толькі ўжываецца там, дзе мала лесу, але экономічныя магчымасьці для краю ён суліць вялікія. Заграніцаю торф ужываюць для будоўлі, для хэмічнай прамысловасьці, для ўгнаеньня і для апалу нават у шырокім маштабе; недалёк той час, калі торф і ў нас будзе ўжывацца для гэтых-жа самых мэт. Вось на гэтых экономічных проблемах аўтару патрэбна было хоць трошкі супыніцца. Гэта мела-б вялікае значэньне для паданьня маладому пакаленьню правільнага пагляду на Беларусь, бо тыя шкодныя думкі, што Беларусь „забыты богам край“, што тут толькі „куча сьметніку ляжыць“, яшчэ моцна трымаюцца сярод значнай часткі працаўнікоў і, зразумела, даюць пэўныя адмоўныя вынікі.

Немагчыма згадзіцца з тым спосабам апісаньня клімату і тэмпэратуры паветра, які ўжыў аўтар. Пры апісаньні клімату аўтар зусім нічога не гаворыць аб атмосфэрным даўленьні, быццам яно ніякага значэньня ня мае для клімату. Пры апісаньні клімату і тэмпэратуры паветра, аўтар добрасумленна прыводзіць лічбы, якія характарызуюць тэмпэратуру тэй ці іншай мясцовасьці з другімі мясцовасьцямі, але на прычыны мала зварочвае ўвагі. Прачытаўшы параграфы аб клімаце і тэмпэратуры, атрымліваем такое ўражаньне, што ўсё залежыць ад далёкіх усходніх вятроў ды ад мора. Але калі чытач захоча даведацца, чаму заходнія вятры ня маюць такога моцнага ўплыву, як усходнія, то ён там гэтага ня знойдзе. Там у падручніку шмат сказана аб затрыманьні вятроў узвышшамі і лясамі, але фактычна гэта мала высьвятляе справу. Для таго, каб даць правільнае разуменьне аб клімаце Беларусі, аўтару патрэбна было сьцісла расказаць аб сібірскім максымуме і мінімуме атмосфэрнага даўленьня і аб заўсёдным ісландзкім мінімуме гэтага-ж даўленьня, патрэбна было намаляваць ізотэрмы гэтых і сумежных з імі ў Эўропе максымумаў і мінімумаў, а потым расказаць аб зьмене гэтых даўленьняў, тады было-б зразумела, чаму ўсходнія вятры на Беларусі робяць большы ўплыў, чымся заходнія. Тыя малюнкі ў кніжцы, якія вызначаюць сабою ізотэрмы студзеня і ліпня ў Эўропе, трэба лічыць няўдалымі, бо яны нямыя і іх далёка ня ўсякі зразумее, а таксама, дрэнна і тое, што яны вельмі малыя, г. значыць абхватваюць сабою невялікі абшар. Трэба было да гэтых малюнкаў далучыць спэцыяльнае тлумачэньне, а не абмяжоўвацца толькі кароткім зазначэньнем пра іх у расказе.

Пры апісаньні паасобных гарадоў і мястэчак аўтар у некаторых выпадках дае гістарычныя спраўкі аб гэтых гарадох і мястэчках, але гэта робіцца далёка незаўсёды. Пра гісторыю некаторых гарадоў, хаця яна добра вядома нават географічнай навуцы, не гаворыцца нават ні слова, мусіць, аўтар палічыў іх малаважнымі. Такі падзел па свайму ўласнаму жаданьню таксама не гадзіцца. Тут у аўтара павінна была быць нейкая сыстэма, для жыхара якога-не-

будзь мястэчка альбо акруговага гораду гісторыя гэтага гораду напэўна цікавей, чымся гандаль гэтага гораду. У кніжцы можна шмат знайсьці такіх выразаў, што мястэчка вядзе гандаль коньмі альбо рагатаю жывёлаю. Бязумоўна, гэта верна, але якое мястэчка ў нас не вядзе гандлю жывёламі, альбо дзе можна на Беларусі сустрэць такое мястэчка, у якім-бы ня было шаўцоў і краўцоў? Такіх мястэчак бадай што ня сустрэнеш, таксама ня сустрэнеш і такіх, якія-б складаліся толькі з адных шаўцоў і краўцоў, альбо вялі гандаль толькі аднымі коньмі ці рагатаю жывёлаю. Такія кароткія лякенічныя паведамленьні мала што даюць. Сустракаюцца і такія выпадкі, дзе аўтар, зазначыўшы пра заняткі жыхарства ў тым ці іншым горадзе альбо мястэчку, робіць кароткую гістарычную спраўку аб разьвіцьці гэтага пункту. Такое паведамленьне набывае пэўную цікавасьць.

Апрача зазначаных недахопаў, падручнік мае шмат дадатных бакоў. У ім па магчымасьці сьцісла і поўна адбіваюцца ўсе бакі народнае гаспадаркі. Добра разгледжаны паасобныя краіны Беларусі. Пры разглядзе паасобных краін закардонную Беларусь аўтар разглядае асобна, але на працягу ўсяго курсу ў аўтара строга праведзена думка, што этнографічная Беларусь ёсьць адзіны гаспадарчы організм, адарваныя часткі якога імкнуцца зьліцца з Савецкай Беларусьсю.

У канцы падручніка далучана шмат табліц з статыстычнымі ведамі па розных галінах народнае гаспадаркі і прыроды Беларусі. Гэта вельмі важна, бо дае магчымасьць выяўляць розныя галіны народнай гаспадаркі ў дыяграмах, а таксама раўнаць іх з адпаведнымі галінамі народных гаспадарак у другіх краёх. Згодна вымаганьняў сучаснай пэдагогікі, вывучэньне навуковых дысцыплін у сярэдняй школе павінна адбывацца галоўным чынам шляхам параўнаньняў. З падручніка відаць, што аўтар і меў гэта на ўвазе, бо пры апісаньні нават паасобных частак Беларусі вельмі часта сустракаюцца параўнаньні з другімі краямі. Падручнік напісаны з захапленьнем і добрай зразумелай мовай, трэба думаць, што ў справе пашырэньня беларусізацыі ён адыграе значную ролю. Да кнігі далучана добра размалёваная карта Беларусі, якая дасьць мажлівасьць вучню лягчэй уявіць распалажэньне розных больш-менш выдатных пунктаў, а таксама і агульны ляндшафт краю.

Я. К—ль.

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

## Навука ў БССР

* У гэтым месяцы пачалася арганізацыя Беларускага таварыства культурнае сувязі з зарубежжам. Выдзелена арганізацыйнае бюро ў складзе: З. Жылуновіча, А. Цьвікевіча і С. Гельтмана, якое і распачало вярбоўку членаў. Т-ва між іншым мае на мэце павясьці шырака сваю працу і ў свой плян дзейнасьці вызначвае публічныя даклады аб суседніх з БССР дзяржавах, а таксама і выданьне адпаведнае літаратуры, якая-б знаёміла Захад з відавочнымі посьпехамі культ. і эконом. будаўніцва ў БССР.

* Статут т-ва драматычных і музычных пісьменьнікаў БССР атрымаў адабрэньне адпаведных органаў і ў пачатку мая мес. г.г. адбудзецца першы арганізацыйны сход закладнікаў таварыства і яго рэгістрацыя ў Нар. Камісар. Ўнутр. спраў. Гэтым, нарэшце, кладзецца ўстойны парадак у ахову інтарэсаў аўтараў беларускае драматургіі і музыкі як у БССР, так і ў саюзе наогул. Разам з тым статут прадбачвае спосабы пасіленьня драматургічнае і сцэнічнае дзейнасьці для нашае вёскі і рабочых клюбаў.

* Галоўполітасьветы БССР ладзіць зараз радыё-унівэрсытэт і падбірае тэмы й лектароў. Справа гэтая мае ўжо рэальную падставу і вельмі карысна, бо на тэрыторыі БССР ужо 2000 радыё-прыймоўнікаў, з якіх 200 у вадным толькі Менску. Практыка выступленьняў Інбелкульту сьцьвердзіла канечную патрэбу ў лекцыях для шырокае провінцыі і іх каштоўнасьць.

* З 1 траўня (мая) г.г. адчыняецца і пачне дзейнічаць „Музэй Рэволюцыі“ нашага Гістпарту. Два паверхі новага будынку паўнюсенькі экспонатаў: портрэтаў, карцін, фотографій памятак, друкаваных помнікаў і рукапісных матэрыялаў. Усё гэта разьмешчана ў хронолёгічным парадку, пачынаючы з дэкабрыстых, і пры агдядзе будзіць моцныя пачуцьці, бо відавочна адбівае падзей і гіганцкую рэволюцыйную барацьбу з самаўладным царызмам, а для Беларусі яшчэ з окупацыяю і нацыянальным уціскам.

* БДМузэй у Менску за апошнія поўгода значна папоўніўся living рознымі гістарычнымі памяткамі і этнограф. рэчавымі матэрыяламі. Пачалі прыцякаць таксама і каштоўнасьці з месц. Так зусім нядаўна Бобрскае т-ва краязнаўства праз Інбелкульт перадало Музэю 537 дробных срэбных монэт 1612—1650 г.г., знойдзеных адным селянінам.

* Яўрэйскі аддзел БДМузэю ў Менску за апошні час папоўніўся шэрагам прадметаў яўрэйскае старажытнасьці, сярод якіх асаблівую ўвагу зварочваюць на сябе пісаныя на пергаміне Кабалла і малітоўнік, якім па 300 год і якія атрыманы з мяст. Лядоў і Дуброўны. Асаблівую вартасьць мае гэты малітоўнік, які багата аздоблены яўрэйскім старажытным орнамэнтам і цікавы па мове, бо яна даецца тут тагачасная, а не стара-яўрэйская, і адбіла на сабе некаторыя мясцовыя асаблівасьці.

* Навукова - методолёгічным Камітэтам НК Асьветы разгледжаны шэраг новых падручнікаў: Грыневіч А.—

Практыкоўкі сьпеваў; Залеская—Падручнік нямецкае мовы; Колас Я.—Мэтодыка роднае мовы і Барычэўскі А. і Чаржынскі Ў.—падручнік беларускай поэтыкі.

* НКЗем БССР надрукаваў працу агрономаў Ждановіча С. і Ярашчука А. „Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі паводле дзелавых чыгункавых перавозак". Аўтарам выкарыстаны шырокія матэрыялы чыгункавае статыстыкі адносна кожнай станцыі этнографічнай Беларусі за апошнія гады перад вайной. Кніга напісана на беларускай мове і выходзіць са шматлікімі картаграмамі і картадыяграмамі.

* У пачатку красавіка мес. СНК зацьверджаны новы статут, якім былая Дзярж. і Унівэрс. Бібліотэка абвяшчаецца цэнтр. дзярж. кніжніцаю БССР пад назваю „Белар. Дзярж. Бібліотэка", прычым яна выдзяляецца ў самаст. адміністр. адзінку і знаходзіцца пад непасрэдным загадам НКАсьветы. Адначасна БДБібліотэка нясе функцыі фундамэнтовых бібліотэк Інстытуту Белар. Культуры і БДУнівэрсытэту.

Разам з тым прызнана патрэбным з кастрычніка організаваць аддзяленьні бібліотэкі ў Віцебску і Магілеве, у васнову якіх будуць паложаны мясцовыя кніжныя фонды, а іменна, у Віцебску—каля 40.000 т. і ў Магілеве—да 60.000 т.

* Згодна пастанове СНК БССР БДБібліотэка атрымала дадатковыя спэцыяльныя асыгнаваньні на набыцьцё бібліотэкі памёршага проф. Ленінградзкага Архэолёг. Інстытуту С. М. Гольдштэйна, якая складае сабою звыш 8.000 тамоў пераважна па гісторыі, праву і археолёгіі Беларусі, Літвы і Польшчы.

* Белар. Кніжнаю Палатаю пры БДБібліотэцы выдадзены „Летапіс Белар. друку" № 1—6 за 1925 г. Гэтым распачата рэгулярнае выданьне органу дзяржаўнай бібліографіі, які ставіць сваёю мэтаю поўнаю рэгістрацыю продукцыі друку БССР. Адначасна друкуецца і №№ 1—2 „Летапісу" за 1926 г. Падрыхтавана да друку і летам будзе выдрукавана бібліографія белар. друку за рэвол. часы 1917—24 г.г. ўключна. Такім чынам гэтымі выданьнямі Б. Кн. Палата і БДБібліотэка папаўняе прабел, які вынік у бібліограф. працы на Беларусі.

* З кастрычніка г. г. БДБібліотэка значна папоўнілася і зараз складае 275.000 тамоў. За гэты час у яе паступіла да 12.000 тамоў выданьняў 1925-6 г. г., вышаўшых на тэрыторыі СССР, і да 13.000 тамоў выданьняў ранейшых гадоў, сярод якіх былі найбольш значнымі паступленьні: з Ленінградзкіх кніжн. фондаў да 2.000 т., з Віцебску (астача бібліотэкі Полацкае езуіцк. акадэміі—пераважна старадрукі XV—XVIII в. в.) звыш 7.000 т. і збор кніжак Камарніцкага да 500 тамоў, сярод якіх 5 кніг біблії Скарына і інш.

У вапошні час БДБібліотэка значна пашырыла атрыманьне замежнай навук. літаратуры і часопісяй, якіх лік дяведзены да 100 назоў.

* Аб'яднаньне нямец. навук. установ: Not gemeinschaft der deutschen „Wittenschaft" зьвярнулася да Б. Кн. Палаты з пропозыцыяй уступіць у абмен навуковымі выданьнямі. Атрыманы ўжо выданьні Венскага антрополёг. таварыства і ў сваю чаргу выслана першая партыя белар. выданьняў.

* Ньюёрская Публічная Бібліотэка зьвярнулася да БДБібліотэкі, будучы зацікаўлены беларускімі выданьнямі. Гэтаю бібліотэкаю запатрабаваны цэлы шэраг белар. выданьняў і ў тым ліку поўны комплект часопісі Полымя.

**Інбелкульт.**

* За год працы Інбелкульту выразна высьвятлялася непаўната статуту ІБК. Прэзыдыум грунтоўна пераапрацаваў зараз статут і пасьля разгляду ў Нав. Радзе ІБК унясе яго

на зацьвярджэньне належных інстанцый.

* Выдавецкая дзейнасьць Інбелкульту значна вырасла і вызначаны раней плян у 92 друк. аркушы павялічаны да 200 друк. аркушаў яшчэ ў гэтым годзе. Канчаюцца друкам: „Працы І-ай Усебелар. Глебазнаўчае Конфэрэнцыі“, „Музычная тэрмінолёгія“ і „Скарынінскі зборнік“. Цягнецца друкам археографічны актавы зборнік „Белар. архіў“ т. І, а ў Ленінградзе этногр.-фольклёрны зборнік Сержпутоўскага. Рыхтуецца да друку тут, у Менску, другі этногр.-фольклёрны зборнік, дзе зьмяшчаюцца працы Сэрбава, Доўнар-Запольскага і песьні Калінінішчыны.

* Справа складаньня слоўніка белар. жывое мовы ўсё шырыцца. Слоўнікавая комісія ІБК мае ўжо зараз звыш 75.000 слоў-картак, выбраных ёю з пісьменьнікаў і слоўнікаў. За тры апошніх месяцы пачаў паступаць багаты матэрыял з розных месцаў тэрыторыі БССР. Так зусім нядаўна настаўнік Асіповіцкае сямігодкі Нямцоў А. сабраў 1.150 слоў свае мясцовасьці і пераслаў іх Інбелкульту. Слоўнікавая камісія ІБК наладзіла ўжо сувязь са Смаленскам, Гомлем і Нэвэлем, каб укласьці слоўнікі тамтэйшае белар. мовы.

* Атрыманы Інбелкультам пад сваю ўправу і навуковае кіраваньне батанічны акліматызацыйны сад у Вял. Летцах (Віцебскае акругі) аказаўся вельмі каштоўным па сваіх зборах расьлін, ня гледзячы на сваю занядбаласьць. Так там маецца да 136 відаў розных дрэўных і куставых парод, пладовы сад з дзесяткамі розных відаў і парод, да 150 розных расьлін у ранжарэі і да 1.800 расьлін, перазімаваўшых у грунце.

* Пачатая ў сваім часе яшчэ дзяржпляням і зараз шырока пастаўленая бібліографічнаю камісіяю Інбелкульту справа складаньня вычэрпваючае белар. бібліографіі дасягла ўжо вялікіх вынікаў. Лік картак набліжаецца ўжо да 100.000 паасобнікаў. Аднак, цалкам справа гэтая яшчэ працягнецца на пару год за адсутнасьцю ў Менску патрэбных бібліографічных крыніц. У 20-х лічбах гэтага мес. атрыманы вельмі кашт. польскія бібліограф. паказьнікі, па якіх выбарка дасьць яшчэ шмат картак. Этногр. бібліографія пачата ўжо друкам, археолёгічная—канчацца апрацоўкаю.

* З мэтаю ўпарадкаваньня справы зьбіраньня і вывучэньня беларускае народнае творчасьці Інбелкульт склікае нараду працаўнікоў тых паасобных сэкцый і камісій ІБК, якія дагэтуль паасобку вялі гэтую справу. Ёсьць думка сформаваць з пачатку наступнага опэрац. году асобную заўсёдную т. зв. Фольклёрную камісію, у склад якое ўвойдуць прадстаўнікі Інбелкульту паасобных органаў, зацікаўленыя гэтай справай Інбелкульту. Атрымваньне ІБК ўжо і зараз у значным ліку фольклёрнага матэрыялаў усё павялічваецца.

* Заложаны тэатральнай падсэкцыяю Інбелкульту „Тэатральны музэй ІБК“, дзякуючы спрыязных адносін да гэтае справы белар. культурнікаў, стаў расьці і абяцае хутка стаць каштоўнаю непасрэднаю крыніцаю для вывучэньня мінулага і сучаснасьці белар. тэатру. Так перадалі ў музэй усе свае тэатр. зборы: Ф. Ждановіч, Ч. Радзевіч, М. Ільлінскі, М. Красінскі, Я. Дыла і інш. Абяцалі таксама перадаць свае зборы проф. Б. Эпімах-Шыпіла, А. Крыніца, П. Мядзёлка і інш. Гістарычна-музэйная камісія шырока заклікала адгукнуцца нашую провінцыю.

* У песенную камісію ІБК Я. Дыла перадаў атрыманыя ім у свой час у падарунак ад А. Бурбіса белар. песьні з нотамі.

* Вайсковая камісія пры Інбелкульце рыхтуе да друку практычныя вайсковыя слоўнічкі па 10.000 слоў у кожным (белар.-расійскі і расійск.-белар.).

* Нам. старшыні ІБК Смоліч А. закончыў свой досьлед „Організацыя

сялянскай гаспадаркі ў раёнах Меншчыны“, памерам 12. др. аркушаў. Праца гэтая аснована на матэрыялах бюджэтна-рахунковых дасьледаў, якія праводзіліся НКЗ Беларусі ў 1923 г. пад кіраўніцтвам аўтара. Праца мае выйсьці з друку коштам НКЗему.

* Доцэнт Горацкае Сел.-Гас. Акадэміі Г. Гарэцкі закончыў працу „Народны прыбытак Беларусі“ і здаў Дзяржпляну да друку.

* Падарожжы членаў Інбелкульту па акругах Беларусі з дакладамі і выступленьнямі аднавіліся. У пачатку красавіка мес. выяжджалі ў Полацак М. Грамыка, М. Шчэкаціхін, і М. Зарэцкі. Разам з А. Александровічам яны зрабілі ў Полацку шэраг дакладаў і літаратурных выступленьняў перад моладзьдзю тамтэйшых тэхнікумаў і чырвонаармейцамі.

### Літаратура і друк

* Продукцыя Белар. Дзярж. Выдавецтва за мінулы 1925 г. далі такія вынікі: на беларускай мове надрукавана 175 кніжак, памерам 1.098 др. аркушаў, лікам 2.079.500 паасобнікаў; на яўрэйскай мове—27 кніжак, 116 др. арк., 292.500 паас.; на польскай мове—11 кніжак, 20 др. арк., 38.000 паасоб і на расійскай мове—18 кніжак, 114 др. арк., 77.500 паасобнікаў. Такім чынам, за 1925 г. усяго ім надрукавана—231 кніжка ў 1.358 др. арк., лікам 2.487.500 паасобнікаў.

* У сярэдзіне красавіка мес. адбылася паездка маладнякоўцаў для літаратурна-концэртных выступленьняў у Гомель з удзелам сьпевака Ў. Сэляха і артыстых БДТэатру Полла В. і Навіцкага.

* Вышаў II-і том збору твораў Янкі Купалы ў выданьні Белар. Дзярж. Выдавецтва. Тут зьмешчана творчасьць поэты ў 1910-1913 г., якая раней увашла ў сшытак „Шляхам жыцьця“.

* Дзярж. Выдавецтва Беларусі выпусьціла новы сшытак апавяданьняў маладога таленавітага пісьменьніка М. Зарэцкага пад назваю „Пад сонцам“, у якім зьмешчаны чатыры яго апавяданьні: „Кветка пажоўклая“, „Дзіўная“, „Сьмерць“ і „Радасьць, а таксама асобнай кніжкай яго аповесьць пад назваю „Голы зьвер“.

* Чарговымі сшытачкамі бібліотэчкі „Маладняка“ вышлі: „Суніцы“ Хадыкі (вершы), „На дарозе“ (апавяд.) К. Чорнага, „Сузор'і“ (вершы) А. Гурло.

* Вышаў з друку № 11 часопісі „Маладняк“.

* М. Грамыка распачаў сваю новую драму на тэму аднэй з сваіх поэм, якая нядаўна друкавалася ў часопісе.

* Белар. Дзярж. Выдавецтва канчае друкам гістарычную хроніку ў 5 дз. Наз. Бываеўскага „Панскі Гайдук“.

* „Маладняк“ распачаў выданьне ня толькі твораў удзельнікаў свайго пісьменьніцкага аб'яднаньня, але й літаратурных твораў наогул. Так канчаецца друкам „Антыгона“ Софокля ў перакладзе з старагрэцкае мовы Ю. Дрэйзіным, а таксама здадзены ў друк „Слова аб палку Ігаравым“ у перакладах вершам і прозаю Янкі Купалы.

* Магілеўскі тэрполк атрымаў першую прэмію за пашырэньне сярод дэмобілізаваных чырвонаармейцаў „Крестьянской газеты“. Палку прыслана поўная кіноўстаноўка вартасьцю ў 1.200 р.

* У Віцебскім аддзяленьні Цэнтрархіву пры разборцы аднаго прыватнага (памешчыцкага) архіву знойдзены сшытак з 12 вершаў з уласнаручным подпісам вядомага дэкабрыстага поэты К. Рылеева, ліст яго перад сьмерцю да жонкі і да цара Мікалая I. Цэнтрархівам высьвятляецца зараз пытаньне, ці былі друкаваны памянёныя вершы ці не. Ва ўсякім разе ўласнаручны подпіс сьведчыць аб орыгінальным пахаджэньні гэтага сшытка.

## Мастацтва ў БССР

* У зьвязку з пачаткам самадзейнае працы абедзьвюх драмстудый з восені гэтага году, у БССР будзе працаваць стала цэлых тры дзяржаўных трупы. НКАсьветы вырашыла, што белар. студыя будзе працаваць у Віцебску, яўрэйская-ж—у Менску, і трупы будуць абслугоўваць Менск, Віцебск і Магілеў, пераяжджаючы і працуючы ў кожным месцы па поўсэзону.

* Сучасны будынак БДТэатру нагогул не адпавядае тэй шырокай працы, якая вядзецца ў ім нават аднэй белар. дзярж. трупай. З восені-ж у ім побач з беларускім працавацьме і яўрэйскі колектыў (б. студыя ў Маскве). Нявыгоды будынку самі па сабе і патрэба працаваць у ім дзьвём трупам паставіла на чаргу пытаньне аб капітальным рэмонце і прыбудовах да сучаснага будынку тэатру.

* Калі БССР яшчэ ня можа пахваліцца поўным упарадкаваньнем кінясправы ў сэнсе яе поўнае цэнтралізацыі праз Белдзяржкіно, то нашая Рэспубліка заняла ўжо першае месца ў справе кінофікацыі вёскі. Ужо 2 месяцы прашло, як пачалі сваю працу 25 рухомых кіно, разьмешчаных па 25 паас. раёнах БССР. Дадзены на вёскі лепшыя фільмы. Эфэкт ад гэтае працы нязвычайны. На вёску фільмы гэтыя робяць вельмі моцнае ўражаньне і ўнесьлі належнае ажыўленьне і зацікаўленасьць да жыцьця савецкае дзяржавы.

* Па прыкладзе мінулага году Дзярж. Музтэхнікум у Менску з другое паловы опэрац. году ладзіць ізноў гістарычныя камэрныя концэрты, з новым зьместам твораў сусьветных композытараў.

* Выкладчыкі і вучні Белмузтэхнікуму рыхтуюць да пастаноўкі пераложаную на белар. мову „Русалку“, опэру Даргамыскага.

* Рабочы ярцаўскае мануфактуры (Смал. губ.) ткач Бабаеў напісаў па асабістых успамінах п'есу „Нездаволеныя“, у якой малюе 1905 г. на ярцаўскай мануфактуры. Драмгурток рабочага клюбу ў Смаленску ставіў нядаўна гэтую п'есу ўласнымі сіламі.

* Восеньню г. г. адбудзецца ў Менску ўрачыстае сьвяткаваньне 50-годзьдзя яўрэйскага тэатру, якое організуюць яўр. аддзел ІБКульту разам з Рабісам і Беларускім Дзяржаўным Яўрэйскім Тэатрам (б. яўр. студыя ў Маскве).

## Замежная Беларусь

* Польскаю цэнзураю ў Вільні сконфіскаваны беларускі адрыўны каляндар на 1926 г.

* „Праваслаўны Беларус“, які выдаваўся ў Варшаве некаторы час, супынены зараз.

* У праскай часопісі „Славянская кніга“ за 1925 г. былі зьмешчаны (на рускай мове, на якой выдаецца гэтая часопісь) два артыкулы, датычачыя Беларусі: 1) Вл. Жилка—„Белорусская литература в XIX столетии“ (библиограф. историч. очерк)—у № 10 і 2) Вл. Ж.—„Янка Купала“ (к юбилею 20-летней литерат. деятельности) у № 11 гэтае часопісі.

## ХРОНІКА УКРАЇНСКАГА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ

* Украінізацыя вышэйшае школы на Украіне будзе закончана ў 1930 г.

* СНК Украіны прапанаваў НК Асьветы УССР у 1925-6 опэрац. годзе выдаць украінскую тэрмінолёгію па галінах: соцыяльна-экономічных навук, фінансава-экономічных, сельскай гаспадарцы, тэхніцы, мэдыцыне, пэдагогіцы, прыродазнаўству, праву, транспорту, комунальнай гаспадарцы, дзелаводзтву, матэматыцы і батаніцы.

* Укрнавука паставіла на чаргу пытаньне аб утварэньні украінскага нацыянальнага музэю, проект даручана апрацаваць акадэміку Багалею і т. Дуброўскаму.

* З гэтага году ў Харкаве організаваны і пачаў дзейнічаць Шэўчэнкаўскі Інстытут, заданьнем якога зьяўляецца вывучэньне творчасьці Тараса Шэўчэнка і яго часу.

* У выніку літарат. дыскусіі мінулага году пачалося расслаеньне пісьменьніцкіх кол „Плугу“, „Гарту“ і інш. Пачаўся выхад з гэтых організацый. Так з „Гарту“ вышлі т. т. Хвілёвы, Тычына, Сьлісарэнка, Іогансен, Дняпроўскі, Коцюба і інш., з „Плугу“—Сосюра, Панч, О. Капыленка і інш. і з „Жовтня“—Юр. Яноўскі. Гэтыя пісьменьнікі заклалі цяпер т. зв. „Вольную Акадэмію пролетар. літаратуры, ці ў скарачэньні „Ваплітэ“. На чале сталі: Яловы М., Хвілёвы М. і Сьлісарэнка С.

* Нацыянальны ўціск, які пануе ў Польшчы, дае свае благія вынікі і для украінцаў: так за апошні квартал году на украінскай мове вышла адно толькі 30 назваў. Ніколі раней не западала так выдавецкая справа ў Галіцыі, як зараз.

### Армянскае ССР

* Мастацкае жыцьцё Армянскай Савецкай Рэспублікі наладжваецца. З 1920 г., пара заснаваньня рэспублікі, створаны і працуюць зараз— Дзярж. тэатр у Эрывані, консэрваторыя, школа прасторных мастацтваў і сымфонічны оркестр у 50 асоб, маюцца 2 кіно ў Эрывані і 12 кіно па провінцыі.

*Рэдактар:* **Рэдакцыйная Колегія.** *Выдавец:* **Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.**

# Зьмест „Полымя“ № 3



378.